

**СТУДЗЕНЬ**

# 1

Мінск, 1972


*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ*
*І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ*
*ЧАСОПІС*




# МАЛАДОСЦЬ


ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

Выдавецтва ЦК КП Беларусі * Заснаваны ў 1953 годзе *




Вокладка **П. Лысенкі.**

Шмуцтытулы **Ю. Зайцава** (стар. 3) і **Ю. Іванова** (стар. 95).



# ПАЭЗІЯ



# ПРОЗА

- АРТУР ВОЛЬСКІ
- РЫГОР СЕМАШКЕВІЧ
- ЛІДЗІЯ АРАБЕЙ
- МІКОЛА АРОЧКА
- ІОСІФ СКУРКО
- ВОЛЬГА МАМОЙКА
- ГЕНРЫХ ДАЛІДОВІЧ
- ЮЛІ ВАНАГ





артур вольскі

*

ПАЭЗІЯ

*

# У ГАСЦЯХ І ДОМА

## Калізей

Калі каналі гладыятары
пад віск трыбун
і рык звяроў,
сачылі сытыя сенатары,
як вывяргалі грудзі-кратары
на жоўты жвір
жывую кроў.

Не іх,
чужых смярцей аматараў —
і дэмакратаў
і дыктатараў,
што мармурам і бронзай статуяў
уладкаваліся ў музей,—
а безыменных гладыятараў
дасюль шануе Калізей.

Вачыма,
нібы невідушчымі,
ён падказаў мне паралель
паміж сенатарамі
з дучамі
усіх часоў
і ўсіх зямель.

...А цемру
зоркаю лятучаю
касмічны рэзаў карабель.



## Начны канцэрт

Без білета
трапіў на прэм'еру —
слухай так і ліры эканом.
Уначы
спяваюць гандальеры
на канале,
проста пад акном.

Самаю прыгожаю гандолай
маладзік
ківаецца ў вадзе.
Ці не ён —
то сумны, то вясёлы —
той канцэрт няпланавы вядзе?

Ах, якія чуюцца рулады
пад гітар і вёслаў перазвон!
Вось каб іх
на мінскую эстраду —
гэткі тэнар,
гэткі барытон.

Без вучылішч,
без кансерваторый
скрозь гады ліюцца галасы.
Поўначчу
глыбокаю, як мора,
поўняцца пачуццяў парусы.

І атэль
наплыў уласным ходам
у святлівы змрок.
    І не бяда,
што ў канале
    горкім вадародам
пахне застаялая вада.

## Футбол

Малалітражныя «Фіяты»
гудуць і скачуць,
нібы ў танцы.
На фларэнційскіх плошчах
    свята
спраўляюць неапалітанцы.
А смеху —
як на карнавале.
Дзіўлюся я:
    з якой прычыны?—
Яны нарэшце
    гол загналі
ў вароты слаўнай «Ф'ёрэнціны»!

Размовы,
спрэчкі...
    Кожны ў гэтым
сябе найлепшым
лічыць знаўцам,
хоць той на матч хадзіў з білетам,
а той — пад страхам штрафу —
    зайцам.

Адной
ахоплены хваробай
банкір,
гандляр
і беспрацоўны,
бо для футбольнага мікроба
падзел на класы —
вельмі ўмоўны.

Святыя ў храме
з ціхім жахам
набожна сціснулі далоні —
як можна
мяч
ганяць манахам
на манастырскім стадыёне?!

А недзе
сціплая манашка
ў акно глядзіць зачаравана.
Ёй і здалёк
зусім няцяжка
пазнаць на полі капітана.

...Празрысты вечар
сінім глянцам
фарбуе шэрую дарогу.
Пара ўжо
неапалітанцам
знімаць
з Фларэнцыі аблогу.

## Параненыя сосны

Іх не адвозілі ў шпіталі,
не бінтавалі
раны ім.
Над свежай вільгаццю пралін
плыве туман,
як даўні дым.

І раны свецяцца,
нібыта
засечкі на ствалах жывых,
каб сёння
дзеці-следапыты
знайшлі мінулае па іх.

І нас не песцілі анёлкі,
калі мы бралі
дот
ці дзот.

Няхай ва мне
сядзяць асколкі
усіх бядот
і ўсіх згрызот.

Каб не хавалася сумленне
у дабрачыннасць,
як у мох,
каб я
аповесць пакалення
чытаць па ўласных шрамах мог.



## Даўняй славы адгалосак

На гарбах
пясчаных высп
стогнуць сосны векавыя.
Воўкам вые Ваўкавыск,
падвывае Ваўкавыя.

Тупат тысяч капытоў
чуюць Полацак
і Гродна.
І Лагожаск
з-за шчытоў
пазірае нелагодна.

Тураў дзьме ў турыны рог.
Клічаў кліча.
Свіслач свішча.
Месяц —
кінуты нарог —
у разоры чорнай блішча.

Зоркі
зернем навакол —
з перакуленае сеўні.
На дварах прыціхлых сёл
не вітаюць золак пеўні.

То не золак,
то пажар
небакрай агнём шавеліць.
Хто тут сёння гаспадар —
ці тутэйшы,
ці прышэлец?

Хто дазволіў
над сабой
здзек чыніць
гасцям нязваным?
І нарэшце
грымнуў бой,
бой
з варожаю ардой
і яе славутым ханам.

Час мінуў.
Даўно быльнёг
выбраў сокі з цела хана.
Мы ж
мясціну,
дзе ён лёг,
называем —
Целяханы.

Хай жыве ў пластах гадоў
славы даўняй
адгалосак —
назвы нашых гарадоў,
нашых вуліц,
нашых вёсак!





*рыгор семашкевіч*

*

ПАЭЗІЯ

*

## Полька ў вёсцы Пяціхатка

Спаганяй былую хватку,
З-пад іголкі кажушок —
І на польку ў Пяціхатку
У спагадны вечарок.

Бура ў полі і ў настроі.
Ты са мной і я з табою.
У двухвёдзерных кішэнях
Зор калядных поўны жмені.

Пяціхатка пасклікала
Акалічны наш народ —
Аж народу месца мала,
Бо здаровы ён як лёд.

Вунь сват сваццi пляце лапцi —
Панскі розум мае сваццяː
Як да жніва —
Ледзьве жыва.
Як на танцы —
Пяць каханцаў.

Мы хоць з форсам, ды не столькі,
Каб варожкі слаць здаля,
Калі тут арбітай полькі
Круціцца сама зямля.

Каркаломная арбіта,
Дзе другі абсяг відзён,
Дзе зусім і не забыта,
Толькі ўзнесена над бытам
Боль і радасць нашых дзён.

Стань збавеннем ад разлукі
З краем, дзе зара шчыміць,
Раскажы, якія мукі
Ты умела пагасіць.

За расстайныя дарогі
І за тое, што люблю,
Пэўна, новую падлогу
Сёння з полькай праламлю.

Праламаць і праваліцца
Мне ад сораму цяпер
За ліхія навальніцы,
За нядаўнія найперш.

За зацемнены той розум,
Што з агнём ішоў да хат.
І за ганьбу той бярозы,
На якой павешан кат.

І ад шчасця, што ў чысцейшых,
Сарамяжлівых краях
Пяціхатка шчодрай цешчай
Нанач полькаю пацешыць
Шлях сюды, як Млечны Шлях.

Полька-сваццья, полька-сведка.
Жар з баянаў выграбай.
Ты ляці са мной, суседка,
Ці у пекла, ці у рай.

Каснічок куплю чырвоны —
Лёгкім бантам завяжы.
Будзе вёска біць у звоны —
Ты не бойся, не дрыжы.

Як палюбіш, як пачубіш
І заціхнеш на руках,
Стане лёгка — і пачуеш —
Тчэ зіма снягі ў пасаг.

Зоры я ў кішэнь кідаю
Разамлелаю рукой.
Калышу і абдымаю —
Вось як будзе ў нас з табой.

Ажно дзед, што з манапалькі
Не вылазіў пры царах,
Крэкча ў куце — ах ды ах.
Пяціхатка скача польку.
Пяціхатка, Пяціха-а-а...

Во было дык было —
Аж пад пятамі гуло.

## Развітанне з садам

Як рыпнуць пад нагой расходжаныя сходкі,
Любімы, дарагі пасляваенны сад,
Не трэба, не праводзь, не йдзі да павароткі —
Ты малады зусім — заблудзішся назад.

Бывай, і памаўчым. Хай не мігцяцца покуль
У стомленых вачах Варшава альбо Льеж.
Ёсць родны ціхі дом, дзе ў печцы цёплы попел,
А ты, вясновы друг, у шыбы голлем б'еш.

Яшчэ адно прашу — якой бы горкай доляй
Ні крутануўся развітальны рай,
Ты яблыню адну у сны мае ніколі,
Наймаладзейшую, ніколі не пускай.

У жніўні зоры абтрасала неба,
Шчаслівае спатканне ў свет вяло, як спеў.
Сказала дзеўчынка: «Ты загадай што-небудзь —
І збудзецца». А я і не паспеў.

Зляцела зорка пуста, без загадак,
І яблыняй між яблынь прарасла.
Сягоння дзве рукі, як два крылы над садам,
Я узнімаю зноў, шукаючы святла.

І толькі лёгкі шум сукенкі снежна-белай
Глухім прыбоем стогне і заве сустрэць.
А два лісткі святла — далонькі азалеі —
Трапечуцца і клічуць абагрэць.

Ты удыхні, мой сад, нібы трызненне доўгі
Вясновы маналог пра беззваротны рай,
Бо аднаму ўтрымаць той жнівень — вельмі многа...
Расці вялікі — і бывай... бывай...

## ЛЕТНІЯ МАЛЮНКІ

### 1. Пісьмы

У вечаровым краі вясковым,
Дзе лёгкі гоман і поскрып брам,
На пяску прыазёрным кіем сасновым
Пісьмы пішу сябрам.

Пра адзіноту, пра сосен свячэнне,
Пра лодку і шум трысця.
І нешта няяснае, як вызначэнне
Любові ці сэнсу жыцця.

Ненадзейная пошта — я знаю.
Ды гэты вечар бунтуе душу.
А хваля за хваляй ціха змывае
І лодку, і адзіноту, і шум.

Мае адрасаты не забывалі
Праз любы гарызонт працягнуць руку.
Што рабіць мне? З упартасцю хваляў
Пішу на мокрым пяску.

### 2. Птушка

Астывае трава лугавая,
Хмельна ткуцца палотны смугі,
І у промнях зары залатая
Піша птушка над лугам кругі.

Каля позняй зары перагрэтай
Льецца лёгкай нязнанасці крык.
Залатая! Як радасць над светам.
Ён да цудаў яшчэ не прывык.

Залатая яна, маладая,
Можа нават з апошняй вясны.
Жнівень цёпла ёй крыллі гайдае.
Першы раз азалеюць яны.







лідзія арабей

# ВАЎЧКІ

## АПОВЕСЦЬ

● Мал. В. ШРАМЯКОВА.

**1**

Ідучы з работы дадому і адчыніўшы ў пад'ездзе паштовую скрынку, Павел Іванавіч разам з англійскім часопісам убачыў белы канверт з вузкаю сіняю пячаткаю пад адрасам. Адразу здагадаўся, што гэта канверт з суда, яго выклікаюць на пасяджэнне.

Нёс пошту ў кватэру і думаў, што заўтра ў яго акурат вольны дзень, няма лекцый, так што не трэба будзе пераносіць заняткаў, прасіць, каб яго замянілі.

Ён адкрыў сваім ключом абабітыя чорнай цыратаю дзверы, увайшоў у кватэру, паклаў часопіс і канверт на паліцу перад люстэркам, што было прыбіта да сцяны каля вешалкі.

Дачка ў сваім пакоі іграла на піяніна—развучвала, мусіць, нешта новае, бо музыка была не тая, якую ён чуў кожны дзень. Жонка таксама была дома, з расчыненых дзвярэй, якія вялі ў залю, падала паласа жоўтага святла — ад таршэра з жоўтым абажурам.

Ён распрануўся, скінуў чаравікі і ступіў у мяккія пантофлі без заднікаў, якія стаялі ўнізе пад вешалкаю, узяў часопіс, канверт і пайшоў у залю.

Жонка сядзела на канапе, падсунуўшы блізка да сябе таршэр, і нешта шыла, каля яе стаяла сіняя каробка, у якой ляжалі шпулькі нітак, нажніцы, сантыметр. Жоўтае святло падала на худы жончын твар, на сухія рукі з чырвоным манікюрам, і ў гэтым жоўтым святле жонка была падобна на мумію, але Павел Іванавіч апошнім часам не надаваў зна-

чэння таму, як выглядае жонка. Жонка ёсць жонка, зусім не абавязкова, каб яна была прыгожая. У асяродку людзей, з якімі ён жыў, працаваў, былі свае меркі, з якімі яны падыходзілі да жонак, і пад гэтую мерку яго Людміла Макараўна, здаецца, падыходзіла. Было важна, каб жонка ўмела весці гаспадарку, каб умела добра прыняць гасцей, каб не мянціла вельмі языком, абгаворваючы сваіх прыяцелек, а даглядала дзяцей і мужа.

Праўда, сама Людміла Макараўна, мусіць, не апошняе значэнне надавала і свайму выгляду, бо шыла і перашывала сабе сукенкі, сачыла за модаю. Яна выкладала англійскую мову ў старэйшых класах і, каб самой больш практыкавацца, выпісвала англійскі часопіс.

— На табе твой інгліш,— паклаў Павел Іванавіч каля жонкі часопіс.

Яна кінула вокам на часопіс, паглядзела на мужа, убачыла ў яго ў руках канверт.

— А гэта што, пісьмо ад каго-небудзь? — спыталася яна.

— Не, з суда,— адказаў Павел Іванавіч.

Жонка адклала ўбок шытво, пачала гартаць часопіс, і ў кватэры запахла друкарскаю фарбаю. Папера, на якой друкаваўся часопіс, была гладкая, белая, ясна рысаваліся на ёй чорныя літары шрыфту. Дачка ў сваім пакоі іграла на піяніна. Павел Іванавіч адкрыў канверт. Так, гэта было запрашэнне ў суд, на заўтра, на дзевяць трыццаць, прысутнічаць у якасці народнага засядацеля.

Ён паклаў канверт на нізкі столік са шкляным верхам, на які яны звычайна клалі пошту, пайшоў у ванную мыць рукі. Жонка, мусіць, да часу адклала часопіс і пайшла ў кухню гатаваць вячэру, ён мыў рукі і чуў, як яна бразгала там посудам. Калі ён і сам увайшоў у кухню, на стале стаяла ўжо хлебніца з пачатаю круглаю кулідкаю, на пліце сквырчэлі, падаграваліся, катлеты, жонка стаяла каля пліты, трымаючы ў руцэ ножык.

Кухня ў іх была вялікая, абліцаваная кафляю, тут стаяў белы польскі гарнітур, на вакне віселі гардзіны, было чыста і ўтульна, і яны карысталіся кухняю, як сталоваю.

Жонка паклала ножык на пліту, падышла да буфета, нешта выняла адтуль і жыва павярнулася да мужа.

— Паглядзі, што я дастала,— высока падняла яна ў руцэ слоік, праз шкло якога прасвечваліся чырвоныя шарыкі ікры.

— Ого!— здзівіўся Павел Іванавіч.— Адкуль гэта?

— І не пытай,— махнула жонка рукою, ставячы слоік назад у буфет.— Садзіся, вячэраць будзем.

— Дык чаго ж ты такое дабро хаваеш, дай хоць ікры на хлеб намазаць, я і смак яе забыўся,— сказаў Павел Іванавіч.

— І не думай,— катэгарычна адказала жонка.— Для майго дня.

На наступным тыдні ў жонкі — дзень нараджэння, яна заўсёды пышна адзначае гэта свята, вось і цяпер у яе месяцы два ўжо галоўны клопат — што б такое дастаць, што спячы, што прыгатаваць для гасцей. Да гэтага дня шылася новая сукенка, купляліся новыя туфлі.

— Што ж, прыйдзецца пацярпець,— згадзіўся Павел Іванавіч.

Жонка ставіла на кухонны стол талеркі, клала нажы, відэльцы.

— Ірачка! Вячэраць! — голасна паклікала яна дачку.

Дачка ці не пачула, ці прыкінулася, што не пачула, з яе пакоя яшчэ мацней загрымела музыка.

Пасля вячэры Павел Іванавіч пайшоў у залю, сеў на сваё крэсла каля нізенькага століка са шкляным верхам, узяў жончын часопіс,



пачаў гартаць. Англійскай мовы ён не ведаў, некалі вывучаў нямецкую, англійская здавалася яму вельмі цяжкая. Вось і цяпер паспрабаваў прачытаць некалькі слоў, але не зразумеў нічога, адклаў часопіс, узяў сённяшнюю газету, пачаў чытаць.

Жонка зноў сядзела на канапе, шыла, дачка нешта рабіла ў сваім пакоі, больш не іграла.

●

Назаўтра ў дзевяць трыццаць Павел Іванавіч падыходзіў да будынка народнага суда. Па крутой цемнаватай лесвіцы падымаўся на трэці паверх. У калідорах і на лесвіцах стаялі людзі з заклапочанымі тварамі, сцішаныя, як у бальніцы, яны ўважліва глядзелі на Паўла Іванавіча, і ён пад гэтымі позіркамі адчуваў сябе ніякавата. Прайшоў у кабінет суддзі і шчыльна зачыніў за сабою дзверы.

Суддзя, жанчына гадоў сарака, у чорным шарсцяным касцюме і ў белай блузцы, сядзела за сваім сталом і пісала, на яго прывітанне адказала ветліва, усміхнулася і паківала галавою, быццам паказваючы, што рада яго бачыць. На яе стале ляжалі высокія груды папак і кнігі — грамадзянскі кодэкс, крымінальны, і яшчэ нейкімі паперамі быў закладзены *стол*. Павел Іванавіч заўсёды дзівіўся, як шмат у суддзі работы.

Другі засядацель, пажылы мужчына з ордэнскімі планкамі на сінім пінжаку, сядзеў за сталом, які быў прыстаўлены краем да стала суддзі, і гартаў папку — мусіць, вывучаў справу, якую сёння будуць слухаць.

Кабінет суддзі быў прасторны, светлы, падлога заслана жоўтым лінолеумам, на сцяне — план горада, у кутку сейф з круглаю жалезнаю ручкаю, на сейфе стаяць графін з вадою і шклянка, уздоўж сцен — крэслы. Некаторыя грамадзянскія справы слухаліся і тут, у кабінеце.

Павел Іванавіч распрануўся, павесіў паліто на вешалку, што стаяла ў кутку кабінета, падышоў да стала, за якім сядзеў пажылы засядацель.

— Ну, што ў нас сёння? — спытаўся не то ў суддзі, не то ў засядацеля.

— А во, паглядзіце,— паказала суддзя на папкі, што ляжалі перад пажылым засядацелем.— Адна справа крымінальная і дзве грамадзянскія.

Павел Іванавіч сеў за стол насупраць пажылога засядацеля.

— Дазволіце? — дакрануўся ён да сіняй папкі, што ляжала на стале.

— Ага, калі ласка,— адказаў пажылы засядацель, падсоўваючы папку да Паўла Іванавіча.

У папцы было падшыта шмат дакументаў — і надрукаваных на машынцы, і напісаных ад рукі. Спачатку Павел Іванавіч пагартаў іх усе, не чытаючы, толькі выхопліваючы з тэкстаў асобныя сказы. «Сведка Патупчык паказаў, што затрымаў падсуднага, падставіўшы падножку...» «Абвінавачваецца ў тым, што сёмага лютага ў дзесяць гадзін вечара...» «Грошы ў суме дваццаць пяць рублёў...»

«Ну, ясна, будзем судзіць злодзея»,— падумаў Павел Іванавіч.

Суддзя яшчэ ўсё пісала, пажылы засядацель вывучаў другую справу, і Павел Іванавіч пачаў больш уважліва чытаць пратакол допыту падсуднага.

У пратаколе пісалася, што падсудны Зайчык Віктар Паўлавіч, тысяча дзевяцьсот сорак пятага года нараджэння, беларус, сёмага люта-

га ў дзесяць гадзін вечара ў парку імя Горкага затрымаў грамадзянку Івашкевіч Маргарыту Яфімаўну і загадаў ёй аддаць сумачку, у якой ляжалі грошы. На пытанне, ці быў з ім яшчэ хто-небудзь, падсудны адказаў, што рабіў усё сам, адзін, хаця пацярпеўшая Маргарыта Івашкевіч паказвала, што ў парку да яе падышлі ўдвух, грамадзянін Зайчык і яшчэ другі мужчына, нізкага росту, у кепцы, але таго, другога, не злавілі.

На пытанне, чаму ён, Зайчык Віктар Паўлавіч, абакраў жанчыну, той цынічна заявіў, што яму былі патрэбны грошы.

Павел Іванавіч чытаў пратакол і думаў, што колькі ў нас яшчэ басаты, што вось так і дачку могуць некалі затрымаць у парку — яна ж з музычнай школы ходзіць цераз парк,— могуць зняць гадзіннік, напалохаць, ды яшчэ добра, калі толькі гадзіннік адбяруць, ліха з ім, з гадзіннікам.

Ён думаў гэта і адчуваў яшчэ нешта, пакуль невыразнае, нешта ў гэтым пратаколе было такое, што трывожыла яго памяць. Ён пачаў чытаць пратакол зноў, з самага пачатку.

«Падсудны Зайчык Віктар Паўлавіч...» Ага, Зайчык, знаёмае прозвішча,— і памяць тут жа прыявяла дзяўчыну ў белым фартушку, з падносам у руках, на якім стаяла талерка буракоў, ці як у той сталоўцы называлі — баршчу. Таня Зайчык... Такое прозвішча было ў Тані. Можа, сваяк які ці брат, у яе ж было поўна братоў, сясцёр, адно пад адным.

Ён пабег вачыма далей па пратаколе, каб паглядзець год нараджэння. Год нараджэння быў сорак пяты. Вярнуўся назад, каб прачытаць, як хлопца завуць па бацьку, і прачытаў — Паўлавіч, Віктар Паўлавіч.

У грудзях быццам нешта пакацілася, і на твар пачала напływаць чырвань.

— «Быць не можа,— гаварыў ён сам сабе.— Ці мала на свеце Зайчыкаў, пры чым тут Таня...»

Ён адганяў ад сябе недарэчную думку, якая прыйшла яму ў галаву, але яна ўжо не хацела адыходзіць, круцілася, лезла ў мазгі.

«Калі ў Тані тады нарадзіўся сын, то яму цяпер столькі гадоў, як гэтаму Зайчыку... А калі Таня запісала яго на сваё прозвішча...

Глупства, глупства,— супакойваў ён сам сябе.— Можа ў Тані тады нарадзілася дачка, а можа і ніхто не нарадзіўся, мала што магло быць, ці мала Зайчыкаў на свеце, Таня неяк гаварыла, што палова вёскі, адкуль родам яе бацькі — Зайчыкі...»

Здаецца, ён прагнаў падазрэнне, але вочы яшчэ раз глянулі на імя па бацьку падсуднага, якое было запісана ў пратаколе. Паўлавіч... Чаму ж Паўлавіч і сорак пятага года нараджэння?..

— Павел Іванавіч,— паклікала яго суддзя.— Нам пара...

— Ага, ага,— скоранька адказаў Павел Іванавіч. Ён згарнуў папку, падаў яе суддзі, устаў, пайшоў следам за суддзёй і пажылым засядацелем. За ім ішла сакратарка, ён чуў, як стукалі яе абцасікі, чуў цокат гэтых абцасікаў і нічога не мог думаць, толькі здавалася, што за каўнер яму трапіла вільготная кропля і цяпер вісіць там.

У калідоры яны прыпыніліся, каб прапусціць двух міліцыянераў і падсуднага, якога прывезлі з турмы і вялі цяпер у залу пасяджэнняў. Гэта быў малады мужчына з нагола пастрыжанаю галавою, у кароткім сінім паліто, ужо добра паношаным. Паліто расшпіленае, і пад ім відаць зялёная лыжная куртка з замком-маланкаю, рудыя штаны вісяць торбамі на каленях. Рукі ў падсуднага былі закладзены за спіну, ён ішоў і ўхмыляўся, быццам паказваючы, што яму ўсё трын-трава.



Павел Іванавіч за той час, што хадзіў у суд, нагледзеўся тут на хуліганаў, на злодзеяў, яны былі нечым падобныя адзін на аднаго — можа, тым, што ўсе былі стрыжаныя, што ўсе трымалі рукі за спіною, што іх прыводзілі на суд міліцыянеры. Але падобныя яны здаваліся на першы погляд. У залі суда, пад час пасяджэнняў, кожны трымаў сябе па-свойму. Адны шчыра каяліся, некаторыя нават плакалі, другія заставаліся зацятыя — здавалася, выпусці такога, і ён зробіць яшчэ большае зло, трэція са скуры вылузваліся, стараліся абяліць сваю асобу і зваліць віну на іншых, чацвёртыя па-рыцарску бралі віну на сябе, прызнаваліся нават у злачынствах, якіх не рабілі.

Зайчык ішоў на суд з ухмылачкаю — што значыць гэта ўхмылачка? Нахабства? Мне ўсё трын-трава, напляваць я на вас хацеў? Ці, можа, ухмылачкаю прыкрывае сорам?

Міліцыянеры павялі падсуднага ў залю, суд таксама пайшоў туды, толькі праз іншыя дзверы, якія былі ў другім канцы залі, каля самага стала, што стаяў на ўзвышэнні.

Суддзя наперадзе, засядацелі за ёю, узышлі на высокі памост, пачалі ўсаджвацца на крэслы з высокімі спінкамі. Сакратарка прыладзілася збоку, за невялічкім столікам, паклала перад сабою чыстую паперу — падрыхтавалася весці пратакол.

У залі сядзела чалавек дзесяць, справа была вельмі звычайная і цікавасці не выклікала, прыйшлі, мусіць, сваякі дзяўчыны, у якой укралі сумачку, сведкі, можа, нехта і ад падсуднага.

Падсудны сядзеў цяпер за бар'ерам, схіліўшы набок круглую стрыжаную галаву, на якой адрасталі кароткія цёмныя валаскі, і раз-пораз зыркаў на суддзю, на засядацеляў. Па яго твары часам прабягала ўхмылачка, адкрываючы рэдкія жоўтыя зубы. Паўлу Іванавічу здалося, што падсудны адчувае сябе тут, як клоун на арэне, разумее, што ўсе на яго глядзяць, і хоча пакрыўляцца, пацешыць публіку.

Занялі свае месцы пракурор і адвакат, пракурор у сінім фрэнчы з пятліцамі, адвакат — невысокая жанчына з цёмнымі завітымі валасамі.

Пакуль суддзя абвяшчала склад суда, гаварыла падсуднаму пра яго правы і абавязкі, той сядзеў, быццам усё гэта яго зусім не датычылася, а Павел Іванавіч разглядаў яго, шукаючы і баючыся знайсці прыкметы, якія пацвердзілі б яго падазрэнне.

У падсуднага быў доўгі нос, а стрыжаная галава рабіла яго яшчэ даўжэйшым, вочы цёмныя, позірк калючы, нават, можна сказаць, нахабны, — спагады гэты чалавек не выклікаў. Павел Іванавіч не знаходзіў, што хлопец чым-небудзь падобны на Таню, хоць ён ужо і забыўся, не памятае Танінага твару, памятае белы фартушок, памятае паднос з талеркаю таго чырвонага баршчу, а твар... Якія ў Тані былі вочы? Блакітныя? Не помніць цяпер...

— Падсудны, вы давяраеце складу суда? — спыталася ў таго суддзя.

Падсудны ўстаў, азірнуўся на залю, ухмыльнуўся, адказаў:

— Давяраю...

Суддзя папрасіла сведкаў выйсці з залі, заявіўшы, што яны будуць выкліканыя па адным, калі спатрэбіцца, і малады хлопец у сіняй куртцы падаўся да выхаду, за ім выйшаў і міліцыянер — малады, чарнявы, у кароткім шынялі — гэтага міліцыянера таксама выклікалі як сведку.

Дзяўчына, у якой падсудны адабраў сумачку, сядзела ў залі на лаўцы з самага краю. На ёй была ружовая вязаная шапачка, шэрае паліто з белым футравым каўняром, яна выглядала крыху спалоха-

ная, мусіць, першы раз была ў судзе і сама адчувала сябе быццам вінаватая. Калі суддзя папрасіла яе расказаць, як усё было, яна ўстала, пачырванела, заікаючыся і збіваючыся, падпіхаючы далоняй валасы пад шапачку, пачала расказваць:

— Ну, я ішла дадому... Ішла дадому, цераз парк... Насустрач мне двое... Я нічога не падумала, ідуць, няхай ідуць, а яны падышлі, і гэты во кажа,— дзяўчына спалохана глянула на падсуднага,— і кажа,— паўтарыла яна: «Дайце, калі ласка, вашу сумачку...» А ў мяне ў сумачцы былі грошы, дваццаць пяць рублёў... Дык я прыціснула сумачку да сябе і нічога не сказала, спалохалася... Дык адзін сказаў: «Што ты ў яе просіш, яна сама не аддасць...» Дык гэты во,— яна зноў спуджана і коратка глянула на падсуднага,— выхапіў у мяне сумачку, і яны пабеглі... Дык я спачатку спалохалася, а потым пачала крычаць... Дык... дык хлопец, вунь той, у куртцы,— дзяўчына кіўнула на дзверы, у якія выйшлі сведкі,— пачуў, што я крычала, і ўбачыў, што той пабег, дык дагнаў яго і даў яму падножку... Гэтага злавіў, а той уцёк...

Дзяўчына змоўкла, але не села, стаяла, чакала, ці не спытаюць у яе яшчэ што-небудзь.

— Сядайце, калі ласка,— сказала ёй суддзя. Яна перавяла вочы на падсуднага.— Грамадзянін Зайчык, прашу ўстаць...

Падсудны нея́к бокам, быццам нехаця, падняўся, стаў, заклаўшы за спіну рукі.

— Грамадзянін Зайчык, раскажыце, калі ласка, як гэта вы праявілі такое «геройства», як адабралі ў дзяўчыны сумачку,— строга спыталася суддзя.

Падсудны пераступіў з нагі на нагу, азірнуўся на Маргарыту Івашкевіч.

— Яна ўсё сказала,— адказаў абыякава.

— Дык вы прызнаеце сваю віну?

Зайчык памаўчаў, абвёў вачыма сцены, глянуў на стол, сказаў неахвотна:

— Ну, прызнаю...

— Пацярпеўшая заявіла, што вы былі не адзін, што падышлі да яе ў парку ўдвух,— сказала суддзя.— Хто быў з вамі?

— Я быў адзін, у яе ў вачах дваілася,— адказаў падсудны.

Нехта ў залі коратка хіхікнуў, і суддзя застукала алоўкам па стале.

— Кіньце вашы ўхмылачкі, падсудны,— сказала строга.— Тут вам не цырк! Адказвайце на пытанне, хто быў з вамі ў парку сёмага лютага ў дзесяць гадзін вечара?

Зайчык апусціў галаву, маўчаў, не адказваў, але ўхмыляцца перастаў.

— Майце на ўвазе, вы ўпіраецеся не на карысць сабе. Каб вы расказалі ўсё, як было, назвалі таго, хто быў з вамі, каб мы бачылі, што вы каецеся, што вам сорамна за ваш учынак, суд знайшоў бы магчымасць зменшыць вам меру пакарання. Але вам, здаецца, не сорамна, што вы, малады дужы мужчына, замест таго, каб абараніць жанчыну, грабіце яе, вы пакрываеце саўдзельніка ды яшчэ ўхмыляецеся, быццам не перад судом стаіце, а недзе ў цырку!

Суддзя памаўчала, мусіць, супакойваючы хваляванне, на яе шчоках і на шыі выступілі ружовыя плямы, яна гартала дакументы, што ляжалі перад ёю ў папцы, спынілася на адным, трымаючы яго за ражок двума пальцамі.

— Вы працавалі на заводзе падсобным рабочым, мелі зарплату





восемдзесят рублёў, жылі ў інтэрнаце... На аднаго чалавека, без сям'і, восемдзесят рублёў не так і мала, ды нават каб і мала было, хіба гэта значыць, што трэба ісці на вуліцу і рабаваць людзей?

Падсудны маўчаў, не гаварыў нічога.

— Вось у мяне характарыстыка з вашай работы,— апусціла суддзя лісток, які трымала ў руках, пастукала па ім пальцам.— Тут вельмі мала харошага пішуць пра вас. «За час работы на заводзе Віктар Паўлавіч Зайчык паказаў сябе недысцыплінаваным, часта грубіў, прыходзіў на работу п'яны...»,— прачытала суддзя.— Вам што, на гарэлку былі патрэбны грошы, і вы адабралі іх у дзяўчыны?..

Падсудны памаўчаў, потым адказаў, як бы неахвотна:

— Я быў п'яны... Не помню, што рабіў.

Суддзя ўважліва на яго паглядзела.

— Тое, што вы былі п'яны, не апраўданне для вас. Сп'яну людзі часта робяць злачынствы. Колькі вы ў той вечар выпілі?

Падсудны падумаў, быццам успамінаючы.

— Два паўлітры... І піва яшчэ... не помню...

— Два паўлітры і піва на дваіх?

Зайчык схамянуўся, як апамятаўся.

— Не на дваіх... Я адзін піў... Можа, адно паўлітра, не помню, колькі ўжо, не помню.

— Пакрываеце саўдзельніка! — строга сказала суддзя.

Выклікалі сведкаў, спачатку хлопца ў сіняй куртцы, і ён расказаў, як сёмага лютага ў дзесяць гадзін вечара, ідучы цераз парк з работы дадому, пачуў крык дзяўчыны, потым убачыў чалавека, які ўцякаў, пабег за тым чалавекам і даў яму падножку.

Міліцыянер расказаў, што, несучы дзяжурства ў парку, ён убачыў двух мужчын, якія біліся, і адзін з іх крычаў, зваў міліцыю. Калі міліцыянер падбег да мужчын, то зразумеў, што адзін з іх хоча ўцячы, а другі трымае. Той, што хацеў уцячы, і быў грамадзянін Зайчык, які схапіў сумачку ў грамадзянкі Івашкевіч Маргарыты Яфімаўны.

Як ні дабівалася суддзя, каб падсудны назваў імя таго, хто быў з ім у парку, хто разам з ім падышоў да грамадзянкі Івашкевіч, Зайчык так і не назваў яго.

Выступаў пракурор. Ён гнеўна абвінавачваў падсуднага і патрабаваў яму суровай кары — пяць гадоў пазбаўлення волі з адбываннем тэрміну ў калоніі строгага рэжыму.

Адвакат прасіла суд звярнуць увагу на тое, што грамадзянін Зайчык судзіцца ўпершыню, пераконвала суд, што калі не цяпер, то пазней падсудны зразумее, які ганебны быў гэты яго ўчынак, і прасіла зменшыць тэрмін пакарання.

Павел Іванавіч сядзеў за судзейскім сталом на ўзвышэнні, у крэсле з высокаю спінкаю, з правага боку ад суддзі. З залі на яго глядзелі проста апранутыя людзі, сцішаныя, поўныя ўвагі да таго, што тут адбываецца, поўныя павагі да людзей, якія тварылі суд,— служылі праўдзе, дабру.

Сярод тых, што сядзелі ў залі, была маладая жанчына ў шэрай хустцы і зялёным зімовым паліто. На каленях у яе стаяла вялікая чорная сумка, такая, з якою гаспадыні ходзяць па магазінах. Жанчына сядзела ззаду за падсудным, крыху збоку, і ўсё паглядала на яго голую шыю, на стрыжаную галаву. Часам яна вымала са сваёй сумкі насоўку, выцірала вочы, паціху смаркалася ў яе і зноў клала насоўку ў сумку. «Хто яна падсуднаму? — падумаў Павел Іванавіч.— Сястра? Жонка? Проста знаёмая?»



Суддзя аб'явіла, што суд пакідае залю для вынясення прыгавору. Усе ўсталі, і падсудны ўстаў, зноў быццам нехаця, бокам, хаваючы рукі за спіну.

●

Зайчыку Віктару Паўлавічу прысудзілі чатыры гады пазбаўлення волі з адбываннем тэрміну ў калоніі строгага рэжыму. Павел Іванавіч прасіў суддзю зменшыць пакаранне, ён не ведаў, што сказаць, каб учынак Зайчыка выглядаў не такім злачынным, хацеў знайсці нейкія прычыны, якія зменшылі б віну падсуднага, але не мог знайсці такіх прычын, не мог нічога сказаць, што хоць крышку абяліла б гэтага чалавека.

— У вас, Павел Іванавіч, добрае сэрца, вы шкадуеце нават зладзеяў, а шкадаваць іх нявартa,— сказала суддзя.

Яе падтрымаў і пажылы засядацель.

— Нам трэба яшчэ больш змагацца са зладзеямі, з хуліганамі,— сказаў ён.— Камунізм будуем, а з такімі людзьмі як будаваць...

Прыгавор суда зала слухала стоячы.

Зайчык стаяў асобна, адгароджаны ад усіх драўляным бар'ерам, рукі закладзены за спіну, паліто расшпілена, і былі відаць зялёная куртка з замком-маланкаю, рудыя штаны з торбамі на каленях.

Ён больш не ўхмыляўся, твар яго, здаецца, нават крыху пабялеў. А жанчына ў шэрай хустцы і ў зялёным паліто заплакала зноў, палезла ў сваю сумку шукаць насоўку.

Калі суддзя з засядацелямі вярнуліся ў кабінет, у дзверы ціха пастукалі, і гэта самая жанчына нясмела адчыніла дзверы.

— Можна? — спыталася яна.

— Заходзьце,— адказала суддзя. Яна ўжо сядзела за сваім сталом, перабірала паперы і толькі краем вока глянула на жанчыну. Тая ўвайшла і стала каля дзвярэй, трымаючы дзвюма рукамі перад сабою сваю сумку.

— Што ў вас да мяне? — спыталася суддзя ў жанчыны.

Жанчына зрабіла крок да стала і спынілася.

— Я... Я прасіла б вас... Мне каб пагаварыць, пагаварыць толькі...

— З падсудным? — адразу здагадалася суддзя, з кім хоча пагаварыць жанчына.

— Ага,— кіўнула тая галавою. Вочы ў яе былі заплаканыя, нос крыху пачырванеў, на шчоках сінелі дробныя жылкі.

Суддзя памаўчала, перакладаючы папкі з аднаго боку стала на другі, потым сказала:

— Ідзіце... Скажыце, што я дазволіла...

Твар у жанчыны адразу памякчэў, і яна, нават забыўшыся падзякаваць, скоранька пайшла за дзверы.

Павел Іванавіч зноў падумаў — кім даводзіцца гэта жанчына Зайчыку? Каб спыніць яе, пагаварыць, яна б сказала, хто такі гэты Зайчык, хто яго бацька, матка...

Зрэшты, ён мог бы, як і гэта жанчына, папрасіць у суддзі дазволу пагаварыць з падсудным, высветліць усё ў таго, яму б суддзя таксама дазволіла, але трэба было б нешта выдумляць, чаму ён хоча пагаварыць з гэтым Зайчыкам. А што мог прыдумаць Павел Іванавіч? Яшчэ суддзя западозрыць што-небудзь. І Павел Іванавіч не пайшоў за жанчынаю, каб пагаварыць з ёю, не папрасіў і суддзю, каб дазволіла пабачыцца з падсудным.

Увайшла сакратарка, несучы ў руцэ тоненькую папку ў ружовай вокладцы, паклала папку суддзі на стол. Суддзя пагартала паперы, сабраныя ў папцы.

— Гэтым пашліце павесткі,— сказала яна сакратарцы.— Пашліце...— яна пачала гартаць каляндар, які стаяў у яе на стале на драўлянай падстаўцы. Лісткі ў календары ўсе былі спісаныя ўдоўж і ўпоперак і чарнілам, і алоўкам.— Пашліце на дваццаць пятае,— сказала суддзя і, памеціўшы сабе ў календары, аддала папку сакратарцы.

— А наступную справу цяпер будзем слухаць ці пасля перапынку? — спыталася сакратарка.

— Зараз зробім перапынак,— адказала суддзя.— Пасля абеду будзем слухаць наступную справу, у нас там скасаванне шлюбу? — спыталася яна.

— Ага,— адказала сакратарка.

А Павел Іванавіч раптам падумаў: што зрабіла б яго жонка, каб даведалася пра ўсю яго гісторыю? Можа, таксама падала б на развод і яму прыйшлося б стаяць у гэтай зале, даваць тлумачэнні. Якімі вачыма глядзела б на яго суддзя, цяпер такая з ім ветлівая, як глядзела б на яго гэта маладзенькая дзяўчына-сакратарка?

— Таварышы, зараз зробім перапынак,— устала з-за стала суддзя.— Роўна на гадзіну. Паабедайце за гэты час, а потым разгледзім тыя дзве справы, там грамадзянскія, аб скасаванні шлюбу.

Суддзя падышла да вешалкі, зняла сваё паліто, Павел Іванавіч паспяшаўся да яе, каб дапамагчы апрануцца. Пажылы засядацель ужо стаяў апрануты, на ім было доўгае сіняе паліто з добрага драпу і з такога ж драпу кепка. І паліто, і кепка даўно выйшлі з моды, некалі такія насіла начальства, мусіць, і пажылы засядацель быў з начальства, а цяпер пайшоў на пенсію.

Яны ішлі ўтраіх па апусцелым цяпер калідоры, з двух бакоў якога былі дзверы. У канцы калідора, пры самай лесвіцы, дзверы раптам адчыніліся, і з іх выйшаў міліцыянер, адзін з тых, што нядаўна былі на судзе пры Зайчыку. Дзверы былі адчыненыя адно імгненне, пакуль міліцыянер выходзіў з пакоя, але Павел Іванавіч убачыў у ім Зайчыка — той сядзеў, нахіліўшы нізка галаву, і еў батон, трымаючы яго, разламаны, у дзвюх руках. Жанчына ў шэрай хустцы і зялёным паліто сядзела насупраць яго і, падпершы шчаку рукою, глядзела, як ён есць. Яе чорная сумка стаяла каля крэсла на падлозе.

За сталом з дзвюма тумбамі сядзеў другі міліцыянер, з тых, што былі на судзе пры Зайчыку, і вадзіў алоўкам па аркушы паперы. Яго міліцэйская шапка ляжала перад ім на стале.

Усё гэта Павел Іванавіч убачыў у адзін міг, пакуль міліцыянер выходзіў з пакоя, і раптам жаль да хлопца, які еў батон,— мусіць, гэты батон прынесла яму жанчына — жаль да гэтай жанчыны прайшоў праз яго грудзі.

На вуліцы суддзя і пажылы засядацель пайшлі ў адзін бок, а Павел Іванавіч, кіўнуўшы ім і сказаўшы «да скорага», павярнуў у другі. Яму вельмі хацелася застацца цяпер аднаму, і сапраўды, як толькі адышоў крыху ад будынка суда, уздыхнуў лягчэй. Цяпер яму не трэба было прыкідвацца спакойным, бесклапотным чалавекам, ён быццам скінуў маску, якая сцягвала яго твар.

Была адліга, пад нагамі хлюпаў мокры снег, змешаны з пяском, у паветры вісеў туман з едкім гарам машын, якія адна за адной беглі па вуліцы, раскідваючы коламі рудую жыжку. Легкавыя машыны, аўтобусы, заляпаныя знізу гразёю, былі падобныя на кароў, што зімавалі на бруднай подсцілцы і вясною іх павыганялі з хлева. І Павел Іванавіч адчуў сябе як забруджаны, быццам нядаўна валяўся ў гразі і цяпер яму ніколі не адмыцца. Ён баяўся, каб не сустрэць каго знаёмага, бо тады трэба было б вітацца, трэба было б нешта гаварыць, а ў яго ў галаве быццам ляжалі камяні, паварушыць якімі ён не меў сілы.

Час перапынку трэба было скарыстаць на абед, але Павел Іванавіч і думаць не мог пра яду, хацелася наогул куды-небудзь зашыцца, каб застацца зусім аднаму, каб не бачыць, не чуць вакол сябе людзей, але трэба было зноў вяртацца ў суд, зноў садзіцца на крэсла з высокаю спінкаю.

Каля дзвярэй магазіна стаяла чарга, пад нагамі ў людзей, на снезе, ярка гарэлі шалупінкі ад мандарынак. Мусіць, людзі стаялі ў чарзе за мандарынамі, іх цяпер прадавалі па ўсім горадзе, і Паўлу Іванавічу зрабілася дзіўна, што жыццё ідзе, як і ішло, людзі жывуць, як жылі. Ён хацеў супакоіць сябе, пераканаць сябе, што і ў яго нічога не змянілася, ніхто ж не ведае пра Таню і не будзе ведаць, калі ён сам не скажа, але спакой не прыходзіў, у грудзях не лягчэла.

Глянуў на гадзіннік — пара было вяртацца ў суд, і ён тою ж вуліцаю пайшоў назад. Ішоў, прымушаючы сябе набрацца сілы і пражыць гэты дзень так, каб ніхто ні пра што не здагадаўся, быць такім, які ён заўсёды.

У суд ён з'явіўся ранавата, у калідорах было ціха і бязлюдна, дзверы кабінета суддзі — замкнёныя.

Дайшоўшы да канца калідора, Павел Іванавіч раптам пацягнуў за ручку дзверы, за якімі, выходзячы з суда, убачыў Зайчыка. Але і гэтыя дзверы былі замкнёныя — мусіць, арыштанта завезлі ўжо ў турму, а жанчына, што сядзела пры ім, пайшла дадому.

У другім канцы калідора, пры самым акне, якое выходзіла ў двор, стаяў круглы стол, на ім шкляная чарніліца-невылівайка з фіялетавым чарнілам, каля чарніліцы ляжала драўляная ручка з тонкім сухім пяром. За гэтым сталом людзі пісалі розныя заявы, прашэнні, часам каля гэтага стала, чакаючы пачатку судовага пасяджэння, сядзелі і падсудныя.

Верх стала ўвесь быў спісаны, тут былі імёны, даты. «Антон»... «Нюрка»... Надрапана было і непрыстойнае слова. «Я хачу дадому... І есці хачу... І Воўку вельмі шкода»,—прачытаў Павел Іванавіч. Праз грудзі яго прайшоў холад. За гэтымі радкамі ён раптам убачыў чалавека, чалавека, якому вельмі кепска. Ён хоча дадому... Ён хоча есці... Яму шкода нейкага Воўку, мусіць, сына...

Павел Іванавіч падняў вочы. Па калідоры, спяшаючыся, ішла суддзя і крышку вінавата ўсміхалася. Пад пахаю яна несла пакунак, загорнуты ў паперу з пячаткамі ўнівермага.

У зімовым паліто і капялюшыку, з гэтым пакункам пад пахаю, яна мела не такі афіцыйны выгляд, як у сваім чорным касцюме і ў белай блузцы, за судзейскім сталом. Цяпер яна была як звычайная жанчына, у якой шмат клопату не толькі тут, на рабоце, але і дома, у сям'і.

— Трошкі затрымалася,— сказала яна, быццам апраўдваючыся перад Паўлам Іванавічам.— Але пакуль, здаецца, людзей няма. Гэта вы ў мяне малайчына, дысцыплінаваны, раней за ўсіх прыйшлі.

Яна пачала пляскатым ключыкам адмыкаць дзверы кабінета.

●

Вярнуўся дадому ён стомлены, цяжка ўзнімаўся на свой чацвёрты паверх, лесвіца здалася як ніколі доўгаю і крутою. Распранаючыся ў калідоры, пачуў галасы жонкі і дачкі, якія даносіліся са спальні.

Дзверы ў спальні адчыніліся, і паказаўся твар дачкі — дачка была ажыўленая, валасы раскіданыя, падаюць на плечы, як у русалкі. Яна скора зноў зачыніла дзверы, сказала мацеры прыглушана, як таямніцу:

— Бацька прыйшоў...

Павел Іванавіч пайшоў у ванную, доўга мыў рукі, твар, яму хацелася даўжэй забавіцца ў ваннай, пабыць яшчэ хоць крышку аднаму, каб нічога не гаварыць, не адказваць ні на якія пытанні жонкі, дачкі.

— Бацька! — гукнула яго дачка.

Ён выціраў рукі, твар, цёр іх, хоць яны былі ўжо сухія.

— Бацька, хадзі сюды,— зноў паклікала дачка.

Трэба было ісці, і ён пайшоў у спальню, дзверы ў якую былі ўжо адчыненыя і адкуль лілося ў калідор святло.

Ён зайшоў у спальню, палову якой займалі два драўляныя ложкі, засланыя аднолькавымі пакрываламі і раздзеленыя невялікаю паліраванаю тумбачкаю. Пры сцяне грувасціліся дзве вялікія шафы, а ў кутку месцілася люстэрка-трумо.

Жонка стаяла каля люстэрка, а дачка сядзела на ложку, абедзве глядзелі на Паўла Іванавіча, затаіўшы некую цікавасць, быццам нечага ад яго чакаючы.

Ён не адразу зразумеў, чаго яны ад яго чакаюць, і толькі калі твар жонкі пачаў мяняцца, калі на яго пачаў наплываць такі знаёмы яму выраз крыўды, здагадаўся.

На жонцы была новая сукенка, пашытая з бліскучай матэрыі, сукенка была ні то сіняя, ні то ружовая, электрычнае святло пералівалася на ёй і хавала, мяняла колер. Худая жончына шыя была адкрытая, рукі голыя.

— А-а, новая сукенка,— сказаў ён.

— Мамачка,— засмяялася дачка,— бацька, здаецца, не адразу і заўважыў, што на табе новая сукенка, ці варта для гэтых мужчын апранацца, яны ж усё роўна нічога не бачаць.— Яна ўзлезла на ложак з нагамі, абхапіла калені рукамі, закінула назад галаву са сваімі распушчанымі валасамі і зноў засмяялася.

Твар жонкі зрабіўся абыякавы, відаць было, што жонка напускае на сябе абыякавасць.

— Нічога, не ўсе мужчыны такія,— адказала яна.— Некаторыя і заўважаюць...

Яна сказала гэта з падтэкстам, намякаючы, быццам нехта ёсць, не абыякавы і да яе. Апошнім часам яна давала мужу такія намёкі, але ён ведаў, што ў жонкі, канечне, нікога няма, яна проста хоча набіць сабе цану, выклікаць у мужа рэўнасць, каб ён сам больш звяртаў на яе ўвагу.

— Правільна, мамачка, калі тата не будзе звяртаць увагі на тваю сукенкі, завядзі сабе ўхажора... Навошта ж і сукенкі шыць, калі іх ніхто не ацэніць.

— І завяду,— хаваючы за жартам крыўду, адказала жонка. Яна павярнулася да люстэрка, у якім адбівалася ўся яе постаць, агледзела сябе з ног да галавы, мусіць, сама сабе спадабалася, бо зноў сказала: — І завяду.

Паўлу Іванавічу была непрыемная гэта размова, ён хацеў папракнуць жонку, сказаць ёй: «Як ты выхоўваеш дачку, а яшчэ педагог, настаўніца»,— яму наогул не падабаліся вольныя размовы жонкі ў прысутнасці дачкі, але яму не хацелася спрачацца, і ён сказаў крыху *збянтэжана*:

— Не разумею, чым я вас пакрыўдзіў... Я адразу ўбачыў, што ў



мамы новая сукенка... Прыгожая сукенка, яна табе да твару,— сказаў ён жонцы.

— Праўда, да твару? — памякчэла жонка, яе вочы пацяплелі, яна зноў павярнулася да мужа, каб ён як след агледзеў яе абнову.

— Прыгожая, праўда? — ні то пыталася, ні то сцвярджала яна.

— Ага, прыгожая.

— Гэта цяпер вельмі модны матэрыял, я сама сабе падарунак зрабіла, на дзень свайго нараджэння,— адпусціўшыся, загаварыла жонка.

— Ага, добра, прыгожа,— паўтарыў Павел Іванавіч.

Жонка пачала прымяраць да сукенкі пацеркі, прыклала да шыі, трымаючы ззаду рукамі, круглыя, чырвоныя, з празрыстых шарыкаў, паглядзелася ў люстэрка, павярнулася бокам і яшчэ раз паглядзелася, паклала пацеркі на драўляную тумбачку, узяла другія, жоўтыя, з бурштыну.

— Ідзі пераапраніся,— не азіраючыся на мужа, сказала яму,— і я зараз прыйду, пакармлю цябе.

За сталом Павел Іванавіч калупаўся відэльцам у белай з сінім беражком талерцы, на якую жонка паклала кавалак смажанай рыбы і тры свежа звараныя бульбіны, еў неахвотна. Жонка, ужо ў паркалёвай сукенцы і ў фартушку, бразгала на пліце сваімі каструлямі, чайнікам і гаварыла:

— Трэба нам з табою яшчэ раз перабраць наш спісачак, сёння я ўспомніла, што мы не запрасілі Хадасевічаў, ужо два чалавекі туды ці сюды, але трэба і іх запрасіць, бо пакрыўдзяцца.

Жонка даўно варажыла над спісачкам — каго запрасіць на свой дзень нараджэння. Прозвішчы людзей яна запісвала на лістку старой нотнай паперы, якую ўзяла ў дачкі, прозвішчы дапісваліся і выкрэсліваліся, і Павел Іванавіч жартаваў, што жонка стварае сваю сімфонію, што дзень нараджэння ў яе будзе разыграны, як па нотах.

Было некалькі пар, якіх яны запрашалі заўсёды — дэкана і намесніка дэкана з жонкамі, адну старшую выкладчыцу са сваім мужам — гэта па лініі Паўла Іванавіча, з інстытута. Людміла Макараўна заўсёды запрашала дырэктара сваёй школы і завуча, таксама з жонкамі. Іншыя госці мяняліся, запрашалі тых, хто ў гэты час быў бліжэй да сям'і — настаўніцу музыкі, якая вучыла дачку, даўнюю прыяцельку з мужам-паэтам, пляменніка-мастака. З такімі гасцямі, лічыла жонка, застолле робіцца цікавае, можна пагаварыць і пра музыку, і пра мастацтва, а калі ў паэта будзе настрой, дык і вершы пачытае.

Павел Іванавіч не ўмешваўся ў гэту жончыну «сімфонію», ён любіў пасядзець за прыгожа накрытым сталом, выпіць чарку, пагаварыць з разумнымі людзьмі і быў удзячны жонцы, што яна ўмее ўсё зрабіць, як трэба, умее здзівіць гасцей сваім кулінарным умельствам, сабраць прыемную кампанію.

Але сёння ён глянуў на ўсё гэта як бы вачыма староннягa чалавека, вачыма таго ж Хадасевіча, якога жонка забылася ўключыць у свой спісачак.

Хадасевіч быў яго даўні знаёмы, яны некалі разам вучыліся ў аспірантуры і нават сябравалі, але Павел Іванавіч абараніў дысертацыю і цяпер чытае лекцыі ў інстытуце, а Хадасевіч не абараніў і вось ужо некалькі гадоў працуе ў выдавецтве звычайным рэдактарам. Хто яго ведае, чаму Хадасевіч не абараніў дысертацыі, у інстытуце ж вучыўся на выдатна, меў павышаную стыпендыю, і студэнты, і выкладчыкі прарочылі яму вялікую будучыню, прарочылі, што з яго выйдзе доб-

ры вучоны, а гэты «вучоны» нават кандыдацкай дысертацыі не абараніў і жыве цяпер куды больш сціпла, як тыя, што ў інстытуце ледзь перапаўзалі з курса на курс.

Праўда, вінаваты тут быў і нораў Хадасевіча, гэты хлопец ніколі не ўмеў лавіраваць, заўсёды ішоў напралом, не ведаў, як гэта кажуць, дзе трэба лізнуць, а дзе гаўкнуць, лізаць то ён наогул, здаецца, нікога не лізаў, а гаўкаў часта, ды не на таго, на каго трэба.

Як бы там ні было, дысертацыю Хадасевіча на вучоным савеце забракавалі, на абарону не паставілі, тэрмін аспірантуры скончыўся, і яму прыйшлося шукаць работы. Каб ён пайшоў да дырэктара інстытута ды хораша папрасіў, каб яго пакінулі ў інстытуце, то, можа, дырэктар і згадзіўся б, і пакінуў бы, а там, памаленьку, ён давёў бы да ладу дысертацыю і абараніўся б, так шмат хто рабіў, але Хадасевіч да дырэктара не пайшоў, не захацеў нікому пакланіцца, а ўладзіўся працаваць рэдактарам у выдавецтве і там, кажуць, часта бунтуе.

Павел Іванавіч лічыў Хадасевіча няўдачнікам і, як да ўсякага няўдачніка, адчуваў да яго крышку пагарды, крышку спачування, аднак адносін з ім не парываў. Глыбока ў душы жыла ў ім быццам і павага да Хадасевіча, які, здавалася яму, пагарджае тым, чым вельмі даражыць ён, Павел Іванавіч. У душы ён мусіў сабе прызнацца, што спалохаўся сённяшняга суда, спалохаўся Зайчыка не толькі таму, што ўся гэта гісторыя клалася чорнаю плямаю на яго сумленне, але і таму, што гэта гісторыя, калі б пра яе даведаліся, магла выбіць яго з ладу прывычнага жыцця, пазбавіць таго, што з такою цяжкасцю набывалася і чым ён так даражыў — службаю, аўтарытэтам і, урэшце, дабрабытам, дастаткам. І цяпер, калі жонка ўспомніла Хадасевіча, ён упершыню таму пазайздросціў, пазайздросціў яго прынцыповасці, яго сіле і цвёрдасці. І яшчэ ён падумаў, што ўвесь гэты час не толькі ён, Павел Іванавіч, мог пацішу пагарджаць Хадасевічам, але і той мог пагарджаць Паўлам Іванавічам. Хадасевіч разумны, ён не мог не бачыць гэтых днёў нараджэння, распісаных, як па нотах, калі запрашаюцца ў асноўным патрэбныя людзі, і, напэўна, ён часта ў сваім, быццам няўдачлівым, жыцці адчуваў сябе больш упэўнена і незалежна, чым Павел Іванавіч са сваімі ўдачамі і поспехам.

І наогул гэты дзень нараджэння, якому сёлета жонка аддавала так шмат увагі, здаўся Паўлу Іванавічу непатрэбным. Ці такая вялікая радасць, што табе прыбавіўся яшчэ адзін год, асабліва жонцы, якая гэтых гадоў баіцца, як чорт ладану? І ў адказ на жончыну турботу, што трэба яшчэ раз перагледзець спісачак, каго запрашаць на дзень нараджэння, ён адказаў хмура:

— Запрашай, каго хочаш, твой дзень нараджэння.

Жонка паглядзела на яго здзіўлена, спыталася:

— У цябе непрыемнасці на рабоце?

Павел Іванавіч паклаў на стол відэлец, адсунуў талерку з недаедзенай вячэрай.

— Няма ніякіх непрыемнасцяў. Проста нага нешта разбалелася,— пацёр ён далонямі калена.

У Паўла Іванавіча была прастрэлена нага — паранілі ў час вайны ў партызанах. Часам, на кепскую пагоду, старая рана пачынала ныць. Ці балела нага сёння — Павел Іванавіч і не ведае, здаецца, не, але трэба было неяк растлумачыць жонцы кепскі настрой, і ён спаслаўся на нагу. Але як толькі сказаў, што нага забалела, пачуў, быццам яна і сапраўды ные, вярэдзіць калена.

Жонка загаварыла са спачуваннем:

— То вячэрай і ляж, паляжы, я шкіпінарам натру табе нагу.



Павел Іванавіч ужо сам прыслухоўваўся — баліць нага ці не. Хвілінамі здавалася, што баліць, а потым болю не чулася.

— Не, не трэба націраць,— сказаў ён жонцы.— Само пройдзе.

Пасля вячэры, крыху накульгваючы, ён пайшоў у залю, узяў са століка свежыя газеты, пакіраваўся з імі ў спальню, лёг на свой ложак, запаліў лямпу, што стаяла на тумбачцы паміж ложкаў. Ён гартаў газеты, прабягаў вачыма загалоўкі, але не разумеў нават загалоўкаў. Перашкаджала музыка дачкі, якая сёння зноў іграла ў сваім пакоі. Вельмі захацелася закурыць, але ён ужо тры гады як кінуў курыць, ганарыўся сваёю вытрымкаю, у хаце не было цыгарэт, ды і наогул, каб ён закурыў, жонка спалохалася б, што ў яго нешта здарылася, пачала б пытацца. А пра тое, што здарылася, ён не мог расказаць нікому, трэба было самому ўсё перажыць, самому ўсё абдумаць і, калі можна, прыдумаць нешта такое, каб і самога не выдаць, і дапамагчы таму чалавеку, Зайчыку.

Ён глянуў на будзільнік — было толькі восем гадзін вечара, спаць так рана ён не клаўся, працаваць у такім настроі таксама не мог — а ён пачаў пісаць доктарскую дысертацыю,— і ён ляжаў, глядзеў у столь, думаў.

У спальню ўвайшла жонка — ужо без фартуха, праходзячы міма люстэрка, паглядзелася на сябе, паправіла валасы, падышла да ложка, на якім ляжаў муж, прысела каля яго.

— Ну, як твая нага? — спыталася са спачуваннем.— Можа ўсётакі натру? — яна паклала мяккую, яшчэ вільготную ад вады, далонь яму на шчаку. Рука ў жонкі была мяккая і голас добры, Паўлу Іванавічу раптам захацелася ёй усё расказаць і папрасіць парады, што яму рабіць. Ён паглядзеў жонцы ў твар. Усё на гэтым твары было яму вельмі знаёмае — і зеленаватыя вочы, і зморшчынкі каля іх, і крыху пукаты лоб з пасмачкаю пафарбаваных валасоў, тонкія, без памады губы, сухаватыя і бледныя. Здаецца, усё на гэтым твары было знаёмае і сваё, але недзе глыбока ў вачах у жонкі жыло і другое — халоднае і жорсткае. Павел Іванавіч ведаў гэта, яно выплывала і надоўга заставалася ў жончыных вачах, калі яны спрачаліся, і жонка рабілася як чужая. Ён тады думаў пра жонку — калі ты за дробязь можаш так злавацца, можаш днямі не гаварыць, можаш рабіцца такая чужая, то што было б, каб я правініўся перад табою па-сапраўднаму і ты даведалася б?..

І ён адвёў вочы ад жончынага твару, сказаў:

— Не, не трэба націраць, само пройдзе.

— Ну, глядзі,— зняла жонка руку з яго лба.

## 2

Яго быццам штурхнуў хто, і ён расплюшчыў вочы, прачнуўся.

Стаяла глыбокая ноч, яшчэ не пайшлі па вуліцах машыны, у доме насупраць свяцілася толькі адно акно. Павел Іванавіч перавярнуўся на другі бок, заплюшчыў вочы, каб зноў заснуць, ляжаў ціха, стараючыся ні пра што не думаць, прымушаючы сябе — спаць, спаць,— але перад вачыма ўсплыла стрыжаная галава Зайчыка, ён убачыў яго ўхмылачку і скалануўся. Зразумеў, што зноў не засне, зноў прамучыцца ўсю ноч да раніцы, а ўдзень будзе хадзіць, як п'яны, як хворы.

Каторую ноч прачынаецца ён гадзіны ў тры і не спіць — думае, успамінае.

Успамінае той гарадок у Беларусі, дзе ён апынуўся пасля расфар-

міравання партызанскага атрада. Гарадок быў зялёны, чысты, амаль цэлы, з брукаванымі вуліцамі і тратуарамі, зробленымі з каменных плітак, са скверыкам у цэнтры, з чырвоным касцёлам, абгароджаным узорыстаю агароджаю, з двухпавярховым будынкам школы, дзе пры паляках была гімназія.

Яму далі пакойчык метраў на дзесяць у драўляным доміку на ўскраіне мястэчка, цяпер ён ужо не помніць, дзе ўзяў ложак, стол і крэсла, адкуль у яго з'явіліся падушка і коўдра.

Сам ён быў тады яшчэ не Павел Іванавіч, а проста Павел, ці Паўлуша, худы, высокі дваццацідвухгадовы хлопец, хоць і абстраляны, але яшчэ дурны, наіўны.

Свае хлопцы, партызаны, раз'ехаліся-разляцеліся — адных прызвалі ў армію, другіх накіравалі на службу ў іншыя гарады, і Павел застаўся тут, у гэтым мястэчку адзін, без сяброў, без добрых знаёмых.

Яго не прызвалі ў армію, бо быў ён пасля цяжкога ранення, а пакінулі тут, бо спатрэбілася яго спецыяльнасць, якую ён набыў у партызанах.

Паранены ў нагу, ён апошнім часам у атрадзе не хадзіў на баявыя заданні, а круціўся каля друкарні і скора навучыўся набіраць і друкаваць газету. Пасля расфарміравання атрада яго і пакінулі ў гэтым гарадку працаваць у рэдакцыі, якая выйшла з падполля, наборшчыкам і друкаром.

Былы рэдактар, з якім Павел у атрадзе сябраваў, таксама пайшоў у армію, цяпер рэдактарам прызначылі жанчыну, якая была партызанскай сувязной.

Павел сумаваў. Пасля партызанскага атрада, дзе ўвесь час быў у гурце, сярод сваіх хлопцаў, адчуваў сябе адзінокім, бо тут пакуль ніякіх таварышаў, ніякай кампаніі не займеў. Ды і нага яшчэ балела. Ён зрабіў сабе з вольхі кіёк, навыстругаў на ім квадрацікаў, розных узораў, а каля дзяржання яшчэ і імя сваё выразаў — «Павел». Хадзіў па мястэчку, крыху накульгваючы і ўспіраючыся на гэты кіёк.

У гарадку была сталоўка, якая месцілася ў белым мураваным будынку каля скверыка, у самым цэнтры мястэчка. Сталоўку трымаў тутэйшы ОРС, адну на ўсіх рабочых гарадка і для чыгуначнікаў — недалёка ад мястэчка праходзіла чыгунка.

Год ішоў яшчэ ваенны, цяжкі, галодны, а тут па талонах, што разам з хлебнымі і прадуктовымі картачкамі выдаваліся на рабоце, можна было з'есці талерку таго самага баршчу, порцыю кашы, катлету, і сюды сыходзіліся людзі, тут снедалі, абедалі і вячэралі, а часам і так падоўгу сядзелі, гаварылі, выпівалі.

Звонку будынак сталоўкі выглядаў нішто — цэлы, на высокім цагляным падмурку (пры паляках у ім была крама), а ўсярэдзіне запушчаны, даўно не рамантаваны, нізкая столь, сталы драўляныя, нічым не засланыя, крэслы на расхістаных ножках — садзіцца на іх трэба было з апаскаю, каб не паваліцца, падлога рассохлая і чорная ад бруду, які наносілі нагамі людзі.

У сцяне, за якою стукалі нажамі, грымелі вёдрамі кухаркі, зеўрала чорная дзюрка — акно, праз якое на залю падавалі талеркі з баршчом і кашаю. Каля гэтай жа сцяны, у кутку залі, туліўся невялікі буфецік — адгароджаны катушок, дзе на паліцах стаялі вазачкі з цукеркамі, бутэлькі з гарэлкаю, ляжалі пачкі салдацкай махоркі. Сюды ж, за гэтую загародку, часам прывозілі вялікую драўляную бочку з півам, і буфетчыца Ядзя — немаладая поўная жанчына ў жоўтай блузцы, якая туга аблягала яе грудзі, і ў чорнай спадніцы, якая напіналася на яе клубах і жываце,— цадзіла з гэтай бочкі packed пеністае жоўтае пітво.



Мелася ў гэтай сталоўцы і баковачка, у якую вялі дзверы з вялікай агульнай залі. Там на вокнах віселі белыя марлевыя фіранкі, сталы засціляліся абрусамі, падлога была не затупаная, бо туды хадзіла менш людзей — у баковачцы абедала начальства.

Разносілі яду ў сталоўцы дзве дзяўчыны — адна высокая, з доўгімі светлымі валасамі, якія падалі ёй на плечы і знізу падкручваліся валікам. У дзяўчыны быў хоць і велікаваты, але зграбны нос і звонкасінія вочы, яна заўсёды вельмі акуратна апраналася. Звалі яе Ванда. Па залі яна хадзіла, як каралева, адчуваючы на сабе прыхільныя позіркі мужчын.

Другую дзяўчыну звалі Таня. Яна была невысокая, з пастрыжанымі да вуха цёмнымі валасамі, у якіх заўсёды тырчаў алюмініевы грабянец, губы ў Тані былі залішне поўныя, асабліва верхняя, дзяўчынка хадзіла заўсёды ў адной і той жа карычневай сукенцы і ў чорных чаравіках са шнуркамі, па залі бегала неяк бачком, прыціскаючы да грудзей паднос, застаўлены талеркамі, з заклапочаным тварам, быццам баючыся, што недзе нешта зрабіла не так і зараз на яе пачнуць сварыцца.

Калі ў баковачку прыходзіла начальства, яду туды насіла Ванда, Таню туды ніколі не пасылалі, затое ў агульнай залі Таня бегала за дзвюх. Ванда хадзіла павольна, не спяшаючыся, ніхто ніколі не падганяў яе, нецярплівыя кліенты заўсёды клікалі Таню, і яна бегала ад століка да століка, стараючыся ўсім дагадзіць і часта прыгаворваючы:

— Зараз, зараз, зараз...

Здаецца, і кліенты, і работнікі сталоўкі, і самі дзяўчаты раз назаўсёды ўстанавілі, якое месца павінна займаць кожная з іх. Быццам усе разумелі, што за Ванду служыць яшчэ і яе прыгажосць, кліенты цешацца, гледзячы на яе, начальства цэніць, і калі яна вельмі будзе насіцца з падносамі, то і прыгажосць сваю растрэсці можа, так што няхай Таня носіцца, ёй няма чаго растрасаць. І Таня з гэтым пагадзілася таксама, Павел ніколі не бачыў, каб яна паказала чым-небудзь сваё нездавальненне, каб хоць раз коса глянула на Ванду — Таня прызнавала Вандзіну вышэйшасць, тым больш, што Ванда была і старэйшая за Таню — Вандзе было дваццаць, а Тані — семнаццаць.

Павел разумеў, што Ванда — нашмат прыгажэйшая за Таню, што Ванда наогул прыгожая дзяўчына, нават без усялякага параўнання, каб Тані тут і зусім не было, і менавіта таму, што Ванда была прыгожая, Паўлу і ў галаву не прыйшло пачаць да яе заляцацца. Ён лічыў, што сам ён не прыгожы, ды яшчэ кульгавы пасля ранення, што такая Ванда на яго і глядзець не захоча, у яе хапае прыгожых ухажораў.

Калі ўспамінаць усё, як было, то ён можа пабажыцца, што і да Тані ён не збіраўся падступацца з залётамі, проста так неяк выйшла, так атрымалася.

Ён добра помніць той вечар.

У сталоўцы было накурана і дымна — нешта на кухні падгарэла, і адтуль у залю наплыло чаду. У кутку, каля двух вокнаў, шыбы ў якіх блішчэлі чорным, сядзела падвыпіўшая кампанія. Святло электрычнай лямпачкі адбівалася на бутэльках, на шклянках, што стаялі перад імі, пасярод стала ляжала разгорнутая газета, а ў ёй скрылікі сала, пустыя ўсярэдзіне салёныя агуркі, кавалак сялянскага хлеба — закуску мужчыны прынеслі ў сталоўку з сабою.

Мужчыны курылі і голасна гаварылі. І за другімі столікамі сядзелі людзі — адны сёрбалі той боршч, які кожны дзень варылі ў сталоўцы, другія пілі піва, якое сёння акурат прывезлі ў буфет, вялі размовы.

Павел павячэраў, ды разам і паабедаў, бо сёння друкавалася газета,

і ён цэлы дзень не мог адлучыцца з рэдакцыі, выпіў куфаль піва і цяпер сядзеў, прыхіліўшы да крэсла свой кіёк, думаў, ці не паклікаць Таню ды не папрасіць, каб прынесла яшчэ адзін. Спяшацца яму не было куды, чатыры сцяны пакоя не вельмі цягнулі яго дадому, а тут усё-такі былі людзі, хоць і самі па сабе, а ён сам па сабе. Стрымлівала толькі тое, што ў кішэні заставалася мала грошай, калі ён сёння возьме яшчэ адзін куфаль піва, а заўтра ж таксама захочацца ўзяць, то да палучкі не дацягне, не будзе за што і баршчу купіць, прыйдзецца кланяцца рэдактаршы, каб дала напавер якую сотню.

Разумней за ўсё было б сёння больш не піць піва, але нешта Паўла як падмывала, быццам на злосць каму хацелася зрабіць.

У гэты час адзін мужчына з кампаніі, якая сядзела ў куце пад вокнамі, павярнуўся разам з крэслам на залю і крыкнуў хрыплым голасам:

— Таня!

Таня, якая ў гэты час стаяла каля буфета, азірнулася, убачыла, што яе клічуць, кінула сваё:

— Зараз, зараз...

Яна занесла піва двум чыгуначнікам, што сядзелі недалёка ад буфета, і падбегла да кампаніі.

— Нам... піва,— сказаў мужчына. Рукою, у якой трымаў скручаную з газеты цыгарку, ён пачаў лічыць тых, што сядзелі за сталом,— раз, два, тры... Пяць! Во! — выставіў ён руку і растапырыў пальцы. Цыгарка, якую ён трымаў, губляючы іскры, паляцела на падлогу. Мужчына, нязграбна згінаючыся, пачаў лапаць рукою вакол сябе, шукаючы цыгарку. Залітыя гарэлкаю вочы нічога не бачылі, і ён грэбаўся туды і сюды, ківаўся ў крэсле, пакуль Таня не падняла тую цыгарку і не падала яе мужчыне. Тоў узяў яе непаслухмянымі пальцамі, паклаў у левую руку, а правую зноў выставіў з растапыранымі пальцамі.— Пяць! Панімаеш?

Таня пабегла, каб выканаць заказ, прынесці піва, і тут Павел, сам не ведае як і чаму, таксама крыкнуў:

— Таня!

Таня на бягу азірнулася, убачыла, што Павел яе кліча, і скоранька вярнулася, падбегла да Паўла.

— І мне піва! — сказаў Павел чамусьці са злосцю, азірнуўшыся на столік, за якім сядзела выпіўшая кампанія.

— Ага,— кіўнула Таня і пабегла да буфета. Скора яна бегла зноў праз залю, несучы на падносе шэсць куфляў піва, над кожным з якіх грыбам ківалася белая пена, сцякаючы дробнымі пузыркамі па гранёных шкляных берагах. Пяць куфляў яна паставіла той кампаніі, а адзін, трымаючы ў руцэ, прынесла Паўлу.

Ён пакрышку цадзіў праз зубы піва з цяжкога куфля, паднімаючы яго за тоўстую шкляную ручку, адчуваючы на губах казытлівую пену, гаркаваты смак і хмельны пах, і лічыў, колькі будзе каштаваць яму сённяшняя вячэра. Выходзіла мнагавата, залішне для яго кашалька, але піва пачынала прыемна хмяліць галаву, усяму целу зрабілася лёгка, а сэрцу весела, не хацелася думаць пра грошы, пацягнула некуды пайсці, некага сустрэць, пагаварыць па душах, паспавядацца. Але пайсці Паўлу не было да каго, хіба да рэдактаршы, толькі што ён будзе рабіць у той пажылой жанчыны, пра што з ёю гаварыць. І ўсё ж некуды пайсці закарцела, здалося, што сёння вечарам павінна здарыцца нешта незвычайнае, ці ён каго сустрэне, ці хто-небудзь знойдзе яго, не можа быць, каб дні ішлі за днямі, звычайныя, падобныя адзін да аднаго, і нічога ў яго не змянілася.



Ён дапіў сваё піва і гучна, як рабілі тут усе, як і сам рабіў звычайна, паклікаў:

— Таня!

Не паспеў ён паклікаць, як яна ўжо бегла да яго, неяк бачком, адну руку трымаючы ў кішэні фартушка, а другою размахваючы ўзад і ўперад.

— Палічы мне, колькі я тут наеў ды напіў,— сказаў ён, калі Таня спынілася каля яго століка.

— Зараз, зараз,— скоранька загаварыла Таня і пачала вымаць з кішэні фартуха свой блакноцік. Блакноцік зачапіўся, не хацеў вылазіць, і Таня тузанула яго раз і два, пакуль не вывернула навыварат кішэньку. Агрызак алоўка ўпаў на падлогу, пакаціўся, і яна скоранька нахілілася, каб падняць яго. Ад сваёй нязграбнасці пачырванела і пачала хуценька лічыць, паклаўшы блакноцік на мокры, заліты півам стол.

Яна назвала суму, якая здалася Паўлу малою, ён лічыў, што праеў і прапіў больш, але ўзрадаваўся, што патраціў не так і многа, выняў грошы, аддаў Тані, і тая паклала іх у кішэню сукенкі, прыкрытую фартушком.

Таню зноў паклікалі, і яна пабегла, а Павел сабраўся ўжо ісці, але ў галаве ўсё лічылася — як жа так, чаму ў Тані выйшла менш, як у яго. Ну, боршч, ну, каша з катлетаю, адзін куфаль піва, другі... І тут ён зразумеў — Таня забылася палічыць той куфаль піва, першы.

Ён апусціўся на крэсла, з якога быў падняўся, каб ісці са столоўкі. Вырашыў аддаць Тані грошы.

Сядзеў і думаў, як ён зараз зноў пакліча Таню, як яна ўзрадуецца, што ён не пайшоў з яе грашыма, убачыць, які ён чэсны, сумленны хлопец. Грошы за куфаль піва—невялікія грошы, не збяднела б, згубіўшы іх, Таня, не забагацеў бы, знайшоўшы іх, Павел, як гэта кажуць, і ўсё ж яму прыемна было чакаць хвіліны, калі ён узрадуе Таню, пакажа ёй, які ён сумленны.

А Таня бегала па залі — збірала са сталоў брудныя талеркі, стаўляла іх гарою на падносе і, упіраючы паднос у жывот, цягнула да вакна, што вяло ў кухню, потым збірала пустыя бутэлькі, куфлі.

Нарэшце ён паклікаў яе, і Таня, крыху здзіўленая, што ён яшчэ тут, яшчэ не пайшоў, падышла да яго століка.

Голасам, знарок іранічным, але і дабрадушным — Паўла аж распірала радасць, што ён такі чэсны,— ён сказаў Тані:

— Ану палічы яшчэ раз, што я ў цябе браў...

Таню як выцяў хто, яна аж сабралася ўся ў камячок, спалохана і вінавата заморгала вачыма.

— А... а што...— заікнулася яна.— Я магу, магу,— пачала яна хуценька вымаць з кішэні фартушка свой блакноцік. Яна пачырванела, як ад вялікага сораму, аж слёзы, здаецца, бліснулі на вачах.

— Чаго ты спалохалася,— лагодна сказаў Павел.— Ты ў свой бок не далічыла, сама ашукалася.

Таня глядзела на яго і як не разумела, чаго ён ад яе хоча, смяецца з яе, ці што. Тады Павел загаварыў сур'ёзна.

— Я ў цябе браў два куфлі піва, а ты палічыла за адзін, так што на,— выняў ён з кішэні рэштку сваіх грошай, знайшоў сярод іх пяць рублёў і падаў Тані.— І другі раз глядзі, бо не заробіш, а праробіш на сваёй службе,— грубавата дадаў ён.

Таня яшчэ стаяла збянтэжаная, але цяпер ужо ўсё зразумела, і збянтэжанасць яе была другая.

— От дзенькую вам,— сарамліва сказала яна.— А я думала... Ду-

мала, што памылілася і лішняе ўзяла.— Яна хуценька палезла ў кішэню, якая была на сукенцы, забразгала там дробяззю, выняла жменю і пачала лічыць Паўлу рэшту з пяці рублёў. Паклала дробязь на стол і яшчэ раз сказала, уся свецячыся няёмкай радасцю:

— От дзенькую вам.

— Няма за што,— адказаў Павел.

Ён згроб са стала дробязь, усыпаў у кішэню, узяў свой кіёк і пакіраваўся да выхаду.

«А яна не такая і брыдкая,— думаў ён, зачыняючы за сабою дзверы.— Нават можа і нішто».

З таго вечара нешта змянілася ў адносінах Паўла да Тані, ды і ў адносінах дзяўчыны да яго. Цяпер Паўлу прыемна было ўспамінаць Таню, прыемна было думаць, што вось ён прыйдзе ў сталоўку і ўбачыць яе.

І дзяўчына, ці гэта ўжо здавалася Паўлу, таксама пачала вылучаць яго з іншых. Як толькі Павел прыходзіў у сталоўку, Таня бегла ўжо да яго, брала яго картачкі-талончыкі і цягнула яму на падносе нязменныя боршч і кашу, часам усміхалася яму, і тады Павел бачыў, што за яе поўнымі губамі хаваліся дробныя густыя зубкі. Павел пачаў прыглядацца да яе і ўбачыў, што яна зусім не брыдкая, што ў яе свежыя тугія шчокі, жывыя вочы, хоць наіўныя і крыху насцярожаныя, як у зайца, які пачуў брэх сабакі. Калі ён даведаўся, што Таніна прозвішча Зайчык, то ажно зарагатаў — прозвішча здалося яму смешнае, як і сама Таня, яе прозвішча, здалося яму, вельмі Тані падыходзіла.

Стаяла ўжо восень, вечарамі на мястэчка апускаліся халодныя сырыя туманы, з ліп на скверыку ападала жоўтае лісце і клалася пад ногі слізкім дыванам. Людзі зашываліся ў хаты, зачынялі аканіцы, і вуліцы вечарамі рабіліся зусім цёмныя і пустыя, толькі часам дзе праз шчыліну аканіцы цадзілася святло, і тады здавалася, што там, у хаце, за тым вакном, закрытым аканіцаю, некаму цёпла, некаму не адзінока, некаму спакойна. Успіраючыся на свой кіёк, Павел часам хадзіў па мястэчку, пазіраючы на зачыненыя аканіцы, за якімі ішло чужое жыццё, і думаў аб сваім, аб тым, што яму рабіць, як жыць далей. Ён не збіраўся надоўга заседжвацца ў гэтым мястэчку — хацелася ў вялікі горад, з якога яго вырвала вайна — да вайны ён жыў у Мінску,— хацелася вучыцца, хоць ён цяпер і сам не ведаў, вучыцца на каго. Да вайны ён скончыў дзевяць класаў і збіраўся паступіць у вайсковае вучылішча, вельмі хацеў стаць лётчыкам. Вайну, пра якую так шмат гаварылася да вайны, ён маляваў сабе як пераможны паступ герояў, сярод якіх не апошняе месца адводзіў і сваёй асобе. Цяпер ён ведае, што такое вайна, сёрбаў яе з салдацкага, потым з партызанскага кацялка вялізнаю лыжкаю. Вайна забрала ў яго бацьку, маці і сястру, бацька загінуў на чацвёрты дзень вайны — трапіў пад бамбёжку, матку з сястрою немцы вывезлі ў Германію, і дзе цяпер яны, ці жывыя — невядома. Сам ён у партызанах і балота нагамі памясіў, і папух з голаду, і людской смерці нагледзеўся, і сам ледзь канцы не аддаў, а потым ледзь нагу не страціў, дактары ўратавалі. Калі яго цяпер не ўзялі ў армію, то і ў вайсковае вучылішча не прымуць, так што пра неба думаць больш не варта, трэба знаходзіць нейкую работу на зямлі. Канечне, можна застацца і тут, працаваць у рэдакцыі, набіраць і друкаваць газету, гэта таксама нядрэнна, але надта адзінока адчуваў ён сябе ў гэтым мястэчку, а ў Мінску ў яго жыў стрыечны брат, сын матчынай сястры. Цяпер і стрыечны брат здаваўся Паўлу вялікаю раднёю.

Ён гаварыў рэдактаршы, што не збіраецца векаваць у рэдакцыі, гаварыў, што хоча вучыцца, але рэдактарша заявіла, што пакуль не будзе ў рэдакцыі чалавека, які мог бы замяніць Паўла, яна яго нікуды не пусціць. Пакуль такога чалавека не было, але з рэдакцыі, можна сказаць, не вылазіў Казік, мясцовы хлопец гадоў васемнаццаці, худы, даўганосы, са светлымі, рэдка стрыжанымі валасамі, з лёгкім светлым пушком над верхняю губою і на прышчаватых шчоках. Казіку надта цікава было глядзець, як Павел набірае з літараў словы і сказы, прасіўся даць яму пакруціць «амерыканку», на якой друкавалася газета. Павел вучыў Казіка рабіць набор, і той, як некалі і сам Павел, скора налаўчыўся трымаць вярстатку і выбіраць літары з кас, адно, чаго бракавала Казіку, гэта граматы, за кожным словам трэба было сачыць па напісаным, сам не ведаў, як правільна набраць.

Павел меркаваў, што некалі Казіка можна будзе пакінуць замест сябе ў рэдакцыі, і рэдактарша, мусіць, пагодзіцца, бо Казік неблагі хлопец, стараннны.

А пакуль Павел сумаваў у мястэчку без сяброў, без кампаніі, і асабліва маркотна рабілася яму вечарамі, аднаму ў пакоі, дзе пад столлю гарэла запыленая электрычная лямпачка, кідаючы святло на абыяк засланы коўдраю ложак, на аблуплены, падрапаны, як цвікамі, пісьмовы стол з адною тумбачкаю, на абцягненае плюшам сіняе крэсла на спружынах. Усё ў пакоі ў яго было збор-дружына, купленае некалі людзьмі для свайго карыстання, параскіданае вайною, як і людзі, і сабралася тут, у Паўла, выпадкова — мусіць, каб кожная рэч магла апавядаць, то расказала б пра свае прыгоды не адну цікавую гісторыю.

Павел браў свой кіёк, замыкаў пакой доўгім ключом, клаў ключ у кішэню штаноў і ішоў блукаць па вуліцах ці пасядзець у цяпле ў сталоўцы. Апошнім часам яму нават прыемна было заходзіць туды, прыемна было, што Таня, убачыўшы яго, адразу бегла з падносам да яго століка, радавалася, што ён прыйшоў.

Аднойчы ён заседзеўся ў сталоўцы вельмі позна, амаль усе людзі разышліся, і чуваць было, як на кухні за сцяною паціху спявала нейкая кухарка. Таня і Ванда збіралі са сталоў брудныя талеркі, пустыя бутэлькі, шклянкі, выціралі сталы анучкамі, ставілі на сталы, уверх ножкамі, крэслы. Таня часам паглядала ў бок Паўла і то чаплялася за ножку крэсла, то губляла анучку, яму зрабілася нечага як нялоўка, і ён устаў, пайшоў да дзвярэй, але каля дзвярэй азірнуўся і ўбачыў, што Таня глядзіць яму ўслед, застыўшы з анучкаю ў руках. Убачыўшы, што ён азірнуўся, нахілілася да стала і пачала скоранька выціраць яго, тручы анучкаю на адным месцы.

Павел выйшаў са сталоўкі, спусціўся з ганка і стаў, гледзячы на вокны сталоўкі, зачыненыя аканіцамі. Пастаяў трошкі і пайшоў, кіруючыся ў бок свайго дома, але зноў спыніўся, зноў азірнуўся на сталоўку, і тут яму прыйшло ў галаву пачакаць, пакуль Таня выйдзе, і праводзіць яе дадому. Вось здзівіцца Таня, калі ўбачыць, што ён яе чакае... Ды і самому цікава... Усё роўна ж няма чаго рабіць...

Яна доўга не выходзіла, Павел пачынаў ужо траціць цярпенне, ужо хацеў павярнуцца і пайсці дадому, бо змерз ужо ў сваім падшытым ветрам пінжачку, з расхрыстанаю грудзінаю — у каўняры кашулі выдраўся гузік, і ён ніяк не мог сабрацца прышыць яго, бярог гузік, носячы з сабою ў кішэні. Ужо даўно пайшла са сталоўкі Ванда, выйшлі і яшчэ работніцы, а Тані не было.

Нарэшце яшчэ раз бразнулі дзверы, выйшла Таня — у цёмнай хустцы, закручанай адным рогам вакол шыі, у даўгаватым, як мужчынскім, пінжаку з закасанымі рукавамі, з карзінаю ў руцэ. Яна збегла з ганка і пайшла па тратуары, трошкі з падскокам, размахваючы воль-



наю рукою, не думаючы, што за ёю сочыць нечае вока. Павел адну хвілінку нават павагаўся — ці даганяць яе, але было б смешна чакаць амаль гадзіну, а потым пайсці назад дадому аднаму, чаго ж было тады стаяць і мерзнуць, і ён выйшаў з-пад сцяны сталоўкі, дзе, хаваючыся, чакаў Таню, пакіраваўся за ёю.

Яна пачула за сабою крокі і азірнулася, адразу пазнала Паўла і прыпынілася, падалася ўбок, быццам даючы яму дарогу.

Павел падышоў да яе, спыніўся.

— Добры вечар,— сказаў ён, чамусьці хвалюючыся.

Таня нічога не адказала, толькі ўзялася дзвюма рукамі за ручку карзіны.

— Вось, чакаў цябе,— сказаў Павел.

Яны стаялі, Таня на самым краёчку тратуара, трымаючы карзіну абедзвюма рукамі, а Павел пасярод тратуара, успіраючыся на свой кіёк. Ён быў можа на галаву вышэйшы за Таню і глядзеў на яе зверху ўніз.

— Ну, чаго ж мы стаім, пойдзем,— сказаў ён нарэшце і адышоў крышку ўбок, даючы і Тані месца на тратуары.— Што ты там так доўга рабіла? Я ўжо думаў, і начаваць там застанешся...

Таня, здаецца, ніяк не магла адысці ад утрапення, нарэшце ўзяла карзіну зноў у адну руку, зрушыла з месца.

— Ды гэта... мы там... падлогу мылі,— адказала Паўлу, ідучы ўжо поруч з ім і гледзячы ўніз, пад ногі.

— Дзе ты жывеш, я цябе правяду,— сказаў Павел.

— Ой, што вы, у вас жа нага баліць,— як спужалася Таня.

— Нічога, яна не вельмі,— адказаў Павел, хоць нага яго ў той час і балела, можа, ад таго, што доўга патаптаўся на холадзе каля сталоўкі.

Аблокі, лёгкія, як дым, нізка плылі над мястэчкам, яны плылі скора, рассяваліся і зноў збіраліся, гусцелі, хаваючы за сабою бледны і халодны круг месяца, потым месяц зноў як вырываўся з-за аблокаў і каціўся, каціўся, як за густымі клубамі дыму. Паветра было золкае, днём ішоў дождж, і яшчэ вісела яго халодная вільгаць. Ціха шапацелі ў скверыку ліпы, пераліваючы на сваіх, ужо не густых лістах, святло месяца.

— Дай тваю карзіну, я паднясу,— сказаў Павел.

Таня аж адступілася ад яго.

— *Ой, што вы, я сама, яна не цяжкая,*— адказала яна.

— Давай, давай,— ледзь не сілаю ўзяў з яе рукі Павел карзіну.

Яны пайшлі ў бок Танінага дому.

Так у іх пачалося. Вечарамі Павел чакаў Таню каля сталоўкі і праводзіў яе дадому. Яна жыла насупраць школы ў нізенькім доміку, што стаяў не на самой вуліцы, а ў двары. Дом быў вельмі стары, ён асеў, урос у зямлю ледзь не па самыя вокны, дзверы, адчыняючыся, шкраблі па зямлі, усё ў гэтым доме было перакошанае, перакрыўленае, і каб не фіранкі на вокнах, выразаныя зубчыкамі з паперы, ды не чырвоныя кветкі герані на падаконніках — не верылася б, што ў гэтым доме жывуць людзі.

Праз нейкі час Павел зайшоў і ўсярэдзіну гэтай хаты. З цёмных сенцаў, у якіх стаялі кадушкі, віселі на жэрдках нейкія лахманы, дзверы *вялі ў кухню з адным вакном і нізкай столлю.* Палову кухні займала печ, на якой ляжаў, амаль не злазячы, сляпы Танін бацька. Таніна маці, яшчэ не вельмі старая кабета з сухім тварам і жылістымі рукамі, увесь час бегала па мястэчку — яе клікалі то памыць бялізну, то прыбраць у кватэры, то наносіць вады з далёкага калодзежа. Пры палях яна служыла ў доктара, з раніцы да вечара рабіла ў яго ўсялякую работу і толькі начаваць прыходзіла дахаты.

У сям'і было пяцёра дзяцей, і на ўсе нягоды — на тое, што дзяцей многа, што мужык хворы, што кепская хата,— яна махала рукою і казала:

— Ат, неяк жа будзе.

Таня была старэйшая, і дома, як і ў сталоўцы, яе ўсе клікалі, падзывалі:

— Таня! Падай вады! — прасіў бацька, і Таня са сваім «зараз, зараз, зараз» бегла да вядра, чэрпала медную конаўкаю ваду, падавала на печ бацьку, чакала, пакуль ён вып'е, і забірала конаўку.

— Таня! Хачу есці! — крычаў, прыбегшы з вуліцы меншы брат яе *Стасік, і Таня бегла да печы, адчыняла засланку,* хапала вілкі і выцягвала з печы чыгунок.

— Таня, Манька ўрабілася! — крычаў праз нейкі час той жа Стасік, і Таня, чырванеючы ад сораму, цягнула двухгадовую Маньку ў сенцы абмываць і пераапранаць.

Ідучы дадому са сталоўкі, яна несла ў каструльках, якія ставіла ў карзіну, боршч і кашу, што заставаліся ў катлах і якія ўсё роўна трэба было б выліваць і выкідаць, каб не скіслі да заўтра.

Павел зайшоў да Тані разы са два, але адчуваў сябе там няёмка і найчасцей зваў яе да сябе, у свой пакойчык. Яна не адмаўлялася, ішла побач з Паўлам па цёмнай мястэчковай вуліцы, стаяла, чакаючы, пакуль адмыкаў ён доўгім ключом дзверы свайго пакоя. Вельмі саромелася, калі Павел, прыставіўшы свой кіёк да сцяны, памагаў ёй распранацца, скідаць хустку, велікаваты, з чужога пляча, пінжачок з закасанымі рукавамі, яна адступала ад Паўла і гаварыла:

— Я сама, сама...

Яна дазваляла сябе абдымаць, цалаваць, і Паўла п'янілі яе поўныя губы, *яе маладое крэпкае цела, яе паслухмяная падатлівасць.*

— Ты — харошы,— гаварыла яму Таня, і Паўлу здавался, што яна ўсё думае пра тыя грошы за піва, якія не захацеў тады ён прысвоіць, і яму рабілася смешна, бо сам ён пра іх і думаць забыўся.

Яна часта пыталася ў яго:

— Табе баліць нага?



І калі пыталася, твар у яе быў такі, быццам ёй самой балела.

Часам яна брала ў рукі яго кіёк, доўга разглядала квадрацікі, узоры, якіх навыстругаў на ім Павел, гладзіла рукою па тым месцы, дзе было выразана яго імя.

Нага ў Паўла ўжо менш балела, часам і зусім ніякага болю не было, але кіёк ён пакуль не пакідаў, прывык да яго, ці што.

Ужо даўно гулі над мястэчкам мяцеліцы, мароз маляваў на шыбах узоры, раніцою снегу намятала ледзь не пад самыя вокны, і Павел драўлянаю лапатаю адкідаў яго, рабіў дарожку ад парога да варот, што вялі на вуліцу. Расчысціўшы сцежку, ён пакідаў лапату ў сенцах, скідаў кашулю і, голы да пояса, яшчэ крыху кульгаючы, выбягаў на двор. Хапаў рукамі пухкі белы снег, цёр ім твар, грудзі, пад пахамі і сам сабе прыговорваў — а-а-а! а-а-а! Снег апякаў цела, яно шорхла, скура рабілася, як гусіная, потым разгаралася, чырванела, дыхалася на поўныя грудзі, кожная жылка налівалася свежасцю. Пасля такога ўмывання ён адчуваў сябе бадзёрым і чыстым, быццам толькі што нарадзіўся на свет, хацелася працаваць, хацелася варочаць горы. І ён ішоў у рэдакцыю, чытаў свежыя газеты, якія з самай раніцы прыносіла паштарка, потым рэдактарша клала на яго чорную касу густа спісаныя фіялетавым чарнілам лісткі, і ён браў у рукі вярстатку. Гадзін у дванаццаць прыходзіў Казік, і Павел дазваляў яму перавязваць набраныя заметкі чорным шпагатам. Рэдактарша да таго часу падкідала ім яшчэ работы, і яны станавіліся да касы ўдвух, набіралі газету.

Павел чытаў інфармацыі, якія ішлі з фронту — нашы крочылі па Германіі, набліжалася перамога, і яму крыўдна было, што ў такі час ён не там, не на фронце. Каб не гэта нага, і ён ступіў бы на нямецкую зямлю, адплаціў бы за ўсё немцу, можа, матку там знайшоў бы і сястру, а так не ён, а іншыя робяць самае важнае, дабіваюць фашыстаў.

У дні, калі настрой яго падаў, ён не зваў да сябе Таню, ляжаў адзін у сваім пакоі на ложку, глядзеў у столь ці варочаўся з боку на бок, пакуль не засынаў, часам не распрануўшыся.

Аднойчы ён не зваў Таню да сябе дзён пяць — першы дзень не было настрою, а потым яму зрабілася цікава — а што будзе рабіць Таня, можа, сама да яго прыбяжыць? Але Таня не прыбегла. У сталоўцы, падаючы яму есці, паглядзела на яго, быццам нешта пытаючыся. Павел нічога ёй не сказаў, і яна адышла, несучы паднос у апушчанай руцэ і гледзячы сабе пад ногі.

Тады ён сам спужаўся, што яна больш не прыйдзе ў яго пакойчык, сам засумаваў па ёй і той вечар зноў чакаў яе каля сталоўкі, быў з Таняю вельмі харошы, а яна ні словам яго не папракнула і таксама была, здаецца, яшчэ больш паслухмяная, яшчэ больш адданая.

А калі з неба зацерусіў мокры снег, калі дні нашмат падаўжэлі, калі на стрэхах павіслі доўгія ледзяшы і з іх закапала вада, Таня сказала Паўлу, што яна зацяжарала.

Яна сядзела ў яго ў пакоі ў крэсле, нязграбна падкурчыўшы ногі ў чорных чаравіках са шнуркамі, церла пальцам па сінім плюшы, якім было абабіта крэсла, другая рука ляжала ў яе на прыполе ўверх жменькаю.

У Паўла зашумела ў галаве, замітусіліся, паплылі думкі, ён уявіў Таню тоўстую, з вялікім жыватом, потым уявіў дзіця ў пялёнках і як ён з гэтым дзіцем на руках ідзе па мястэчку, уявіў чамусьці рэдактаршу, як паднімае яна ражок коўдры, у якую закручана дзіця, глядзіць на малое і цмокае языком, падміргвае Паўлу:

— Што, дагуляўся?..

Таня глядзела на свой палец, якім вадзіла па крэсле, галава ў яе бы-

3*

ла схіленая, і відаць быў алюмініевы грабянец, які сядзеў у валасах, і Паўлу зрабілася раптам смешна, што ў яго і ў Тані будзе дзіця, што ён, аказваецца, здатны на такое, што жыццё яго цяпер, мусіць, пераменіцца, бо ад таго, што зрабіў, ужо нікуды не ўцячэш, але разам з тым недзе кіпцюром зашкрэбла і шкадаванне, быццам ён нешта назаўсёды траціў.

— Ну, што ж,— сказаў ён бадзёра, стараючыся адагнаць шкадаванне.— Раз ужо так выйшла... Нічога не папішаш, трэба будзе нам пажаніцца.

Таня перастала вадзіць пальцам па крэсле, глянула на Паўла, і ён убачыў, што ў вачах у яе дрыжаць, ледзь трымаюцца слёзы. Таня шморгнула носам, церанула пад ім кулаком, потым закрыла твар рукамі.

— Ну, во, чаго ты,— Павел узяў яе за руку, каб адняць ад твару, але яна яшчэ мацней затуліла рукамі твар.

●

Павел сапраўды вырашыў быў ажаніцца з Таняю. Ці любіў ён яе? Не ведаў і сам. Яму ў той час было вельмі адзінока, і Таня скрашвала яго адзіноту, ён шкадаваў яе, хоць часам і злавала яго яе нязграбнасць і залішняя пакорлівасць. Ён часам сумняваўся, ці любіць і яна яго, можа таксама паслухмяна, як пайшла за ім, пайшла б і за другім, за ўсякім, хто павёў бы яе, хто пачаў бы яе лашчыць, надта ж яна была да ўсіх добрая, усім толькі і старалася дагадзіць, быццам і на свеце жыла толькі для таго, каб служыць некаму.

Але як бы там ні было, Таня ад яго зацяжарала, і ён мусіў браць яе замуж. Ён нават пачаў строіць планы, як прывядзе Таню ў свой пакойчык назаўсёды, як яна тут будзе жыць, адсюль бегаць у сталоўку, як потым у іх народзіцца сын і Павел будзе выхоўваць яго як трэба, як мужчыну.

«Падумаеш,— разважаў Павел,— жывуць жа людзі і ў мястэчках, жывуць усё жыццё, і нічога, і ён будзе жыць, застанецца працаваць у рэдакцыі». Праўда, кіпцюрок не пакідаў скрабсці, адчуванне, што нешта вельмі важнае ён траціць назаўсёды, не праходзіла, але Павел прымушаў сябе пра гэта не думаць. «Прывыкну»,— пераконваў ён сам сябе. Але пакуль не спяшаўся гаварыць Тані, каб яна пераходзіла да яго назаўсёды, быццам нечага чакаў, быццам нечага яшчэ агл.ядаўся.

А ўрэшце, можа ўсё так і было б, як апошнім часам планаваў Павел, можа б і застаўся ён назаўсёды ў мястэчку, звекаваў бы век з Таняю, каб не загнаў вецер у мястэчка Міколу Скалабана, Паўлавага партызанскага сябра.

Міколу пасля таго, як расфарміравалі партызанскі атрад, таксама накіравалі на працу, у недалёкі ад таго мястэчка, дзе жыў цяпер Павел, гарадок. Паставілі яго дырэктарам маслазавода, які ў тым гарадку быў яшчэ да вайны і які працаваў пры немцах. Немцы так скора ўцяклі з гэтай зямлі, што не паспелі знішчыць завод, засталося і абсталяванне. Мікола хутка наладзіў выхад прадукцыі, работа дырэктара яму спадабалася, ды раптам з Мінска прыйшла паперына — яго выклікалі ў сталіцу. Чаго выклікалі, у паперыне не пісалася, і Мікола, збіраючыся ў дарогу, думаў і гадаў — чаго гэта яго выклікаюць? Можа, уручыць узнагароду — ён ведаў, што яго прадстаўлялі да ордэна. Можа, даць большую работу, зрабіць большым дырэктарам, чым нейкага там маслазавода ў невялічкім гарадку? Можа, да самага Мінска дайшло ўжо, які ён добры арганізатар, як скора наладзіў работу.



Гарадок быў далёка ад чыгункі, але пры заводзе мелася свая машына — палутарка, і Мікола, узяўшы з сабою рэчавы мяшок, сеў у кабіну і загадаў шаферу везці сябе на станцыю.

Да станцыі было кіламетраў дваццаць з гакам, і першыя вёрст дзесяць яны ехалі весела, з вецярком. Іван, маслазаводскі шафёр, з жалем уздыхнуўшы, сказаў, што, можа, апошні раз вязе свайго дырэктара, можа той з Мінска ўжо і не вернецца, за вялікага начальніка там застанецца. Мікола паляпаў Івана па плячы.

— Нічога, калі што, дык я сваіх людзей не забываю,— сказаў ён, намякаючы шаферу, што калі будзе вялікім начальнікам, дык і таго забярэ з сабою ў сталіцу.

Але на нейкай ухабіне машына раптам падскочыла, нешта ёкнула ў яе ў сярэдзіне, і яна стала. Іван пайшоў да капота, адкрыў яго, пакалупаўся ў маторы, вярнуўся назад у кабіну, але машына не заводзілася. Ён зноў пайшоў да матора, зноў пачаў у ім калупацца, але той як анямеў, ніяк не падаваў голасу.

Мікола спачатку цярпліва чакаў, нават жартаваў, казаў, што калі ў Івана часта будзе псавацца машына, то ў сталіцу ён яго з сабою не возьме, знойдзе там лепшага шафёра. А потым пачаў усё часцей паглядаць на гадзіннік.

— Ты што — мы ж на станцыю спознімся! — пачаў ён падганяць Івана.

Іван і сам ужо нерваваўся, але як ні круціўся каля матора, як ні поркаўся ў ім — не мог знайсці прычыну, чаму той заглох.

А дарога была глухая, ніводнай спадарожнай машыны не было відаць.

Больш чым гадзіну чакаў Мікола, што зараз Іван нешта зробіць і яны паедуць, а потым махнуў рукою, закінуў рукзак за плечы і пайшоў на станцыю пешкі.

— Калі паправіш — дагоніш,— злосна кінуў ён Івану.

Мікола так шпарыў, што ўзмакрэў увесь, але калі прыйшоў на станцыю, убачыў толькі хвост цягніка. Ён вылаяўся, сплюнуў. Наступны цягнік ішоў цераз суткі.

Што рабіць цэлыя суткі? Гэта ж звар'яцець можна чакаючы, і тут Мікола ўспомніў, што недалёка ад станцыі гарадок, у якім Павел застаўся працаваць у рэдакцыі.

Рабіць усё роўна не было чаго, і Мікола пайшоў у мястэчка — шукаць Паўла. Пакуль дайшоў да мястэчка, пакуль знайшоў рэдакцыю, злосць яго крыху адышла — вырашыў, што вялікай бяды не будзе, калі ён прыедзе ў Мінск на дзень пазней. У рэдакцыю ён заходзіў ужо вясёлы, рады, што зараз пабачыць сябра і сябе пакажа, успомняць, як ваявалі, пагавораць пра жыццё.

Сустрэча была радасная і шумная — сябры цiскалі адзін аднаго, абдымалі, ляпалі па плячах, а потым, як гэта і водзіцца ў мужчын, вырашылі адзначыць сустрэчу — замачыць.

Зайшлі да Паўла на кватэру, Мікола памыўся, пачысціў боты, пакінуў свой рукзак, і сябры пакіраваліся ў сталоўку.

Павел быў у суконнай куртцы, пашытай на нейкі амерыканскі манер — далі па талоне з Юнра,— у старой шапцы-вушанцы, якая служыла яму яшчэ ў партызанах, у кірзавых ботах. Кіёк, праўда, апошнім часам ён ужо не браў з сабою — нага, здаецца, зусім не балела. А Мікола выглядаў куды там — жоўтае скуранае паліто ніжэй каленяў, падпаясанае шырокім рамянём, боты хромавыя і бліщчаць, твар паголены, гладкі, шчокі ружовыя, як у дзяўчыны, і чорныя бровы. Такога кавалера не магла не заўважыць нават Ванда, і яна заўважыла, прай-

шла раз, другі каля іх століка, паглядаючы на Міколу сваімі звонкасінімі вачыма, потым спынілася каля іх, выняла з кішэні фартушка блакноцік.

Звычайна да століка, за якім сядзеў Павел, падбягала Таня, але сёння Ванда быццам перабіла яе, і Павел чамусьці не пашкадаваў, наадварот, узрадаваўся.

Яны з Міколам выпівалі, гаварылі і ніяк не маглі нагаварыцца, успаміналі партызанскіх сяброў, хто цяпер дзе жыве ці ваюе — некаторых ужо не было на свеце, загінулі на фронце. Мікола ўсё расказваў, як яго машына сапсавалася, як ён спазніўся на цягнік. Лаяў дарогі, што кепскія ў гэтай глухамані, лаяў машыну, што старая ламачына.

— Але нічога, няма таго благога, што на добрае не выйшла б,— адпускаўся Мікола.— Каб не гэта машына, не пабачыліся б мы з табою.

Павел нешта скора захмялеў, можа, таму, што піў рэдка, не было з кім, а можа таму, што быў пакуль не вельмі моцны, на сталоўскіх харчах не раз'ясіся, а Міколу хмель ніяк не браў, толькі шчокі яго пунсавелі.

— Як ты думаеш, чаго мяне выклікаюць у Мінск? — усё пытаўся ён у Паўла.— Можа, ордэн дадуць, нас жа прадстаўлялі да ордэнаў, і цябе таксама прадстаўлялі, я помню, а цябе не выклікаюць, не? — пытаўся ён у Паўла.

— Не, не выклікаюць,— адказваў Павел.

— А можа, работу новую дадуць, га? Яно то мне і тут няблага, але ў вялікім горадзе яшчэ больш разгон.

Павел бачыў, што Міколу на яго маслазаводзе не блага, мусіць, як сыр у масле качаецца — бач, які зрабіўся гладкі, ружовы, і скуранку недзе дабыў, хромавыя боты.

А Мікола гаварыў з Паўлам і ўсё вадзіў вачыма за Вандаю, якая хадзіла па залі, адчуваючы, што на яе глядзяць, што яна падабаецца. Бегала па залі і Таня, як заўсёды, заклапочаная, не вельмі зграбная. Яна, вядома, бачыла, што Павел сядзіць з незнаёмым ёй чалавекам, але не падыходзіла да іх, бо абслугоўваць іх узялася Ванда.

Мікола, паказваючы вачыма на Ванду, падміргнуў Паўлу:

— Дзеўка на яць... Каб быў час, я б тут з ёю...

Павел не ведаў, ці сапраўды было б у Міколы што-небудзь з Вандаю, але пазайздросціў сябру, яго смеласці — бач ты, ён, Павел, тут жыве, кожны дзень бачыць Ванду і не адважыўся да яе падступіцца, а гэты толькі з'явіўся — і ўжо гатовы.

— Ды няма часу, трэба ехаць, сталіца выклікае,— гаварыў Мікола.— Мусіць я, брат, вылезу з гэтай глухамані — а што, пакарпеў тут і годзе, скора вайна скончыцца, такое жыццё пачнецца!

Павел зноў пазайздросціў сябру — вось Міколу выклікаюць ужо ў сталіцу, можа, у сталіцы і работу дадуць, а ён, Павел, застанецца тут назаўсёды. У Міколы жыццё толькі пачынаецца, а ў яго, у Паўла, ужо скончылася.

— Ну, а ты што думаеш рабіць? — спытаўся раптам у яго Мікола.— Ты ж у нас быў такі граматны... Газету набіраў, пісаў заметкі.

Павел пашкроб патыліцу, наліў яшчэ ў шклянкі, Міколу, сабе, і захацелася Паўлу паспавядацца. Столькі жыве тут адзін, слова не было з кім сказаць, пагаварыць па-людску. Падбіваў на шчырасць яшчэ і хмель.

Яны чокнуліся шклянкамі, выпілі, закусілі, хлебануўшы па некалькі лыжак баршчу, і Павел сказаў, уздыхнуўшы:

— А я, брат, уліп, усё для мяне ўжо закрыта, жаніцца трэба...

Мікола з цікавасцю паглядзеў на сябра і ціха засмяяўся. Гэты смех



пачула Ванда, якая стаяла недалёка, каля другога століка, і азірнулася на іх, павёўшы сваім сінім вокам.

— Уліп, кажаш? — смяяўся Мікола.— Жаніцца трэба? А хто ж яна? Можа, вось гэта, на якую я быў нацэліўся? — паказаў ён на Ванду.

— Не, не гэта,— пакруціў галавою Павел.

У гэты час Таня каля вакенца, якое вяло ў кухню, стаўляла на паднос талеркі з баршчом і кашаю. Нагрузіла паднос як падняць і панесла да століка, які стаяў пры акне. Яе поўныя губы аж прыадкрыліся ад натугі, грабеньчык ледзь сядзеў у валасах, здавалася, вось-вось вываліцца, яна часта пераступала нагамі ў чорных чаравіках са шнуроўкаю. Паўлу зрабілася крыху прыкра, што Таня не такая, як Ванда, ён зараз быццам убачыў яе другімі вачыма, вачыма таго ж Міколы, і нечага яе засаромеўся. Яму не захацелася паказваць Міколу Таню, але ён тут жа падумаў, што гэта будзе не па-таварыску, што калі прызнаўся ўжо, што збіраецца ажаніцца, то трэба ўжо і Таню, сваю будучую жонку, паказаць.

— Вунь яна... Тая, што паднос нясе... Я ж табе сказаў, што ўліп,— нахіліўся Павел да сваёй талеркі.

Мікола быццам застыў з лыжкаю ў руцэ, утаропіўся на Таню, як на якое дзіва, потым пакруціў галавою.

— Ну і ну,— ціха сказаў ён і раптам фыркнуў, стрымліваючы смех.

Паўла гэты смех як разануў па сэрцы, зрабілася крыўдна і шкода сябе, але ён нічога не сказаў, толькі есці таксама перастаў і паклаў лыжку.

А Мікола нахіліўся нізка над сталом, падсунуўся да Паўла ўсім целам, так, што Павел бачыў зусім блізка яго твар з прыліплымі да лба валасамі, з кропелькамі поту пад носам, зашаптаў горача Паўлу ў твар:

— Ты што, здурнеў?... Завязаць сабе свет... Ды каб хоць дзеўка людская была, а то...— Мікола махнуў рукою.

Паўлу зноў зрабілася крыўдна, ужо за Таню, што Мікола так пра яе сказаў, але Мікола быў яго госць, быў яго сябра, і Павел стрымаў крыўду.

— Тут, брат, такое дзела,— пачаў ён вінавата, быццам апраўдваючыся.— У яе дзіця будзе.

Таня між тым паставіла на стол, да якога несла, талеркі, узяла адною рукою паднос, пайшла зноў да вакна, што вяло ў кухню, стала каля яго, спіною да залі. Павел азірнуўся на яе, убачыў грабеньчык у валасах, які ўжо Таня папраўіла, убачыў белыя завязкі фартуха, ногі ў чорных, як дзіцячых, чаравіках, і яму зноў зрабілася шкода сябе і ўжо як сорамна перад сябрам.

— А можа яна цябе абманвае, апутаць хоча, і такое бывае,— зашаптаў Мікола, зноў нахіляючыся да сябра.

— Неа,— пакруціў галавою Павел.

— Дык, можа, дзіця будзе не тваё... І так бывае...

— Неа,— зноў пакруціў галавою Павел.

— Дык чаго ж ты? Скажы, каб зрабіла аборт...

Павел зноў азірнуўся на Таню, якая ўсё яшчэ стаяла каля вакна, што вяло на кухню, і сказаў, не так і ціха — ведаў, што Таня адтуль не пачуе:

— Яна такая дурніца... Скумекала, што з пузам, калі позна ўжо было.

Сказаў гэта і адчуў, што гаворыць подла, подла ў адносінах да Тані, і адразуззлаваў на яе, за тое, што адчуў сябе подлым, за тое, што яна

не такая, як Ванда, за тое, што яго сябра вольны і паедзе ў вялікі горад, а ён, Павел, праз яе, праз Таню, застанецца тут.

— Ты, брат, кінь, няма чаго,— павучаў яго між тым Мікола.— Не ты першы, не ты апошні... Як што, дык усё нас, мужчын, вінавацяць, а яны што — святыя? З кім мужчыны грашаць, як не з жанчынамі... Гэта якраз яны... Яны нас зводзяць. А потым яны ўжо святыя мучаніцы, а мы нягоднікі. А ты каторая тожа мей галаву... Яны ўсе хітрыя... Так і хочуць нас апутаць, жаніць на сабе... Не-е, мяне не абдурыш...— ківаў ён пальцам, быццам гразіўся некаму. Ён ужо не гаварыў пра Паўла і пра Таню, проста разважаў, як бы сам з сабою.

Павел слухаў Міколу і ў душы згаджаўся з ім, яму ўжо здавалася, што сапраўды ва ўсім вінавата Таня, што яна сапраўды яго хітра апутала — бач, як бегла заўсёды да яго століка, спяшалася яму падаваць, хацела дагадзіць, хацела апутаць. Калі прывёў да сябе — нават не ўпіралася, была пакорлівая, як авечка. Каб не Павел, а другі хто прывёў — і з другім была б такая самая. Дык што ж ён... Чаму ж ён... Не-е, тут трэба падумаць.

Назаўтра Мікола збіраўся на станцыю, складаў у свой рэчавы мяшок вялікую белую мыльніцу з сінімі кветкамі наверсе, памазок для галення, брытву. Акуратна згарнуў белы, у вафелькі, ручнік, зашпіліў свой рэчавы мяшок, ускінуў на плячо.

Павел яго праводзіў. Ішлі мястэчковаю вуліцаю, абапал якой сталі драўляныя дамы, некаторыя са шклянымі верандамі, дамы былі цёмныя, як набрынялыя вільгаццю, стрэхі блішчэлі, на іх клаўся густы туман, што асеў учора вечарам. Каменныя пліты тратуара таксама былі мокрыя, за дамамі, на агародах, відаць былі ўжо вялікія лапіны зямлі з засохлаю леташняю травою. Дажывалі свой век, лежачы ў барозных і каля платоў, цёмна-бурыя гурбінкі снегу з шурпатаю, як падзёўбанаю курамі, рудою скарынкаю. Пахла свежасцю, вясной.

Мікола шырока ступаў, і маленькія рудыя пырскі асядалі на насках, на халявах яго хромавых ботаў, ён ішоў энергічна, задаволены тым, што пабачыў сябра, а яшчэ болей тым, што ад'язджае, што скора будзе ў вялікім горадзе (хоць і кажуць, што ён дужа разбіты), задаволены тым, што для яго вайна ўжо скончылася, а скора скончыцца і для ўсіх — нашы на Берлін наступаюць.

Ён зноў гадаў-варажыў, чаго гэта яго выклікаюць у Мінск, але быў упэўнены, што выклікаюць яго толькі на добрае, што выйдзе яму нейкае вялікае павышэнне.

А Павел быў змрочны, нездаволены, хоць і не хацеў паказаць сябру свайго кепскага настрою. Галаву яго таксама быццам завалакло туманам, і тое, што, здаецца, зусім ясна было ўчора, сёння расплывалася, патанала ў смузе.

На развітанне яны моцна абняліся, пацалаваліся. Мікола застаўся стаяць на падножцы вагона, упіраючыся рукзаком у прычыненыя дзверы і трымаючыся рукою за поручань. Павел стаяў на платформе, глядзеў на Міколу, усміхаўся яму і страшна яму зайздросціў, зайздросціў, што той едзе, а ён, Павел, застанецца тут, і яму таксама хацелася ехаць, абы-куды, абы ехаць — чыгунка, дарога заўсёды клікалі Паўла ў свет, нібы недзе там, далёка; ён заўсёды з зайздрасцю глядзеў на людзей, якія сядзелі ў вагонах і якіх цягнікі везлі ў іншае жыццё, у такое, якога не ведаў, не бачыў ён, Павел. А тут ад'язджае сябар, стаіць на падножцы доўгага зялёнага вагона, перад ім, на пероне, правадніца, маладая дзяўчына з зялёным скручаным сцяжком у руцэ. Паравоз пыхкае, пыхкае парай, вось загуў — працяжна, рэзка. Да вагонаў пабеглі тыя, што затрымаліся на станцыі — бралі кіпяток ці апускалі пісьмы ў паштовую скрынку,— на хаду чапляліся за поручні, ускоквалі ў вагоны. На падножку, дзе стаяў Мікола, ускочыў вайсковец, адпіхаючы Міколу і чапляючыся за яго рэчавы мяшок, палез у вагон, правадніца таксама ступіла на падножку, і Мікола стаяў за ёю, махаў рукою Паўлу, пакуль бачыў яго на пероне.

Цягнік ад'язджаў, стукаючы коламі па рэйках, вось прамінуў апошні вагон, і Паўлу зрабілася так самотна, так тужліва, што, здаецца, пабег бы за тым цягніком, схапіўся б за буфер, ускочыў бы на яго і паехаў бы, седзячы на буферы, абы-куды, куды завязе цягнік.

З таго дня ён перамяніўся да Тані. Больш не зваў яе да сябе ў пакойчык, абедаў спяшаючыся, не гледзячы на бакі, не гледзячы на Таню.

Яна нічога яму не гаварыла, ні пра што не пыталася, толькі аднойчы прыпынілася каля яго століка. Ён еў, а яна трымала пусты паднос у руцэ, стаяла каля століка і глядзела на Паўла, быццам хочучы нешта спытацца ў яго і не адважваючыся. Ён падняў галаву ад талеркі, глянуў на Таню і ўбачыў, што яна вельмі змянілася — пахудзела з твару, а губы, здаецца, зрабіліся яшчэ таўсцейшыя, вочы запалі. Ён потым доўга ўспамінаў яе вочы, як тады Таня глядзела на яго. У яе вачах не было крыўды, не было папроку, нават болю, здаецца, не было — адно здзіўленне.

Ён разумеў, што яму трэба нешта сказаць, Таня чакае, каб ён сказаў нешта, і ён, не выпускаючы з рукі лыжкі і больш не паднімаючы на Таню вачэй, пачаў гаварыць, што заняты, што не мае часу, што яны сустрэнуцца, калі ў яго павальнее.

Павел разумеў, што яму трэба спяшацца, спяшацца, пакуль у Тані не відаць, і ён пачаў сур'ёзна вучыць Казіка, каб той мог яго ў рэдакцыі замяніць. Казік і так усё ўмеў, усё ведаў, заставалася праверыць, як ён будзе рабіць усё гэта сам, адзін.

Рэдактарша спярша ўпіралася, не хацела пускаць Паўла, а калі ўбачыла, што Казік і праўда ўсё ўмее рабіць, пачала паддавацца на ўгаворы.

Тыдні праз тры пасля таго, як у мястэчка прыязджаў Мікола, Павел таксама шыбаваў на станцыю. Ён пакідаў свой пакой з нікеляваным ложкам, з сінім плюшавым крэслам, з аблупленым пісьмовым сталом. Ён пакідаў Таню, нічога ёй не сказаўшы, нават не развітаўшыся.

Потым, калі вучыўся ў Мінску, успамінаў яе і больш за ўсё ўспамінаў са страхам — а раптам яна ці яе матка аб'явяцца ў горадзе, прыйдуць у інстытут і скажуць: «Ага, вось дзе ты, міленькі, што ж ты сабе думаеш, хвастом накрыўся, і ўсё...»

Але ніхто не прыязджаў у горад, ніхто не прыходзіў у інстытут, і Павел пачаў супакойвацца, пачаў усё радзей успамінаць Таню.

А Міколу ён аднойчы сустрэў у Мінску, гадоў праз пяць пасля таго, як сам прыехаў у сталіцу. Гэта было восенню, Мікола быў у нейкім пакамечаным пінжачку з падраным локцем, нязголены і моцна п'яны. Павел спачатку хацеў спыніць яго, пагаварыць з ім, спытаць, дзе ён цяпер жыве, дзе працуе, але ўбачыў, што пагаварыць з Міколам не ўдасца, той вельмі ўжо п'яны, вочы як шкляныя, ідзе, хапаецца бруднымі рукамі за сцяну.

— Ну і ну,— падумаў тады Павел.— Вось табе і павышэнне, мусіць, не на павышэнне яго тады выклікалі.

Жыццё закруціла Паўла ў сваім калаўроце — спачатку вучоба і сесіі, сесіі, потым аспірантура, дысертацыя, а потым і жаніцьба, не на нейкай там Тані, якая цягала падносы з баршчом і кашаю, а на Людмі-

ле, дачцэ палкоўніка, якая ўмела іграць на піяніна. Мінулае здавалася цяпер нерэальным, быццам усяго таго і не было, часам ён і сам пераставаў верыць, што некалі жыў у тым глухім мястэчку, хадзіў у тую сталоўку, прыводзіў да сябе ў пакойчык Таню. Апошнія гады ён, можна сказаць, і зусім яе не ўспамінаў, перастаў пра яе і думаць, да таго дня, пакуль не ўбачыў у судзе Зайчыка, Віктара Паўлавіча, тысяча дзевяцьсот сорак пятага года нараджэння...

## 3

Госці былі запрошаны на сем гадзін, Людміла Макараўна ўправілася са сталом у палове шостай, заставалася заліць маянэзам салату і парэзаць свежыя агуркі, але на гэта, лічыла яна, хопіць мінут пятнаццаць, так што з гадзінку можна адпачыць. І Людміла Макараўна, памыўшы рукі і скінуўшы фартух, пайшла ў спальню, лягла на свой ложак, не зняўшы пакрывала, паклаўшы пад галаву цвёрдую вышытую падушачку. У яе гулі рукі, гулі ногі, ва ўсім целе адчувалася слабасць і стомленасць — дзіва, апошнія чатыры дні яна то бегала па магазінах, то стаяла каля пліты, а галоўнае — клопат — каб трапіўся добры прадукт, каб удаліся заліўныя і рулеты, фаршыраваная рыба і халадзец, пірагі і торты. Добра, што суседка згадзілася памагчы, без яе наогул невядома што было б, тыя гады маці памагала, а сёлета маці зусім слабая, нават на дзень нараджэння не прыйдзе, так што памочніцы з яе больш няма.

Людміла Макараўна ляжала на ложку, расслабіўшы цела, паклаўшы рукі на грудзі, як ляжаць нябожчыкі, а ў галаве круцілася, думалася — можа яшчэ што трэба зрабіць, можа, забылася што важнае, але быццам усё зроблена, з усім паспела, каб толькі было сёння вечарам весела, каб не сядзелі, як на памінках.

Яе турбаваў муж — апошнім часам ён нейкі злосны, раздражнёны, і Людміла Макараўна ніяк не можа ўгадаць прычыны, якая выбіла мужа з раўнавагі. Спачатку нага балела, але цяпер нага не баліць. На рабоце ў яго быццам усё нармальна, дома таксама ўсё ў парадку. Што ж за прычына такога яго настрою? Вось і цяпер, у дзень яе нараджэння, такі невясёлы, такі абыякавы да яе. Яна стамілася, як чорт, ляжыць у гэтай спальні, а ён сядзіць у зале, чытае газету. Хоць бы падышоў, сказаў якое слова, пагаварылі б ні аб чым, аб якім глупстве, як некалі, як нават летась, і то ёй было б лягчэй.

Бразнулі дзверы ў пакоі дачкі, і тут жа яна ўбегла ў спальню, трымаючы ў руках па сукенцы. Дачка была цяпер у квяцістым паркалёвым халацiку, вельмі кароценькім, які высока адкрываў яе стройныя поўныя ножкі. З раніцы дачка збегала ў цырульню, прычасалася, і цяпер яе галоўка была зграбная, валасы ўкладзены колцамі і блішчаць, папырсканыя лакам.

— Мамачка, якую мне сукенку адзець, гэту ці вось гэту? — выцягнула яна правую руку, потым левую, паказваючы адну сукенку, потым другую.

Людміла Макараўна палюбавалася дачкою — якая яна харошанькая, падобная і на яе і на бацьку. Зусім дарослая дачка, семнаццаць гадоў, не агледзішся, і замуж выскачыць.

— Табе, дачушка, якую сукенку ні адзень — усё добра будзе,— сказала ласкава.— Але адзень вунь тую, сіненькую, яна да вачэй тваіх надта падыходзіць.

Дачка павярнулася, пабегла.

— Пакліч мне тату! — сказала Людміла Макараўна ёй наўздагон.





Чула, як дачка крыкнула ў калідоры: «Тата, цябе мама кліча!» Яшчэ пачула, як зашапацела газета, а потым зноў усё сціхла. Чакала крокаў мужа, але крокаў не было.

У кватэры стаяла цішыня, і Людміла Макараўна падумала, што вось як ціха цяпер, а гадзіны праз дзве будзе гоману, тлуму, ежу, так хораша цяпер пастаўленую, прыбраную, перакалупаюць, размажуць па талерках. Але чаму не ідзе муж, дачка ж сказала яму, што я яго клічу. Яна сабралася гукнуць яго яшчэ раз, адчуваючы, што ў грудзях збіраецца раздражненне, але ў гэты час пачуліся крокі, і муж, трымаючы ў руках разгорнутую газету, зайшоў у спальню. Ён быў у чорных спартыўных штанах і ў сінім світары, на нагах — пантофлі без заднікаў, як звычайна ходзіць дома; твар, як пасля сну — крыху прыпухлыя вочы і шчокі быццам аплылі. Яму, відаць, не вельмі хацелася ўставаць са свайго крэсла, і прыйшоў ён толькі таму, што клікала жонка, не хацеў быць няўважлівы да яе ў дзень яе нараджэння.

— Кінь ты гэту газету,— крыху капрызна і разам з просьбаю ў голасе сказала Людміла Макараўна.— Я так стамілася, а табе і клопату няма. Калі памагчы не можаш, дык хоць бы паспачуваў.

Павел Іванавіч шукаў вачыма, куды пакласці газету, паклаў яе на свой ложак, сеў у нагах каля жонкі, сказаў паслухмяна, з жартам:

— Ну вось, сяджу, спачуваю...

Людміла Макараўна бачыла, што муж спрабуе жартаваць, не хоча раздражняць яе, згодны цярпець нават яе капрызы, але ашукаць яе было цяжка, яна разумела, што муж прымушае сябе так рабіць, што ён, магчыма, стрымліваецца, каб не сказаць ёй чаго рэзкага, што настрой у яго зусім не такі, як ён хоча гэта паказаць. Але і яна пастаралася прыкінуцца, што гэтага не заўважае, даверліва паскардзілася:

— Аж моташна, аж нудзіць, так стамілася.

Павел Іванавіч, здаецца, крышку ажыў, як пасля сну апомніўся.

— А навошта табе кожны раз так выпінацца,— сказаў з папрокам.— Зрабіла б якіх бутэрбродаў, віна, каньяку паставіла — і досыць. Дык не, гатуе кожны раз, як на роту салдат.

Людміла Макараўна ўздыхнула.

— Міленькі, салдатам не даюць таго, чаго я нагатавала, салдатам боршч ды кашу, а ў мяне, як кажуць, і паранае, і варанае, і так кускамі.

Калі Людміла Макараўна сказала, што салдатам даюць боршч ды кашу, Павел Іванавіч зноў як убачыў Таню з талеркаю чырвонага баршчу на падносе і аж паморшчыўся. Але трэба было падтрымліваць размову з жонкаю — тое, што ўспомнілася, не для яе, тое з іншага, з яго патаемнага жыцця.

— Тым больш,— сказаў ён.— Што нашы госці, галодныя ходзяць, дзіва для іх тваё паранае і варанае?

Людміла Макараўна вышэй лягла на ложку, папраўіла пад галавою падушачку.

— Вось скажы, а калі ты да людзей у госці прыходзіш, цябе там бутэрбродамі частуюць? Нябось, так і глядзіш на стол, каб што смачнае выбраць. Проста ў людзей мужчыны не такія, як ты ў мяне, твой дэкан і рыбу ўмее фаршыраваць, і заліўное зрабіць, а Верын Валодзя дык усё робіць, калі якое свята, ды і без свята, яна і рук не прыкладае, так паможа што, калі ў ахвоту.

Павел Іванавіч усміхнуўся.

— Вось дзе сапраўды жаночая логіка, пачала з бутэрбродаў, а скончыла Верыным Валодзем. Проста мода ў вас такая павялася, хочаце павыстаўляцца адна перад адной. Аб'еліся ўсе, абы-чаго есці не хочаце, дык вось і выдумляеце...

Жонка, здаецца, не пакрыўдзілася, яна нават згадзілася.

— Што ж,— сказала яна,— можа ў тваіх словах якая праўда і ёсць, але я не хачу быць разумнейшая за людзей, як людзі, так і я. І табе раней гэта, па-мойму, падабалася, не ведаю, чаму апошні час ты перамяніўся, пачынаеш мяне папракаць.

Паўлу Іванавічу зрабілася няёмка — мусіць, сапраўды ён апошнія дні перамяніўся і жонка пачынае гэта заўважаць.

— Я не папракаю цябе,— сказаў як вінавата.— Так, можа, старэю ўжо, бурчэць пачынаю...

Людміла Макараўна нахілілася да мужа, пацалавала яго ў шчаку.

— Старэеш, міленькі, вунь, колькі сівых валасоў ужо,— правяла яна пальцамі па яго скроні, дзе сапраўды паміж цёмных валасоў паблісквалі і сівыя, хоць яшчэ не вельмі густа.— Але папрашу цябе, пабудзь яшчэ хоць сёння малады, у дзень майго нараджэння, бо сваім настроем сапсуеш мне ўсё абедню. А цяпер, давай апранайся, і мне пара,— глянула яна на гадзіннік, што стаяў на тумбачцы пасярод ложкаў.— Вунь, сёмая гадзіна, скора госці пачнуць збірацца.

Яна ўстала, падышла да люстэрка, уважліва пaглядзела на свой твар. Мусіць, твар свой ёй не вельмі спадабаўся, бо ўздыхнула, правяла пальцамі пад вачыма, быццам хочучы зняць павуцінкі, якія звіў там злосны павук — час. Павяла далонямі па шчоках. Нахілілася, адчыніла тумбачку, на якой стаяла люстэрка-трумо, дастала белую круглую баначку, потым яшчэ адну баначку, шкляную, з сіняю накрыўкаю. Адкрыла белую баначку, панюхала, потым зачэрпала з яе пальцам крэму. Спачатку пасадзіла пальцам па кучцы крэму на лоб, на бараду, на нос і шчокі, потым дзвюма рукамі пачала расціраць крэм па ўсім твары.

Павел Іванавіч падышоў да яе ззаду, пaглядзеў на сябе ў люстэрку, паўзверх жончынай галавы, сказаў, правёўшы далоняю па шчацэ:

— Пагаліцца яшчэ раз, ці што...

— А і пагаліся,— лагодна сказала Людміла Макараўна.— І кашулю адзень новую, тую, што я табе нядаўна купіла, яна ляжыць на верхняй паліцы ў цэлафане, яшчэ не разгорнутая.

Павел Іванавіч азірнуўся, быццам нечага шукаючы, убачыў газету, якая ляжала на яго ложку, падышоў, узяў газету, згарнуў яе, пайшоў галіцца, апранацца. Скора пачнуць прыходзіць госці.

●

Першымі прыйшлі завуч з жонкаю, са школы, дзе Людміла Макараўна выкладала англійскую мову. Госці прынеслі з сабою свежасць марозу, пах парфумы, у жонкі завуча ў руках былі чырвоныя гвазджікі, загорнутыя ў празрысты цэлафан, завуч трымаў пакунак, перавязаны ружоваю стужкаю.

— Віншую, дарагая Людміла Макараўна,— падаючы кветкі, сказала завучава жонка, потым падступіла бліжэй да імянінніцы, пацалавала, як клюнула ў шчаку.

Завуч падаў Людміле Макараўне пакунак, пацалаваў у руку.

— Віншую, віншую. А вы з кожным годам усё маладзееце.

Людміла Макараўна ўсміхалася, стараючыся надаць і твару, і ўсёй сваёй постаці як мага больш радасці і шчырасці.

— Дзякуй, дарагія, дзякуй. Паўлуша,— павярнулася яна да мужа,— памагай гасцям распранацца.

Людміла Макараўна панесла кветкі і пакунак у спальню, на хаду мацаючы пакунак, каб угадаць, што ў ім, але ўгадаць не магла — нешта было там мяккае.

Госці распрануліся, і ў калідоры яшчэ мацней запахла парфумаю. Завуч быў у чорным гарнітуры і ў такой белай сарочцы, што яна аж сляпіла вочы. Яго жонка ў ружовай шарсцяной сукенцы з бліскучаю брошкаю пад каўняром. Яна пачала пераабувацца, здымаючы высокія боты і ступаючы ў белыя лакавыя туфлі, якія выняла са сваёй сумкі. Скончыўшы пераабувацца, пацерла далонямі адна аб адну, азірнулася, шукаючы люстэрка. Невялікае люстэрка з палічкаю вісела каля вешалкі, і жонка завуча пачала папраўляць прычоску. Завуч таксама падышоў да люстэрка, пагладзіў рукою сваю лысую галаву, пажартаваў:

— А я буду хадзіць кудлаты.

Скора яны сядзелі ў залі, у баку ад накрытага стала, жонка завуча ў крэсле, завуч на канапе, насупраць тэлевізара.

— А мы, аказваецца, першыя,— весела сказаў ён.— Хоць бы нам за гэта якую прэмію далі.

— Ці можа быць большая прэмія, як удзячнасць гаспадыні,— адказала Людміла Макараўна.— Вельмі люблю гасцей, якія прыходзяць першыя.

— Ён у мяне заўсёды спяшаецца, каб не спазніцца,— нязлосна папікнула з мужа жонка завуча.

— Школьная прывычка,— адказаў завуч.— Ды часам, мілая, лепш прыйсці на гадзіну раней, чым на пяць хвілін пазней, нават на хвіліну.

— Ну, гэта калі на цягнік ці на самалёт,— сказала завучава жонка.

— Нават і на спатканне. Што было б, каб я спазніўся на тое, самае важнае спатканне,— страціў бы цябе назаўсёды.

Завуч быў вясёлы чалавек, у кампаніі ён заўсёды шмат жартаваў і смяяўся.

У гэты час у дзвярах зноў зазваніў званок, Людміла Макараўна падхапілася, каб ісці адчыняць. За ёю ў прыхожую выйшаў і Павел Іванавіч.

Цяпер госці пайшлі адны за адным, і Людміла Макараўна не паспявала прымаць кветкі, цалавацца, насіць у спальню падарункі. Павел Іванавіч таксама ўсім радасна ўсміхаўся, мужчынам паціскаў рукі, нахіляўся і цалаваў ручкі дамам, памагаў распранацца і вешаць паліто. Скора вешалка была зусім поўная, і вопратку пачалі насіць у даччын пакой, класці на стол, на піяніна.

Дачка, у кароценькай сіняй сукенцы, падобнай на кашульку ў малога дзіцяці, з высока ўсчасанымі валасамі, крышку сарамліва адказвала на прывітанні. Амаль усе госці, убачыўшы дачку, пляскалі рукамі і гаварылі: «Божачка, гэта Ірачка, так вырасла, а прыгожая якая, замуж скора...»

Спачатку гэтыя захапленні падабаліся Ірачцы, а потым пачалі надакучаць, бо ўсе гаварылі адно і тое ж. Заходзіў новы госць, і яна ўжо чакала — зараз убачыць яе і пляснe ў ладкі, пачне гаварыць тое самае, што ўсе — і не памылялася.

Крышку астудзіла яе святочны настрой і тое, што госці былі адзін у аднаго — старыя, равеснікі бацькоў, а такія госці, Ірачка ведала ўжо са свайго вопыту, пасля дзвюх-трох чарак пачнуць гаварыць пра сваё, заспяваюць песню і пра яе забудуць. Таму яна ціхенька ўзрадавалася, калі ўбачыла, што Міця, яе дваюрадны брат, мастак, прывёў сябра з барадою. Хоць барадаты быў і не равеснік Ірачкі, меў, мусіць, гадоў дваццаць тры, але Ірачка адчула, што з ім ёй будзе весялей.



Людмілу Макараўну незнаёмы хлопец, няпрошаны госць, не вельмі ўзрадаваў, яна падумала, што яе пляменнічак зрабіў не вельмі тактоўна, прывёўшы да яе невядома каго, але ніяк не паказала свайго нездавальнення, ветліва прыняла хлопца, тым больш, што той падаў ёй букет белых нарцысаў і, знаёмячыся, пацалаваў ёй руку.

— Мяне завуць Алег,— адрэкамендаваўся хлопец.

Ён быў у тоўстым шарсцяным світары, у чаравіках на гумавай падэшве і сярод гасцей Людмілы Макараўны адразу вылучыўся сваёй будзённай апраткай.

У кватэры было цяпер поўна людзей, сядзелі, стаялі, хто дзе мог, хто дзе знайшоў месца, бо амаль усю залю займаў сервіраваны стол. Каля яго стаяла купка мужчын, пра нешта гаварылі, жанчыны сабраліся ў спальні, аглядалі там адна ў адной сукенкі, вялі размовы пра сваё, жаночае.

Пара было б садзіцца за стол, але чакалі дэкана з жонкаю. Каб пазніўся хто іншы, то Людміла Макараўна не таміла б усіх гасцей, прымушаючы чакаць адну пару, але гэта быў дэкан, начальнік яе мужа, і Людміла Макараўна не хацела пачынаць свята без яго. Яна старалася заняць гасцей, каб не сумавалі, піхнула Паўла Іванавіча, каб ішоў да мужчын, сама пайшла ў спальню — з жанчынамі яна справіцца.

Павел Іванавіч падышоў да мужчын, што стаялі купкаю каля стала. Тут былі намеснік дэкана, высокі, моцны мужчына з шырокім дабрадушным тварам, каля намесніка дэкана свяціў лысінаю завуч, насупраць яго стаяў муж Веры Пятроўны, старшай выкладчыцы, што вяла заняткі ў іх у інстытуце, той самы Верын Валодзя, якога жонка сёння прыводзіла Паўлу Іванавічу як прыклад, што ён усё ў хаце робіць.

Быў з імі і Хадасевіч, але, здаецца, крышку ўбаку і не прымаў удзелу ў агульнай гаворцы.

Павел Іванавіч даўно не бачыў Хадасевіча, мусіць, цэлы год, ад мінулага жончынага дня нараджэння, і цяпер заўважыў, што Хадасевіч здаў, пастарэў, лоб высока агаліўся, шыя пад каўняром сарочкі сабралася ў зморшчыны. У Паўла Іванавіча з'явілася нешта падобнае на жаласць, спагаду да Хадасевіча, ён падышоў да яго, узяў пад руку.

— Як жыццё, Сымоне, даўно цябе не бачыў,— сказаў цёплым голасам.

Хадасевіч азірнуўся, усміхнуўся Паўлу Іванавічу, усміхнуўся, здаецца, аднымі губамі, вочы былі не то сумныя, не то стомленыя.

— Растуць дзеці,— адказаў Хадасевіч.

Паўла Іванавіча гэтыя словы як кальнулі. Пры слове «дзеці» ён чамусьці падумаў не пра дачку, а ўявіў таго — стрыжанага, з ухмылачкаю. «Можа ён штосьці ведае»,— з трывогаю падумаў Павел Іванавіч пра Хадасевіча. Адказаў з робленым спакоем:

— Та-ак, растуць.

— Мой старэйшы хлопец на чацвёртым курсе інстытута... Меншы школу канчае... А твая — глянуў сёння — ледзь пазнаў, вырасла за гэты год,— сказаў Хадасевіч.

«Нічога ён не ведае,— зазлаваў сам на сябе Павел Іванавіч.— На мне ўжо, як на тым злодзеі, шапка гарыць».

Ён пачаў слухаць, пра што гаварылі мужчыны, сабраўшыся ў кучку.

— Не, вы не кажыце, дача — гэта лякарства,— гаварыў намеснік

дэкана.— Летам жа ў горадзе задыхнуцца можна, а там свежае паветра і, скажу вам, фізічная праца... Падзяўбеш зямлю рыдлёўкаю, потым вала гатоў з'есці.— Ён стаяў, крыху расставіўшы ногі, заклаўшы рукі за спіну, як чалавек, які адчувае пад сабою цвёрды грунт, які прывык, каб слухалі, калі ён гаворыць.

— А мы сёлета чатырнаццаць вёдзер клубнікі выбралі! І варылі, і кампоты рабілі, і так елі,— пахваліўся Верын Валодзя.

— Дык жа кажуць, што дачы будуць скора адбіраць і новых больш будаваць не дазволяць,— сказаў завуч.

— Кіньце вы,— махнуў у яго бок рукою намеснік дэкана.— Будуць адбіраць у тых, хто нажыў не сваёю працаю, у спекулянтаў, у злодзеяў будуць адбіраць, а ў чэсных людзей не адбяруць.

— А ты сабе яшчэ дачы не пабудаваў? — спытаўся Павел Іванавіч у Хадасевіча, хочучы і яго ўцягнуць у гаворку.

Хадасевіч засмяяўся.

— Мне няма за што будаваць дачы... Ды каб і было за што, не па мне гэта,— адказаў ён. Хадасевіч памаўчаў, можа, чакаючы, што ў яго спытаюць — чаму гэта будаваць дачу не па ім, але ў яго ніхто не спытаўся, і ён загаварыў, крыху са смехам, а крыху і з раздражненнем.— Наглядзеўся я на гэтых дачнікаў, на гэтых агароднікаў. Каторы з іх за машыну гною гатовы душу чорту прадаць. А пабудаваць дачу? Тут рамонт у хаце робіш, і то праблема — дзе кран дастаць, дзе ракавіну, а там... Без махінацый жа не абыдзешся...

Намеснік дэкана крактануў, пакруціў галавою.

— Да, канечне, цяжкасці ёсць, што ж, калі ў нас праз дзяржаўныя каналы не ўсё лёгка купіш, але я асабіста і цвіка не ўзяў незаконна.

— І наогул — дзіву даешся,— развёў рукі Хадасевіч.— Садзяць на тых дачах бульбу, агуркі, памідоры, усё ж гэта ў магазінах ёсць і дзяшовае.

— Гэта точна,— засмяяўся завуч.— Адзін мой знаёмы сабраў першыя яблыкі з свайго саду, прынёс дахаты, і пачалі яны з жонкаю лічыць, колькі ім абышліся гэтыя яблыкі. І што вы думаеце? Выйшла, што адзін яблык каштаваў дзвесце пяцьдзесят рублёў! Залатыя яблычкі!

— Ну, гэта на першым часе яны такія дарагія, потым акупяцца,— сказаў Верын Валодзя. — І вы кажаце — магазіны,— павярнуўся ён да Хадасевіча.— Хіба можна параўнаць памідор куплёны і той, што ў цябе на градзе вырас, свой, уласны памідор!

Цяпер засмяяліся вочы Хадасевіча, адны вочы.

— Вось іменна, свой, уласны памідор. Уласны! — націснуў ён на апошнім слове.

Павел Іванавіч спужаўся, каб не пачалося раптам спрэчкі, ён пашкадаваў ужо, што зачапіў Хадасевіча — хіба не ведае, што той з усімі задзіраецца? І пачаў улагоджваць гасцей.

— Ладна, ладна,— загаварыў ён,— хто хоча, няхай есць куплёныя памідоры, хто не хоча куплёных, няхай есць свае, хто хоча, няхай будуе дачу, хто не хоча, няхай не будуе.

Ён міжвольна паглядзеў на гадзіннік — вельмі добра было б цяпер запрасіць гасцей за стол, але дэкана яшчэ не было, і Павел Іванавіч не ведаў, чакаць яго больш ці не чакаць, трэба было параіцца з жонкаю.

Лавіруючы паміж накрытым сталом і ў беспарадку пастаўленымі крэсламі, ён выйшаў з залі, падышоў да дзвярэй спальні, адчыніў дзверы і, знайшоўшы позіркам сярод жанчын Людмілу Макараўну, маргнуў ёй, каб яна выйшла да яго.



— Трэба запрашаць гасцей за стол,— зашаптаў ён жонцы,— на дзевятую гадзіну пайшло,— пастукаў ён пальцам па шкле гадзінніка, які быў у яго на руцэ,— колькі можна чакаць!

Жонка паглядзела на яго ўзбуджаным позіркам, загаварыла, папраўляючы на плячах сукенку:

— А чаму яго няма, не ведаеш? Канфлікту ў цябе з ім не было ніякага?

Павел Іванавіч пацісну плячыма.

— Здаецца, не было.

— Добра, запрашай усіх за стол... Колькі ж можна чакаць,— рашуча сказала Людміла Макараўна. І, шырока адчыніўшы дзверы ў спальню, голасна сказала, паказваючы рукою на залю:

— Жанчынкі, дарагія, там мужчыны без вас зусім занудзіліся... Прашу да стала! Прашу, прашу,—і сама першая пакіравалася ў залю. Трэба было тактоўна, незаўважна, быццам выпадкова пасадзіць кожнага на сваё месца.

— Васіль Барысавіч, садзіцеся, калі ласка, з Ганнаю Раманаўнаю вось тут, тут вам зручна будзе, калі ласка, калі ласка,— павяла яна да стала намесніка дэкана.— Сядайце ўсе, сядайце, дзе каму падабаецца,— паварочвалася яна да гасцей.— Міця, ты малады, садзіся з Нэляю Ігараўнаю,— падсаджвала яна пляменніка да настаўніцы музыкі. Убачыўшы, што дачку трымае за руку барадаты Міцеў сябра, збіраецца разам з ёю сесці, быццам не заўважаючы хлопца, узяла дачку за плечы:

— Ірачка, ты з намі сядзеш, са мною і з татам, вось сюды ідзі. «Бач ты, ухапіў ужо... Я табе пакажу»,— зазлавала на барадатага Людміла Макараўна. Дачку яна берагла, баялася, каб не закруціў ёй галавы які шалапут.

Госці ўсаджваліся, соваючы крэсламі, азіраючыся, з кім і насупраць каго апынуліся, кідаючы позіркі на бутэлькі, на закускі, якімі быў загрувашчаны стол. Два месцы ў цэнтры Людміла Макараўна ўсё ж пакінула вольнымі, на той выпадак, калі дэкан усё-такі прыйдзе.

Паўлу Іванавічу на першым часе трэба было ўзяць кіраўніцтва застоллем на сябе, і ён пастукаў відэльцам па графіне, у якім празрыста пералівалася гарэлка і плавалі скарлупінкі лімона.

— Дарагія госці, прашу ўвагі! — сказаў ён. Пачакаў, пакуль за сталом трошкі сцішыліся, і весела загаварыў: — Прашу наліць чаркі! Кавалеры, налівайце сваім сяброўкам і суседкам, не забывайце і сябе. Сёння ніхто не павінен устаць з-за стала цвярозы!

Усе зноў весела заварушыліся, мужчыны пацягнуліся да бутэлек, да графінаў.

— Вы што будзеце піць?

— Вам каньячку?

— Не, толькі віно...

— Вы сабе, сабе налівайце,— загаманіла застолле, зазвінелі чаркі, забулькала віно і гарэлка. Некаторыя адразу пачалі накладаць і закускі. Верын Валодзя трымаў перад сабою жончыну талерку і пытаўся:

— Верачка, табе чаго ўзяць?

Намеснік дэкана паклаў ужо на сваю талерку цэлую гару рознай закускі, суседка, якая памагала Людміле Макараўне рыхтаваць стол, накалола на відэлец адзін слізкі грыбок, і той сіратліва ляжаў на яе чыстай талерцы з сінім беражком.

Павел Іванавіч падняўся, трымаючы поўную чарку, павёў позіркам па гасцях, якія сядзелі, павярнуўшыся да яго тварамі. З вышыні яго росту цяпер добра быў відзён увесь стол, застаўлены ядою,— заліўная курыца на вялікім белым блюдзе, рыба рознага прыгатавання — і фаршыраваная, і смажаная, тонка нарэзаныя, аж празрыстыя, балыкі, яйкі з чырвонаю ікрою, салаты з крабамі, свежыя агуркі, хоць за вокнамі гула мяцеліца. Глянуў на ўсё гэта і як убачыў другі стол — у калідоры ў судзе, на якім стаяла чарніліца-невылівайка і ляжала драўляная ручка з сухім пяром, стол, на якім хімічным чарнілам было напісана: «Я хачу дадому... І есці хачу... І Воўку шкода...» Нешта непрыемнае, як чарвяк, прапаўзло праз яго грудзі, але ён пастараўся адагнаць гэта непрыемнае.

— Дарагія таварышы! — сказаў ён урачыста.— Потым мы выберам тамаду, свята наша будзе ісці, як ва ўсіх добрых людзей, але першы тост, першае слова я хачу сёння сказаць сам. Я хачу, каб вы выпілі за маю жонку, дзень нараджэння якой мы сёння спраўляем, за слаўную жанчыну, маці маёй дачкі. Я сам жадаю і хачу, каб вы пажадалі ёй — добрага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчасця і радасці...

— І вечнай прыгажосці, маладосці! — уставіў намеснік дэкана, узнімаючы ўгору сваю чарку.

— Вы вельмі правільна дадалі,— ветліва пакланіўся ў бок намесніка дэкана Павел Іванавіч.— І вечнай прыгажосці, маладосці. Кажуць, што жанчынам гэта вельмі важна.

— І мужчынам важна,— кінуў рэпліку завуч.

— І мужчынам,— пагадзіўся Павел Іванавіч.

Нехта крыкнуў, каб не перашкаджалі мужу гаварыць тост у гонар жонкі, усе сціхлі, і Павел Іванавіч закончыў сваё ўрачыстае слова, стукнуўся келіхам з жонкаю, выпіў нагбом. Госці пацягнуліся са сваімі чаркамі да імянінніцы, кожны хацеў павіншаваць асабіста, тыя, што сядзелі ў канцы стала, уставалі і ішлі з поўнымі кілішкамі да крэсла, у якім сядзела гаспадыня.

А яна, з чаркаю ў руцэ, паварочвалася то ў адзін бок, то ў другі, чокалася з гасцямі, нахілялася, каб дастаць сваёю чаркаю тых, хто сядзеў далёка, яе бліскучая сукенка адтапырвалася на грудзях, ажно відзён быў раўчучок паміж імі.

Пасля першага тосту некалькі хвілін у кватэры было зусім ціха, толькі чулася, як стукалі нажы ды відэльцы, потым гоман зноў пачаў набіраць сілу.

Тамадою выбралі завуча, таму да гэтага было не прывыкаць, яго часта выбіралі тамадою, і вочы яго цяпер узбуджана блішчэлі, і лысіна блішчэла, як паліраваная, ён жартаваў, каламбурыў, заклікаў застолле да ўвагі. Устаў і заявіў, што калі імянінніца — выкладчыца англійскай мовы, дык ён скажа тост у яе гонар на англійскай мове.

— Прытым, у вершах, у вершах!— узнімаў угору ён свой кілішак.

Усе ўраз згадзіліся, прыціхлі, гатовыя слухаць, і завуч прадэкламаваў:

Гуд івнінг, гуд івнінг, гуд івнінг ту ю,
Гуд івнінг, гуд івнінг, ві а глэд ту сы ю!

Людміла Макараўна пакацілася са смеху і запляскала ў ладкі.

— Брава, брава,— смяялася яна.— Дарую вам і ваша вымаўленне! За вашу смеласць, што вы, не ведаючы англійскай мовы, узяліся на ёй вершы пісаць!

Завуч пакланіўся.

— Я ўсё жыццё вывучаў французскую,— сказаў ён,— але спецыяльна для вас, як бачыце, асвоіў і англійскую.



— Скажыце, Косця,—пыталася Людміла Макараўна ў паэта, мужа сваёй прыяцелькі, ці ведаеце вы ў гісторыі літаратуры факт, каб чалавек, не ведаючы мовы, вершы на ёй пісаў?

Паэт толькі што выпіў і цяпер закусваў.

— Гісторыя ўсё ведае,— адказаў ён з поўным ротам.

— А ці разумееце вы хоць, што вы сказалі? — са смехам пыталася Людміла Макараўна ў завуча.

— О, як вы кепска пра мяне думаеце, дарагая імянінніца,— роблена пакрыўдзіўся тамада.— Я сказаў вам добры вечар і што я рады бачыць вас!

— Па англійску вы, па-мойму, гаварылі даўжэй,— сказаў паэт. Усе весела засмяяліся.

Калі застолле ўжо гуло, як растрывожаны вулей, у дзверы пазванілі і з'явіліся, нарэшце, дэкан з жонкаю. Ён — невысокі, паўнаваты, з разумнымі вачыма, яна крышку сарамлівая, з мяккаю ўсмешкаю на не маладым, але яшчэ прывабным твары.

— О-о-о!

— У-у-у! — загулі госці, паказваючы сваю радасць.

— Штрафную! Штрафную! — крычаў тамада, наліваючы дэкану каньяк у фужэр.

Дэкан падняў рукі.

— Даруйце, не судзіце так строга... Вінаватыя, спазніліся мы, так атрымалася,— прасіў ён прабачэння.

Калі новыя госці крыху падсілкаваліся і абвыклі ў кампаніі, Людміла Макараўна пачала прасіць паэта пачытаць свае вершы:

— Калі ласка, Косця, толькі не па-англійску, каб усе зразумелі.

Паэт спачатку аднекваўся, але паэтава жонка піхнула яго пад бок, і ён устаў. Паэт быў высокі, са светлымі валасамі, хударлявы. Успершыся адной рукою на стол, а другую паклаўшы ў кішэню пінжака, ён пачаў:

Жанчына, ты соль на раны мае...
Жанчына, бальзам ты на раны мае...
Ты позіркам можаш мяне загубіць,
Усмешкаю радасць жыцця падарыць...

Усе ціха слухалі, пазіраючы на паэта, а той чытаў верш пра жанчыну, пра каханне. Калі скончыў, госці дружна яму запляскалі, асабліва жанчыны, а тамада сказаў:

— Наліце, калі ласка, таварышу паэту гарэлкі з бальзамам, няхай яна, замест жанчыны, палечыць сёння яго раны.

Тамада здолеў арганізаваць яшчэ адзін ці два тосты, а далей пайшла, як кажуць, самадзейнасць. Госці пачалі ўставаць з-за стала, мяняцца месцамі, мяняцца чаркамі, пілі па-двое, па-трое, гучна гаварылі між сабою.

— Вы чыталі ў сённяшняй газеце? — расказваў Верын Валодзя намесніку дэкана. — Недзе ў Эквадоры вёска ёсць, дык там усе жыхары жывуць больш чым па сто гадоў... І ніводзін з іх ніколі ў вочы не бачыў доктара, жывуць па сонцы, з ім кладуцца, з ім устаюць.

— Ага, чытаў,— дружалюбна адказваў намеснік дэкана.— А чаму так доўга жывуць? Бо ўвесь час на свежым паветры, бо фізічная праца...

На другім канцы стала настаўніца музыкі Нэля Ігараўна гаварыла з мастаком, пляменнікам гаспадыні.

— Што вы, Міця,— паварочвала яна да мастака зграбную галоўку з кароткаю стрыжкаю,— у мяне няма абсалютна ніякіх прэтэнзій да жыцця, да грамадства, наадварот, я адчуваю сябе вінаватаю перад

людзьмі. Гэта ж падумаць толькі! — падняла яна ўгору плечыкі.— Я жыву ў цёплай кватэры, у мяне ёсць вадаправод, газ, электрычнасць, гэта ж усё мне зрабілі, я сама і пальца не прыклала да ўсяго гэтага, на гатовенькае прыйшла.— Яна, здаецца, забылася пра яду, трымала перад сабою нож і відэлец, паводзіла імі пад такт сваім словам.— Я іду ў магазін і купляю свежы хлеб, малако, яйкі, цукеркі. І гэта ж для мяне нехта зрабіў, я толькі на піяніна іграць умею, без маёй музыкі можна жыць, а вось без хлеба, без кватэры...

Міця сядзеў, ужо крышку захмялелы, без пінжака — пінжак вісеў на спінцы яго крэсла — і глядзеў на Нэлю Ігараўну закаханымі вачыма. Узяў яе руку, пацалаваў.

— Мілая,— сказаў, ледзь не са слязою.— Я заўсёды ведаў, што жанчыны разумнейшыя за мужчын, але не перажывайце, ваша музыка таксама патрэбна людзям, патрэбна, як хлеб...

Павел Іванавіч не слухаў таго, што гаварылі за сталом госці, але ён бачыў, што госці занятыя самі сабою, і быў рады, што іх не трэба забаўляць. Ён куляў чарку за чаркаю, быццам хацеў патушыць нейкі вугаль, што гарэў у яго ў грудзях, але вугаль не затухаў, а яшчэ больш разгараўся, пёк усярэдзіне.

Нехта ўключыў тэлевізар, і на сіняватым экране мяняліся кадр за кадрам — паяўляліся то лес, то немцы ў касках, то заяц, які ўцякаў ад стрэлаў. Потым людзі, вязнучы ў балоце, пхалі нагружаныя калёсы, памагаючы каню выцягнуць іх з багны. Ішоў фільм пра вайну, пра партызанаў, і ён на міг як бы вярнуў Паўла Іванавіча ў тыя далёкія гады, калі і сам ён вось гэтак граз у балоце, сам страляў па немцах, пух з голаду. Захацелася паглядзець фільм — што будзе далей, ці выцягнуць партызаны воз, ці адаб'юць немцаў, але экран засланяла талерка, з якой тырчалі курыныя ножкі, Вера Пятроўна, якая сядзела каля самага тэлевізара, трымала ў руцэ келіх з віном, ставіла яго на абрусе, вадзіла донцам па абрусе, і гэта таксама перашкаджала глядзець. Павел Іванавіч адвярнуўся ад экрана. У галаве шумела — і ад гулу, і ад выпітай гарэлкі. Госці гаварылі, стараючыся перакрычаць адзін аднаго, нехта смяяўся, нехта спрабаваў спяваць. Ніхто не звяртаў увагі на Паўла Іванавіча, быццам госці забыліся, хто тут гаспадар, хто тут імяніннік і чаго яны сюды прыйшлі. Павел Іванавіч адчуў раптам сябе за гэтым шумным сталом, як на бязлюдным востраве, зрабілася сумна, тужліва, аж слёзы падступілі да вачэй.

«Больш не трэба піць,— падумаў ён.— І так перабраў норму».

— Таварышы! Танцаваць! Музыку! Музыку! — запляскала ў ладкі Людміла Макараўна. Яна молада падхапілася з крэсла, адставіла яго ўбок і па-за спінамі гасцей, якія ўсё яшчэ сядзелі за сталом, выбегла з залі. Праз хвіліну яна вярнулася, несучы перад сабою шэры чамаданчык — магнітафон, які ўзяла ў пакоі дачкі, паставіла на нізенькі столік са шкляным верхам.

— Ірачка, заводзь сваю шарманку, я не ведаю, як тут што робіцца,— сказала яна дачцэ.

Ірачка, пунсовая, як ружа, і ад выпітага віна, і ад заляцанняў барадатага Міцевага сябра, які ўсё-такі пераманіў Ірачку да сябе і ўвесь час гаварыў з ёю, устала з свайго крэсла і, адчуваючы на сабе позірк свайго кавалера, крыху саромеючыся гэтага позірку і радуючыся яму, пайшла заводзіць музыку.

Яна адкрыла вечка магнітафона, як майстра, які ведае, што робіць, пакруціла адзін ражок, другі. Магнітафон засіпеў, потым забалбатаў — скоранька-скоранька і як дзіцячым голасам, потым палілася музыка з песняю. Музыка была рытмічная, артыст спяваў па-французску хрыплаватым голасам, і Ірачка, не адыходзячы ад магнітафона, пачала прытупваць ножкаю ў сінім лакавым туфліку.

Жанчыны пачалі выцягваць з-за стала мужчын, каб ішлі танцаваць, мужчыны, цяжкія ад яды і гарэлкі, неахвотна падніmaліся і пачыналі тупаць пад музыку, быццам утрамбоўваючы з'едзенае, каб знайшлося яшчэ месца і для салодкага стала — кавы, чаю і піражных.

Маладзейшыя танцавалі па-свойму — выкручваліся ўсім целам, вадзілі рукамі, быццам ручніком спіну выціралі, нагамі быццам акуркі тушылі і ўсё скарэй-скарэй, жвавей-жвавей. Настаўніца музыкі танцавала з намеснікам дэкана — у яе выходзіла хораша, зграбна, а ён размахваў рукамі, як вятрак крыламі, тоўкся на месцы, не трапляючы ў такт музыцы.

А ў Ірачкі і ў барадатага выходзіла хораша ў абоіх, яны абое адчувалі музыку, рухі ў абоіх былі зграбныя. Людміла Макараўна спярша залюбавалася дачкою, а потым здзівілася і спалохалася. Адкуль яна ўмее? Дзе навучылася? Здаецца ж, увесь час на вачах, пад матчыным наглядам.

А Павел Іванавіч раптам падумаў, што Тані тады было столькі гадоў, як цяпер яго дачцы. Падумаў так і здзівіўся. Таня ў свае гады працавала, можна сказаць, сям'ю карміла, і здавалася, што яна зусім дарослая.

Музыка іграла жыва і весела, танцоры не ведалі стомы, Ірачка кідала пякучыя позіркі на свайго партнёра, усё яе цела жыло, вабіла, барадаты слухаўся кожнага яе руху — то падступаў бліжэй да яе, то адыходзіў, выгінаўся і прысядаў амаль да падлогі. Было ў гэтым танцы нешта як першабытнае, дзікае, вольнае ад усялякіх правіл і законаў.

— Як табе гэта падабаецца? — спытаў Павел Іванавіч у Хадасевіча, які стаяў каля яго і таксама глядзеў на танцораў.

Хадасевіч прыжмурыў вочы, памаўчаў, потым адказаў з ухмылкаю:

— Каб мы некалі, у час нашай маладосці, так паапраналіся б ды так танцаваць пачалі, нас і з інстытутаў павыганялі б, і з камсамола павыключалі б...

— Дык добра гэта ці дрэнна? — дапытваўся Павел Іванавіч.

Хадасевіч, склаўшы на грудзях рукі, глядзеў на танцораў.

— Праўда заўсёды на баку моладзі... Хоць часам нам гэта і не хочацца прызнаваць. І потым — мы самі ўсё гэта спарадзілі. Што нарадзілі, тое і маем.

Музыка не спынялася, канчалася адна мелодыя і пачыналася другая, аркестр іграў на ўсю сілу, надрываліся саксафоны, бразгалі талеркі, грымеў барабан, і Паўлу Іванавічу захацелася адпачыць ад гэтага шуму, пабыць хоць крышку аднаму. Лавіруючы паміж танцорамі, ён выйшаў у калідор, адтуль пакіраваўся ў спальню.

Тут было нашмат свяжэй, чым у залі, шум даносіўся крыху прыглушана, верхняе святло не было ўключана, гарэў толькі начнік, што стаяў на тумбачцы паміж двума ложкамі. На жончыным ложку ляжала цэлая гара пакункаў і карабкоў, ужо адкрытых і разгорнутых — падарункі, што напрыносілі сёння госці. Пакрывалы і на жончыным, і на ягоным ложку былі крыху сцягнутыя і скамечаныя, госці садзіліся тут і на ложкі.

Павел Іванавіч прайшоўся па спальні, адпачываючы ад гарачыні і ад шуму; праходзячы каля высокага люстэрка-трумо, неяк знянац-

ку ў яго паглядзеўся і аж скалануўся, стаў, як укопаны. З трумо на яго глядзеў Зайчык... Не, гэта быў не Зайчык, не той хлопец, якога засудзілі на чатыры гады, гэта быў Павел Іванавіч, але выраз твару, паварот галавы ў гэты міг быў такі самы.

Павел Іванавіч правёў далоняю па шчацэ, па лбе, быццам хочучы сцерці гэта падабенства. Ды яго ўжо, здаецца, і не было, з люстэрка ўжо глядзеў салідны мужчына ў белай кашулі, дагледжаны, паўнаваты, з інтэлігентным тварам. Што агульнае магло быць у гэтага чалавека з тым арыштантам у рудых штанах з торбамі на каленях, які адабраў у дзяўчыны сумачку з грашыма?

— Не трэба было столькі піць,— падумаў Павел Іванавіч і, яшчэ раз правёўшы рукою па твары, адышоў ад люстэрка.

## 4

Назаўтра быў дзень з халодным шэрым небам, з дробным сняжком, які бяліў зрудзелую і зшорхлую пасля адлігі скарынку лёду, сыпаўся пад калёсы машын і тралейбусаў, біўся ў шыбы высокіх дамоў, што стаялі на праспекце. Адчыняліся і зачыняліся дзверы гастраномаў, прамтаварныя магазіны былі яшчэ замкнёныя, за шырокім шклом вітрын стаялі манекены ў доўгіх, да пят, сукенках, віселі распятыя спадніцы і кашулі, блузкі і касынкі, ужо крыху запыленыя, віцвілыя.

Павел Іванавіч, як заўсёды, як кожную раніцу, ішоў на работу.

Зямля пачынала свой новы дзень. Пачынала яго для ўсіх — і для гэтай старой жанчыны, што, захутаная ў хустку, з сумкаю ў руцэ выйшла з гастранома, і для гэтых хлапчукоў, што з ранцамі за плячыма беглі ў школу, і для гэтай пары, мусіць, маладажонаў, што, узяўшыся за рукі, выйшлі ў раніцу. Зямля пачынала свой новы дзень, ні рухам, ні намёкам не адкрываючы нікому, што напаткае яго сягоння—цераз міг, цераз хвіліну, не адкрываючы нікому, як гэты дзень адзавецца некалі — праз пяць гадоў, праз дзесяць, праз дваццаць.

Інстытут сустрэў Паўла Іванавіча знаёмым гулам галасоў, знаёмымі пахамі — пабелкі, клею і гардэроба, дзе вісела вопратка студэнтаў — паміж цёмных мужчынскіх паліто чырвоныя, зялёныя, сінія паліто студэнтак з футравымі каўнярамі, шапкі і шапачкі на ражках вешалак.

Марыя Данілаўна, у чорным халаце, у валёнках, якая прымала і выдавала студэнтам паліто, павіталася з Паўлам Іванавічам. І студэнты з ім віталіся:

— Добры дзень, Павел Іванавіч!

— Добры дзень!

— Дзень добры!

Па шырокай лесвіцы ўздымаўся на другі паверх, да дэканата. Насустрач яму з лесвіцы збягалі студэнты, іншыя пераганялі яго, ветліва абмінаючы, каб не штурхнуць.

У дэканаце павітаўся за руку з дэканам, з намеснікам дэкана, з Вераю Пятроўнай, з іншымі выкладчыкамі і з сакратаркаю, якая сядзела за машынкаю і друкавала, пазіраючы то на спісаны густым почыркам лісток, што ляжаў у яе злева, то на клавішы машынкі. Дэкан і намеснік дэкана паціснулі яму руку мацней, чым звычайна, быццам гэтым поціскам гаворачы, што не забыліся, дзе яны ўчора былі, а Вера Пятроўна па-змоўніцку яму ўсміхнулася.

Павел Іванавіч распрануўся, падышоў да вакна, паклаў свой партфель на падваконнік. За вакном было ўжо бела ад снегу, снег ляжаў на карнізе і на раме вакна, аднекуль прыляцеў голуб, заскакаў на карнізе, пакідаючы на некранутым снезе крыжыкі слядоў, потым прытуліўся ў кутку, надзьмуўся, і добра было відаць яго круглае жоўтае вока з чорнаю зрэнкаю.

Павел Іванавіч, шчоўкнуўшы бліскучым замком, адкрыў партфель, выняў канспект лекцыі, якую павінен быў чытаць зараз, кніжку з закладзенымі паперкамі ў тых месцах, дзе былі падрыхтаваны цытаты. Рабіў усё гэта і адным вухам прыслухоўваўся да таго, пра што гаварылі ў дэканаце.

Выкладчыца французскай мовы скардзілася Веры Пятроўне на свайго сына — урокі вучыць не хоча, ад тэлевізара не адарваць, то было фігурнае катанне, а цяпер гэты хакей...

Літаратар Іван Фёдаравіч толькі што вярнуўся з-за мяжы, ездзіў у Японію, і расказваў, як іх там кармілі.

Выкладчык псіхалогіі, нізенькі, лысы, даваў парады выкладчыку беларускай мовы, як лячыць радыкуліт.

Ніякай сенсацыі не адбылося ні ў інстытуце, ні ў горадзе, ні ў цэлым свеце, і размовы былі будзённыя. А вось кожная важная навіна абмяркоўваецца тут горача, з запалам. Горача абмяркоўваюць тут кожны палёт касманаўтаў, спрачаюцца, ці трэба даваць прэмію вучонаму, калі яго работа не мае практычнага значэння, абураліся, калі даведаліся, што адзін выкладчык інстытута пакінуў жонку з дзіцем і ажаніўся са студэнткаю.

Павел Іванавіч падумаў, як загаварылі б у дэканаце, каб даведаліся пра Зайчыка.

— Хіба такі чалавек можа выкладаць у інстытуце, выхоўваць моладзь! — гэта сказаў бы намеснік дэкана.

— Свайго ўласнага сына судзіў! А мы да яго яшчэ ў госці хадзілі! — так сказала б Вера Пятроўна.

Павел Іванавіч паморшчыўся, быццам ужо цяпер пачуў усё гэта.

Зазвінеў званок. Выкладчыкі пабралі свае сумкі, папкі. Павел Іванавіч пакінуў партфель на падаконніку — чамусьці не любіў хадзіць у аўдыторыю з партфелем. Узяў канспект, кніжку, прапусціўшы ў дзвярах выкладчыцу французскай мовы, выйшаў у калідор.

Высокі светлы калідор быў ужо амаль пусты, бег толькі адзін студэнт, у караткаватых штанах, у цесным пінжачку, з кнігамі пад пахай. Прыкідваючыся, што не заўважае выкладчыкаў, якія выходзілі з дэканата, пабег у канец калідора, адчыніў дзверы аўдыторыі, знік за дзвярыма. У гэту аўдыторыю ішоў цяпер і Павел Іванавіч, у яго лекцыя на трэцім курсе. Зараз ён зойдзе, і ўсе студэнты ўстануць, вітаючы яго, а ён, напэўна, адчуе нялоўкасць.

«Трэба нешта рабіць... Трэба нешта рабіць...»,— думаў Павел Іванавіч, адчыняючы дзверы.



Ён разумеў, што калі не будзе дабівацца ісціны — хто такі Зайчык, чый ён сын — ці Танін, ці не,— то ўсё застанецца так, як і было, яго таямніцы ніхто не раскрые. Больш чым дваццаць гадоў прайшло, і ніхто не ставіў да яго ніякіх прэтэнзій, не шукалі яго ні Таня, ні яе радня, ніхто і не намякнуў яму, што ў яго ёсць дзіця, ды і сам ён —

вучыўся ў інстытуце, ажаніўся, абараніў дысерцатыю, і ўсё гэта, вельмі рэдка ўспамінаючы Таню, зусім не думаючы пра дзіця, якое яна павінна была нарадзіць. Ды вялікага грэху ён за сабою і не бачыў — ці ён першы, ці ён апошні меў да жаніцьбы дзяўчыну, быў блізкі з ёю, ці ён першы, ці ён апошні яе пакідаў. Мужчыны часам у кампаніях прызнаваліся ў сваіх грахах, смеючыся, гаварылі — маўляў, хто ведае, можа дзе па свеце і нашы дзеці бегаюць. Дык хіба не можа ён жыць, як і жыў, не дабіваючыся ніякай ісціны з гэтым Зайчыкам. Можа не варта пра ўсё гэта думаць, забіваць сабе галаву, трывожыць сэрца, тым больш, што паправіць усё гэта цяпер проста немагчыма. Дапусцім, ён прызнаецца, што Зайчык — ягоны сын, напіша яму ў калонію пісьмо і ўсё раскажа. Зайчыка гэтым ён не ўратуе, таму ўсё роўна прыйдзецца адбываць пакаранне, бо ён яго заслужыў. А ці ўзрадуецца сам Зайчык, даведаўшыся, што ў яго знайшоўся бацька і хто гэты бацька. Можа, яшчэ больш узлуецца, узненавідзіць Паўла Іванавіча, скажа: «А дзе ты быў раней?» Вернецца з калоніі ды яшчэ морду наб'е такому бацьку. Перавыхаваць Зайчыка, дарослага мужчыну, таксама ўжо цяжка, можа нават немагчыма, так што Зайчыку, хутчэй за ўсё, ён нічым не паможа, а сам страціць аўтарытэт, страціць работу, у сям'ю прынясе разлад. Хіба ўзрадуюцца, даведаўшыся пра ўсё, жонка, дачка? Скажуць, што ён скампраметаваў не толькі сябе, але і іх.

Павел Іванавіч разумеў усё гэта, можа, больш за ўсё ён якраз і баяўся страціць тое, што меў, але не мог выкінуць з галавы таго суда, не мог выкінуць з галавы Зайчыка. Апошні час ён думаў толькі пра гэта, і сэрца яго не знаходзіла спакою. Мінулае ўставала, як здань, чаплялася за яго, як калючыя ваўчкі за адзежу, і іх было не паскідаць, ад іх было не адчапіцца. Каб нарэшце вырашыць усё да канца, каб ведаць пэўна, хто гэты Зайчык, Танін ён ці не, Павел Іванавіч надумаўся схадзіць на завод, дзе працаваў асуджаны, знайсці яго сяброў, што жылі з ім разам у інтэрнаце, распытаць, адкуль Зайчык родам, хто яго бацькі. Скажа хлопцам, што ён прыйшоў з суда, ды яны не будуць вельмі дапытвацца, чаму ён прыйшоў. Скажа, што так трэба.

Пасля лекцый, не заязджаючы дадому, скіраваўся ён на завод. Спачатку ехаў тралейбусам, потым перасеў у трамвай. Апошнім часам ён рэдка ездзіў трамваем, і яму непрывычны беў жалезны грукат колаў па рэйках, візгат на паваротах. І пасажыры тут былі другія. У тралейбусах, асабліва першага маршруту, якім карыстаўся Павел Іванавіч, на работу і з работы ездзілі служачыя, набівалася поўна студэнтаў, а тут было больш рабочай публікі — мужчыны з абветранымі, быццам і зімою загарэлымі тварамі, з дужымі рукамі, жанчыны ў ватоўках, у камбінезонах.

Вокны ў трамваі бразгацелі, на адной шыбе, прыклеены, вісеў білецік.

Ён выйшаў на ўскраіне горада — тут стаялі драўляныя дамы, усцяж усёй вуліцы цягнуўся доўгі шэры плот, каля плота ішоў вузкі тратуарчык, не ачышчаны ад снегу, і наогул снегу на гэтай вуліцы было многа, вялікімі гурбамі ляжаў ён каля дрэў, што раслі ўздоўж тратуара, укрываў гародчыкі каля хат, і ад яго было тут светла, бела. Снег і цяпер яшчэ церусіў, рэдкі і дробны, падаў на цёмнае паліто Паўла Іванавіча, раставаў на твары.

Вуліца была адна з тых, што дажывала свой век, хутка ад яе і следу не застанецца, на яе месцы вырастуць высокія дамы, як тыя, што стаяць ужо недалёка і відаць цераз рэдкую сетку снегу — на



дзевяць паверхаў, з балконамі, з усімі выгодамі. За драўлянаю вуліцаю рос мікрараён — цэлыя кварталы прыгожых, як лялькі, дамоў, відаць былі і недабудаваныя, з доўгімі стрэламі кранаў каля іх. Каменны раён быццам наступаў на ціхую драўляную вуліцу, падыходзіў да яе бліжэй і бліжэй, каб аднойчы наступіць на яе і сцерці назаўсёды.

Павел Іванавіч падумаў, што вось людзі, шмат людзей, працуюць, будуюць заводы, дамы, цэлыя гарады, робяць і за тых, і для тых, хто мітусіцца ў жыцці, думае толькі пра сябе, прыкідваецца вельмі важнаю асобаю, лічыць, што ён нашмат вышэйшы за іншых. А вось яна — мера: калі тое, што ты зрабіў, патрэбна некаму — як кватэра, як хлеб, як штаны,— то ты і асоба, ты і не лішні на зямлі, а так...

Павел Іванавіч пайшоў у бок мікраараёна, ён ведаў, што там завод, на якім працаваў Зайчык, скора ён і сапраўды ўбачыў высокія заводскія трубы, цагляны плот, прахадную.

З прахадной выйшаў адзін чалавек, потым другі, і далей адзін за адным паваліла рабочыя — мусіць, кончылася змена. Павел Іванавіч спыніўся, падумаў, што трапіў не ў час, можа, не знойдзе цяпер на заводзе тых людзей, якія яму трэба. А рабочыя ішлі, ішлі, хлопцы — у куртках з балонні, дзяўчаты ў сініх, зялёных, чырвоных вязаных шапачках, і ўсё моладзь, моладзь...

Павел Іванавіч адышоў убок, стаяў, чакаў, калі пройдуць рабочыя. А потым ён падумаў, што пасля першай змены на работу заступіць другая, і, можа, ён усё-такі знойдзе каго з тых, што яму памогуць.

Ён стаяў, пакуль паток людзей не пачаў меншаць, пакуль з прахадной не пачалі ўжо выходзіць па адным, па два чалавекі, а пасля зноў узышоў на сцежку, якая вяла да завода...

Ён пазнаў гэту жанчыну, калі падышоў да яе зусім блізка. Спачатку падумаў: «Дзе я яе бачыў?» А потым успомніў, спыніўся, азірнуўся — тая, у зялёным паліто, была на судзе ў Зайчыка...

Жанчына, мусіць, не пазнала яго, бо прайшла паўз яго абыякава і цяпер спяшалася, грузна ставячы ногі ў чорных ботах, размахваючы рукамі.

Павел Іванавіч крута павярнуўся і пайшоў за жанчынаю, яшчэ не ведаючы, як спыніць яе, як з ёю загаворыць, але разумеючы ўжо, што гэта жанчына ведае пра Зайчыка больш, чым хто, і яму пашанцавала, што ён яе ўбачыў.

Жанчына ў зялёным паліто спяшалася, не падазраючы, што нехта глядзіць ёй у спіну, ідзе за ёю следам, што некага яна цяпер вельмі цікавіць. Яна ўсё грузна, не па гадах цяжка ставіла ногі, і з-пад яе ботаў выляталі камячкі снегу. Тут было адкрытае месца, і дзьмуў моцны вецер, несучы з сабою калючы дробны снег, але жанчына як не чула ветру, снегу, ішла, не зважаючы на іх.

Павел Іванавіч усё бліжэй падыходзіў да яе, зайшоў крыху збоку і ўбачыў сінявата жылкі на яе шчоках, губы з рэшткаю губной памады.

— Прабачце, калі ласка,— крануў ён яе за локаць.

Жанчына як спалохалася, азірнулася, паглядзела на Паўла Іванавіча з недаўменнем, з хвілінку нешта як успамінала, потым, напэўна, успомніла, але твар яе не памякчэў.

Павел Іванавіч здагадаўся, што яна пазнала яго, пазнала ў ім чалавека з суда, і насцярожылася. Ён загаварыў з ёю мякка, стараючыся адагнаць гэту насцярожанасць.

— Мне хацелася б... Мне трэба з вамі пагаварыць... Вы не хвалюйцеся, я да вас нічога кепскага не маю, я так...

Жанчына слухала, нічога не адказваючы, толькі глядзела на яго з чаканнем.

— Вы былі на судзе, калі судзілі Зайчыка, Віктара Паўлавіча... Скажыце, калі ласка, хто вы яму будзеце? — спытаўся Павел Іванавіч.

Жанчына цяпер ужо крыху паспакайнела, можа, яе супакоіла далікатнасць Паўла Іванавіча, можа, адчула, што яму самому нечага няёмка.

— Я... гэта, цётка яму... Ён мне пляменнік,— адказала яна і кашлянула, прыкрыўшы далоняю губы.

— Цётка? — перапытаў Павел Іванавіч.— Разумееце, я хацеў бы з вамі пагаварыць... Мы, савецкі суд... Мы не толькі судзім чалавека, мы хочам дазнацца — чаму чалавек стаў на такую дарогу... Зайчык атрымаў сваё, атрымаў тое, што зарабіў, але мяне як засядацеля і проста як чалавека...

Паўлу Іванавічу самому зрабілася няёмка за такую напышчанасць, за тое, што ён, як добры дэмагог, святымі словамі прыкрывае сваё, маленькае. Але жанчына гэтага, мусіць, не адчула, яна глядзела ўжо на Паўла Іванавіча даверліва і са спагадаю.

Паўз іх праходзілі рабочыя, паглядалі на сваю работніцу і на саліднага чалавека з партфелем, якія стаялі пасярод дарогі, абыходзілі іх, часам азіраліся. З трэскам праехаў матацыкліст у жоўтай касцы, у ватовых штанах, за ім віліся клубы сіняга дыму, але вецер тут жа развейваў іх.

— Мне трэба з вамі пагаварыць,— яшчэ раз сказаў Павел Іванавіч і азірнуўся, быццам шукаючы месца, куды б тут можна было пайсці, каб захінуцца ад ветру і снегу, каб застацца ўдваіх, каб ніхто не перашкаджаў ім. Але справа было адкрытае поле, некалі перакапанае бульдозерамі, узрытае гусеніцамі кранаў, а злева — кар'ер. Дарога з завода вяла ў ціхую вуліцу, на ёй было лепш, чым тут, на адкрытым месцы, але хіба на вуліцы пагаворыш з чалавекам, ды яшчэ з незнаёмым?

— У вас тут блізка няма якой-небудзь кавярні ці рэстаранчыка? — спытаўся Павел Іванавіч,— мы б там пасядзелі ў цяпле, пагаварылі,— сказаў ён.

Жанчыну такая прапанова, здаецца, збянтэжыла, яна азірнулася, быццам шукаючы, дзе ж тут якая кавярня ці рэстаран, паціснула плячыма.

— Тут, блізка, няма, у мікрараёне ёсць, але далекавата,— сказала яна няпэўна.

Павел Іванавіч глянуў у бок мікрараёна, які прасціраўся за заводам. Ён не хацеў адступацца, не хацеў пакідаць жанчыну, вырашыў угаварыць яе пайсці ў мікрараён, але тая раптам сказала:

— Ды не, не трэба ў кавярню... Я ж з работы, так апранута,— глянула яна на свае ногі ў цяжкіх чорных ботах.— Калі ўжо так... То я жыву недалёка, адна жыву, вунь там,— паказала яна ў бок новых дамоў, што падступалі да драўлянай вуліцы.

Гэта было, мусіць, самае лепшае. Калі жанчына жыве адна...

— О, то і добра,— адразу згадзіўся Павел Іванавіч.— Я вас доўга не затрымаю, вы ўжо прабачце мне, што я так...

Яны пайшлі — жанчына крышку наперадзе, Павел Іванавіч за ёю, адчуваючы і нялоўкасць, і хваляванне, яшчэ добра не ведаючы,



як пачне з ёю гаварыць, каб выпытаць самае галоўнае, самае важнае для сябе.

— Мы тут у бараку жылі, а цяпер барак знеслі, дык нам кватэры падавалі,— загаварыла жанчына, азіраючыся на Паўла Іванавіча.— У бараку ведаеце як было — на керагазах есці варылі, ваду вёдрамі з калонак насілі, а цяпер усё ў хаце, дык мы не нарадуемся.

— Дзіва што, новая кватэра — гэта добра,— сказаў Павел Іванавіч, ледзьве паспяваючы за жанчынаю, якая ішла скора і часам азіраючыся на яго, быццам правяраючы, ці ідзе ён за ёю.

— Вунь наш дом,— паказала яна на высокі новы будынак, які выступаў адразу за старою вуліцаю.— Адсюль і балкон мой відаць, трэці з краю, на чацвёртым паверсе.

Жанчына яшчэ ўсё, мусіць, перажывала радасць наваселля і дзялілася гэтаю радасцю з усімі. Павел Іванавіч кінуў вокам на тыя балконы — на адным вісела бялізна, на другім да сцяны было прыхілена нешта вялікае — мусіць, спружынавы сяннік.

Вуліцай дайшлі яны да завулка, дзе стаяў гэты новы дом і будавалася яшчэ некалькі — кран узнімаў угору бэльку, гудзеў экскаватар. Зямля тут была раскопаная, толькі да новага дома вяла ачышчаная ад снегу роўная сцежка.

Па крутой вузкаватай лесвіцы яны падняліся на чацвёрты паверх, жанчына выняла з кішэні ключык, адамкнула дзверы. У невялічкім калідоры распранулася і засталася ў сіняй вязанай кофце, у чорнай спадніцы, валасы яе былі пастрыжаны да вуха і збоку зашпілены прыколкаю.

Яна запрасіла распрануцца і Паўла Іванавіча, і ён павесіў на вешалку сваё паліто, шапку, партфель паставіў у кутку на падлогу, зайшоў у пакой.

Кватэра была аднапакаёвая, чыстая, новая, пры сцяне стаяў нікеляваны ложак, засланы блакітнаю капаю, у кутку шафа з люстэркам у дзверцах, пасярэдзіне круглы стол, накрыты абрусам, звязаным з белых нітак.

У гэтай чыстай сціплай кватэры Павел Іванавіч адчуў сябе раптам як на шыле, не ведаў, куды ступіць, куды дзець рукі, нешта як муляла яму, зрабілася прыкра, што ён прыйшоў сюды вывіжоўваць, што яму тут прыйдзецца хлусіць.

Гаспадыня падставіла яму крэсла, запрашаючы сесці, і ён сеў каля стала, адчуваючы, як трымціць у яго ўсё ў сярэдзіне і як хочацца закурыць. Убачыў на падваконніку пачаты пачак «Беламору» і хоць ніколі не курыў папярос, курыў толькі цыгарэты, узрадаваўся.

— У вас папяросы, можна ўзяць? — спытаўся ў гаспадыні.

— Ага, можна, можна,— гаспадыня скоранька падала яму пачак, збегала на кухню і прынесла карабок запалак, замест попельніцы паставіла перад Паўлам Іванавічам сподак з жоўтым беражком.

Павел Іванавіч узяў папяросу, падаў пачак гаспадыні, каб і яна закурыла, але гаспадыня адмовілася.

— Не, я не куру, гэта забыўся тут адзін чалавек,— сказала яна і засаромелася, а Павел Іванавіч падумаў, што папяросы забыўся, мусіць, яе кавалер.

Гаспадыня таксама села за стол, спіною да шафы з люстэркам, і Павел Іванавіч бачыў у люстэрку яе патыліцу з пастрыжанымі валасамі, спіну, абцягненую сіняю кофтаю.

Трэба было пачынаць гаворку, для якой ён і прыйшоў сюды, але Павел Іванавіч не ведаў, як яе пачаць. Гаспадыня таксама, мусіць,



чакала ўжо, што ён скажа. І ён пачаў, адкашляўшыся,— папярхнуўся дымам, адвык курыць.

— Я, разумееце, ішоў на завод, думаў знайсці каго з хлопцаў, якія жылі з вашым пляменнікам у інтэрнаце, але сустрэў вас. А як вас завуць? Трэба ж нам пазнаёміцца.

— Маруся мяне зваць,— адказала жанчына.

— А мяне Павел Іванавіч. Дык раскажыце мне, Маруся, я буду так вас называць, бо вы маладая, нашмат маладзейшая за мяне... Раскажыце, калі ласка, як жыў ваш пляменнік, чаму ён стаў такі...— зноў зацягнуўся дымам папяросы Павел Іванавіч.

— Што ж тут расказваць, таварыш засядацель,— уздыхнула Маруся.— Віцька — сын маёй сястры. Сястра з ім гора набралася, а цяпер і я. Гэта ж на завод яго ўстроіла — рабі, жыві, як людзі. Дык не... Каб сястра ведала — у труне перавярнулася б. Яна памерла, летась...

Павел Іванавіч лавіў у Марусіным расказе тое, што магло яму адкрыць пра Зайчыкаву радню. «Сын сястры... Сястра памерла летась... Не можа быць, каб Таня памерла, яна ж зусім маладая, маладзейшая за мяне, ну, напэўна ж, Зайчык чужы, я проста ўбіў сабе ў галаву...»

— Гэта ж такога сораму нарабіў,— гаварыла Маруся,— і скажу я вам, раней усялякае было — ну, піў, ну, хуліганіў, але каб чалавека абакрасці... Я вам скажу, усё гэта гарэлка, усё яна, ну хіба цвярозы зрабіў бы такое? Канечне, каб вы як памаглі таму дурню, то няхай бы памаглі, каб нябожчыца сястра ведала... Ды гэта дзіця мо і звяло яе ў магілу, столькі яна з ім, бедная, гора набралася... Ды і дурня таго шкода, можа той вотчым мазгі яму адбіў, каб яго магіла ўзяла. Скажыце, чаму гэта добрыя людзі паміраюць, а паганых зямля носіць...

Павел Іванавіч зноў лавіў у Марусіным апавяданні тое, што было важна для яго. Значыцца, у гэтага Зайчыка быў айчым... Што ж, Таня магла выйсці замуж... Не трэба больш цягнуць, хутчэй няхай яна ўжо гаворыць, ён жа быў гатовы да ўсяго, дык чаго ж цяпер баіцца...

— У вашага пляменніка быў айчым... А бацька... Бацька яго хто? — спытаў ён глухаватым, чужым самому сабе голасам.

Маруся правяла далоняю па абрусе, зноў уздыхнула.

— Як вам сказаць... Бацька... недзе сабакам сена косіць... Кінуў ён яе. Яшчэ як дзіця не нарадзілася, ну, а потым, хто ж добры ўзяў бы яе з дзіцем? Выйшла замуж за ўдаўца, за п'яніцу, той адну жонку звёў у магілу, і Валю нашу...

Як толькі Павел Іванавіч пачуў імя — Валя,— у грудзях у яго нешта як скалыхнулася. Ён патушыў папяросу, прыдушыўшы яе аб дно сподка, выняў з кішэні хустачку, выцер лоб, шыю. Ён ужо слаба слухаў, што гаварыла Маруся далей, у вушах у яго гучала адно імя — Валя. Ён хацеў пачуць яго яшчэ раз, яшчэ раз пераканацца.

— Дык, кажаце, вашу сястру, маці вашага пляменніка звалі Валя? — спытаў Павел Іванавіч, спытаў — і як ступіў на міннае поле: а раптам Маруся другі раз не назаве гэта імя, а раптам яна агаварылася?

— Ага, Валя,— падняла Маруся вочы на Паўла Іванавіча.

Жалезны абруч, што колькі дзён сціскаў грудзі Паўла Іванавіча, пачаў адпускацца, заласкатала, варухнуўшыся, радасць. Але Павел Іванавіч ужо баяўся паверыць самому сабе, спытаў яшчэ раз, для большай пэўнасці:

— А дзе яна працавала?

— На фанернай фабрыцы,— адказала Маруся.— І той там рабіў, Віцькаў бацька, Зайчык гэны самы. А потым завербаваўся і паехаў на лесаразработкі, так дасюль там і разрабатвае, ні слуху пра яго ні духу...

За сцяною іграла радыё, ці яно і раней іграла, ці Павел Іванавіч толькі цяпер пачуў музыку. Смяялася, бегала, нечым стукала дзіця. Паўлу Іванавічу здалося, што гэтае іграе, смяецца і бегае само жыццё, і як добра яму вярнуцца ў гэта жыццё, ведаючы, што асуджаны Зайчык зусім чужы яму чалавек, што яго нарадзіла нейкая Валя, якой ён ніколі не ведаў, ніколі ў жыцці не бачыў.

А Маруся расказвала:

— Ён жа так біў Валю і Віцьку біў, яшчэ малога вучыў піць гарэлку, дзіцяці пяці гадоў не было, а ён нальe яму ў шклянку і крычыць: «Пі, гад, усё роўна будзеш піць!»

«Хто гэта каго біў?.. Ага, той удавец біў Валю і Віцьку біў, вучыў піць гарэлку... Божа мой, колькі ў нас яшчэ дзікасці... Бедная жанчына...»

— Я тады яшчэ малая была, Валя была нашмат за мяне старэйшая, але і то помню, як яна да нас прыбягала ўся збітая. Яшчэ як мама жывая была, дык угаварвала Валю, каб кінула яго, дык не кідала, галаву апусціць і будзе казаць: «Няхай б'е, мне ўсё роўна. Той раз ударыў, а век будзе балець...» Гэта яна пра таго, пра Віцькавага

бацьку, што кінуў яе. А красівы быў мужчына, я вам скажу, і любіла яго Валя, а таго п'яніцу і праўда як ты кінеш, калі двое дзетак і ад таго з'явілася, дзеўка цяпер то ўжо вялікая, шаснаццаць гадоў, а хлопцу дзесяць, як сястра памерла — у прыют аддалі, бо пры такім бацьку і з гэтага невядома што вырасла б. Я цяпер думаю — ці не забраць мне яго з прыюта, каб са мною жыў, раней то кватэры не мела, а цяпер вось далі кватэру, ды не ведаю, ці будзе яму ў мяне лепей, як у прыюце, там за ім догляд, там вучыцца, а тут я на работу пайду, а ён будзе адзін бадзяцца...

Павел Іванавіч ніяк не мог прывыкнуць да сваёй радасці, але ён ужо саўладаў з сабою і зноў слухаў Марусю, тым больш, што цяпер не баяўся яе слухаць, кожнае яе слова цяпер вяртала яму спакой і ўпэўненасць. Ён цяпер шчыра шкадаваў тую Валю, шкадаваў і таго хлопца, Зайчыка, каб мог, то быў бы рады яму памагчы. Ён успомніў ухмылачку Зайчыка, як той ухмыляўся ў судзе, што гэта было — ці бравада хулігана — мне, маўляў, нічога не страшна,— ці хвароба чалавека, які з дзяцінства атручаны алкаголем, якога з дзяцінства моцна білі. Дзе канчаецца адно, дзе пачынаецца другое, дзе хвароба, а дзе распушчанасць, што з чаго пачынаецца?

Шыбы пачалі сінець, кароткі зімовы дзень канчаўся. Маруся ўстала, запаліла святло, і Павел Іванавіч падумаў, што яму трэба паднімацца, ісці дахаты, што позна ўжо, на вуліцы сцямнела. Успомніў, што не папярэдзіў жонку, яна недзе чакае, не ведае, дзе ён дзеўся. Звычайна, калі ён дзе затрымліваўся, дык папярэджваў альбо званіў, але тут няма тэлефона.

А Маруся зноў села на сваё месца і зноў пачала расказваць. Яна, мусіць, была з тых жанчын, якія любяць пагаварыць, якіх, калі ўвойдуць у ахвоту, і спыніць цяжка. А можа проста ў яе набалела, накіпела, а паспавядацца няма перад кім, жыве адна. Яна расказвала то пра сястру, то пра Віцьку, то пра сябе — як Віцька ў школе кепска вучыўся, як Валя гаравала з ім, як выпіналася, каб накарміць і адзець дзяцей, бо той п'яніца ўсё прапіваў.

— Ну, а таго, Віцькавага бацьку, не шукалі? — спытаў Павел Іванавіч ужо хутчэй для таго, каб падтрымаць размову, каб паказаць Марусі, што ён слухае.— Аліменты трэба было спагнаць.

Маруся памаўчала, гледзячы ўбок, на засланы блакітнаю капаю ложак, пацінула плячыма.

— Што ж тут шукаць... Калі чалавек уцякае, то начорта яго шукаць. Ды яны з Валяю былі не запісаныя, калі дзіцяці прозвішча давалі, то Валя сведкаў брала, пацвердзілі суседзі, што Зайчык жыў у яе і ўцёк, паехаў. А калі б яго шукаць, то не столькі тых аліментаў было б, як валакіты. Я вам скажу, час быў такі, пасля вайны, мужчын пабіла, баб многа засталося, дзевак нарасло, усім замуж хацелася, каторыя дзеўкі і самі на шыю вешаліся, адбівалі мужыкоў. Хаця, як паглядзіш, дык і цяпер свет не лепшы, жэняцца, разводзяцца, мужчыны многа п'юць. І ў мяне ёсць адзін, сватаецца, але я баюся звязвацца, бо выпівае.

Павел Іванавіч падумаў, што, мусіць, гэты чалавек і пакінуў тут пачак «Беламору», які ляжаў цяпер на стале, а змяты акурак — у сподку з жоўтым беражком.

Трэба было ўставаць, ісці дахаты. Што сказаць гэтай жанчыне на развітанне, чым закончыць размову? Падзякаваць за тое, што расказала, папрасіць прабачэння за тое, што адабраў у яе столькі часу? Яна ж з работы, недзе галодная, Павел Іванавіч сёння таксама не абедаў і раптам адчуў, што ён моцна хоча есці.



Дачакаўшыся, калі Маруся прыпынілася ў сваім расказе, ён устаў. І Маруся паднялася з крэсла, уздыхнула. Здаецца, ёй было нават шкода, што гэты салідны чалавек зараз пойдзе ўжо.

— Дык я падумаю, можа што ўдасца зрабіць для вашага пляменніка,— сказаў ён.

Маруся згодна кіўнула галавою.

— Дзякуй вам, дзякуй, яно б, канечне, добра... Каб сястра ведала, у труне перавярнулася б.

Яна пайшла ў калідорчык, зняла з вешалкі паліто Паўла Іванавіча, падала яму. А той апранаўся і адводзіў ад Марусі вочы, бо ведаў, што нічога не зможа зрабіць, што Зайчык будзе адбываць пакаранне і дай бог, каб калонія пайшла яму на карысць.

Маруся ўскінула на галаву хустку, апранула паліто — сабралася праводзіць Паўла Іванавіча.

— Не трэба, Маруся, заставайцеся дома, я і так вас натаміў сваім візітам,— угаворваў яе Павел Іванавіч, але Маруся не згадзілася.

— У нас на лесвіцы лямпачка не гарыць, ды і каля дому дарогу яшчэ трэба ведаць, я правяду вас, хоць да вуліцы,— сказала яна.

На лесвіцы сапраўды было цёмна, і Маруся пайшла наперад.

— Дайце руку,— сказала яна Паўлу Іванавічу, у нас лесвіца крутая, яшчэ спатыкнецеся.

Павел Іванавіч падаў руку, і Маруся ўзяла яе. Рука ў Марусі была цёплая і крыху шурпатая, яна моцна трымала Паўла Іванавіча і вяла яго за сабой, як сляпога.

На вуліцы было светла ад снегу, ды ён і яшчэ ўсё сыпаўся — кволы, дробны. Наперадзе гарэў агнямі горад, і адтуль чуўся гул машын, зарыпеў, мусіць, робячы кальцо, трамвай. Справа, там дзе ішло будаўніцтва, гарэў яркі пражэктар, сняжынкі круціліся каля яго, і здавалася, што яны не сыплюцца ўніз, а ляцяць угору. На сцяне, складзенай з цэглы, працавалі рабочыя, бліскала электразварка.

Маруся выпусціла руку Паўла Іванавіча, пайшла наперад яго па сцежцы, вакол якой ляжаў яшчэ будаўнічы друз.

— Гэта ў нас цяпер непарадак,— сказала яна,— а як скончаць тыя дамы, дык усюды асфальт пакладуць, сквераў насадзяць, ліхтары паставяць, не горш будзе, як у цэнтры.

— Да, раён тут харошы,— згадзіўся Павел Іванавіч.— Ціха ў вас, і паветра чыстае, не тое што ў цэнтры, дзе столькі машын.

— Жыць бы цяпер ды жыць,— азірнулася Маруся на Паўла Іванавіча.— І хлеб у людзей ёсць, і да хлеба, і кватэр ужо столькі набудавалі, ды вось людзі самі псуюць сабе жыццё. У адных розуму не хапае, у другіх совесці.

Яны падышлі ўжо да драўлянай вуліцы, якая была падобна на вясковую, недзе нават, як у вёсцы, забрахаў сабака.

— Што ж, дзякуй вам, дарагая Маруся,— спыніўся Павел Іванавіч і падаў руку на развітанне.— Дзякуй за ўсё, што вы мне расказалі, я вам вельмі ўдзячны.

Маруся моцна, па-мужчынску адказала на поціск, потым схавала рукі ў кішэні паліто.

— Няма за што дзякаваць,— сказала яна.— Гэта вам дзякуй. Калі ўжо што зможаце,— пачала яна голасам просьбы, потым нечакана ўскінула на Паўла Іванавіча вочы, твар яе пацвярдзеў.— А можа... Можа і не трэба нічога рабіць... Няхай пасядзіць, можа, розуму набярэцца, няхай ведае, што калі напаскудзіў, то і адплаціць за гэта трэба. Можа на карысць яму пойдзе тая калонія, піць адвыкне.

За час, што хадзіў у засядацелях, Павел Іванавіч шмат чаго на-

глядзеўся, не раз бачыў, як бацькі, сваякі са скуры вылузваліся, каб абяліць сваё дзіця, каб выгарадзіць ад пакарання. Сын адной дамы ўдарыў нажом чалавека, дык тая дама зусім сур'ёзна даказвала, што гэта пацярпеўшы сам сябе ўдарыў.

Павел Іванавіч пацiснуў Марусі руку вышэй локця, сказаў:

— Не ведаю я... сам не ведаю, як лепей. А вам... Вам я жадаю ўсяго найлепшага. Каб шчасліва жылі вы ў вашай новай кватэры, каб чалавек, што да вас сватаецца, кінуў выпіваць.

Маруся засмяялася.

— Каб вашы словы ды богу ў вушы.

— Ну, бывайце здаровы,— яшчэ раз развітаўся з ёю Павел Іванавіч.

І пайшоў, пайшоў хутчэй да трамвая, які, чуваць было, недалёка грукаў па рэйках.

З трамвая ён перасеў у тралейбус, выйшаў з тралейбуса на сваім прыпынку. У пад'ездзе па прывычцы адчыніў паштовую скрынку — яна была пустая, мусіць, жонка ці дачка забралі пошту. Лёгка падняўся на свой чацвёрты паверх, адчыніў сваім ключом дзверы.

Дачка іграла на піяніна, жонка сядзела на канапе, падсунуўшы блізка да сябе таршэр, чытала англійскі часопіс.

— Дзе ты ходзіш, дзе ты прападаеш? — напусцілася яна на Паўла Іванавіча, як толькі ён увайшоў у пакой.— Чакаем, чакаем, вячэраць без яго не садзімся.

— У інстытуце быў, заняткі праводзіў. Семінар,— адказаў ён.

— Дык не мог пазваніць? І што гэта за заняткі такія вечарам, табе заўсёды больш чым каму трэба. Ірачка! — паклікала яна дачку.— Вячэраць!

Жонка бурчэла, але ён не звяртаў на гэта ўвагі — жонка бурчэла, шкадуючы яго.

Ён еў доўга і шмат, ніяк не могучы ўталіць голад, ніяк не могучы наесціся. Жонцы гэта падабалася, і яна падкладала і падкладала яму ў талерку. Сама жавала і расказвала пра свае школьныя навіны, успамінала, як прайшоў дзень яе нараджэння.

— Па-мойму, някепска ўсё было, весела, толькі Міцька прывалок гэтага барадатага.

— А па-мойму, ён сімпатычны,— сказала дачка, беручы са спадачка пячэнне.

— Сімпатычны,— перакрывіла жонка.— Там за барадою і не відаць, сімпатычны ці не сімпатычны, і наогул табе яшчэ рана прыглядацца да мужчын.

— П-ф,— фыркнула дачка.— У нас у класе ўсе дзевачкі дружаць.

Жонка глянула на Паўла Іванавіча, сашчапіла рукі і паківала галавою. Гэта значыла — вось, паглядзі, якія там дзевачкі, якi цяпер свет пайшоў.

Пасля вячэры ён сказаў жонцы, што хоча прыняць ванну. Яна прынесла яму чыстую бялізну, вялікі махровы ручнік.

Ён шараваў мачалкаю сваё гладкае белае цела, якое пачало ўжо аплываць тлушчам, і яму здавалася, што ён змывае, счышчае бруд не толькі са скуры, але і з душы, што яму лягчэе, робіцца вальней. Ён доўга паласкаў рот, здавалася, яшчэ ўсё адчуваў пах папяросы, якую сёння выкурыў, потым стаяў пад душам, зганяў рукамі ваду з цела, цёр далонямі твар. У ваннай набралася пары, зусім запацела люстэрка, што вісела над умывальнікам.

Потым ён доўга расціраў цела махровым ручнікам. Апрануўся, прычасаў вільготныя валасы, з жалем заўважаючы, што іх стала апошнім часам менш, асабліва спераду, пабольшалі, палезлі ўгору залысіны.

Свежы, быццам толькі што на свет нарадзіўся, ён увайшоў у залю, узяў сённяшнія газеты, якія ляжалі на нізкім століку, сеў у сваё крэсла.

Ён гартаў газеты, спыніўся на артыкуле — «Вышэйшая школа, яе задачы». Чытаў, дзе згаджаўся, дзе не згаджаўся з аўтарам, ужо дачытваючы артыкул, раптам успомніў прахадную завода, жанчыну ў зялёным паліто — Марусю,— яе новую кватэру. Усё ўспомнілася, як праз туман, як праз сетку дробнага снегу, які сыпаўся сёння цэлы дзень, круціўся каля пражэктара, і здавалася, што ён не сыплецца ўніз, а ляціць угору. Быццам гаварыў ён з Марусяю, сядзеў у яе кватэры не сёння, а некалі, даўно-даўно, і наогул, ці ён гэта хадзіў туды, ці ён сядзеў там? У грудзях у яго былі лёгкасць і пустата, як у чалавека, які ачуньвае пасля хваробы.

— Можа, тэлевізар паглядзім? — падышла да яго жонка.— Сёння пачынаюць паказваць нейкі шматсерыйны мастацкі фільм. А свежанькі ты, як агурчык,— пагладзіла яна яго па шчацэ, нахілілася і пацалавала ў залысіну.

Ён узяў яе руку, пацалаваў, і гэта значыла, што настрой у яго добры, што ў яго ўсё нармальна, што ў хаце ў іх спакой і лад.

Заміргаў уключаны жонкаю тэлевізар. Дачка таксама прыйшла са свайго пакоя, прысела на ручку крэсла каля бацькі, абняла яго за шыю цёплаю рукою.

Ён нахіліў галаву дачкі бліжэй да сябе, пацалаваў дачку ў шчаку — шчака ў дачкі была гладкая, як шаўковая. І тут жа ўспомніў, быццам зноў адчуў дотык, шурпатую Марусіну руку, як вяла яна яго за сабой па цёмнай лесвіцы. Цяпер, здалося яму, гэта было вось-вось, толькі што.

На экране тэлевізара замільгалі кадры — нехта, апрануты ў цывільнае, страляў у немца, другі цывільны кідаў немца ў бяздонне, маладая прыгожая жанчына цэлілася ў некага з пісталета, і руля пісталета было скіравана проста на гледачоў, рваліся бомбы, гулі самалёты.

Павел Іванавіч любіў фільмы пра вайну, любіў і дэтэктывы, і цяпер ён пачаў глядзець на экран, чакаючы цікавага. Недалёка ад яго, на канапе, сядзела жонка, яна адзела акуляры, каб лепей было відаць, побач з сабою ён адчуваў цёплы бок, цёплую руку дачкі.

І раптам Павел Іванавіч заўважыў — ён кепска сочыць за тым, што адбываецца на экране. Ён не разумее, што зрабіла дзяўчына, якую цягнуць двое немцаў. Ён не пачуў, што сказаў хлопец у берэце. Чаго гэта засмяяліся жонка і дачка?..

Ну, канечне, ён глядзіць тэлевізар, а думае зусім пра другое... Таня... Таня... Яна зноў нібы стаяла перад ім — у белым фартушку, з талеркаю чырвонага баршчу, азірнулася на некага і скоранька сказала: зараз, зараз, зараз...

Паўлу Іванавічу захацелася крыкнуць на яе:

— Адкасніся!

...На экране рваліся бомбы.





**мікола арочка**

*

ПАЭЗІЯ

*

■

## Балада пра няскошанае жыта

За сялом адстрэльвалася жыта.
Тое жыта ўсё было прашыта
Лютай незгаворлівасцю куль:
Сто — туды, адна — адтуль.
Хоць адна, але касіла чыста.
Стаў, як крэпасць, жытні астравок.
І да гэтай крэпасці фашысты
З хат павыганялі мацярок.
Косы — ў рукі.
                    Гора, ваша, маткі,
Тупае пракосам...
                    «Шнэль!» — Хутчэй...
Выглядаюць пільна аўтаматы
Упрытык з-за матчыных плячэй.
Не паспеўшы, сіняе, наліцца,
Жыта шоргала, як восенню трысцё.
І хаваў за бабскія спадніцы
Рыжы гад нягоднае жыццё.
Спатыкалася каса ў матулі,
І касільна млела у руцэ,
Калі біла ўзгневаная куля,
За спіной выхопваючы цэль.
Асцярожна біла, бездакорна.
Колькі было вытрымкі ў байца,
Каб яшчэ з апошняга патрона
Куляй не крануць касца!

■

Сярод дня нахапілася ноч.
Маці комін закрыла юшкай.
На разеткі павесіла пару галош.
І ўжо нешта у хусткі,
                    ў радзюжкі
Даставала у куфры — са дна;
А калі адступілі грымоты
І дрыготкія шыбы акна
Загарэліся полымем жоўтым,
Яна бегла ў навальны мрок,
Спатыкалася слепа аб вецер.
Яе ватнік насквозь прамок,
Аглушыў сіні бляск над павеццю.
Ой, карову хутчэй — з-пад страхі!
Дзесьці браўся водсвет пажару.
Ішла ў дом —
                    на плячах цяжкіх
Тлеў гарачы абломак хмары.

## Цень маста над Волхавам

Над шырокай вадою цямнее цень —
Дубовыя па́лі ўздымаюцца з хваль,
І шапкі аблокаў, сплываючы ўдаль,
Дрыжаць у адбітку зубчатых сцен.
Гайдаецца зданню ў вадзе насціл.
Як цяжка асеў на палі-слупы
Счарнелы той мост
                    без парэнчаў-пярыл,
Дзе Грозны калісь наўгародцаў тапіў.
Пяць чорных нядзель
                    мне з глыбіняў крычыць.
У звон вечавы б'е бруя.
«Званам не званіць,
Вечу не быць.
Правіць буду я».
Той мост, як пагост,
Як ганьба вякоў,
Прастаяў аж да самай вайны.
У вадзе —
                    толькі цені прырэчных быкоў
Ды рэха стагоддзяў калышуць званы.
Золатам чыстым залоцяць майстры
Галовы саборных веж.
Аднаўляць не рашыліся мост стары.
Без маста таго, знаеце, лепш.

■

Відаць, не дайсці мне
                    да ўнутранай згоды.
Стаю перад націскам ста антытэз.
Да цябе я — на споведзь,
                    матуля-прырода,
Да цябе — за парадаю,
                    лес.
Я ваш гадаванец, падпаса́к худы,
Відаць, і тады ўжо крыху безгаловы.
На грудзях,
На руках,
Нібы воспа, сляды —
З тых дзён, калі лазіў
                    да гнёзд каршуновых.
А колькі тут голас зрываў на ваўкоў!
Не думаў і сам я,
                    калі галёкаў,

Што гэта жыццё
між бяроз, саснякоў
Дае толькі першую горыч урокаў.
Ваўкі сёння зводзяцца —
хоць ты завозь!
Ды толькі пабачу,
як нехта бядуе,
Заўважу настырныя вушы ці поўсць —
Святая наіўнасць ва мне бунтуе!..
Разважце мой клопат,
узлескі, бары,
Даруйце, што сын ваш,
як вецер, бяспутны,
Калісьці пакінуў ваш дом без пары,
Каб біцца ў пытаннях
адвечна-пакутных.

## Зяльвянка

Мне страшна, Зель, твае вады,
Твае бурлівае хады,
Але панадна кліча плынь
Да віравых тваіх глыбінь.
Гляджу ў прадонне —
ў свет рачны,
І ў промнях добра мне відно,
Як уздыхае ціха дно,
Калышуцца лілеі-плывуны
І рукі водарасцяў, траў
Гайдаюцца ў затоках перапраў...
Нагбом, прыпаўшы, п'ю раку.
Я п'ю,
а смагі не ўталіць,
Калі на самым быстраку
Ва мне, у памяці, баліць.
На павароце ў трасціне
Разгульна плюхаюць язі...
Дзе вы?
Краніце пальцамі мяне.
Рака, хоць рэха данясі
Усіх, хто захлынуўся у агні,
Хто тут кідаўся ўплаў...
Варушаць млявыя ліні
Густое зелле перапраў.
Пракос дагнаўшы да вады,
Касцы затопяць косы ў плынь
І доўга,
пераходзячы брады,
Воч не адводзяць ад глыбінь.





**іосіф скурко**



ПАЭЗІЯ



## Радасць

Я радуюся сонцу і дажджу,
Блакіту неба і азёрнай хвалі
І, быццам заварожаны, гляджу
На полымя рабінавых караляў.

Я рад каханню і вяселлям рад,
Сяброўскім наваселлям рад без меры,
І кожны раз мне радуюць пагляд
Іх новыя, вясёлыя кватэры.

Я рад радзінам і хрысцінам рад,
Бяседзе дружнай, цеснаму застоллю.
Сустрэць сяброў шчаслівы, чым багат,—
Прыветным словам, чаркай, хлебам,
соллю.

Хачу з людзьмі жыць нібы з братам
брат,
І радасці, скажу, не знаю болей.
Я многаму на свеце вельмі рад...
Адно — бядзе чужой не рад ніколі.

■

Як дзіця, я шчыра ў казкі веру
І чакаю цуда дзень пры дні.
Прыйдзеш ты, нясмела грукнуць дзверы,
І з парога смех твой зазвініць.
Не прыходзіш.
А чаму — не знаю.
Мо віною вецер і слата...
Пэўна, ў казках толькі так чакаюць,
Так упарта і няўцешна так.

Змерклася.
У вецці вербным
Заблудзіў рагаты маладзік,
Ты прыйдзі, каб я у цуды верыў,
Каб у казкі верыў, ты прыйдзі.



*вольга мамойка*



ПАЭЗІЯ



Клічу вас, ветразі радасці!
Хай не ўбаўляецца сіла!
Сонца не траціць прывабнасці,
Палячы слабыя крылы.

Бурай развеецца дымнае,
Бруднае знікне ў палонцы,
Веснае, летняе, зімняе
Цягнецца к вечнаму сонцу.

Сонца раздзеліць без прагнасці
Ўсё, што для нас накапіла.
Клічу вас, ветразі радасці.
Радасці лёгкія крылы!





ПРОЗА



*генрых далідовіч*

# ТРЫ АПАВЯДАННІ

● Мал. **У. ПАШЧАСЦЕВА**

## СУСТРЭЧА

— Айда, Вулкан! — сказаў Алег сабаку і скінуў з яго ашыйнік.

Сабака радасна заскакаў, піхнуў дужымі нагамі Алега ў грудзі, лізнуў цёплым языком твар. Пасля выскачыў за варотцы і памчаўся кудысьці, адурнелы ад радасці.

— Хадзем,— сказаў Алег і Варлену.

Варлен стаяў на чужым двары і ніяк не мог прызвычаіцца, што ён упершыню ў жыцці абуў тоўстыя валёнкі, апрануў кароценькі кажушок і ідзе на паляванне. Не з кійком ці з якім самапалам, а з выдатнай бельгійскай стрэльбай.

— Хутчэй у лес!—сказаў Алег.— Нішто так не люблю на свеце, як паляванне. Я дзень і ноч сядзеў бы ў сасняку і ельніку.

— Ты — дзіця вёскі, прыроды, а я, брат, усе свае дваццаць тры пражыў у горадзе. Я — сын вуліцы, хадзіў толькі на каток і стадыён.

— Не зраўняць, стары, твае каткі, стадыёны з нашымі лясамі, рэчкамі, з нашай Налібоцкай пушчай,— сказаў Алег,— ты многа чаго не бачыў, не адчуў. Палюбуйся во нашым харастві, у кіно ці па тэлевізары таго не ўбачыш.

— Пакажы,— папрасіў Варлен.

— Хараства не паказваюць, яго знаходзяць самі і любуюцца. Здолей адкрыць яго сам.

— Ты бачыў фільм, у якім робат намагаўся зразумець пах кветак? Не вытрымаў.

— Ты ж не робат,— усміхнуўся Алег,— у інстытуце вучышся, кніжак многа чытаеш, пра эстэтыку часта гаворыш.

— І іду найбольш ад прачытанага, некім сказанага,— падказаў Варлен,— я не быў яшчэ ў такой сітуацыі, дзе трэба было прыняць толькі сваё рашэнне. Я не адкрываў для сябе нечага незвычайнага. Ішоў на выстаўкі і ўжо загадзя ведаў, што́ ўбачу там, хто́ гэта стварыў.

— А я быў на валаску ад смерці,— сказаў Алег,— калі-небудзь раскажу... І яшчэ прыйду ў лес — невядомую кнігу чытаю.

Варлен з нейкім недаверам паглядзеў на сябра, усміхнуўся.

Ішлі яны на лыжах напрасткі да лесу, уперадзе іх насіўся, вынюхваў нешта, вяртаўся назад радасны сабака.

Да першых кустоў было блізка, можа гэта толькі і здавалася: вакол раскінулася роўнае заснежанае поле, толькі на пагорках ляжалі вялізныя, яшчэ не замеценыя снегам, намерзлыя за зіму валуны.

Было ціха, сыпаўся снег. У нагах трымалася прыемнае цяпло, крышку шчыпаў мароз за вушы і шчокі. Варлен адчуў, што яму добра, пахваліў сябе за гэтую паездку.

Алег маўчаў, ехаў на лыжах з горкі. Варлен таксама пачаў думаць пра сваё.

Для яго, гарадскога жыхара, усё было рамантычна: цёплыя няўклюдныя валёнкі, самаробныя бярозавыя лыжы, бельгійская стрэльба, гэтае поле, блізкі лес, паляванне. Дома бацька смяяўся: куды ты паедзеш, ты ж не адрозніш ката ад лісы, сабакі ад ваўка.

«Сапраўды яны, вясковыя, «дзеравеншчына», любяць і разумеюць прыроду».

Варлен праверыў, ці не вытрасліся з яго кішэні патроны. Намацаўшы іх, яшчэ больш павесялеў, нечаму зарадаваўся.

Ён быў шчаслівы, што сустрэў Алега, добрага і таварыскага хлопца, сышоўся з ім. Алег прыехаў да іх, на завод, гады чатыры назад з вёскі нясмелы, старамодны. Ён усё здзіўляўся, чаму ў скверах у ліпені не выкасілі сена, чаму ў вялікіх дварах не робяць сабе жыхары агароды. Ён і цяпер, пасля не аднаго году працы ў горадзе, наведвання тэатраў, кіно, стадыёнаў, застаўся ўвішным селянінам, толькі ўжо ў рабочым камбінезоне.

Варлен прыехаў цяпер другі раз у Алегаву вёску; першы раз прыезд яго не быў асабліва цікавы: яны папілі на вялікдзень гарэлкі, паспалі і з хворай галавой вярнуліся ў горад.

— Алік хацеў з намі ехаць, але я яго не ўзяў,— сказаў Алег.— Не цярплю яго: піжон і задавака.

— Я яму калі-небудзь наб'ю рыла,— адказаў Варлен.— Не было таго дня, каб ён каму не нашкодзіў. Цэлы тыдзень мне на нервах іграе.

— Ён даўно просіцца ўжо. Я такіх паганых людзей яшчэ не бачыў. Учора так нашага майстра аблаяў, што ледзь не заплакаў Адамовіч.

— Адамовіч нас усіх падняў і трымае,— заўважыў Варлен.— Гэты стары — добры служака Максім Максімыч.

— Гэта з аўтарамонтнага? — спытаў Алег.

— Сябар Пячорына.

— А, ты ўсё пра пісацеляў. Я, брат, даўно ўжо не чытаў. Прападаю за тэлевізарам ці з бабамі ў кіно хаджу. Чытаю толькі пра спорт. Думаю з гарэлкай завязаць. Пайду да цябе ў актывісты. І другіх буду да кніжак, сумленнасці заклікаць.



— Давай,— усміхнуўся Варлен.— Не заблуджуся адзін я ў вашым лесе?

— Не, які цяпер лес. Высеклі, выразалі, увесь у дарогах. Любая выведзе да вёскі.

— Ты як стары дзед,— усміхнуўся Варлен.

— Дома я, брат, адчуваю сябе на сваім месцы і гавару толькі па-свойму.

Ля першых кустоў сабака адразу ўзяў след, пабег шукаць зайца. Ён хутка знік і заяхкаў у ціхім заснежаным лесе.

— Ці не выгнаў ён ужо касога? — спытаў Варлен.

— Усё можа быць. Калі трапіў на соннага, то сюды выганіць. Пад самую стрэльбу.

— Я толькі пра гэта ў Прышвіна чытаў,— сказаў Варлен.

— Во табе Прышвін, забудзь пра кніжкі.

— Тады пакажы, куды мне ісці,— папрасіў Варлен,— хачу сам папаляваць, без тваіх падказак. Так сказаць, чаго сам варты...

— Давай. Ідзі гэтай палянкай, выйдзеш на дарогу. Там стой, чакай зайца. Калі хочаш, у нас ужо гэта нагуляная камбінацыя.

— Тады шчасліва,— сказаў Варлен.

— Не забі майго сабаку,— сказаў Алег,— ён добрай каровы варты.

Варлен аж захваляваўся, што ідзе адзін па незнаёмым лесе, нясе ў руках зараджаную стрэльбу.

Было вельмі ціха, светла і хораша. Дрэвы стаялі спакойныя, ледзь-ледзьківалі вяршалінамі, за імі высілася яснае марознае неба.

«Сапраўды, хораша ў лесе! Не дзіва, што бацька аж млее па паляванні і рыбе».

Паблізу пачуўся брэх сабакі.

Варлен прыпыніўся і пачаў пільна ўглядацца і ўслухоўвацца.

Высокі, не па зіме рыжаваты заяц выскачыў нечакана. Варлен разгубіўся; не паспеў ні падняць стрэльбы, ні ўзвесці курка. Ён утаропленa глядзеў на зайца і сабаку, што несліся на яго, прыбліжаліся з кожным імгненнем.

Заяц, заўважыўшы Варлена, гойснуў убок, у малады ельнік, за ім скочыў і сабака. Праз яшчэ адно імгненне іх не стала відаць, толькі чуўся і аддаляўся залівісты брэх сабакі.

У Варлена аж закалацілася сэрца, што так нечакана прыплыло і выслізнула з рук шчасце.

«Які я разява! Зайца з-пад носа ўпусціў. Пахваліўся б перад бацькамі і сябрамі, прывалок бы ў сумцы, а так кусай губы».

Сабачы брэх быў ужо далёка, хутка яго стала зусім не чуваць. Варлен закінуў стрэльбу за плечы і падаўся ў той бок, куды толькі што шуснулі заяц і сабака.

Варлен ішоў па іхніх слядах, задыхаўся і прыпыніўся, калі ўбачыў мноства свежых слядоў — шырокіх звярыных і вялікіх людскіх.

«Ці не карова тут якая бегала?»

Варлен увайшоў у малады гушчар, заблытаўся ў лапах і згубіў сабачыя сляды.

Нечакана ля невялікага ядлоўцавага кусціка ён убачыў на снезе выбітае і вытаптанае месца, свежыя чырвоныя кроплі крыві.

Ён падумаў, ці не здарылася тут якая лясная трагедыя: можа ваўкі загналі сюды карову, каня ці сабаку і расправіліся з сваёй ахвярай.

Кроплі крыві цягнуліся ў гушчар. Цікавасць авалодвала Варленам.



Ён зняў з плячэй стрэльбу, узвёў курок, прайшоў сотню метраў, убачыў усё — і жахнуўся.

Высокі мужчына, у вушанцы, з закасанымі па локці рукавамі кашулі, дыміў цыгарэтай і драў з падвешанага цяляці скуру.

Пад'ехаўшы бліжэй, Варлен убачыў, што гэта ніякае не цяля, а ласяня. Паблізу пысай уверх ляжала адрэзаная акрываўленая яго галава.

Пад лыжамі Варлена хруснула галінка.

Мужчына імгненна ткнуў у сцягно ласяняці нож, схапіўся за стрэльбу, што стаяла ля яго, і тут жа нацэліўся Варлену ў лоб.

«Мне б такой спрытнасці»,— падумаў Варлен і чамусьці не збаяўся, што ён цяпер таксама на валасок ад смерці, можа атрымаць зараз жменю шрацін.

Гэта быў жвавы і здаровы браканьер. Чуў Варлен пра іх з бацькавых і Алегавых расказаў, чытаў у газетах, бачыў у кіно, а цяпер вось сам быў вока на вока з жывым.

Мужчына быў маладых год, чыста выгалены на нядзелю, прыгожы.

— А,— сказаў ён і апусціў стрэльбу, паставіў яе на месца,— думаў, што ласіха. Можа прапароць ці забіць капытамі.

Варлен толькі цяпер адчуў, што яго маглі забіць. Стала холадна.

— Палюеш? — мужчына выплюнуў з роту папяросу і ўзяў у рукі нож.— Нешта я цябе не ведаю, сябра, скуль ты такі паляўнічы?

— З Мінска.

— Ого! Ці не інспектар ты які? Не? Зайздросціш? — ён задаволена і самаўпэўнена кіўнуў на ласяня.— Апусці стрэльбу, хадзі, сябра, выцягні мне з кішэні папяросу.

Варлен адчуў штосьці нядобрае, але падышоў, намацаў і выцягнуў з кішэні штаноў мужчыны замусоленую пачку папярос, аблапаны карабок запалак, часцінкамі якога гаспадар, мусіць, пасля яды выкалупваў з зубоў мяса. Мужчына адводзіў жылістыя, усе ў крыві рукі, падстаўляў патрэсканыя ад холаду губы.

Варлен усадзіў яму ў зубы папяросу, прыпаліў і сумеўся ад вачэй мужчыны — бяздонных, на дзіва халодных і рашучых.

«Такое ласяня знішчыў, не баіцца ні штрафу, ні турмы. Яго трэба затрымаць, прымусіць здаць гэтую тушу»,— падумаў Варлен, аглядаючы шырокія плечы, тоўстыя рукі мужчыны.

— Упаляваў што? — мармытнуў той.



— Не,— сказаў Варлен і адчуў, што яму з гэтым здаравяком не справіцца, самога скруціць, звяжа і пакіне на марозе тут.

— А мне во пашэнціла, лупянуў з першага стрэлу, толькі капыты ўверх задрала. Матку ледзь адагнаў. На зіму на катлеты будзе. На табе кавалак, я не скупы,— ён размашыста чахнуў з сцягна вострым нажом ладны кавалак і падаў Варлену.— Не хочаш? Бяры: дармовае і не трэба ног біць. Бальшага не ўпалюеш, калі і затаўчэш якога зайца, то не пажывішся вельмі: зайцы цяпер худыя.

Варлен працягнуў руку ўзяць мяса, але тут жа апусціў яе.

— Дзівак, першы раз такіх бачу,— здзівіўся мужчына.— Ці сорамна стала? Не бойся: не крадзенае. А ў лесе нарасце яшчэ, нас ці будзе, а іх развядзецца...

Варлен адмовіўся.

— Як хочаш,— гаварыў мужчына, падкінуў на руцэ мяса, быццам узважыў яго, і кінуў на галаву ласяняці, зацягнуўся.— Ну, тады ідзі, ганяй зайцоў, а то мне холадна, мерзне на холадзе спіна...

Варлен здзівіўся смеласці, нахабнасці браканьера і паслухмяна паплёўся адсюль.

— Гэй, сябра! Толькі ж ты будзь разумны: ні я цябе, ні ты мяне не бачыў...

Варлен аж сумеўся ад гэтага «толькі ж», адчуў у іх рашучасць, сілу і адчайнасць. Ён агледзеўся: мужчына спакойна дыміў папяросай і даканчваў здзіраць скуру...

Варлен ненавідзеў сябе, шаптаў: «Яшчэ камсорг групы, актывіст, дружыннік, нахабнага Аліка збіраўся правучыць. Баязлівец! Я ж рабочы клас, а ён хто? Браканьер, злачынец».

На высокай сасне застракатала сарока. Варлен зазлаваўся, схапіў з плячэй стрэльбу і, не цэлячыся, стрэльнуў. Сарока паляцела.

«На маім месцы, мусіць, кожны так зрабіў бы: хто падсунуў бы сваю галаву? Але ўсё ж так нельга»...

Настрой у Варлена сапсаваўся, яму стала нядобра, сорамна, што паступіўся. Пакаяўся, што выбраўся ў гэтую паездку, пагнаўся ўслед за сабакам і зайцам, трэба было стаяць на той дарозе.

«Збаяўся, збаяўся,— шумела ў яго галаве,— а яшчэ марыў пра подзвігі, медалі...»

Варлен панура апусціў галаву і падаўся вінавата з лесу.

## НАРЫС ПРА ВЁСКУ

Валодзя Дубанец, былы мой аднакурснік, сябра, сусед па ложку ў студэнцкім інтэрнаце, заехаў нечакана.

На небе трымалася хмарнасць, цягнула свежасцю. Сонца села, наступіў ціхі ліпеньскі вечар.

У вёсцы гудзелі матацыклы — вярталіся з работы «смусаўцы», таропкія жанчыны гаманілі на ўсю вёску, кармілі свіней і варылі на агеньчыках маладую бульбу. На пагонцы, з боку лесу, паднімалася і гусцела сцяна шэрага пылу — вяртаўся з поля статак.

Я выйшаў на двор і прыслухаўся да чуйнай, ледзь не звонкай ваколіцы: хутка павінен быў падысці стаўбцоўскі аўтобус.

Нікога з гасцей я не чакаў. Вось ужо другі месяц жыў я ў бацькоў, гультаяваў, вылежваўся на спякотным сонцы. Я нечакана востра стаў разумець жыццё, прыдумаў нейкую сваю абмежава-

насць у ім і засумаваў па нечым вялікім. У апошні час прызвычаіўся выходзіць і сустракаць знаёмы запылены аўтобус, глядзець на незнаёмых пасажыраў, весялець ад іх нечаканага позірку.

Валодзю я пазнаў адразу, як толькі ўбачыў. Узрадаваўся, што ў мяне будзе сёння нешта новае. Дасюль было так: сустрэну аўтобус, павячэраю, пагляджу тэлевізар — і спаць. Ноччу — дзіўныя і страшныя сны...

Валодзя, здаецца, яшчэ больш высачэйшы, худы і чорны, што цыган, лёгка выскачыў з аўтобуса, адразу накіраваўся да мяне, замахаў вольнаю рукой. У другой руцэ трымаў чорны балоневы плашч і вялікую скураную сумку.

— Здароў, папуас! — сціснуў ён маю руку,— адразу пазнаў цябе. Па-ранейшаму малады, не старэеш...

— І ты яшчэ трымаешся здаравяком, дарма што без сала жывеш,— нязлосна пажартаваў і я, моцна і ўзрадавана сціснуў былому сябру руку; усё ж не бачыліся цэлых тры гады.

За гэты час (чуў я ад другіх) Валодзя ажаніўся, узяў нейкую прыгажуню, набыў дачу, выдаў кніжку. Я і сам бачыў цяпер, што Валодзя ўжо не студэнт, само адзенне гаворыць аб яго саліднасці і гарадскім жыхары, які няголены, непапрасаваны, з ненаваксаванымі туфлямі не выйдзе на вуліцу.

Я ж папрацаваў ужо два гады настаўнікам, паслужыў год у войску, паціху забыўся пра шумлівыя і бесклапотныя студэнцкія гады, праведзеныя ў горадзе, і зноў адчуў сябе вясковым чалавекам. Праўда, вярнуўся ў вёску, жыў там, але ўжо нешта чужаніла мяне тут, клікала некуды...

— Дымок! — Валодзя пакінуў мяне, накіраваўся да вогнішча і пачаў, як зімою, задаволена крахтаць і грэць над ім рукі.— «И дым отечества нам сладок и приятен». Помню: маці варыць на такім жа агеньчыку бульбу, мы, дзеці, пішчым, носімся па двары, ловім і палім у полымі жукоў. Зайздрошчу табе, абарыген. Рэчка, свежае паветра, вось гэты аганёк, бульба!..

— Давай мяняцца,— усміхнуўся я, разумеючы, што Валодзя цяпер крыху фальшывіць,—давай мяняцца. Ты на маё месца, настаўнікам у вёску, з яе асалодамі і міласцямі, а я — на тваё, у горад, у рэдакцыю.

— Відаць, не, стары. Люблю вёску, помню нешта дарагое, звязанае з дзяцінствам, але ўжо не магу без горада. Аднак ты лоўка злавіў мяне на слове!

— Тое ж,— сказаў я, усміхаючыся,— куды цяпер вёска да горада з яго прагрэсам? Куды нам, вясковым, да вас?

— Ты, стары, прыбядняешся ці перажываеш сваю асуджанасць тут.

— Я гавару праўду.

— Я, стары, не аналізую. Я жыву і карыстаюся ўсім. Жаніўся?

— Не,— сказаў я.

— Малайчына! За гэта хвалю і раю не спяшацца. Хадзі да трыццаці халасцяком. Убачыш яшчэ гэтай міласці. З вопыту гавару, я толькі жанатым пазнаў простыя жыццёвыя ісціны...

Падышла з даёнкаю мая маці, прыгледзелася і прывіталася. Я пазнаёміў яе з Валодзем.

Маці не пайшла даіць карову, павесіла на частакол даёнку і вярнулася ў хату. Праз паўхвіліны мой малодшы брат з рублём у руцэ і пляшкай пад пахай пабег некуды ў завулак.

— Якім ветрам занясло? — спытаў я.



— Прыехаў, як ты гаворыш, за праўдай. Хачу напісаць харошы нарыс пра вёску, пра саўгас. Убачыў у газеце, што ваша гаспадарка на першым месцы ў вобласці,— бягом сюды. Матэрыял павінен быць. І чаго варты ты толькі! Мы з табой што-небудзь напішам.

— А вершы ты не кінуў? — пацікавіўся я.— Пішуцца?

— Слаба, брат. Зборнік неяк прабіў, але цяпер пішу мала. Тое-сёе ёсць яшчэ ненадрукаванае. Часамі падумаю: дрэнь, брат, гэтыя твае вершы, не такая цяпер трэба паэзія... Уяўляю, але не магу так напісаць. Цяпер захацелася ў вёску.

— Даўно б так і часцей, таварыш паэт. Хопіць эцюдаў, пара глыбокія творы даваць.

— А ты чытаў маё?

— Чытаў.

— Ну і як?

— Нічога,— сказаў я.— Ленінскай прэміі не дадуць, але ў Саюз прымуць.

— Аднак васцёр ты, брат. Даўно дома?

— Цэлае лета,— адказаў я.

— Я ведаю многіх настаўнікаў,— сказаў Валодзя,— што не любяць сваёй працы з-за яе бесперспектыўнасці, нервовасці, але трымаюцца яе з-за летніх канікул. А ты як?

— Працую. Таксама не аналізую. Толькі больш не лічу сябе геніем і што мая прафесія самая высакародная, карысная, паважаная на свеце.

— Ты, стары, не злуйся,— сказаў Валодзя.— Мне здаецца, што настаўнік на сяле цяпер нейкі пасынак. Ну не тое, што было раней. Ты перажываеш ад гэтага адчування?

— Працую,— адмахнуўся я ад адказу, падварушыў галавешкі — у цемнаце ускочылі і тут жа згаслі іскры, шугнула полымя.

Цямнела. Збіраўся і асядаў туман, на дварэ разлівалася здаровая свежасць.

Мы з Валодзем пасядзелі ля вогнішча, перагаварылі ўсё тое, што хочацца сказаць пры нечаканай сустрэчы пасля доўгайростані.

Пасля я заліў агонь, камары насядалі на нас, і мы пайшлі ў хату. Якраз прыйшоў з работы бацька і прыбег з гарэлкаю брат.

Назаўтра мы ўсхапіліся досыць позна.

Ярка сляпіла вочы сонца, надзвычай светла і цёпла было ў пакоі. Нашы суседзі раскідвалі ўжо копы і растрасалі сена.

Мы спаласнуліся халоднай вадой, успамінаючы, што ўчора сядзелі і гаварылі да ночы, а сёння баліць ад гэтага галава. Пасля мы выпілі па шклянцы кіслага малака і пабеглі да Мар'яна.

Сусед Мар'ян быў шафёрам, і мы спадзяваліся на яго машыне падскочыць у суседнюю вёску, у цэнтр нашага саўгаса. Валодзя хацеў сустрэцца з дырэктарам, узяць у яго інтэрв'ю, пагаварыць з ім, сфатаграфаваць.

У двары старога халасцяка Мар'яна тоўпілася ўжо некалькі вясковых механізатараў з паяльнымі лямпамі і сумкамі, рабочыя-піларамшчыкі, бабулі і дзяды, якія, відаць, ехалі да дырэктара з рознымі просьбамі і заявамі.

Усе гутарылі пра ўчарашні выпадак у вёсцы, што ў Пятра згарэла ад перуна хата. Валодзю агледзелі з цікавасцю.

Бабуля Зося — мая далёкая сваячка — не вытрымала і запытала ў мяне, ці не мой таварыш па рабоце гэты малады чалавек.

Я сказаў, што «гэты таварыш — вялікі чалавек, з горада, з газеты».

Усе з павагаю паглядзелі на Валодзю. Той нават не ўсміхнуўся, зрабіў строгі і незалежны выгляд. Калі яму прапанавалі месца ў кабіне, не адмовіўся, падзякаваў і палез.

Валодзю я добра ведаў з студэнцтва: любіў паважнічаць і пасаліднічаць, зрабіцца славутым рэвізорам ці нейкім начальнікам.

Па дарозе аднавяскоўцы пачалі ў мяне дапытвацца, ці не прыехаў «карэспандэнт» па пісьме Івана.

Я чуў пра гэтую скаргу. На тым тыдні Іван добра выпіў, сустрэў ля магазіна дырэктара саўгаса, ляпнуў яго па плячы, сказаўшы: «Здароў, Пятро! Давай зробім па чарцы!»

Усе засмяяліся, дырэктар збянтэжыўся, пасля ўдарыў даглядчыка па твары. Той назаўтра ж напісаў у газету скаргу.

— Цяпер людзі разумныя сталі, усюды дойдуць,— сказала бабуля Зося.

Я сказаў, што Уладзімір Іванавіч Дубанец прыехаў па сваім жаданні, хоча напісаць пра наш саўгас вялікі артыкул.

— Значыць, хваліць будзе,— сказаў піларамшчык Алесь.

— Ёсць за што хваліць,— сказаў я.— Дзе я працую — там саўгас на апошнім месцы. Яго не хваляць.

Далей ехалі ўсе моўчкі. Ля канторы пазлазілі з машыны, кожны меў на ўвазе сваё.

Мы з Валодзем адразу пайшлі ў кантору. Там было дымна, гоманна; стаялі і кпілі адзін з аднаго шафёры і механізатары, бегала саўгаснае начальства. Парторг чытаў уголас газету пра навадненне ў азіяцкай краіне.

Мы зайшлі да дырэктара. Яго я не бачыў гады з тры. За гэты час ён прыкметна пастарэў, але не асунуўся: быў чыста выгалены, апрануты ў белую нейлонавую кашулю і модны дарагі касцюм, на лацкане якога красаваліся ордэн і ромбік. Ордэн дырэктар атрымаў летась, якраз у год свайго саракагоддзя.

— Пасля, пасля, хлопцы! — замахаў рукамі дырэктар, хапіўся за нейкія паперкі, нават не глянуў на нас.— Бачыце: вельмі заняты!

Я гатоў быў ужо выйсці, але Валодзя прытрымаў мяне за локаць, надзвычай спакойна дастаў з кішэні сваё пасведчанне і ганарліва раскрыў яго перад дырэктаравым тварам.

— З газеты? Вельмі прыемна,— дырэктар хутка адсунуў ад сябе паперы і неяк густа пачырванеў.— Прабачце. Адну хвіліну пачакайце. Я зараз дам нарады і буду да вашых паслуг.

— Ладна, пачакаем,— сказаў Валодзя, і мы выйшлі на канторскі двор.

— Навучыўся, брат, размаўляць з начальствам,— сказаў я.

— Я засвоіў адно: не націснеш на іх ты — націснуць на цябе. Люблю ініцыятыву. Давай, будзь гідам. Пляшка з мяне.

Я паказаў яму цэнтральны саўгасны клуб, саўгасную пілараму і майстэрню, падвёў пад нядаўна пафарбаваны вапнай кароўнік, над дзвярамі яго вісеў новы плакат. Валодзя да ўсяго прыглядаўся, запісваў прозвішчы, лічбы, абавязацельствы.

Мы абышлі лужыну ад учарашняга дажджу і ўбачылі грузавік. Тры пажылыя жанчыны ў гумовых ботах і куфайках сцягвалі з яго мяшкі з мукою і, нізка нагінаючыся, насілі ўсярэдзіну, відаць, у кладоўку.

У кабіне сядзеў, нацягнуўшы на вочы кепку-вязанку, і драмаў малады няголены хлопец-шафёр.

— Вось пра гэта не напішаш,— сказаў Валодзя.



— А ты напішы.

— Усё роўна рэдактар выкрасліць. Скажа: гэта не тыпова для перадавога ў вобласці саўгаса.

— Сфатаграфуйце нас,— папрасіла Валодзю самая старэйшая,— а то надакучыла фатаграфавацца з кветкамі, з газетамі і медалямі. Ляпніце во з мяшкамі, можа знойдзе дырэктар мужчын.

— Я пагавару,— сказаў Валодзя так, быццам сапраўды ад яго слова магло ўсё змяніцца.

Мы зайшлі ў кароўнік. Дыхнула цяплом, пахам гною і сіласу.

«Зязюля — чэмпіён фермы. Яна ...» — прачыталі мы таблічку.

— Азнаёміліся крыху з нашым жыццём? — дагнаў нас на калідоры і спытаў дырэктар.— Гаспадарка наша перадавая, трэці год у вобласці першае месца займаем. Спецыялізуемся па адкорму буйнай рагатай жывёлы. На сто гектараў сельгасугоддзяў атрымана 198,7 цэнтнера мяса, 92,1 працэнта жывёлы рэалізавана дзяржаве вышэйшай укормленасці, сярэдняй вагой адной галавы 390 кг. Нядрэнна. У новай пяцігодцы плануем больш.

Дырэктар назваў прозвішчы загадчыка фермы, заатэхніка, даглядчыкаў, дастаў блакнот і вычытаў многа лічбаў.

— Словам, каровіна добра важыць, прыносіць нам добрую капейку,— сказаў дырэктар і ўсміхнуўся.— І яшчэ яна смачная. Прашу ў нашу сталовую.

Пакуль мы пад'ехалі на дырэктарскай «Волзе» да саўгаснай сталовай, там быў падрыхтаваны ўжо столік. На ім стаялі свежыя і цёплыя катлеты, кускі смажаніны, свежыя агуркі і памідоры, духмяны, заліты смятанай хрэн.

Калі мы селі за стол, маладая дзяўчына ў фартуху паставіла на стол графін гарэлкі.

— Спецыяльна для гасцей,— сказаў дырэктар, наліў Валодзю поўную шклянку і падсунуў яму хрэн,— каб не такія злосныя былі.

Аграном, заатэхнік, інжынер, якія таксама падышлі ў сталовую, засмяяліся.

Калі ўсе выпілі, дырэктар расказаў, што яму добра знаёмы рэдактар газеты, многія карэспандэнты, а пасля ён расказаў, як вазіў летась аднаго журналіста-халасцяка ў сваты да тутэйшай маладзіцы.

Калі графін асушыўся, тут жа спрытныя дзявочыя рукі на яго месца паставілі другі.

— Можаце не здзіўляцца,— сказаў Валодзю дырэктар.— Мы спецыяльна такі калодзеж трымаем. Артэзіянскі.

Ён засмяяўся, за ім заліліся смехам аграном і інжынер.

Добра ахмялелыя, мы павылазілі з-за стала. Валодзя сфатаграфаваў дырэктара, яго намеснікаў, сталовую, маладую дзяўчыну, што працавала ў сталовай.

Дырэктар пакінуў нам сваю машыну: яго месца павінен быў заняць аграном і паказаць Валодзю саўгаснае поле, сенажаць, агароды.

— Хадзі сюды,—паклікаў мяне перад нашым ад'ездам дырэктар.— Ты, канечне, ведаеш тое-сёе наша крамольнае. Асабліва не выкладвай яму ўсё, сачы за сваёй інфармацыяй: усё-такі карэспандэнт... сам ведаеш, які гэта народ! З мухі слана зрабіць могуць.

Тыднёвая камандзіроўка Валодзі заканчвалася. Ён спісаў увесь свой блакнот, здаецца, усё выпытаў у бацькоў, у мяне пра наш саўгас. Мы аблазілі наш лес, рэчку, з'ездзілі ў Налібоцкую пушчу.

Валодзя гікаў ад радасці, здзіўляўся ўсяму, растраціў усю сваю плёнку, назапасіў матэрыялаў у «пяць газет».

Нядзеля была апошнім днём яго прабывання тут. У панядзелак раніцай ён думаў паехаць у сталіцу.
Я сумаваў, што зноў буду адзін з сваімі думкамі. Валодзя гаварыў, што прывык таксама да нашай вёскі, пасля прызнаўся, што ўсё ж цягне ў горад.
Нядзеля была светлая, ціхая, святочная, але сумная. Зранку мы выпілі, пасля ездзілі ў сталовую па піва.
Вечарам у нашым клубе не было ні танцаў, ні кіно. Моладзь раз'ехалася па навакольных вёсках, мы з Валодзем паленаваліся бадзяцца, за маладымі ганяцца, вырашылі паглядзець лепш тэлевізар.
— Разумееш, стары, прадумваю свой новы нарыс. Выходзіць усё неяк банальна,— скардзіўся Валодзя.— Саўгас ваш перадавы, атрымоўвае многа мяса, добрыя ўраджаі. Харошыя людзі, працуюць, стараюцца, але неяк усё аднастайна выглядае. Не знайду нечага такога... Пакажы ты мне што-небудзь такое... Ну, дай частушак паслухаць, харошую народную песню, музыку цымбал...
— Пайшлі пашукаем,— усміхнуўся я.— Хочаш, пазнаёмлю з гераіняй твайго будучага нарыса?
— Давай, яшчэ пляшка з мяне. Я глядзеў вось: не звяліся ў вас яшчэ веруючыя. Нават крыж стаіць у цэнтры вёскі. Па-другое, атэістычная работа не на ўзроўні, недарэмна ваш раён за гэта крытыкавалі.
— Ты думаеш, гэты крыж стаіць таму, што вераць? Усе вераць, як мы з табой.
— А я веру. У справядлівасць.
Ля калодзежа спрачаліся жанчыны. Убачылі нас, замоўклі. Як мы адышліся, спрэчкі зноў узгарэліся. Я прывёў Валодзю да нашай учотчыцы Алены. У сенцах гудзела пральная машына, у хаце іграла музыка і заліваўся славуты Рафаэль.
Алена — «гераіня нарыса» — сядзела і чытала кнігу, убачыла нас, узрадавана ўсміхнулася, кінулася падбіраць свае хусткі, сукенкі. З Валодзем яны былі ўжо знаёмы: учора ён патраціў на яе некалькі фотакадраў, браў у яе інтэрв'ю, жартаваў.
Алена пабедавала, што цяжка завочна вучыцца, што сумна ў вёсцы. Ні хлопцаў няма, ні дзяўчат.
Валодзя паспачуваў ёй, і мы выйшлі з хаты.
— Добрая дзеўка! — сказаў Валодзя, закрываючы вароты,— працавітая, разумная, прыгожая. Вось толькі не вельмі шчаслівая.
— Стане гераіняй нарыса? — усміхнуўся я.
— Не ведаю. Прабач, стары, і ў вас банальна. Бачыў такія я ўжо вёскі.
— А што ты хацеў? — спытаў я.— Пара мяняць свае старыя думкі пра вёску. Салаўі салаўямі, але вёска цяпер як ніколі ўніверсуецца, цягнецца за горадам. Пара ведаць сённяшнюю вёску. Яна, брат, ідзе ўгору...
— І траціць сваю замілаванасць,— перабіў мяне Валодзя.
— Можа і не трэба шкадаваць тых кос, плугоў, сярпоў, пуг. Хопіць ёй быць адсталай. Зойдзем у гэту хату, тут мараць пра «Масквіч-412», у той — пра піяніна сваёй дачушцы. Зойдзем?
— Не! Ратуй бог! Начуюся і набачыўся: мае гарадскія суседзі ўсе такія, вушы празванілі.
Мы прайшлі ля асветленага сельмага, абмінулі дзіцячы сад і трохпавярховую школу.
— Давай, стары, паляжым у роснай траве, паслухаем вясковую ноч. Я хачу адчуць дыханне і тайны зямлі, вёскі вашай.





— І не шкада плашча і штаноў мачыць?
— Не жартуй, стары,— папрасіўся Валодзя,— я даўно перажываю ўжо за сённяшнюю вёску, не магу, як траціцца і не заўважаецца яе харାство. Калі хочаш, яна зрабіла мяне паэтам. Ды ўсе нашы славутыя паэты нарадзіліся ў сёлах і мястэчках.
Мы звярнулі ў Пятроў двор і выйшлі на сцежку. Там пачыналася канюшына.
— Ты паслухай, панюхай, стары! — пафасна ўсклікнуў Валодзя і ўпаў на зямлю.— Пахне мёдам, сілай, жыццём! У горадзе гэтага не знойдзеш. Дарагая мая вёска, я — твой дэзерцір...
Я абабіў расу і таксама лёг. Было ціха, чулася, што рабілася ў вёсцы. Весела стракаталі конікі.
Над намі пранеслася вялікая і цёмная птушка.
— Ты не думаў, стары, што з кожным днём нешта ўсё мяняецца, што жыццё наша складанае? Ты разабраўся, што такое жыццё?
— Дзесяцікласнікам і студэнтам ведаў. Цяпер горш знаю.
— І я, стары,— сказаў Валодзя. — І не магу пісаць. Адчуваю, як трэба пісаць, што пісаць, але не магу. Няма таленту. Нялоўка прызнавацца, але мушу...
Паблізу застукалі колы, нехта ехаў на кані. Мы замоўклі і прыслухаліся. Рыпенне прыбліжалася. Хутка выплыў з цемені конь. Ён валок воз, на якім стаяла бочка, ціха пазвоньвалі вёдры. Побач ішоў і прытрымліваў бочку чалавек у высокіх гумавых ботах.
— Не зразумеў? — шапнуў я Валодзю.
Ён маўчаў.
— Брагу павезлі. Самагонку будуць гнаць.
Недзе ў вёсцы зайграў гармонік.
— Чуеш? Танцы. Вельмі хачу глянуць на вашы танцы.
Мы ўсталі, абчысціліся і пакрочылі па сцежцы. Валодзя нарваў канюшыны, ціха ішоў і нюхаў яе. Нечакана мы пачулі крокі, а пасля ўбачылі жанчыну, якая выйшла з кукурузніка і валакла поўны кошык.
Жанчына схавалася ў кукурузе, праходзячы, мы нават пачулі яе крокі.
Клуб быў закрыты. Ігралі недзе ў вёсцы, хутчэй за ўсё пілікаў нечы малы: музыка была бязладная.
Дома нам маці сказала, што саўгас наш зноў заняў першае месца, і дырэктар паедзе заўтра па ўзнагароду.

— Цяжкі будзе мой нарыс,— усміхнуўся Валодзя,— не ведаю, што я напішу і як.

Я прамаўчаў, не ведаў, што сказаць, адчуваючы важнасць усяго гэтага.

Назаўтра Валодзя паехаў. Нейкія новыя думкі прыйшлі да мяне, мне таксама захацелася нешта напісаць. З таго дня я штодзённа праглядаю ўсе газеты і шукаю Валодзеў нарыс пра сваю вёску, гляджу на засохлыя кветкі канюшыны, якія Валодзя забыўся забраць з сабою.

## ДАМАШАНСКАЯ КАРАЛЕВА

Быў кароценькі салдацкі перапынак.

Юзік стомлена паваліўся на спіну, падклаў пад галаву рукі. Балелі ад страявой хады ногі, сушыла ў роце.

«Трэба сёння напісаць ёй пісьмо»,— падумаў ён.

Тут жа малодшы сержант падаў кароткую каманду — салдаты ўскочылі, пачалі зноў строіцца.

...Стомленых людзей шафёр узяў у аўтобус па дарозе, ля нейкага невялікага, амаль без зеляніны, з цёмнымі дамамі і чырвонай школай на ўзвышку сяла.

Ізноў неслася такая ж укатаная коламі шаша, сціснутая белымі слупамі; разбягаліся беластволыя бярозы, што аж зіхацелі ад зеляніны; так жа шчодра выблакітнівалася на цяпло і пагоду неба; нарэшце, міліцыянер прыветліва памахаў услед аўтобусу рукою.

У аўтобусе было вольнае месца, але яны, маладыя, што толькі ўвайшлі, не прысаджваліся, стаялі ў дзвярах. Прыгожая дзяўчына з цікавасцю акідала позіркам пасажыраў, а яе напарнік, высокі і лысы мужчына, нечага хмурыўся. На твары яго азначалася незадаволенасць і злосць.

У Юзіка нечакана ёкнула і торгнула сэрца: дзяўчына гэтая здалася яму знаёмай. Паўглядаўшыся, ён успомніў, што завуць яе Таняй. Не бачыў яе ўжо два гады, забылася дасюль усё, але цяпер прыпомнілася да дробязі.

Ад Юзікавай Верасовачкі за шэсць кіламетраў была «граніца» — Усходняя Беларусь. Там, у невялікім сяле Дамашаны, жыла Таня.

Юзік ведаў гэтыя Дамашаны як свае пяць пальцаў: часта ездзіў малалеткам на веласіпедзе за «граніцу» ў магазін, меў там сябрукоў, не раз цягаў там саўгасны сланечнік. Юнаком ездзіў у кіно і на танцы: за «граніцай» было больш моладзі, цікавей і весялей жылося.

Таню Юзік сустракаў часта, прыгледзеўся і пазнаёміўся з ёю на танцах. Тады ён вучыўся ў інстытуце, прыязджаў дамоў толькі на зімнія і летнія канікулы. Быў ён малады, прыгожы, разумны і ганарлівы.

У тую пару ў яго было многа дзяўчат, любая гатова была стаць яго жонкай. Але Юзік жаніцца яшчэ не думаў.

Юзіку Таня спадабалася. Тоненькая, лёгкая, з мілым тварам і шчабятлівая. У тое лета яна толькі што закончыла дзесяцігодку, збіралася некуды паступаць.

Юзік убачыў яе, калі яна размаўляла на ганку з хлопцамі. Няспынна гаварыла, смяялася, так разумна на ўсіх глядзела і не какетнічала. Краса яе, шчырасць і прастата ўразілі яго. Юзік адчуў, што сустрэў штосьці незвычайнае, новае, свежае і чалавечае. Нават захваляваўся ад гэтай сваёй думкі.

Юзік той суботні вечар танцаваў толькі з Таняй, не адпускаў яе ад сябе ні на крок. Але завельмі ён ужо прывык да горада, нахапаўся яго нораваў, стаў смелым, развязным і абыякавым. Такім ён быў і ў той вечар. Таня яму шчыра падабалася, ён нічога не думаў пра яе дрэннага, але ўсё ж, калі выходзіў з ёю прагуляцца на двор, па-змоўніцку і радасна, пераможна міргаў сваім хлопцам, што выходзілі з клуба на двор пакурыць, пасклаліць зубы ці пастудзіць плечы.

Юзік адчуваў, што падабаецца і Тані сваімі ведамі, сваім нейкім абыякавым і вострым тонам. Усіх ён крытыкаваў, нічога яму не падабалася.

На Юзіка нядобра зыркалі дамашанскія хлопцы, збіралі супраць яго шайку, але ён меў першы разрад па боксе, быў упэўнены ў сваіх маладых сілах — і нікога не баяўся. Як не баяўся і шэпту жанчын, піску малых.

Юзік праводзіў Таню дахаты, гутарыў з ёю, нават пацалаваў яе ў шчаку. Калі ён вырашыў паказаць сябе смелым, Таня каратка і адмашыста ўдарыла яго па твары.

Недзе побач радасна і помсліва засмяяліся хлопцы. Юзік узгарачыўся, мог таксама падняць руку, але Таня ўцякла.

Юзік быў не з тых, хто лёгка даруе сваім крыўдзіцелям. Тры тыдні пільнаваў ён Таню ля Дамашан, на чацвёрты сустрэў і пагнаўся за ёю. Таня ўцякала па вузенькай кладцы, сарвалася і ўпала ў раку.

Яна спужалася, прастудзілася і захварэла. Бацькі яе паскардзіліся, і Юзіку далі пятнаццаць сутак.

«Два гады прайшло ўжо, а, здаецца, як сёння было,— падумаў Юзік.— Непрыемная сустрэча. Можа не пазнае?»

З таго часу Юзік больш не з'яўляўся ў Дамашаны, абмінаў іх, адчуваючы, што страціў нешта незваротнае.

І вось сустрэча. Адзін толькі міг напомніў яму ўсё, прымусіў закалаціцца сэрца.

«Цяпер я яе доўга не забуду. Яна была адзіная вартая дзяўчына, якіх я сустракаў...»

Таня доўга ўглядалася ў яго, пасля ўсміхнулася і кіўнула галавою. Юзік таксама прывітаўся кіўком галавы, яму стала нядобра, што Таня пагнала яго.

«Ці не муж яе гэты лысы? Гаварылі, што замуж збіраецца...»

Аўтобус піскнуў тормазам — пасажыры паляцелі наперад, адышлі ад дрымоты.

Лысы цмокнуў Таню ў шчаку і выскачыў на шашу. І ўжо адтуль сказаў моцна, што пачулі ўсе:

— Дык чуеш, праз тыдзень!..

Таня згодна, абыякава, неяк зморшчыўшыся, кіўнула яму галавою і больш не аглядалася. На твары яе ні капелькі не было смутку развітання, і Юзік прыкінуў: лысы прыходзіцца ёй проста добрым знаёмым, ніякім не жаніхом.

Таня зноў глянула на Юзіка.

Ён захваляваўся, падумаў, што яна зараз можа падысці і сесці ля яго. Тады ён будзе не па сваёй ахвоце сціпна, без смелага дыху масціцца, тайком глядзець на яе прываблівае, не адарваць вока, калена, а можа, найболей не вытрымае яе позірку, адчування сваёй даўняй віны...

Юзік заўважыў, што Таня папрыгажэла, склалася ў стройную жанчыну. Цяпер на яе нельга было не заглядзецца не толькі яму,

маладому. Усё добра пасавала ёй: і высакаросце, зграбная яе пастава, і дробны, з роўным носам, твар. Нават яе прычоска ішла толькі ёй. Недарэмна так аберагалі яе ад кавалераў дамашанскія хлопцы, сохлі па ёй.

Сэрца Юзіка абамлела: Таня, абапіраючыся аб поручні крэслаў, кіравалася сюды, да яго.

— Здароў! — сказала яна сваім мілым голасам.

— Добры дзень,— адказаў ён.

Падкінула, і Таня, ціха войкнуўшы, паваліліся Юзіку на калені. Ён быццам адхінуўся, але з вялікай радасцю і прыемнасцю для сябе падхапіў яе.

— Прабач,— яна адначасова сказала і засмяялася, злазячы з яго кален на сваё месца ля акна.

Юзік уздыхнуў.

— Тут пачнецца зараз дарожка! — зазначыла Таня, і Юзік заўважыў, што яна зусім не злуе на яго, быццам нічога ніколі і не было паміж імі крыўднага.

Яна глянула на яго так, ажно ён апусціў вочы, і спытала:

— Далёка яшчэ?

Юзік назваў.

— Праўда? — перапытала яна, не зводзячы з яго сваіх прыгожых вачэй.— Добра. Я таксама дабіраюся туды, мне крыху далей толькі. Пашанцавала. Калі не сакрэт, куды і чаго едзеш?

— Там я працую,— адказаў Юзік,— другі ўжо год.

— А я думала...— яна глянула на яго абстрыжаную галаву і змоўкла, не знаходзячы патрэбнага слова.

— Думала, што я сядзеў? — падхапіў Юзік яе думкі.

Таня моўчкі ўсміхнулася.

— Больш у «рыштантах» не хаджу. Маладога ветру паменшала, цяпер я салідны чалавек, займаю салідную пасаду. А пастрыжаны таму, што бяруць у войска. Іду, так сказаць, выканаць свой воінскі абавязак.

— Афіцэрам будзеш служыць? — спытала Таня, але неяк абыякава.

— Не. Год адслужу салдатам,— сказаў Юзік, пасмялеўшы.— Выйшла так...

— Жаніўся?

— Не.

— Гавары! — не паверыла Таня.— Чакае недзе красуня, збірае вайсковыя рэчы і плача.

— Расчараваўся я ў дзяўчатах, Таня. І мяне ніхто любіць не хоча.

— Не ўмееш падабацца,— усміхнулася Таня.— Я вось збіраюся замуж.

— Ну, ты ж прыгожая. У цябе і цяпер, мусіць, хлопцаў многа,— сказаў Юзік, думаючы, што два гады назад і ён быў адным з іх.

— Многа, але ўсе пудзілы гарохавыя. Адзін — п'яніца, другі — гультай, трэці — задавака. Многа, але няма таго аднаго...— сказала Таня, відаць, таксама думаючы пра яго.

— А гэты...— Юзік ледзь не назваў яе спадарожніка ўголас лысым,— гэты, што праводзіў, можа і ёсць твой абраннік?

— Ён,— голас у Тані быў спакойны.— Ведаеш, у мяне летась памёрла мама, а сёлета не стала і таты. Я ўчотчыцай працавала. Адна засталася, думала ў горад які махнуць. Ён у нас галоўным аграномам працуе, не п'е, не курыць. Прыходзіць неяк і кажа: «Таня, ты прападзеш адна. Выходзь за мяне». Еду вось да яго маці. Насеў: «Едзь, Таня, да маіх. І я перавядуся ў свой край. Кватэру дадуць, зарплата ў мяне неблагая». Каб я калі што бачыла, то падумала б яшчэ. Як ён табе?

— Нічога,— Юзік утрымаўся ад шчырай ацэнкі.— Відаць, сур'ёзны хлопец. Будзе берагчы цябе.

— Будзе,— сказала Таня,— толькі вось я яго не люблю. Загінула мая любоў, была і няма... Не прыходзіць больш.

«Ці не мяне яна мае на ўвазе?» — падумаў Юзік.

Таня адвярнулася, паклала на поручні рукі і апусціла на іх галаву. Юзік не разумеў, ці яна расхвалявалася ад сваіх успамінаў, ці адчула перад ім і ўсімі пасажырамі нейкую няловкасць. Толькі ён адчуў, што не ў аднаго яго нейкая жыццёвая неўладкаванасць. Было многа дзяўчат, а вось жонкі — самага блізкага чалавека і сябра — няма. І добрага сябра няма. Некаторыя суцяшаюць: не хвалюйся, брат, табе яшчэ ўсяго дваццаць тры гады, хопіць яшчэ ярма. Юзік, як ніколі, адчуў: яму патрэбен блізкі чалавек, і ім павінна быць жанчына.

Дзяўчат, дзе ён працаваў, было многа, але не было «той адной»...

«Мусіць нешта падобнае і ў Тані. Але яна пойдзе за агранома: добры муж, добрая зарплата, не курыць, не п'е».

Юзіку толькі спадабалася, што яна нічога не змяніла, не пасаромелася расказаць пра сябе, свае думкі. Сказала ўсё як ёсць.

Юзік доўга сядзеў так, нічога не думаў, ці наплывалі да яго асобныя думкі пра работу, войска. Гадалася, як будзе яму з хлопцамі, маладзейшымі на пяць год. Пасля ён уталоплена глядзеў на свежую фіранку, што завешвала шафёра; на шашу, што стужкаю лажылася пад аўтобус; на першыя белаватыя хмаркі ў сінім бяздонні неба; на машыны, што разміналіся ці абганялі іхні аўтобус. Ён на ўсё гэта глядзеў і нічога не запамінаў. Шафёру таксама сумнавацілася ці хацелася прыплюшчыць вочы: ён сярод гучных свістаў і незразумелых гаворак пачаў лавіць музыку.

...Нішто Юзіку за ўсе яго дваццаць тры гады не ўспомнілася так, як учарашняе развітанне. Не так са шматлікаю раднёю, сябрамі, што прыйшлі праводзіць яго ў войска. Кальнула развітанне з тым, чаго ён доўга цураўся, над кім пасміхаўся.

Нечакана яму стала шкада і балюча развітвацца з роднай вёскай, якую ён пазнаў, як толькі навучыўся поўзаць, а пазней — бегаючы па пагонцы і галёкаючы: «Бусел, бусел, выпі воду — закружыся на пагоду...»

Так, вёскі сваёй ён выракся, уцёк з яе. Хоць некалі вясковага патрыятызму ў Юзіка было не адабраць: за адну абразу назвы іхняга сяла колькі ён пабіўся каменнямі, абадраў твараў крычатоўскім пастухам, пазней — налібоцкім школьнікам...

Яго, горада, захацелася пасля дзесяцігодкі. Пацягнула адарвацца ад свайго двара, ад частушак, ваенных і даўніх песень, што спявалі вяскоўцы па вечарах, на вяселлях ці хрэсьбінах, а другіх песень не прызнавалі...

Юзіка завабіў нязведаны свет. Мроілася працаваць не ў калгасе, модна апранущца, хадзіць на гарадскія танцы і футбол. Юзік зайздросціў нават тым, што рабілі ўжо які тыдзень у горадзе, абміналі звычайнае вясковае «дзень добры», а ламалі язык, яшчэ спатыкаючыся на «здравствуйця», «до свидання».

У Юзіка было многа мар, але выйшла ўсё проста: дзядзька ўладкаваў яго ў тэхналагічны інстытут.

Юзік вучыўся добра, стаў фарсуном і задавакам. Такім ён сустрэў Таню.

Калі пасля заканчэння інстытута яго накіравалі ляснічым, ён спусціўся з нябёс на зямлю і па-новаму неяк адчуў прыгажосць прыроды — лесу, дарог, неба, рэчкі — у яго многае пачало мяняцца, успамінацца. Ён адчуў, што многае ўжо ніколі не вернецца.

...Кальнула развітанне з маткай, якой ён за свае дваццаць тры гады нямала папсаваў крыві, з Маньчыным Мішам — даўнім сябрам дзяцінства.

Учора Мішка падкаціў пад вясковы аўтобусны прыпынак на сваім «мінскім» — запылены, у ботах з латкамі, вышмальцаваны: працаваў экскаватаршчыкам. Старамодны, да вушэй вясковы, як і ў тую пару дзесяцігадовай даўнасці, але ўсё такі ж сумленны, смелы і задзірысты. Прывітаўшыся, ён так нічога Юзіку і не сабраўся сказаць. Усё стаяў і пераступаў з нагі на нагу, грыз пазногці. Ён мог паваліць быка, а тут быў зусім нясмелы. Пасля выклаў з кішэні і нясмела перадаў Юзіку салодкіх яблыкаў. Убачыўшы, што коціцца аўтобус, ён прапанаваў Юзіку садзіцца на яго «мінскі» — завязе ў самы раён.

Юзік ведаў, што Мішка дзеля былой дружбы, дзеля дзіцячых успамінаў сарве ахвотна дзень, будзе шчаслівы, калі ён пад'едзе на яго драбкачы.

Юзіку не захацелася трэсціся, запыльвацца. Ён коратка і хутка цмокнуў у шчаку маці, падаў руку і пацалаваўся з усімі родзічамі, з Мішам.

Мішка прытрымаў яго руку, вінавата глянуўшы на Юзіка, загаварыў:

— Ты, Юзя, выбачай... Помніш, як я драў табе некалі вушы? Са злосці гэта я. Ну, што табе ўсё лёгка лезла, а мне — хоць калом гані. Але ж я паважаў цябе і...

— Ды кінь ты! — паляпаў Юзік яго па плячы.— Што мы не вытваралі дзятвой! Каб за ўсё злаваў! Тут злосці за цяперашняе не вынесці.

Мішка не выпускаў яго рукі, пасля быццам папрасіў:

— Юзя, вернешся ты назад ці не, але не завіхайся забываць свайго, вёскі нашай. Было і ў цябе ўсялякае, але будзь разумны. А то выскачыць каторае на тыдзень у горад і забылася ўжо свайго, засаромелася. Пішы...

Юзік нічога яму не адказаў — не паспеў. Толькі ўжо з аўтобуса памахаў рукою.

Цяпер яго ўзяла такая міласць да вёскі, маці, Мішкі, што ажно ў яго забалела сэрца...

...Таня задрамала: галава яе спярша паехала па спінцы сядзення, а пасля санліва прыўзнялася і апусцілася Юзіку на плячо. Валасы яе пахлі лёгкімі духамі.

Ён сядзеў і баяўся зварухнуцца, бярог Танін сон. І так стала яму добра, што ён беражэ сон дзяўчыны. Успомніў, што, здаецца, у Леангарда Франка ён вычытаў аднойчы, што хто не ахоўваў сну любімай жанчыны, той яшчэ не ведае, якое цудоўнае можа быць жыццё.

Падумаў цяпер, што гэта ўсё праўда.

Ён нават не заўважыў, як сцішыўся і заснуў сам. Дарога была спакойная, свяціла сонца — усё натхняла на дарожны сон.

Юзік прачнуўся першы — сніў пра бухгалтара і аднаго лесніка-п'яніцу з свайго лясніцтва і прачнуўся.



У Юзіка анямела нага, але ён не варушыўся. Хутка ўчуў, што і Таня прачнулася: перастала цмокаць, праглынула ў роце сліну.

— Ой, выбачай! — Таня яшчэ соннымі вачыма кінула на яго сарамлівы позірк і, злёгку зачырванеўшыся, борздзенька паправіла сваю прычоску.— Прысябрылася! І ты таксама. Нечага сказаць, абое роўныя сышліся. Што скажуць людзі?

Юзік нічога не сказаў, толькі ўсміхнуўся.

Парахода ім пашчасціла чакаць дзён тры: яго затрымалі па нейкай прычыне. Вакзала ў пасёлку не было, яго толькі пачыналі будаваць.

Жанчынам яшчэ пашанцавала: ім адпусцілі крыты навес, пад якім стаялі радамі паркавыя лаўкі; тут, відаць, чакалі парахода, начавалі. Ім, мужчынам, патрабавалася што-небудзь скеміць.

Жонкі адмовіліся адпусціць сваіх мужчын, сказалі, што неяк умесцяцца ўдваіх.

У Юзіка не было жонкі, яго ніхто не мог узяць да сябе. На яго, астрыжанага, пазіралі ўвогуле недаверліва, бліжэйшыя падсоўвалі пад сябе свае чамаданы.

Юзік вырашыў пахадзіць паблізу, пашукаць кватэры.

Таня паспела пазнаёміцца з нейкай маладой дзяўчынай і гаварыла з ёю пра сёлетнія моды.

— А ты куды? Чаго дзе цягацца? — затрымала яна Юзіка, калі ён з чамаданам пачаў адыходзіць адсюль.— Хочаш, каб якія шпанюкі ўсыпалі? Лягу я са сваёю суседкай, а ты на маёй лаўцы прыляжаш. Я ж колькі на тваім плячы спала...

Юзік застаўся. Павячэралі і пачалі масціцца на ноч.

Юзік лёг на спіну, глядзеў у цёмную столь навеса і думаў пра сваё жыццё.

Хутка патух ліхтар. Стала цёмна: неба было без зорак і месяца.

Шапталіся справа Таня і суседка, той-сёй, стаміўшыся за дзень, ужо хроп.

Юзік хацеў заснуць, але сон не браў яго. Замнога было ўражанняў у яго, каб так хутка заснуць...

Таніна рука, белая да пляча, звешвалася на падлогу.

«Ці цяпер ці ніколі»,— падумаў Юзік і ціха паклікаў:

— Таня!

Тая маўчала.

Юзік злавіў яе мяккі локаць і пацягнуў да сябе. Ледзь не захлынуўся ад радасці і хвалявання: у цемені бліснулі з-пад накідкі ногі, а пасля Таня сама перайшла і села на яго лаўку.

— Таня! — шаптаў ён і нагінаў яе галаву,— Таня, я люблю цябе. Ты не ўяўляеш...

— Чаму не? Уяўляю,— спакойна сказала Таня,— два гады бярог гэтыя словы і не спрабаваў знайсці мяне, выкупаўшы ў рэчцы.

— Прабач, Таня, я вінаваты, але я і тады любіў цябе і цяпер люблю...

— Толькі не згары. Што ўспыхвае, тое і гасне.

— Таня,— маліўся ён.— Гэта не ўспышка... Гэта ўсё, на што я варты... Танечка...

— Табе было месца ў маім сэрцы,— сказала Таня,— я цябе таксама любіла... Ты спі, у салдатах можа такіх начэй і не быць.

Іх усё ж бог не абмінуў шчасцем. Раніцою ў Н. ішоў незапланаваны цягнік, і яны селі ў яго.

З Таняю Юзік не бачыўся: яна сышлася з той курносай суседкай

і бегала па вагонах, загульвала з маладымі турыстамі, якія сабраліся ў суседнім купэ.

«Сапраўды, мусіць, каб не ўбачыў яе, то нічога і не было б,— думаў Юзік.— А так можа на ўсё жыццё. Што значыць адзін міг!»

Таня на адным прыпынку бегала на перон, да сталоў, дзе пажылыя сялянкі прадавалі яблыкі, агуркі, памідоры. На другой станцыі, калі аб'явілі прыпынак на паўгадзіны, яна зноў некуды падалася.

Юзіка гэта здорава заела. Злавала, што яна не толькі круціцца ля хлопцаў, але і частуе іх яблыкамі.

«Мяне трэба чакаць цэлы год і зноў быць учотчыцай. А тут амаль ужо ёсць аграном, зарплата яго; не п'е, не курыць».

Калі вагон кратаўся і Юзік, ліпнучы да акна, глядзеў, як мацней і гусцей слаўся дым, аддаляліся людзі і станцыя, ён хацеў, каб Таня не паспела на цягнік: тады не выскалялася б на яго вачах перад турыстамі. Але яна паспявала ў самы апошні вагон.

Юзік знарок выходзіў з купэ — трапіць Тані на вочы. Яна абмінала яго гэтую ўвагу, праскоквала, злёгку пагойдваючыся, ля яго ў суседняе купэ да іх, турыстаў. Юзік, пакрыўджаны і злосны, вяртаўся ў сваё купэ і сіліўся заснуць, але сну не было.

«Ні адна дзяўчына не злавала так мяне, чаго гэта я так за ёю?»

Ён дастаў папяросу і выйшаў у тамбур. Прыпаліў папяросу, зацягнуўся і закашляўся: убачыў іх. Яго, высокага, ладнага хлопца, што стаяў плячыма да Юзіка, і яе, вясёлую, паўнагрудую, у светленькай блузачцы з кароценькімі рукавамі. Яна стаяла плячамі да сценкі і дарыла лабастаму здараваку замілаваныя позіркі, а ён, абапёршыся на локаць, блізіў свой твар да яе; хлопцава калена таксама было блізка ля яе абцягнутага вузенькай спаднічкай калена.

Юзіка пацягнула падскочыць і ўдарыць са злосці турыста па гладкай, прыгожа падбрытай патыліцы, але хутка астыў: перамагла развагажлівасць.

«Можа так і трэба,— падумаў Юзік,— пакаруся лёсу. Нешта будзе пасля войска».

Ён кінуў папяросу і падаўся ў сваё купэ. Адчуў, што захліствае рэўнасць, чаго ў яго ніколі не было.

«Я перажываю тое, што многія перажылі ў семнаццацць год».

Юзік пачаў думаць пра сваё войска, гадаць, як складзецца яго служба. Вырашыў на месца сваёй работы не заязджаць, чаго ён паедзе. Разлічыўся, развітаўся з людзьмі. Хіба яшчэ раз сустрэцца з п'яніцам-леснікам.

— Юзік!

Ён глянуў. У дзвярах купэ стаяла Таня, клікала пальцамі да сябе. Юзік падумаў не выйсці, паказаць свой гонар, але не стрымаўся і падняўся з месца.

— Хадзем,— сказала яна, і Юзік пайшоў за ёю.

З моцным хваляваннем, разгублены, сунуўся па яе слядах у купэ, у светлату, якая спачатку прымусіла яго прыжмурыць вочы, пасля паказала, што тут яны будуць не адны. Ля акна, падпёршы рукамі бараду, сядзела яе сяброўка, тая курносая. На іхні прыход яна нават і не павярнула галавы.

Юзік адчуў, што наліваецца чырванню ад сораму: на століку ляжалі яблыкі, загорнутая пляшка. Значыць, Таня старалася дзеля яго, а ён абы-што думаў пра яе.

— Садзіся,— сказала Юзіку Таня,— вып'ем, каб табе добра служылася, каб не забываў нас.





Дзяўчаты хутка нарэзалі хлеба, каўбасы, сыру, Юзік адкаркаваў пляшку.

— Служы аддана, каму прысягаеш, слухайся начальнікаў, за іх ласкай не ганяйся, на службу не напрошвайся, ад службы не адмаўляйся і памятай прыказку: беражы адзежу знову, а гонар змоладу, — прадэкламавала Таніна сяброўка.

— Дзякуй,— сказаў Юзік, усміхнуўся і выпіў.

— Чаго я вам замінаю? — калі пацягнулі яшчэ па адной, паціснула плячыма Таніна сяброўка, падміргнула вокам і збегла.

У Юзіка з'явіўся прыўзняты і добры настрой. Яму хацелася пацалаваць Таню, сказаць ёй штосьці цёплае, самае ласкавае, але ён не ведаў гэтых ласкавых слоў, ніколі іх не гаварыў людзям, дзяўчатам таксама.

І гэтае жаданне разбівала нейкая цвярозая думка, што адзін яго няўдалы рух можа пакрыўдзіць Таню — і тады ён згубіць яе назаўжды.

Таня ўстала і падышла да акна.

— Таня,— ён таксама ўстаў, падышоў і прытуліўся да яе,— пачакай мяне, не ідзі за таго аграноma. Залатых гор табе не абяцаю, але буду добрым мужам...

— «И што ты в меня такой влюбленный?» — усміхнулася Таня.

Юзік павярнуў яе галаву да сябе, глянуў ёй у вочы, пасля пацалаваў.

Таня адказала доўгім пацалункам, пасля адарвалася і прытулілася да яго.

— Любіш?

— З таго дня.

— А цяпер ты верыш, што ёсць на свеце каханне і ў наш век? — спытала Таня.

— Веру, таму што сам упершыню так кахаю. Ты мяне будзеш чакаць? — пытаў ён і гладзіў яе валасы.— Не едзь да яго радні, вярніся назад. Я не ведаю яго, не ахайваю, але я цябе буду вельмі любіць і паважаць. Ты ж яго не любіш... Не мардуй сябе.

— Сядзем,— сказала яна і першая села,— баліць галава.

— Адпачні,— сказаў ён, таксама сеў, нахіліў Таню і паклаў яе галаву сабе на калені.— Калі ты адрачэшся ад мяне — я ні ў што не буду верыць. Ты не ўяўляеш, што ты можаш зрабіць са мной... Я зусім магу перайначыцца...

— Забудзеш,— сказала Таня,— і ўсё гэта пройдзе.

Юзік не мог зразумець, як яна адносіцца да яго, паедзе да радні жаніха ці вернецца, будзе пісаць яму ці не?

— Буду пісаць табе,— сказаў Юзік.— Толькі ты адказвай.

**Шаша Рыга — Даўгаўпілс. На семнаццатым кіламетры — паваротка ў лес. Тут у часе фашысцкай акупацыі быў самы жудасны ў Латвіі лагер смерці. У ім загінула болей ста тысяч нявольнікаў. Цяпер на гэтым месцы пабудаваны велічны мемарыяльны помнік Саласпілс — жалобны брат нашай Хатыні. У 1970 годзе яны адзначаны вышэйшай узнагародай Савецкага ўрада — Ленінскай прэміяй.**

**...Манументальная, прыўзнятая над зямлёй сцяна сімвалізуе мяжу жыцця і смерці. «За гэтаю брамаю стогне зямля»,— паведамляе надпіс. Простыя, глыбокія словы назаўсёды западаюць у памяць. Яны належаць вядомаму латышскаму паэту, даўняму шчыраму другу Беларусі Юлію Пятровічу Ванагу.**

**Яго верш «Саласпілс» — грознае і суровае папярэджанне нашым ворагам, палымяны заклік да трывожнай людской памяці і сумлення — быць заўсёды на варце.**

— А як ты будзеш называць мяне?
— Таняй.
— Няўжо ў цябе няма ласкавейшага слова?
— Ну, я не паэт, ну, напішу «дарагая і мілая Таня». Ну паглядзіш.
— А як бы ты мяне ласкавей назваў? Я хачу ведаць і чуць.
— Ну, кветачка, красачка, ластаўка, сонейка ці — мая дамашанская каралева,— пералічыў Юзік адным дыхам.

Таня ўзнялася і прыткнулася да яго носа сваім носам:

— Заві мяне каралевай, добра? Мне так вельмі падабаецца. Значыць, каралева я, ды яшчэ дамашанская. Няма ў нас каралеваў, але ты лічы ёю мяне. Хоць для сябе, добра? Ты заві мяне так, і я буду верыць, што ты любіш мяне. Я вельмі хачу быць чыстай і шчаслівай, чуеш, мой мілы пакутнік?
— Я ўжо лічу цябе сваёй каралевай,— усміхнуўся Юзік.— Ты ж не паедзеш да яго?
— Не, не! — яна закрыла яго вусны, пацалавала яго.— Не глядзі на мяне так недаверліва. Каралевам трэба верыць: яны ўмеюць чакаць і любіць сваіх рыцараў...

Вечарам пісар роты па просьбе Юзіка даваў Тані тэлеграму: «Каралева, будзь маёй жонкай».





***юлі ванаг***



ПАЭЗІЯ



## Саласпілс

**1**

За гэтаю брамаю стогне зямля,
Корчыцца ў муках каменне.
Саласпілс!
Ты — незагойная рана мая,
Сэрца майго зняменне.

**2**

Вось ён, апошні, жахлівы парог.
Схіляюся перад табою,
Дзе кожная жменя і кожны корх
Людской набрынялі крывёю.

Гэта не вецер калыша траву —
Дыша жывая грудзіна.
Стогн прабіваецца праз жарству
З самых пакутных глыбіняў.

Не ўратавацца ні цішай, ні сном.
Як водгулле, аддаецца
У нетрах планеты мой метраном —
Боль чалавечага сэрца.

**3**

Зямля! Хіба столькі згусцілася хмар,
Што нават у сонечны дзень
Забойцам не кідае ў твар
Шыбеніца свой цень?



Гляньце, якія яны ўжо лагодныя,
Чысцяць старанна пазногці да бляску,
Упэўненыя, што самыя модныя
Зноў іх морды,
Іх бомбы,
Іх маршы
І каскі.

Наліўшыся півам,
Крычаць у шынках аб рэваншы,
Нібы Саласпілс мой
Травой забыцца ўдзірванеў.
Але тут устаюць
Скамянелыя волаты нашы,
Галавой упіраюцца ў неба:
— Не!

**4**

Рыхтуеце атамную і вадародную,
Вывучаеце ўрокі мінулай вайны.
А пакуты,
А слёзы,
А памяць народную
Ці ўключылі ў свае падручнікі вы?

Не схаваць вам за фігавым лісцікам
«неа»
Новых замыслаў вашых аб новай вайне.





Вартавыя трывожнага гневу
Падымаюцца з брацкіх магіл:
— Не!

**5**

Новы фюрар, стратэг і філосаф СС
Крытыкуе памылкі сваіх папярэднікаў:
— У іх маштабы былі пасрэдныя —
Не хапала ў турмах пасадачных месц.
Уваходы ў печы былі завузкія,
Працавалі канвееры з перагрузкаю,
Не выконваўся план нарыхтоўкі
попелу —
Проста сорам
Перад Еўропаю!

Былі і ў хімікаў недалікі,
Асартымент іх прадукцыі яшчэ невялікі.
З крыві, з касцей, з валасоў, са скуры
Колькі можна
Зрабіць шэдэўраў культуры!

За гэта адказнасць ляжыць
Не
на
нас —
Дзякуй богу,
Мінае даўнасці час!..

**6**

Вось вам
Неарамантык,
Эстэт

І сноб.
Ён упэўнен,
Што болей ужо не памыліцца.
Таму і цэліцца
Не адкрыта,
Не ў лоб,
Яму зручней —
У патыліцу.

Людзі, не забывайцеся
Ні на хвіліну
Пра дзіцячыя косы,
Чаравічкі,
Сандалікі,
Цацкі,
Што ляжаць у Асвенціме
У шкляной дамавіне,
Як у адкрытай
Магіле брацкай!..

Стойце на варце,
Памяці нашай вяршыні:
Волаты Бухенвальда,
Саласпілса,
Хатыні!

З латышскай мовы пераклаў
Васіль ВІТКА.



# ПУБЛІЦЫСТЫКА



- Эдуард БРУК
- Віктар КАЛПАШЧЫКАЎ
- Валянцін ЖДАНОВІЧ
- Іван БРАЛКА
- Вера ПАЛТАРАН
- Мікалай ЮРКЕВІЧ
- Генадзь ДРАБУШЭВІЧ
- Вячаслаў РАГОЙША
- Уладзімір СОДАЛЬ
- Яўген КРУПЕНЯ
- Марат ЯГОРАЎ



● Эдуард БРУК

● Віктар КАЛПАШЧЫКАЎ

# ПРОМНІ, ЯКІЯ ГАВОРАЦЬ...

Крыміналісты памагаюць археолагам пранікнуць у таямніцы легендарнага Кіцеж-горада... Электронна-вылічальныя машыны займаюцца расшыфроўкай хецкіх гліняных таблічак... Лазерны прамень замяняе хірургу скальпель... Нобелеўская прэмія па біялогіі прысуджаецца фізікам...

Прыклады такіх навукова-тэхнічных узаемапранікненняў можна было б доўжыць і доўжыць...

Працэс інтэграцыі розных навук з'яўляецца, бадай, адной з галоўных адметных рыс сучаснага навуковага прагрэсу. Падобныя «змешаныя шлюбы» вельмі пладавітыя, а «патомствы» іх валодае якасцямі, якія не мог прадказаць ні адзін з «бацькоў».

Межы, якія яшчэ нядаўна здаваліся цвёрдымі і непахіснымі, былі бязлітасна сцёрты: нават такім, здавалася б, «упэўненым у сабе» навукам, як фізіка і хімія, давялося адмовіцца ад сваёй незалежнасці. У выніку ўзніклі фізічная хімія і хімічная фізіка. Гэта толькі іх узаемныя «ўступкі». А існуюць жа яшчэ і астрафізіка, геафізіка, біяфізіка, геахімія, біяхімія — усяго не пералічыш!

Значэнне «даччыных» навук, якія ўзніклі на стыку класічных, вельмі вялікае. Так, напрыклад, многія вядомыя фізікі звязваюць прагрэс у фізіцы мікрасвету з... астрафізікай. Не з фізікай, а з астрафізікай. Працэсы, што адбываюцца ў зорках, часам могуць паведаміць аб элементарных часцінках больш, чым самыя магутныя паскаральнікі, зробленыя чалавекам на зямлі.

Новыя гібрыдныя напрамкі ў навуцы множацца і прыносяць свой плён.

Пра адзін з іх, звязаны з праблемай перадачы інфармацыі, расказваецца тут.

### «Алё! Міжгародняя?»

Вы заказалі размову з горадам, дзе жыве ваш сябар. Праходзіць гадзіна. Тэлефон маўчыць. Вы звоніце на тэлефонную станцыю. «Лінія перагружана»,— адказвае тэлефаністка. Магло быць яшчэ горш: у вас не прынялі заказ.

«Лінія перагружана»,— такі адказ можна пачуць усё часцей і часцей. У чым жа справа? Хіба не павялічваецца колькасць тэлефонных станцый?



Справа тут не ў абыякавасці сувязістаў. Уся бяда ў тым (дарэчы, ці бяда?), што вельмі хутка расце колькасць размоў. Людзі хочуць паведаміць адзін другому больш, чым могуць перадаць існуючыя лініі сувязі. Ударная хваля сучаснага інфармацыйнага выбуху закранула перш за ўсё менавіта іх: каналы сувязі аказаліся літаральна затопленымі.

Магчыма, гэта цяжкасці росту? Магчыма, дастаткова пракласці дадатковыя тэлефонныя кабелі — і ўсё стане на сваё месца?

Усё гэта не так. Насуперак вядомай мудрасці «маўчанне — золата», людзі хочуць гаварыць адзін з адным. Каб даць усім такую магчымасць, трэба было б увесь сусветны запас каляровых металаў пусціць на тэлефонныя правады. Толькі на тэлефонныя правады.

Што і казаць, карціна сумная. Чалавецтва ж нястрымна расце.

Дзе ж выйсце?

### Кастры Чынгісхана

Яшчэ старажытныя людзі разумелі, што моцная дзяржава не можа існаваць без развітых сродкаў зносін.

Першыя лініі сувязі выглядалі досыць проста: у старажытнай дзяржаве інкаў, напрыклад, пракладваліся спецыяльныя дарогі: па гэтых дарогах забаранялася перамяшчацца каму б там ні было, акрамя ганцоў, якія неслі дзяржаўныя навіны.

Пазней сувязь паміж далёкімі пунктамі падтрымлівалася з дапамогай святла: так, для папярэджання аб небяспецы (паяўленне ворагаў, стыхійных бедстваў) распальваліся вогнішчы. Такая лінія сувязі несла вестку з даволі вялікай хуткасцю, аднак інфармацыя, што перадавалася такім чынам, была абмежаваная: калі вогнішча азначала паяўленне варожага войска, то ніякай іншай інфармацыі такая аптычная лінія сувязі перадаць не магла. Воіны Чынгісхана паведамлялі так пра свае перамогі.

Многія стагоддзі сувязь паміж суднамі ў адкрытым моры падтрымлівалася з дапамогай светлавога пучка, які ручным спосабам перарываўся згодна адпаведнага закона.

Пасля адкрыцця Генрыхам Герцам электрамагнітных хваляў і з'яўлення першага радыёпрыёмніка пачалося інтэнсіўнае асваенне радыёдыяпазону. Аптычны дыяпазон быў забыты.

### Клістрон і пяць тэлевізійных праграм

Паяўленне магутных радыёкрыніц (клістронаў, магнетронаў і інш.) спачатку адкрыла перад сувязістамі неабмежаваныя магчымасці. Ва ўсякім выпадку, так здавалася. І не без падстаў. Вядома, што радыёдыяпазон пашыраецца прыкладна ад $10^4$ да $3 \cdot 10^{11}$ герц (герц — колькасць ваганняў у секунду). Радыёстанцыі раслі, як грыбы. Аднак у хуткім часе «грыбам» стала цесна ў адведзенай для іх прасторы. Давялося заключаць спецыяльныя міжнародныя пагадненні аб падзеле сфер уплыву ў эфіры. Вельмі хутка прастора эфіру цалкам запоўнілася. Яе нават пачалі «рабаваць»: з'явіліся радыёпіраты — рабаўнікі чужых частот. Выйсце было адно — асвоіць «цалінныя» вобласці радыёдыяпазону. У радыё з'явіўся «меншы брат» — тэлебачанне.

Усходняя мудрасць гаворыць: «Лепш адзін раз убачыць, чым сто разоў пачуць». Тэлебачанне намнога павялічыла нашы магчымасці пазнання свету. Мы змаглі пабываць у нетрах афрыканскіх джунгляў і спрадвечных ільдах Запаляр'я, убачыць руіны старажытных ацтэкскіх храмаў і запуск касмічнай ракеты, зазірнуць на экзатычныя астравы Ціхага акіяна і нават злётаць на Месяц... не выходзячы са сваёй кватэры. З дапамогай тэлеба-

чання мы атрымалі магчымасць убачыцца з вядомымі палітычнымі дзеячамі, славутымі артыстамі, вядомымі спартсменамі.

Аднак часта бывае, што вас цікавіць матч вашай любімай каманды, а на экране — «Лебядзінае возера». Або: вы хацелі б паглядзець дэтэктыў, а вас грунтоўна знаёмяць з развядзеннем малькоў асятровых парод рыбы.

Не трэба крыўдаваць на складальнікаў тэлевізійных праграм. Вінаваты не толькі яны. Справа ў тым, што загана закладзена і ў самой прыродзе тэлевізійнай сувязі на радыёхвалях — колькасць каналаў абмежаваная. Свет куды багацейшы, чым можа яго паказаць сучаснае тэлебачанне.

Такім чынам, магчымасці радыёдыяпазону сёння практычна вычарпаны. Што чакае нас заўтра?

### Гіпербалоід інжынера Гарына

Вучоныя сцвярджаюць: будучае будзе належаць аптычным сістэмам сувязі. «Як? — спытае чытач,— зноў паліць вогнішчы?! Ці мігцець лямпачкай? Ці не хочаце вы сказаць, што ўсё новае — гэта ўсяго толькі добра забытае старое?»

Так, святло зноў прапануе свае паслугі. Гэта стала магчымым дзякуючы *паяўленню лазераў — крыніц манахраматычнага выпраменьвання святла*, паяўленне якіх — хаця і ў наіўнай форме — прадбачыў Аляксей Талстой.

Што нясе з сабою сувязь з дапамогай праменняў святла?

Перш за ўсё — пашырэнне паласы частот, у якой можна весці перадачы: аптычны дыяпазон ляжыць у інтэрвале $3 \cdot 10^{12}$ да $15 \cdot 10^{15}$ герц. «Кватэра», у якой павінна цяпер «пасяліцца» інфармацыя, стала больш прасторнай — у 50000 разоў. Не ў два, не ў тры, а ў пяцьдзесят тысяч!

Другая важная заслуга такой сістэмы: перадача інфармацыі зможа ажыццяўляцца з вялікай хуткасцю, што асабліва важна, напрыклад, для дальняй касмічнай сувязі, або пры зборы звестак пра калязямную прастору з дапамогай сістэмы спадарожнікаў, калі шматлікую інфармацыю неабходна перадаць за кароткі прамежак часу.

Па адным промні святла можна будзе перадаць сотні тысяч (!) тэлевізійных праграм. Ужо сёння разглядаюцца сістэмы аптычнай сувязі, якія змогуць прапускаць да 1500 каналаў каляровага тэлебачання.

*Прапускная здольнасць промня святла такая вялікая, што адзін прамень* зможа забяспечыць адначасова тэлефонныя перагаворы насельніцтву ўсяго зямнога шара.

Тэлефон можа быць устаноўлены ў кожнай кватэры. І для гэтага не спатрэбіцца траціць усе сусветныя запасы каляровых металаў.

Святло дапамагае гуку. Святло загаварыла.

### Дрэнна чуваць... Снег ідзе

Дык вось, усё насельніцтва, скажам... Токіо і Масквы, можа перагаворвацца адначасова.

Аднак як жа злучыць лазерным промнем два гарады, якія знаходзяцца на адлегласці дзесяці тысяч кіламетраў?

Першае, што прыходзіць у галаву,— пусціць лазерны прамень прама ў атмасферу. (Мы ўстановім яшчэ сістэму люстраў, каб прамень не пайшоў у космас). Тады ў гіпатэтычнай размове Токіо і Масквы ў адказ на традыцыйнае пытанне: «Чаму дрэнна чуваць» — мы пачулі б: «На жаль, нічога не можам зрабіць: у Новасібірску ідзе снег». Або дождж. Або з'явіўся





# ФІЗІКА КЛІЧА

## НЕКАЛЬКІ СТАРОНАК З ЖЫЦЦЯ ФІЗФАКА БДУ ІМЯ У. І. ЛЕНІНА



Міхась Ляшчоў — студэнт другога курса, Іван Саланові — выпускнік. Абодва яны вядуць работу па радыёфізіцы.

Студэнцкая навукова-даследчая лабараторыя. Для чужога вока — хаос прыбораў і правадоў. Для фізіка — ідэальны парадак.





У лабараторыі рэнтгенаструктурнага аналізу. Дослед вядуць асістэнт Віктар Анішчык (злева) і аспірант Аляксандр Каладзінскі.

Студэнтка пятага курса Святлана Манвелян асвойвае новую тэхніку, якую атрымала кафедра фізічнай оптыкі і спектральнага аналізу.





Інжынеры Валеры Шамаль і Ілля Белы ў лабараторыі.

Фота В. Ждановіча.



туман. Ва ўсіх выпадках святло не дойдзе да мэты прызначэння. А разам з ім не дойдуць і нашы словы.

Ва ўмовах капрызнага зямнога надвор'я гэткая лінія сувязі была б ненадзейнай.

Вядома, што лазерны прамень (а больш правільна, пучок промняў) неабходна засцерагчы ад капрызаў метэаралагічных умоў, паколькі дамагчыся заўсёды добрага надвор'я сёння мы яшчэ не можам.

Рашэнне выцякае само па сабе: змясціць прамень святла ў трубу. Там ён будзе ў бяспецы.

Усё было б добра, калі б пучок святла пры распаўсюджванні не пашыраўся. Гэткае разыходжанне пучка святла прывядзе да таго, што праз адносна невялікую адлегласць лазерны прамень «узбунтуецца», дакранецца да сценак, якія праглынуць яго. А што калі надзець на «буяна» аптычную «ўтаймавальную рубашку»? Інакш кажучы, устанавіць у трубе звычайныя шкляныя лінзы? Яны будуць перыядычна — па меры патрэбы — факусіраваць пучок. Тады прамень дойдзе да месца прызначэння і паведаміць нам усё, што яму расказалі на другім канцы лініі. «Ну, цяпер зразумела,— скажа чытач,— цяпер зразумела, як будуюцца аптычныя лініі перадачы».

Не будзем аднак спяшацца з вывадамі.

Кожная шкляная лінза, нават самай высокай якасці, мае высокія энергетычныя страты: яна прапускае праз сябе не ўсю энергію пучка, які на яе падае; частка энергіі застаецца ў лінзе — паглынаецца, а частка адбіваецца ў адваротным напрамку. Гэтыя страты прывядуць да таго, што прамень святла ў трубе са шклянымі лінзамі згубіцца.

Зноў тупік.

Выйсце з яго падказала прырода.

### Містыка, оптыка і «Лятучы галандзец»

Старая марская легенда: вахценны паруснага фрэгата заўважыў сілуэт незнаёмага карабля, які нечакана з'явіўся на гарызонце. Вахценны гатоў быў пакпясціся, што яшчэ секунду назад карабля не было. А незнаёмец ціха праплыў міма фрэгата і знік гэтак жа раптоўна, як і з'явіўся. «Лятучы галандзец! Прадвеснік няшчасця!» — жахліва закрычала каманда.

Славуты міраж у пустыні: знясілены штодзённым пераходам скрозь пяскі караван заўважае аазіс. У аазісе — вада! Вада ў пустыні — гэта жыццё. Звар'яцелыя ад смагі людзі і вярблюды кіруюцца да вады, трацячы апошнія сілы. Але іх чакае расчараванне: вада, якая была так блізка, або аддаляецца, або знікае зусім.

У гэтых паданнях ёсць свае фізічныя падставы. У оптыцы падобны эфект называецца рэфракцыяй святла. Рэфракцыя — гэта ўласцівасць святла адхіляцца ў бок большай шчыльнасці асяроддзя, праз якую яно праходзіць. Гарачы пясок пустыні награе паветра, яно ўзнімаецца ўверх і, змяшаўшыся з халодным, стварае мудрагелістыя аптычныя каналы, па якіх (у выніку рэфракцыі) адлюстраванне (напрыклад, адлюстраванне аазіса) можа перадавацца на тысячу кіламетраў. Прамень, які служыць звычайна эталонам прамой лініі, аказваецца крывым. І аазіс, які ўзнікае ва ўяўленні падарожнікаў, на самой справе можа знаходзіцца далёка ад іх.

Жах маракоў, якія ўбачылі «Лятучага галандца», таксама быў небеспадстаўны: перад штормам рэзка змяняецца ціск, што зноў жа цягне за сабой паяўленне пластоў паветра з рознай шчыльнасцю — іншым словам, і тут узнікае аптычны канал: вось па ім і перадаецца адлюстраванне карабля, які плыве, магчыма, у іншым акіяне.

Па гэтай жа прычыне пры зацьменні месяца можна назіраць надзвы-

чайную з'яву: сонца і засенены месяц бачны адначасова. Атмасфернае промнепераламленне дазваляе бачыць сонца, якое знаходзіцца за гарызонтам.

Такім чынам, прырода стварае часам аптычныя каналы. Ці нельга штучна ўзнавіць канал сувязі, які прырода стварае ад выпадку да выпадку?

**Лінзы з паветра**

Выходзіць — можна. Для гэтага неабходна навучыцца кіраваць паветрам у трубе, праз якую распаўсюджваецца пучок святла.

Мы ўжо ведаем, што прамень святла адхіляецца ў бок больш шчыльнага паветра. Калі больш шчыльнае паветра знаходзіцца ў цэнтры трубы, то прамень святла ніколі не трапіць на сценку.

Гэткага размеркавання шчыльнасці ў трубе можна дасягнуць, прадуваючы паветра скрозь трубу і адначасова награючы яе сценкі (больш цёплае паветра мае меншую шчыльнасць). Нават невялікае перавышэнне тэмпературы сценкі трубы над тэмпературай паветра, якое ўваходзіць у яе, прывядзе да таго, што тэмпература паветра ў цэнтры будзе ніжэй, чым на перыферыі (ля сценак). Труба, зробленая такім чынам, будзе дзейнічаць так, як бы ў ёй стаяла шкляная лінза: яна будзе факусіраваць пучок.

Такая прылада называецца газавай лінзай.

Газавая лінза мае мноства пераваг перад шкляной: перш за ўсё, яна не паглынае і не адбівае падаючае святло. Акрамя таго, калі аптычныя параметры шкляной лінзы (фокусная адлегласць, напрыклад) зададзены раз і назаўсёды, параметры газавай лінзы можна мяняць няспынна ў шырокіх межах. Рабіць гэта нескладана: дастаткова мяняць хуткасць прадування паветра і тэмпературу сценак трубы.

«Напэўна, тут зноў хаваецца якое-небудзь ашуканства»,— падумае чытач. І будзе мець рацыю.

У газавых лінзаў ёсць злосны вораг — зямное прыцягненне. Як толькі ўзнікаюць пласты паветра рознай шчыльнасці, уступаюць у дзеянне архімедавы сілы. Больш лёгкія пласты паветра ўзнімаюцца ўверх, а халодныя — тыя, што ў цэнтры,— апускаюцца ўніз. У фізіцы гэтая з'ява называецца свабоднай канвекцыяй (вы не раз назіралі яе, ставячы чайнік на агонь).

Апускаючыся, халоднае паветра цягне за сабой пучок святла, падвяргаючы яго небяспецы трапіць на сценку.

Перад вучонымі паўстала задача — перамагчы зямное прыцягненне.

І яны зрабілі гэта. Калі трубу вярцець вакол уласнай восі, то, страціўшы арыентацыю, халоднае паветра застанецца на месцы. Яно не «ведае», дзе знаходзіцца верх, а дзе — ніз, куды яму апускацца.

Такім чынам, асноўная задача — стварыць больш шчыльнае паветра ў цэнтры трубы. Зрабіць гэта можна не толькі з дапамогай награвання і прадування. Таго ж эфекту можна дасягнуць, накладаючы на паветра, якое знаходзіцца ў трубе, электрычнае поле. Што гэта дае? Яшчэ са школьнага курса фізікі мы ведаем, што зараджаная часціца, якая трапіла ў поле, пачынае рухацца. Але ж малекулы паветра нейтральныя? Так. Аднак пры пападанні ў электрычнае поле з імі адбываецца наступная метамарфоза: дадатна зараджаныя ядры і адмоўна зараджаныя электроны ссоўваюцца ў розныя бакі — малекула набывае дыпольны момант (яго можна ўявіць, як палачку, на канцах якой знаходзяцца зарады розных знакаў), яна палярызуецца. Калі поле ў цэнтры трубы большае, чым ля сценкі, то дыпольныя моманты папаўзуць да цэнтра і шчыльнасць паветра там павялічыцца. Такое асяроддзе будзе таксама дзейнічаць, як лінза. Цяжкасці, якія ўласцівы гэтаму спосабу факусіроўкі, звязаны з тым, што неабходныя значэнні электрычнага поля перавышаюць прабойныя — раней, чым асяроддзе пачне факусіраваць, адбудзецца свайго роду «кароткае замыканне».





Як яшчэ можна дапамагчы святлу?

Існуюць такія сітуацыі, калі святло, падобна барону Мюнхгаўзену, які выцягнуў самога сябе разам з карэтай на выспачку з балота, у стане абысціся без пабочнай дапамогі. Мы ўвесь час гаварылі, што святло паварочвае ў бок паветра з вялікай шчыльнасцю. Наогул жа справа абстаіць крыху больш складана. Мы ўжо ўпаміналі пра дыпольны момант. Дык вось: на самой справе святло паварочвае туды, дзе большы дыпольны момант. А паколькі святло само з'яўляецца электрамагнітнай хваляй і само, такім чынам, індуцыруе ў паветры дыпольны момант, то яно само пракладае сабе дарогу. Пакуль напружанасць поля невялікая — паняцці «больш шчыльнае паветра» і «больш дыпольны момант» супадаюць. Па меры росту напружанасці ідэнтычнасць гэтых паняццяў страчваецца. Пры пашырэнні пучка лазерных промняў у асяроддзі напружанасць поля ў цэнтры пучка аказваецца большай — адпаведна большым з'яўляецца і дыпольны момант: крайнія промні пучка паварочваюць да цэнтра — святло само сябе факусіруе. Гэтая з'ява так і называецца: самафакусіроўка. На жаль, да гэтага часу самафакусіроўка назіралася толькі ў вадкасці; вадкасць жа для нашых мэтаў непрыгодная: яна занадта многа паглынае святла. Усё ж прынцыпова такі спосаб кіравання святлом з'яўляецца не толькі цікавым, але і важным, напрыклад, там, дзе перадачу інфармацыі патрэбна весці на невялікія адлегласці.

Вернемся аднак да пачатку — да пытання аб перадачы інфармацыі на вялікія адлегласці.

**Сувязь заўтрашняга дня**

Калі размясціць газавыя лінзы на ўсёй адлегласці ад Масквы да Токіо, атрымаецца тэрмагазавы светлавод — канал інфармацыі з велізарнай прапускной здольнасцю.

Новы навуковы напрамак, які ўзнік на стыку навук: аэрадынамікі, цеплаабмену і оптыкі — аэратэрмаоптыка, займаецца пытаннямі стварэння такіх ліній сувязі. Ліній сувязі заўтрашняга дня.

Эксперыментальныя светлаводы невялікай працягласці існуюць у лабараторыях СССР, ЗША і Японіі.

Работы гэтага напрамку вядуцца і ў Акадэміі навук БССР.

Навуковыя прагнозы, зробленыя спецыялістамі, прадказваюць пераход на аптычныя сістэмы сувязі ўжо недзе пасля 1980 года.

На шляху стварэння працяглых аптычных ліній перадачы даследчыкаў чакае шмат невядомага. Наперадзе доўгі шлях ад лабараторных стэндаў да камерцыйных ліній сувязі.

Вучоных у іх нялёгкай і карпатлівай працы натхняе высакародная мэта: дапамагчы людзям нашай планеты наладзіць зносіны і ўзаемаразуменне.

Промні, якія гавораць, будуць служыць гэтай мэце.



*ЛАЎРЭАТЫ ПРЭМІІ ЛЕНІНСКАГА КАМСАМОЛА*

# ЗАЛАТЫ ПЯСОК ДОКТАРА САЛДАТАВА







Уладзімір Салдатаў—адзін з самых маладых дактароў навук Беларусі: яму ледзь пераваліла за трыццаць. Толькі сівізна ў скронях сведчыць, што не проста дасягнуў ён вяршынь навукі. Што ж, хімія—не такая галіна ведаў, дзе можна зрабіць адкрыццё знянацку. Уладзіміра Салдатава, выдатнага хіміка, зрабіў сам Салдатаў, зрабіў дзякуючы сваёй неверагоднай працаздольнасці. Сам жа Уладзімір пра гэта гаворыць інакш:

— Я атрымаў адукацыю на хімфаку БДУ імя У. І. Леніна. Маім настаўнікам быў прафесар Рыгор Лазаравіч Старобінец. Наогул, усе беларускія «іянітчыкі» так ці інакш вучыліся ў яго. Ім створана школа, якая на сённяшні дзень можа канкурыраваць, бадай, з лепшымі школамі не толькі ў СССР, але і ў сусветнай навуцы пра іяніты. Сёння Мінск—буйны цэнтр у гэтай галіне.

У нас ужо тры дактары—гэта сам Старобінец, Вольга Раманаўна Скараход і Уладзімір Сяргеевіч Салдатаў. А што датычыць часу, то...—Я сам не намнога маладзейшы за маю навуку,—кажа далей Уладзімір.—Першыя даследаванні па тэрмадынаміцы іённага абмену паявіліся перад вайной. Але шырокае вывучэнне пачалося ў пяцідзесятых гадах.

Так, Салдатаў прыйшоў не да накрытага стала. На сутыкненні дзвюх навук—хіміі і фізікі—яшчэ толькі ўзнікала тэорыя іённага абмену.

— Цяжка пераацаніць важнасць гэтай галіны. Глыбінныя прыродныя працэсы: абмен рэчываў у арганізмах, перадача нервовых імпульсаў, фармаўтварэнне горных парод і г. д.—прыкладаў мноства—можам растлумачыць мы, іянітчыкі. Гэта—тэарэтычны бок справы. Другая праблема—тэхналагічная, як у саміх доследах, так і ў вытворчасці іянітаў і ў іх прымяненні. На аснове дасягненняў нашай навукі чалавецтва навучылася ачышчаць забруджаную ваду і апрасняць марскую, здабываць рэдкія хімічныя элементы, без якіх немагчыма існаванне сучаснай тэхнікі: германій, цэзій, рубідзій, уран. Ды нават звычайную медзь можна здабываць з самай складанай руды пры дапамозе іянітаў—гэты прагрэсіўны метад называецца гідраметалургія. А антыбіётыкі!.. Іх вытворчасць цяпер таксама змяняе тэхналогію: іённы абмен і тут даказаў свае перавагі.

Малады вучоны спакойна, стрымана гаварыў пра з'явы захапляючыя, пра адкрыцці, узровень якіх цалкам супадае з генеральнай лініяй навукі касмічнага веку. Што ж ён, Уладзімір Салдатаў, зрабіў уласнаручна, што вынайшлі яго сорак памочнікаў?

— Наша лабараторыя вывучае галоўным чынам выбіральнасць іянітаў, гэта значыць іх уласцівасці паглынаць, адбіраць з мноства рэчываў адно, неабходнае нам. Выпрацоўваем меры ўздзеяння на выбіральнасць, і тут у нас два напрамкі: кіраваць знешнім асяроддзем, у якім адбываецца іённы абмен, ці адшукваць новыя іяніты. Зразумела, што эксперымент у нашай рабоце мае велізарнае значэнне. Абагульняючы вынікі доследаў, мы значна прасунулі наперад і тэорыю. На жаль, папулярнай мовай цяжка растлумачыць тыя тэарэтычныя праблемы, якія мы распрацоўваем. Але наш дэвіз такі: ад самай складанай хіміі да найпрасцейшай тэхналогіі. Толькі тады іяніты маюць права на ўкараненне ў тэхніку.

Доктар Салдатаў, паказваючы сваю гаспадарку, прадэманстраваў адзін прыбор, створаны ў яго лабараторыі.

— Таямніцы матэрыі і рэчываў адкрываюцца сучасным вучоным толькі ў тым выпадку, калі эксперымент праводзіцца з дакладнасцю вышэйшых парадкаў. Успомніце хаця б доследы Рэзерфорда і Капіцы ў ядзернай фізіцы. Вось і нам прыйшлося стварыць звышдакладны тэрмометр. Лепшае, што мы маглі набыць, быў прыбор адной шведскай фірмы, які адзначаў $\frac{1}{10\,000}$ градуса па Цэльсію. Гэта нас не задавальняла. Наш прыбор адзначае хістанні тэмпературы, роўныя $\frac{1}{100.000.000}$ долі градуса, адзначае, урэшце, на звычайных самапісцах, так што кожнае імгненне рэакцыі надзейна фіксуецца.

Гэтае паведамленне доктара Салдатава знаходзілася недзе за межамі рэальнага свету, у вобласці фантастыкі, таксама як і незвычайна буйныя кактусы, што раслі на падаконніках лабараторыі ў маленькіх гаршчочках. А ў гаршчочках насыпана было залацістае рэчыва—штучная глеба, або іяніты.

Штучная глеба вынайдзена ў лабараторыі Салдатава. Першыя доследы на ёй у садружнасці з беларускімі біёлагамі далі такія паказчыкі, што ўпершыню ўсур'ёз, з поўнай навуковай абгрунтаванасцю загаварылі пра гароды на касмічных караблях будучага.

Але чалавек жыве на зямлі. Доктара Салдатава непакоіць адносна высокі кошт штучнай глебы.

— І ўсё ж,— кажа ён,— невялікія дабаўкі штучнай глебы ў парніковы грунт цалкам апраўдваюць усе затраты на яе, рэзка павышаючы ўраджайнасць.

— Біёлагі—вашы аспоўныя калегі ў практычным выкарыстанні іянітаў?

— Так. Мы свае пошукі ў стварэнні штучнай глебы амаль закончылі. А яны толькі пачынаюць яе вывучаць.

— Што вы робіце па распаўсюджанні сваіх тэарэтычных дасягненняў?

— Публікацый было шмат. Самая апошняя з іх і самая ёмістая — кніга «Простые ионообменные равновесия», якая цяпер выходзіць з друку.

...Нікне дзень за акном. Доктар Салдатаў уключае святло. І тады сівізна ў яго скронях успыхвае золатам. І залацістымі праменьчыкамі ўспыхваюць крупінкі іяпітаў пад калючымі кактусамі. Яшчэ можна дадаць, што Уладзіміру Сяргеевічу Салдатаву, доктару хімічных навук, загадчыку лабараторыі Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі АН БССР, за цыкл работ па тэрмадынаміцы іёнаабменных працэсаў прысуджана прэмія Ленінскага камсамола за 1971 год.

**Валянцін ЖДАНОВІЧ.**



# ВІТОЛЬДАВА ПОЛЕ

Ён яшчэ раз акінуў позіркам поле. Трактар, заняўшы невядома які ўжо загон, зноў схаваўся за пагоркам. Толькі свежая ралля зіхцела ў першых промнях сонца.

«Ого, які кавалак! Пэўна ўсю ноч працаваў»,— падумаў Вітольд. І нават пазайздросціў.

Эх, з якой прагнасцю ён схапіўся б за рычагі трактара і слаў бы вось так баразну за баразною. Толькі ў яго цяпер, як кажуць, зусім іншае поле — жывёлагадоўчая ферма. Туды ён і спяшаецца.

«А ўсё-такі цікава: хто гэта арэ? Не інакш, як Глускі. Арэ, нібы піша. Ну, якое яшчэ можа быць сумненне! Казімір Глускі, яго гэта работа»...

З-за пагорка паказаўся радыятар, за ім — кабіна, а потым і ўвесь трактар. Вітольд прыгледзеўся: так, гэта той самы ж блакітны «МТЗ-50». На ім і на гэтым жа полі за Ашмянкай тры гады назад Вітольд праклаў першую баразну. Хто ён тады быў? Выпускнік Ашмянскага прафесійна-тэхнічнага вучылішча. Памятаецца, калі старшыня Міхаіл Аляксеевіч Шылкоў прапанаваў яго да Глускага ў памочнікі, той не адразу даў згоду.

— У мяне такое правіла,— строга сказаў Глускі,— каб напарнік не спаў у шапку...

— Не праспіць,— заступіўся за Вітольда старшыня.— Хлопец адслужыў армію, скончыў вучылішча...

Вітольд узяўся сур'ёзна вывучаць механізатарскую навуку. Шмат дапамагаў яму Казімір Глускі. Ён вучыў хлопца і як лепш заняць загон, і як рабіць павароты, каб на полі не заставаліся «балалайкі». Паехалі сеяць — Глускі зноў побач. Дапамог адрэгуляваць сеялку, растлумачыў, як весці агрэгат, каб потым радочкі ўсходаў былі як пад лінейку адведзеныя...

Вядома, таварыская парада добра, а свой розум, свае веды — яшчэ лепш. І Вітольд засеў за кнігі. Днём — практыка, увечары — тэорыя. Бывала, да поўначы чытае, выпіскі робіць, каб пры выпадку і з аграномам пагаварыць «на роўных».

— Не інакш як паступаць куды надумаў? — неяк пацікавілася маці.

— А хіба веды патрэбны, каб толькі куды-небудзь паступаць? — пытаннем на пытанне адказаў сын, адклаў кнігу, задумаўся.— А паступаць, ты праўду кажаш, маці, абавязкова трэба!..

— А я пра што,— падхапіла маці.— Глядзіш, і інжынерам станеш.

«Інжынерам... А хіба механізатар — не той жа інжынер на полі?..»

Была адна з многіх красавіцкіх раніц. Прачнуўся Вітольд, па звычцы глянуў у акно — і аж быў прыліп да шыбы. «Няўжо мароз?» Так, гэта быў веснавы замаразак: на вуліцы, на дахах дамоў, на дрэвах і траве — усюды іскрыўся іней. Хлопец глянуў на тэрмометр: два градусы ніжэй нуля! А там жа, на полі, першыя ўсходы. Яшчэ ўчора яны з аграномам абыходзілі палеткі, любаваліся ярка-зялёнымі радочкамі.

«Няўжо загінуць? Няўжо ўсе клопаты былі дарэмныя?» Вітольд не мог супакоіцца і калі заводзіў за ноч застылы трактар, і калі ехаў у поле. Яно выглядала нязвыкла: усходы густа ўсыпаныя інеем, як абсыпаныя чым белым. Здавалася, што яны за ноч пасівелі.

— Ну як, жывыя?

Вітольд падняў галаву. Да яго праз поле праставаў Казімір Глускі. Ён таксама, як толькі ўбачыў, што заняўся замаразак, адразу падаўся сюды, у поле.

Хлопец абтрос з рук іней, зрабіў крок-другі насустрач.

— А хто ж яго ведае,— адно выціснуў ён.— Павінны выстаяць!..

Пакуль механізатары меркавалі-раіліся, што рабіць, як ратаваць пасевы, на поле прыехаў і аграном Аляксандр Кутэйка.

— Вось вам і ранняя сяўба,— замест прывітання сказаў Вітольд і кіўнуў галавой у бок палетку.

— Ранняя сяўба, кажаш, вінавата? — перапытаў аграном.— А па-мойму, усё будзе добра. Пасевы падраслі, акрэплі. Толькі неабходна даць ім падкормку.

— Гэта за намі не стане,— адказалі хлопцы.— Абы перасяваць не давялося.

Сёлетняй вясной механізатары перажылі яшчэ адну, таксама не меншую трывогу за ўраджай. Яшчэ як след не паспелі падрасці пасевы, як раптам ударыла суш. За месяц не выпала ні кроплі дажджу.

— Загінула збажына,— шкадавалі людзі.

І ён, Вітольд, не на жарт занепакоіўся. Па некалькі разоў на дні наведваў палі, і заўсёды хоць і трывожна было на душы, але нешта супакойвала: ведаў, што ўгнаенняў унесена ў глебу багата, поўная норма.

Недзе толькі праз месяц пайшоў дождж, напаіў ніву вільгаццю, і пасевы акрыялі. І сёлета, пры складаных, неспрыяльных умовах, у калгасе вырашчан багаты ўраджай: атрымана па 31 цэнтнеры збожжа з гектара. Наперадзе — новыя планы. Механізатары змагаюцца за тое, каб ніва давала ў сярэднім па 35—40 цэнтнераў на ўсёй плошчы пасеву.

Сучасны хлебароб — перш за ўсё механізатар. Ён — галоўная фігура на вёсцы. Але ён не можа абмяжоўвацца толькі сваёй работай, павінен думаць шырэй, як сапраўдны гаспадар зямлі.

Вітольд на абласных спаборніцтвах аратых заняў першае месца. Але нават і чэмпіён адзін на калгасным полі — не воін. Свой вопыт, сваё майстэрства трэба перадаваць другім. Такое ў Вітольда правіла: яго веды і вопыт — здабытак калектыву.

Пасля III Усесаюзнага з'езда калгаснікаў у краіне разгарнуўся паход сярод вясковай моладзі за авалоданне тэхнічнымі прафесіямі. У калгасе ж «Ясная Паляна» пра механізатарскі ўсенавуч не падумалі. А механізатары патрэбны.

Вітольд (ён у той час ужо быў сакратаром камсамольскай арганізацыі) — да старшыні. Так і так, маўляў, трэба камсамольцаў паслаць на вучобу ў СПТВ.

— А каго паслаць?—у сваю чаргу запытаўся старшыня.—Хіба цябе ў другі раз?

— Ёсць каго. Абы была на тое згода праўлення.

Згоду праўленне дало адразу. І адзінаццаць юнакоў і дзяўчат былі накіраваны на вучобу ў Ашмяны. Усе вярнуліся ў калгас трактарыстамі. Гэта камсамольцы Станіслаў Красноўскі, Іван Сінкевіч, Іван і Уладзімір Бароўскія, Антон Дабравольскі...

...Неяк Вітольд зайшоў у кантору. У кабінеце былі старшыня Міхаіл Шылкоў і галоўны заатэхнік Рычард Кашко.

— А, сакратар! Заходзь, заходзь,—кінуў з-за стала старшыня. Затым зірнуў на аркуш паперы, што ляжаў перад ім.—Тут мы з заатэхнікам гаворым пра ферму. Нічога вясёлага... А чаму? Відаць, таму, што там няма парадку: даглядчыкі—самі па сабе, а падвозчыкі кармоў—самі па сабе. Няма між імі кантакту...

— Дык можа мы ферму возьмем пад свой камсамольскі кантроль?—прапанаваў Вітольд.

— Кантроль, кажаш?—старшыня задумаўся.—Не. Тут нешта іншае трэба.

— Звяно трэба, Міхаіл Аляксеевіч,—падказаў галоўны заатэхнік.

Так было створана механізаванае комплекснае звяно. Пяцёра ў гэтым звяне, каму блізкія інтарэсы і поля і фермы,—камуністы Бярнард Нядзведскі і Пётр Гайдаровіч, камсамолец Іван Сінкевіч, Генадзь Аніхоўскі. Узначаліў пяцёрку Вітольд. Адзін за адным ідуць трактары з кормараздатчыкамі, і ў кармушкі сыплецца сянаж, залацістая ячменка, камбікорм. Цяпер не трэба чакаць, пакуль хто падвязе кармы. Механізатары і нарыхтоўку, і падвозку, і раздачу кармоў робяць самі. Адразу стала прыбаўляць у вазе жывёла—да 900 грамаў за суткі.

Вядома, каб гаспадарыць на такой ферме, дзе каля тысячы галоў жывёлы, патрэбны веды. І Вітольд паступае ў Жыровіцкі тэхнікум механізацыі сельскай гаспадаркі. Зразумела, на завочнае аддзяленне. Звеннявы тармосіць напарнікаў: «Хлопцы, трэба брацца за вучобу!»

Нядаўна маладому камуністу Вітольду Грыцу прысуджана прэмія Ленінскага камсамола за 1971 год. За што? За плённыя поспехі, за ўкараненне ў вытворчасць перадавых метадаў працы. Ён дэлегат XVI з'езда камсамола, член ЦК ВЛКСМ. Усё—заслужанае.

Новых табе, Вітольд, пошукаў і здзяйсненняў!

**Іван БРАЛКА.**





# МАЛДАВІЯ ЎЧОРА І СЁННЯ

Ля паўднёва-заходніх рубяжоў нашай краіны, пачынаючы ад Прута, ад дзяржаўнай граніцы з Румыніяй, і канчаючы левабярэжжам Днястра, раскінуліся землі Малдаўскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Трыста пяцьдзесят кіламетраў з поўначы на поўдзень, сто пяцьдзесят з захаду на ўсход... Не здзівяць гэтыя зем-

лі сваім прасторам, затое здзіўляць сваёю красой. Калі едзеш па малдаўскіх дарогах, — а яны выпісваюць такія зігзагі, што машыну, якая ідзе ззаду, бачыш далёка ўперадзе, — і калі перад вачамі плывуць і плывуць у павольна-ганарлівым кружэнні ярка-зялёныя тэрасы вінаграднікаў, залацістыя кукурузныя палі, калі засвецяцца то пяшчотнаю ружовасцю, то кволаю жаўцізною плантацыі духмянага тытуню і ўсё гэта раптам высвеціцца, як на экране, на чорнай, тлустай, аж бліскучай зямлі, табе пачынае здавацца, што гэта менавіта вось тут, на гэтым фантастычным перасячэнні малдаўскіх узгоркаў, прыродзе захацелася прадэманстраваць свой найтанчэйшы каларыстычны густ.

Малдаўская зямля і малдаўскі народ вядуць сваю гісторыю з вельмі даўніх часоў. Першыя звесткі пра паселішча, якое было размешчана на тым месцы, дзе цяпер знаходзіцца горад Бендэры, адносяцца да трэцяга стагоддзя да нашай эры. У першым-трэцім стагоддзях нашай эры тэрыторыю цяперашняй Малдавіі заваявалі рымляне. З тае пары і пачынаецца доўгая, шматвяковая гісторыя нашэсцяў на зямлю, якая стала радзімай малдаван, гісторыя барацьбы нешматлікага, але гераічнага і мужнага народа за сваю свабоду і незалежнасць.

На зямлі, размешчаныя паміж Днястром і Прутам, рабілі набегі полаўцы, печанегі і гуны, іх спусташала Залатая Арда, на іх пасягалі венгерскія феадалы і польскія паны; тут чынілі здзек туркі і румынскія баяры. «Краіна на шляху ўсіх бед», — так назваў Малдавію адзін сярэдневяковы летапісец.

У фармаванні малдаўскай народнасці вялікую ролю адыгралі славянскія плямёны, якія некалі жылі на тэрыторыі Дакіі. Бліжэйшыя продкі малдаван — волахі паходзяць ад зліцця дакійскіх і славянскіх плямёнаў.

Славянскія рысы і па сёння захоўваюцца ў этнічным вобліку некаторай часткі малдаван. На поўначы рэспублікі ёсць сёлы, якія здзіўляюць чыста палескім абліччам сваіх жыхароў. Наіўна, па песні ўяўляючы ўсіх малдаванак смуглянкамі, як жа я здзівілася, апынуўшыся ў сяле Сокал Рэзінскага раёна сярод бялявых, сінявокіх жанчын і дзяўчат, ну зусім жа «палескіх», тонежскіх па сваёй душэўнай сціпласці, па сарамлівай грацыёзнасці і па нейкай глыбіннай, схаванай за тонкаю плёнкай ні то лёгкай адчужанасці, ні то сваёй чалавечай годнасці, дабраце.

Зямля Малдовы таксама беражліва шануе сваё сваяцтва з далёкімі славянскімі плямёнамі. Тут у добрым суседстве жывуць, ахрышчаныя ў далёкую даўніну на мове сваіх першых насельнікаў, гарады, паселішчы і сёлы: Салтанешты, Трыфанешты, Зярнешты — побач з Хрысцічамі, Балоцінам, Вокніцай; Кукурузены і Брынзены — з Сагайдакам і Чобрычам; Маркаўцы і Клімаўцы — са Сцяпанаўкай і Дубнам. Жывуць мірна, дружна, свецячы адно другому святлом сваёй далёкай гісторыі, ніхто іх не перахрышчвае на, скажам, Сонечнаўцы ці Светланешты, як гэта яшчэ часам бывае ў нас са Светлагорскамі ці Сонечнагорскамі, і дзякуй богу, бо нішто так не адчувае патрэбу ў павазе, як гісторыя, а дым лёгкаважкіх, пустых слоў затуманьвае яе праўдзівае люстра, і ў ім ужо нічога нельга ўбачыць, акрамя хіба таго, што хочаш убачыць. Гісторыя — гэта памяць народа. Страціўшы яе, народ сыходзіць з гістарычнай арэны.

У XIV—XV стагоддзях склалася і пачало існаваць самастойнае малдаўскае феадальнае княства. Каб адстаяць сваю незалежнасць ад шматлікіх заваёўнікаў, якіх прываблівалі яго землі, яно пачало шукаць кантактаў з рускай дзяржавай. Гэтыя кантакты асабліва ўзмацніліся пры малдаўскіх гаспадарах Стэфане Вялікім і Пятру Рарашу, якія ў тыя часы кіравалі дзяржавай.

І ўсё ж, нягледзячы на гераічнае супраціўленне народа, у палове XVI стагоддзя Малдавія на трыста гадоў трапіла пад прыгнёт султанскай Турцыі.

Сёння шматлікія турысты, якія падарожнічаюць па Днястры і яго маляўнічых узбярэжжах, не могуць не звярнуць увагі на невялікія акенцы, што высечаны ў прыбярэжных гарах усцяж усяго Днястра. Гэта пячоры. Сумнымі вачніцамі гэтых пячор глядзіць на свет шматпакутная гісторыя заняволенага народа, які ў роднай зямлі, у камені шукаў ратунку ад бясчынстваў і здзеку турэцкіх і татарскіх заваёўнікаў.





Вызваліла Малдавію ад турэцкага ярма Расія, якая павяла войны з туркамі. Па мірным дагаворы 1791 года, у склад рускай дзяржавы ўвайшла тэрыторыя паміж Днястром і Бугам, а пераможна закончыўшы вайну 1806—1812 года, Кутузаў далучыў да Расіі і міжрэчча Днястра і Прута, якое пазней пачало называцца Бесарабіяй.

З 1812 па 1917 год Малдавія знаходзілася ў складзе рускай дзяржавы. Калі рускае самадзяржаўе ў 1917 годзе было скінута і рэвалюцыя рушыла на ўскраіны Расіі, савецкая ўлада была ўстаноўлена і ў Малдавіі. Ды ненадоўга. Румынская і ўкраінская белагвардзейшчына пры падтрымцы імперыялістычных дзяржаў пачала ўзброеную інтэрвенцыю і захапіла Бесарабію. Дзяржаўная мяжа, як балючая рана на жывым целе малдаўскага народа, крывавіла 22 гады. І толькі ў чэрвені 1940 года была ўстаноўлена гістарычная справядлівасць: малдаўскі народ быў уз'яднаны ў адзінай Малдаўскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы. Днём яе нараджэння стала 2-е жніўня 1940 года.

Гераізм, праяўлены ў Вялікай Айчыннай вайне, паказаў, што малдаўскі народ зразумеў, што ён атрымаў ад савецкай улады і што ў яго хочуць адабраць цяпер ужо фашысцкія заваёўнікі. Адзін горад Цірасполь даў Радзіме пяць Герояў Савецкага Саюза. Усёй краіне вядомы таксама імёны слаўных сыноў малдаўскага народа Іона Солтыса, які, як Аляксандр Матросаў, закрыў сваімі грудзьмі амбразуру варожага дзота, Барыса Главана, якога ваенны лёс закінуў на Украіну і які разам з Алегам Кашавым раздзяліў трагедыю і славу Краснадонскага падполля.

Іх многа, з залатымі зоркамі Героя, у вянку народнай славы Малдавіі. А безыменныя героі... А народныя мсціўцы... Пра іх вядуць сваю песню малдаўскія Кодры, пра іх расказваюць нямою мовою каменя сівыя прыднястроўскія пячоры — слухай, прымай у душу, помні...

Такая, у кароткіх рысах, гісторыя Малдовы. Гісторыя шматпакутная і гераічная. Гісторыя, вартая вялікага народа.

Трыста пяцьдзесят кіламетраў з поўначы на поўдзень, сто пяцьдзесят — з захаду на ўсход. Адна сямісотая частка Савецкага Саюза. Што ж яна важыць, гэтая адна сямісотая, у агульным балансе краіны?

Каб адказаць на гэтае пытанне, кінем зноў кароценькі погляд у гісторыю.

Калі царская Расія, уключыўшы ў 1812 годзе ў свой склад Бесарабію, дала нейкі выхад на свой шырокі рынак малдаўскаму віну і хлебу і гэтым некалькі зрушыла ў лепшы бок яе эканоміку, то Румынія, захапіўшы Бесарабію ў 1918 годзе, фактычна зрабіла яе сваёй калоніяй. У эканоміцы Бесарабіі на долю прамысловай прадукцыі прыпадала ўсяго 2—3 працэнты. Рамесныя дапатопныя майстэрні, у якіх адліваліся скавароды, былі яе найвышэйшай індустрыяй, драўляныя карыты, у якіх сяляне босымі нагамі давілі вінаград, выціскаючы сок, былі яе харчовай прамысловасцю.

Маладой савецкай рэспубліцы Малдавіі, якая воляю лёсу адстала ад іншых сваіх рэспублік-сясцёр на два дзесяцігоддзі, давялося ўздымаць сваю індустрыю літаральна на голым месцы.

І нельга не парадавацца, ходзячы сёння па Малдавіі, што слаўнутыя малдаўскія вінаграднікі апрацоўваюцца трактарамі, якія пабудаваны на малдаўскім трактарным заводзе, што з малдаўскіх чыгуначных станцый прамысловая прадукцыя рэспублікі адпраўляецца ў дзесяткі краін Еўропы, Азіі, Афрыкі, што на заводах і фабрыках Малдавіі выкарыстоўваецца самая высокая сучасная тэхналогія, навейшыя дасягненні радыёэлектронікі, оптыкі і іншых навук.



Пятро КРАХАЛЁЎ. Люты.



Рыгор Раманавіч ШЫРМА.

## ДА 80-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ



Сяло Сокал.

У брыгадзе Васіля Іванавіча Бадана паспеў вінаград. (Калгас «Патрыя»).





Саўгас Грацієшты. Студэнцкая працоўная восень.



Сушыцца духмяны малдаўскі тытунь.

Здаецца, тут, на гэтых малдаўскіх узгорках, прыродзе захацелася паказаць свой каларыстычны густ...



Завод «Вібрапрыбор». Гэта адно з самых перадавых, самых сучасных прадпрыемстваў рэспублікі. Калектыў яго занесены ў Залатую кнігу гонару Малдаўскай ССР. На заводзе працуе каля трох тысяч рабочых чатырнаццаці нацыянальнасцяў — Малдавія была ў мінулым і застаецца цяпер адной з самых шматнацыянальных рэспублік.

З сакратаром камітэта камсамола Славам Пшанічнікавым ідзем па цэхах завода. Цішыня. Святло залівае вялізныя рады сталоў, за якімі ў белых халатах сядзяць рабочыя.

— Завод наш малады, — расказвае Слава, — яму ўсяго дванаццаць гадоў. І людзі ў нас працуюць маладыя. Сярэдні ўзрост нашых рабочых — 24—25 гадоў. Вось пазнаёмцеся, — ён спыняецца каля аднаго са сталоў, — гэта Рая Давідовіч, наша актыўная камсамолка. А гэта, Рая, твае землякі.

— Ой, вы з Беларусі? — падхопліваецца з-за стала стройная, паглядная дзяўчына. — І я з Беларусі — з Асіповіцкага раёна...

— Рая ў нас вельмі старанная работніца, добры слесар-зборшчык...

— А-ай, Слава.. Ну што ты... Як там у нас, у Беларусі? Расскажы-ыце...

Стаім, размаўляем. Рая расказвае, што ёй добра працуецца на гэтым заводзе, што яна любіць сваю работу, любіць людзей, сярод якіх жыве і працуе, што жыццё яе ўжо ўладкавалася, і яна застанецца тут жыць і працаваць.

— Але як там у нас? Ну, яшчэ раскажыце... яшчэ...

Я расказваю, Рая слухае, і ўжо не словы тут важныя, а тое цёплае, глыбокае, невыказнае, што адчуваеш, успомніўшы маці, чым пры нараджэнні надзяляе чалавека родная зямля, каб праз яго ён разумеў другія землі і другія народы.

Мы з Раяй загаварыліся: белявая чупрына Славы Пшанічнікава свеціць ужо ў другім канцы цэха; побач са Славам — невысокі смуглявы малады мужчына.

— Гаршцяў, Міхаіл Міхайлавіч. Начальнік зборачнага цэха, — знаёміць нас Слава, калі я падыходжу да іх.

Міхаіл Міхайлавіч прыйшоў на завод, калі ён толькі пачаў будавацца. Разгружаў цэглу, клаў падмурак, узводзіў сцены. Потым вучыўся, па ступеньках асвойваў спецыяльнасць, удасканальваўся ў ёй. Нарэшце ў яго і ведаў, і вопыту стала столькі, што яму даверылі вучыць іншых, кіраваць самым складаным цэхам. І Міхаіл Міхайлавіч вучыць, кіруе — і, трэба думаць, добра вучыць і добра кіруе, — таму што якая ні тонкая справа зборка асцылографаў, а рэкламацый на іх у адрас завода не паступае. Купляюць жа іх 28 краін свету.

Такіх заводаў, як «Вібрапрыбор», расказвае Міхаіл Міхайлавіч, у нас не так многа. За кароткі час асвоены шырокі асартымент прадукцыі, якая карыстаецца шырокім попытам. Гэта — гальванометры, пераўтваральнікі магутнасці току, асцылографы розных тыпаў. Асаблівы попыт на асцылографы. Гэта прыборы, якія рэгіструюць светлавым праменем розныя электрычныя велічыні — прымяняць іх можна як у лабараторыях, так і ў палявых умовах. Ёсць асцылограф самалётны, вельмі неабходны лётчыкам у палёце, асцылограф для вымярэння геафізічных параметраў пры свідраванні шчылін — рэч вельмі неабходная для геафізікаў, асцылограф для рэгістрацыі аварыйных рэжымаў у энергасістэмах — вышэйшай пільнасці «вартаўнік», неабходны для энергетыкаў. Усё гэта прыборы высокай адчувальнасці, высокага класа дакладнасці.

Міхаіл Міхайлавіч расказвае горача, з захапленнем, як толькі можа расказваць добры майстар пра сваю работу. Я слухаю яго, слухаю сябе, узіраюся ў твары людзей у белых халатах, што снуюць-высноўваюць нешта фантастычнае з тонкага перапляцення правадоў, і мне раптам здаецца, што недзе ў самай глыбіні маёй памяці ціхім далёкім звонам абзываецца тая колішняя, тая першабытная скавародка... І ўслед за гэтым звонам — выбух радасці, зыркай, як святочны салют: вось у якія касмічныя прамысловыя вышыні сягнулі мы з вамі сёння, дарагія мае малдаўскія браты! А пачыналі ж са скавародкі!

Слава Пшанічнікаў знаёміць нас з заводам, з людзьмі, мы ж тым часам знаёмімся са Славам. Першае ўражанне: ён вельмі ўсім патрэбны, гэты рухавы спартыўны юнак. На кожным кроку нас з ім спыняюць: «Слухай, Слава. Там, у СКБ, зноў нешта марудзяць...», «Слава, хвілінку! Грамадскі кантроль выявіў...», «Сёння патрэніруемся, Слава?»

Інжынер па адукацыі — ён закончыў Куйбышаўскі інстытут, — Слава добра ведае вытворчасць. Ды і як жа інакш? 95 працэнтаў рабочых завода з вышэйшай і спецыяльнай адукацыяй. Паспрабуй, пагавары з імі, не ведаючы справы! І Слава калі каму даручае якую работу, то ведае, што даручае і якія тут могуць быць складанасці — яму не выдумаеш «аб'ектыўных» прычын, каб апраўдацца за нязробленае. Ён можа быць вельмі сур'ёзным і патрабавальным.

На заводзе — 800 камсамольцаў. А тыя маладыя рабочыя, што не маюць камсамольскіх білетаў, — іх жа таксама трэба зацікавіць і вытворчай вучобай, і самадзейнасцю, і спортам. Адным словам, з соцень маладых, розных па характары адзінак трэба зрабіць калектыў — і не нівеліроўкай, падгонкай характараў пад адзін трафарэт, а шліфоўкай кожнага характару, «даводкай» яго граняў у патрэбным кірунку. Грані ж гэтыя ў цяперашняй моладзі, трэба сказаць, вельмі вострыя.

— Гэта цяжка, Слава?

— Цікава.

Ідзем далей — з цэха ў цэх, падымаемся з паверха на паверх. Славу — прыязныя ўсмешкі насустрач, Славу — вясёлы жарт, маўклівы сяброўскі поціск рукі. Адразу відаць, Славу тут не толькі паважаюць, а любяць. А ой-ёй што можна зрабіць з людзьмі, калі яны цябе любяць! Камсамольская арганізацыя на «Вібрапрыборы» — лепшая ў сталіцы рэспублікі. На «Вібра...» добра наладжана вучоба моладзі. На «Вібра...» — пераможцы конкурсаў на лепшага рабочага па спецыяльнасцях, залатыя і сярэбраныя прызёры. На «Вібра...» Можна спісаць яшчэ цэлую старонку, пералічваючы плюсы ў рабоце заводскіх камсамольцаў і іх сакратара Славы Пшанічнікава, але замест гэтага скажам вось што:

Гэта вельмі вялікая памылка — глядзець толькі на дзелавыя якасці чалавека, які становіцца ля кіраўнічага камсамольскага руля. Дзелавыя плюс чалавечыя — вось яго ідэал. Без гэта плюса ён толькі робат — няхай сабе і адмысловы. З ім — сіла, здольная, як сказаў паэт, нават мёртвых у атаку падняць. Падрыхтоўчая школа, у якой атрымліваюць пачатковую адукацыю будучыя савецкія і партыйныя работнікі, павінна быць і школай чалавечнасці.

На «Вібрапрыборы» такая школа адкрыта.

Цяжка пералічыць сёння ўсе тыя віды прадукцыі, якія выпускае Малдаўская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. Артэзіянскія і цэнтрабежныя помпы кішынёўскага і рыбніцкага помпавых заводаў ахвотна купляюць свае, савецкія, і замежныя прадпрыемствы. А Кішынёўскі трактарны завод, які выпускае штогод звыш дваццаці тысяч трактараў, а Чадыр-Лунганскі завод электратэрмічнага абсталявання, а «Мікрапровад», а завод дакладных электрапрыбораў... Машынабудаўнічая і электратэхнічная прамысловасць — вядучыя галіны прамысловасці рэспублікі.

Шоўкі і трыкатаж, шэрсць і скураныя вырабы, футры і дываны, баваўняныя тканіны, цюль, гардзіны — сотні розных тавараў выпускае малдаўская лёгкая прамысловасць. Буйнымі яе цэнтрамі сталі Бендэры, Ціраспаль, Бельцы. Услед за імі ідуць Сарокі, Аргееў, Комрат. Другое месца ў рэспубліцы займае лёгкая прамысловасць. Першае — харчовая. Малдаўскія мясныя тушонкі, мясныя і пячоначныя паштэты, кансервава-



Іллюша і Лорыка.

ная гароднiна i садавiна, сокi, вiны, каньякi — хто iх не каштаваў i не хвалiў!

I лёгкую, i харчовую прамысловасць, а таксама прамысловасць будаўнiчых матэрыялаў, якая добра развiта ў рэспублiцы, — усе гэтыя галiны ў дастатку забяспечвае сыравiнай малдаўская зямля.

Зямля Малдовы... Я не бачыла яе ўвесну, — мусiць, гэта вiдовiшча фантастычна прыгожае, калi цвiтуць вось гэтыя, на дзесяткi гектараў, яблыневыя i вiшнёвыя сады. Я, мусiць, i пабаялася б iх бачыць: гэта ж можна, сасніўшы на яве такi бела-ружовы, такi малады сон, узяць ды i самому вярнуцца ў вясну — блакiтна-ружовую, далёкую. А нашто? Блакiт i ружовасць — няхай яны будуць маiм небам, я ж пайду па залатых барвах восеньскай зямлi — збiраць плён адкрасаваўшага лета.

I вось яна, гэтая зямля, не сiмвалiчная, а сапраўдная, у мяне перад вачамi — цёплая, вiльготная пасля дажджу, нязвыкла чорная для майго прывучанага да падзолаў, супесяў i суглiнкаў вока. Возьмеш яе ў рукi — i яна расцiраецца ў пальцах слiзка i тлуста, як масла. Шчасце i радасць араць яе, сеяць на ёй пшанiцу, садзiць вiнаград i глядзець, як выцягваецца ў даўжыню, важчэе колас, як налiваецца сонцам, выпнуўшыся з-пад лiсця, вiнаградная гронка. Самы высокi ўраджай у Саюзе дае малдаўскi гектар!

Мой сусед, як i я, пазiрае ў акно аўтобуса i таксама думае пра нешта харошае: мяккая, летуценная ўсмешка час ад часу светлым ценем прабягае па яго твары. Добры лёс паслаў нам гэтага чалавека, якi стаў нашым добраахвотным гiдам.

Iллюша Яраслаўскi — мясцовы жыхар, камсамольскi работнiк. Прыязджаў па справах у Кiшынёў, заначаваў у гасцiнiцы — там мы з iм i пазнаёмiлiся. Ён жыве i працуе ў горадзе Рэзiна — гэта на поўнач ад Кiшынёва. На поўнач? Ага, гэта там, дзе «дело табачком пахнет». Славуты малдаўскi тытунь? Паехалi ў Рэзiна!

I вось — едзем. Дарога то збягае ўнiз, то ўздымаецца на ўзгорак — адчуванне такое, нiбыта ляцiш на самалёце над самай зямлёй.

Цячэ цiхая дарожная гамана. Я ўслухоўваюся ў незнаёмую мову, у частае «шт» i звыклае для майго вуха доўгае «у», i мне здаецца, што сваю мову малдаване пазычылi ў шапаткога лiсця сваiх старажытных Кодраў, у галаснога кодрынскага рэха.

Пачынае цямнець. Аўтобус з ходу нырае ў зiхатлiвае мора агнёў i спыняецца.

— Рэзiна?

— Аргееў, — усмiхаецца Iллюша.

Прынiкаю да акна. Аргееў — старажытны малдаўскi горад. Дзве тысячы гадоў таму назад тут узвышалася дакiйская крэпасць: старажытны Архей быў сталiцай Малдаўскага княства. Ёсць шмат гайдуцкiх песень, у якiх услаўляецца вольналюбства гэтага горада, а ў часе Вялiкай Айчыннай вайны тут праходзiў пярэднi край Яска-Кiшынёўскай бiтвы. Прыгожы горад. Хацелася б калi-небудзь паглядзець на яго не з акна аўтобуса.

У Рэзiна мы прыехалi позна ўвечары. Выйшлi з аўтобуса, шчыльней захуталiся ў прамоклыя плашчы i паглядзелi на Iллюшу: гасцiнiца ў вас тут дзе?

— Пойдзем да мяне. Вам трэба абагрэцца i пасушыцца.

— Але ж...

— Вы — мае госцi... вось. А цяпер — позна, у гасцiнiцы нават чаю гарачага можа не быць у гэтую пару. Чым сагрэецеся? Толькi... — ён паглядзеў на мае лёгкiя, на высокiм абцасе, туфлi, на лужы, што блiшчэлi пад рэдкiмi лiхтарамi, i пакруцiў галавой. — Ну, ды нiчога, iдзiце за мной, не будзем спяшацца, i ўсё будзе добра.

Назаўтра, манеўруючы сярод белага дня па Iллюшынай Падгорнай вулiцы — гэта тут разлiваўся ў гэтым годзе Днестр i цяпер яшчэ нiяк не можа прасохнуць зямля, — мы не маглi надзiвiцца майстэрству свайго ўчарашняга лоцмана: гэта ж трэба так абысцi гэтае амаль суцэльнае разлiўное мора, што мы нi разу нават не зачэрпнулi ў туфлi...

У Iллюшавым домiку, што прытулiўся да гары, было цёмна.

Іллюша лёгенька пастукаў у акно. За дзвярыма адразу ж — нібыта хто стаяў там і чакаў гэтага стуку — пачулася паспешлівае, лёгкае тупаценне, бразнула зашчапка, і мы следам за нейкай вельмі танюткай і порсткай зданню пераступілі парог.

«Здань» — пры святле яна аказалася невысокім смуглявым дзеўчанём, — з папрокам зірнуўшы на Іллюшу, абняўшы яго за шыю і адразу ж расчапіўшы рукі, нешта да яго загаварыла — з крыўдаю і дакорам у голасе.

— Я не мог, Лорыка, — адказаў лагодна Іллюша, вешаючы на цвік нашы і свой плашчы. — Вось знаёмся — гэта нашы госці з Беларусі. А гэта мая жонка Лорыка.

Лорыка падала мне і Валянціну маленькую, цёплую руку, усміхнулася, потым з жалем зірнула на нашы мокрыя, у гразі, ногі.

— Ой! — толькі і сказала яна і кінулася з пакоя ў калідор.

Таз вады, сухія тапачкі, і не паспелі мы азірнуцца — гарачая патэльня, на якой сквірчэла нешта духмянае, гарачае — нам здалося, што мы прыехалі дадому.

Але не, мы — у гасцях: вунь Іллюша нясе цэлы графін вадкасці, прызначэнне якой не выклікае ніякага сумнення, і паказвае Лоры вачамі на стол: давай сюды чаркі.

— У нас, у Малдавіі, віно ёсць — чарак няма, — няёмка ўсміхаецца Лора, расстаўляючы на стале шклянкі.

— Гэта нічога. У нас, у Беларусі, чаркі ёсць — няма віна, — смяёмся мы.

— Ну, сядайце, — Іллюша падстаўляе бліжэй да стала крэслы. — Трэба адагрэцца, бо так і прастудзіцца можна.

Ён налівае поўную шклянку, што стаіць перада мною, і, перахапіўшы мой спалоханы позірк, супакойвае:

— Нічога, гэта маладое віно. Ніколі не каштавалі? Ну, вось, пакаштуйце. Давай, Валянцін, тваю пасудзіну! Та-ак... Лорыка...

Лорыка працягвае сваю шклянку. Яна глядзіць Іллюшу проста ў вочы, і ў яе вачах, цёмных і гарачых, столькі дзявочага замілавання, столькі пяшчоты і столькі горкага жаночага дакору, што Іллюша не вытрымлівае.

«Гэта — потым», — ружавеючы скуламі, адказвае ён кароткім, гарачым позіркам і налівае ёй шклянку да самых краёў.

— Ну, за гасцей! Каб ім лёгка хадзілася па нашай зямлі. Каб гэты во сок нашай зямлі выгнаў з іх усякую прастуду...

— У нас у такіх выпадках кажуць: «Не п'ём, госпадзі, а лечымся». За здароўе гаспадароў!

— А ты чаго, Лорыка?

Лорыка сядзіць, прыціснуўшы да грудзей шклянку, не п'е. Яна пазірае на зыркія спіралі электраплiткі, на якой пачынае шумець чайнік, і пра нешта тужліва думае.

— Я, Лорыка, не мог учора прыехаць, чэснае слова. Нарада закончылася позна, аўтобусы ўжо не хадзілі, прыйшлося пераначаваць у гасцініцы.

Лорыка глядзіць на яго, маўчыць. Рукі яе ўсё туляць да грудзей шклянку.

— Ну, Лорыка... — у Іллюшавым голасе просьба, любоў і тая глыбокая, настойлівая мужчынская пяшчота, ад якое бедным жанчынам няма ратунку, — выпі...

Лорыка з нейкай адчайнай рашучасцю глядзіць Іллюшу ў вочы, уздыхае і, закінуўшы галаву, выпівае шклянку да дна...

Маладое віно саладкаватае, пахне свежым вінаградам. Моцы ў ім яшчэ мала, і яно грэе пяшчотна, як ранняе вясновае сонца. І гаворка ў нас цёплая, непаспешлівая, хоць ужо і позна; калі сядзіш за сяброўскім сталом, час ідзе не па звычайным гадзінніку. Іллюша і Лорыка — маладая сям'я. Хоць даўняя малдаўская народная мудрасць і вучыць: бяры дзеўку маладзейшую за сябе, бо яе хутчэй навучыш быць добраю жонкай, але ў тым, што Іллюша і Лорыка сталі мужам і жонкаю, не толькі яна, гэтая мудрасць вінавата. Тут, як сказаў бы чалавек вучоны, дзейнічаў закон — калі ў такой справе наогул ёсць нейкія законы, — дык тут, ён сказаў бы, дзейнічаў закон процілегласці. Іллюшу здаецца, што жывая, вясёлая Лорыка, уся — адданасць, уся — парыў, спадабалася б яму, нават калі б ёй было сто гадоў... Ну, а яна? Чым бурлівей натура, тым спакайнейшай апоры шукае яна сабе ў жыцці.

Добры, спакойны, памяркоўны Іллюша разважаў так: армія адслужана, дом ёсць, работа ёсць, трэба, каб была і добрая, мілая жонка. І ён прывёў Лорыку ў свой дом — не адну, а з сястрою Вераю, бо яны сіроты — ні бацькі, ні маці ў іх няма. Іллюша выхоўвае ў мясцовым пасяленні тунеядцаў, Лорыка працуе ў мясцовым дывановым цэху, Вера — прадаўшчыцай. Так і жывуць утраіх. Пакой на ўсіх пакуль адзін. Другі, большы, у рамонце. Іллюша сам і робіць гэты рамонт: падлогу перасцілае, робіць новыя рамы; потым тынкаваць будзе і бяліць. Удваіх з Лорыкай. Ён любіць, каб яна была побач, калі ён што робіць.

— Давайце яшчэ па адной — каб не апошняя была наша сустрэча, — бярэ ў рукі графін Ілля.

— Ой, не, Іллюша, дзякуй! Яна якраз можа быць апошняй, калі яшчэ па адной. Зваліся мёртвыя, — смяёмся мы.

Лорыка са спачуваннем падсоўвае нам бліжэй скавародку.

— Ну што гэта! — хмурыцца Ілля. — Можа, віно мае нясмачнае, слабае? Тады што ж...

— Што ты, Іллюша! Вельмі смачнае тваё віно, ды не яно слабае, а мы.

— Добра, жанчын я прымушаць не буду. А ты, Валянцін...

Валянцін, набраўшыся духу, бярэцца за шклянку:

— Іллюша, палавінку...

— Такое меркі ў нас няма, — Ілля з гонарам падымае графін і налівае поўную шклянку.

— Што ж вам яшчэ расказаць? — сашчапіўшы на стале дужыя, вялікія рукі, глядзіць на нас Ілля. — Вось так мы і жывём. Насадзілі малады вінаграднік — заўтра ўстанем — пакажу. Дом будуем. Толькі габлюеш другі раз дошкі — сонца над галавою свеціць, стружкі смалою пахнуць — і думаеш: адкуль гэта дрэнь розная бярэцца на свеце? Ну, адкуль? І як зрабіць, каб яе не было?.. — Іллюша нейкі момант маўчыць, пра нешта думае; скулы яго наліваюцца чырванню, вочы становяцца сур'ёзныя і ўпартыя: — Ведаеце, я ні аднаго дня не працаваў бы на сваёй рабоце, каб не верыў, што гэтага зрабіць нельга. Ні аднаго дня!

...Ноч. Паснулі, па-брацку ўмясціўшыся на канапе, нашы мужчыны — адтуль даносіцца здаровае, глыбокае — у два кавальскія мяхі — дыханне. Мы з Лорыкай, накрыўшыся цёплым ваўняным дываном, ляжалі на ложку, і ля самага майго вуха лёгкім матылiным крыллем б'ецца-шапацiць яе голас:

— ...Я не ведаю, гэта я адна такая ці, можа, усе: няма яго, запозніцца — не магу знайсці сабе месца. От, здаецца, не вытрымаю... от, здаецца, памру. Гэта так і будзе? Усё жыццё?

— Так і будзе, Лорыка. Калі ты будзеш яго любіць, як цяпер...

— О-о... я не вытрымаю. Іллюша такі добры, такі харошы... А дзяўчаты ведаеце якія цяпер! Але калі толькі каторая паспрабуе... калі асмеліцца... Я заб'ю яе!

— Спі ты ўжо, таксама мне Зарэма знайшлася, — гладжу я тонкую Лорыну руку, што ляжыць на маім плячы. — Табе заўтра ў колькі гадзін уставаць?

— У шэ-эсць, — не адразу адзываецца сонны, ледзь чутны голас, і праз нейкае імгненне «забойца» ўжо спакойна сапе носам у маё плячо.

Заплюшчваю вочы. Перад імі плыве чорная, пульхная зямля, што прыняла ў сваё ўлонне зерне. Праз адчыненую фортку чуваць, як на ганку шэпчуцца два галасы: ціхі, як шум дажджавых кропель па траве, жаночы і глухі, як далёкі рэдкі гром — мужчынскі. Гэта Вера ніяк не можа развітацца са сваім жаніхом.

Квітнее вечна новае, вечна маладое жыццё на зямлі.

«Ты, Падгорна, ты, Падгорна, харошая вуліца», — чвякаючы мокрымі туфлямі па знаёмых, учарашніх лужах, мармычу я сабе пад нос, каб хоць крыху ўзняць настрой. Ды дзе ты яго ўзнімеш, калі над галавой — беспрасветныя хмары, а пад нагамі — метровая тоўшча раскіслага малдаўскага чарназёму.

— У нас аб гэтую пару заўсёды стаіць такая цеплыня, такая







Васіль Іванавіч Бадан. Тытунь у яго—лепшы ў раёне. І вінаград не горшы.

У падвалах Грацыешты выстойваецца 150 тысяч дэкалітраў віна.

Сённяшняя маладая Малдавія. Яе светлая ўсмешка.

ясната, што я вам нават сказаць не магу. Гэта толькі сёлета так...— хлюпае побач чаравікамі Ілля.

«Дзякуй, даражэнькі, пацешыў. Цеплыня... ясната... Нібы мяне можа сагрэць леташняе сонца. Ты, Падгорна, ты Падгор...»

— Іллюша!

— А?

— Куды гэта мы ідзем?

— У магазін. Можа там ёсць на ногі што... непрамакальнае. Боцікі якія ці што. Хаця... у нас тут у гэтым годзе адна вада за другой: за паводкай дождж, за дажджом — паводка. Дык яны не залежваюцца. Але пабачым. Папытаемся.

Пабачылі — няма. Папыталіся — будуць. У канцы месяца...

«Ты, Падгорна... Ну ці ж не дурні мы — так выбірацца ў дарогу, ці ж не ёлупы цара нябеснага?.. Але хто гэта ведаў! Ехалі ж у сонечную Малдавію. Нам нават зайздросцілі. «У Малдавію? Во пагрэецеся!»

Грэемся. Плашч зашпілены на ўсе гузікі — пад самае горла, плечы стулены, рукі ў кішэнях шчыльна прыціснуты да бакоў — так лягчэй стрымаць дрыжыкі.

— Ну? — азіраюся я на Валянціна. — Як?

— Н-нармальна, — бадзёра выціскае ён праз сціснутыя зубы.

Сабраліся два раматусы...

Але вось і ён, райком. Адразу неяк адступіўся холад; іскрынкі цяпла, што тлелі ў сцятых далонях, пачалі разгарацца, ярчэць, самі выпрасталіся плечы. Абавязак у першую чаргу. Што б там ні было... А ён не любіць прыніжанай позы.

У кабінеце першага сакратара сядзяць трое мужчын. Высокі, чарнявы, з прыемным, смуглым тварам — за сталом, двое — спіною да акна — воддаль: у першае імгненне не разгледзіш іх твары.

— Беларусы? — усміхнуўшыся, падняўся з-за стала і пайшоў насустрач, каб павітацца, чарнявы.

— Беларусы. Добры дзень!

— Добры дзень. Грышчук, Анатоль Пятровіч, сакратар райкома. Сядайце. Даўно ў нас?

— Два дні.

— Не пашанцавала вам крыху з надвор'ем, — Анатоль Пятровіч зірнуў у акно, за якім плылі нізкія хмары. — Але для нас гэты дождж — залаты. Пасеялі азімыя, і ведаеце, як яны пойдуць пасля гэтых дажджоў!

Я непрыкметна хаваю глыбей пад крысо свае мокрыя, пасінелыя ногі. Анатоль Пятровіч імгненным позіркам перахапіў гэты рух і змоўк. Алоўкам, што ляжаў перад ім на стале, ён пачаў крэсліць нейкія рыскі на аркушы паперы, і ў яго заклапочана зморшчыўся лоб.

— І якія ж вашы планы? Чым вам памагчы? — зноў падняў ён на нас спакойныя вочы, і ў голасе яго — мяккасць і спачуванне.

О, планаў у нас многа. Пабачыць славуты малдаўскі тытунь, паглядзець, як жывуць людзі, пазнаёміцца...

— Ага, добра.

Анатоль Пятровіч нейкае імгненне памаўчаў, падумаў, потым мякка, неяк нерашуча спытаўся:

— Скажыце, вы вось так і прыехалі?.. Я хачу сказаць — нічога цяплейшага... ну, хаця б на ногі... у вас з сабой няма?

Мы збянтэжана пераглянуліся.

— Трэба нешта прыдумаць — так ехаць няможна. Паслухайце, таварышы, — ён павярнуўся да тых двух мужчын, што сядзелі ля акна. — Давайце неяк паможам. Пазваніце, калі ласка, у магазін.

— Анатоль Пятровіч, — адазваўся адзін з іх, — гумавы абутак вось-вось павінны прывезці. А пакуль — няма...

— Ведаю. Але няхай пашукаюць. Скажыце, я прасіў. Вось так. А цяпер давайце падумаем, куды вам паехаць...

...З райкомаўскай лесвіцы ўніз мы спускаліся моўчкі. Штосьці харошае, добрае расло і расло ў душы і забірала ўсе словы. Вось табе і плюс чалавечнасць! Ды які плюс! Чалавечнасць, дабрата стала тут першым складнікам, і ад гэтага толькі мацней, толькі ярчэй, як каштоўны камень у адпаведнай аправе, засвяцілася добрая, высокая дзелавітасць.

— Валянцін, а, здаецца, пацяплела? — азірнулася я на свайго спадарожніка, калі мы выйшлі з райкома.

— Дык пацяплела ж! — усміхнуўся ён, папраўляючы на плячы рамень сваёй цяжкай скураной торбы.





На вытворчасці тытуню Малдавія займае ў Савецкім Саюзе першае месца, у Малдавіі сваім тытунём славяцца калгасы імя Кірава і «Патрыя», што ў Івацэі.

«Дело — табак», гаворыць старая руская прымаўка пра якуюнебудзь цяжкую, безнадзейную справу. Калісь вытворчасць тытуню і была такою справай. На прымітыўных прадпрыемствах рабочыя працавалі ў беспрасветным тытунёвым пыле, дыхалі, ім, губілі свае лёгкія і паміралі ад сухотаў.

Пераасэнсоўваючы старую рускую пагаворку, можна сказаць, што цяпер «табак — дело!» Такое «дело», якое прыносіць людзям пашану, славу, добры заробак і не губіць іх здароўе. Мадэрнізацыя вытворчасці, механізацыя вытворчых працэсаў, ферментацыя тытуню — усё гэта вельмі палегчыла працу і палепшыла яе ўмовы на тытунёвых прадпрыемствах. Механізацыя прыйшла і на тытунёвыя плантацыі. І ўсё ж пры ўсім гэтым тытунь прадаўжае заставацца аднёй з самых працаёмкіх культур. І культур «тонкіх», «далікатных», якія патрабуюць умелых і цярплівых рук.

Гэта, як сказаў бы чалавек вучоны, — прэамбула. Астатняе ўбачым на месцы: едзем у Івацэй. У калгас «Патрыя», па нашаму — «Радзіма».

— У Івацэй? — перапытвае не вельмі прыхільна Іллюша і хмурыцца.

— А што? Можа там дрэнны калгас? — я гляджу яму ў вочы з самым сур'ёзным выглядам, а сама ледзь стрымліваюся, каб не засмяяцца.

— Не, чаму... Калгас добры, — Іллюша адводзіць вочы ўбок.

— Ну дык і добра, калі добры, — радасна ўсміхаюся я. — Добра, Іллюша...

«...Мне вельмі сімпатызаваў адзін хлопец з Івацэя, — здаецца, чую я ўчарашні Лорычын шэпт. — Дык Іллюша і цяпер пра той Івацэй не можа слухаць. Але хіба для мяне хто быў такі, як Іллюша...»

Вось так, Іллюша. Такая яна, праўда. Але ты не павінен ведаць яе. Паперажывай, папакутуй — гэта высокія, добрыя пакуты, у іх, як у адну са сваіх шматлікіх вопратак, апранаецца каханне, і няхай табе хопіць гэтых пакут на ўсё жыццё.

У Івацэі, ступіўшы з машыны на зямлю, мы адразу ўбачылі два сонцы: адно, прабіўшыся з-за хмар, сляпуча зззяла на мокрым ярказялёным лісці тытуню, другое — на нашых новых гумавых ботах. Было яшчэ і трэцяе, але яно было ў нас саміх: яно свяціла і грэла недзе глыбока ў душы згадкай пра добрую чалавечую спагаду.

Мокрая зямля, што запахла адразу пад сонцам, зялёнае знізу, у глыбіні, бела-ружовае зверху мора, якому канца не відаць, адзіны на свеце пах тытуню — пах мужнасці і пяшчоты — божа, які цудоўны свет! Заплюшчыць на імгненне вочы, пастаяць падыхаць...

Пстрык... пстрык... пстрык, — запрацаваў у мяне за плячыма Валянцінаў фота-«Нікан», і я схамянулася. Ну вось, заўсёды так: ледзь толькі пачынаецца песня... Што ён там убачыў?

Я азірнулася.

Між высокіх радоў тытуню да нас ішоў чалавек. Непаспешлівы ў рухах, з белымі, ледзь-ледзь жаўтлявымі густымі валасамі, што выбіваліся з-пад шапкі, са смуглявае-ружовым светлым тварам, ён быў увесь адсюль, з гэтага непаспешлівага свету, з гэтае зямлі, з-пад гэтага ласкавага, шчодрага сонца.

— Бадан, Васіль Іванавіч, — падаў ён нам па чарзе цёплую, важкую руку.

Ага, дык гэта адзін з тых двух брыгадзіраў-ардэнаносцаў, братоў, пра якіх нам сказалі ў канторы, што «на іх трымаецца калгас», і які ледзь не заплакаў, пачуўшы, што да яго зноў нейкая дэлегацыя прыехала — у такі гарачы час!

— Тытунь хочаце паглядзець?

— Хацелі б. Пакажыце, Васіль Іванавіч.

— А ў вас, у Беларусі, тытунь садзяць?

— Чаму ж, садзяць, нават вінаград... А ў Малдавіі — бульбу?

— Садзяць, толькі яна ў нас нясмачная расце.

— Як і ў нас вінаград.

Ідзем між радоў высокага, у чалавечы рост, тытуню. То тут, то там ляжыць, старанна складзены



Паглядзіце на гэтых людзей. Малдавія ці, можа, Палессе? (с. Сонал).

па гатунках, лапушысты тытунёвы ліст. Уборка тытуню — ручная работа — такіх машын яшчэ не існуе, якія маглі б замяніць тут чалавечыя рукі. І пасынкаваць машыну не пашлеш. Чалавеку трэба самому абысці ўсе гэтыя многія дзесяткі гектараў і агледзець кожную сцябліну, перамацаць кожны ліст. А сушэнне... Гатунак тытуню залежыць ад таго, як ён высушаны, а ад гатунку залежыць цана. Адзін кілаграм першага гатунку каштуе шэсць рублёў пяць капеек, адзін кілаграм чацвёртага гатунку — толькі восемдзесят сем капеек. Вось і недагледзь тут і не дапільнуй. А хіба сушыць яго лёгка, хаця б, скажам, той жа імунны? Цэнтральны ствол яго, жыла, тоўсты, сохне вельмі дрэнна, а сонечных дзён становіцца ўсё менш і менш. Цямнее колер ліста, зніжаецца гатунак, а зніжаецца гатунак — зніжаецца кошт людское працы. Адным словам, той, хто пасля абеду адпачываючы ў перапынках паміж работай дастае з пачка папяросу, нават не ўяўляе сабе, колькі ў гэтым яго задавальненні нялёгкай людское працы...

Калгас «Патрыя» вядомы ў Савецкім Саюзе сваім тытунём. І як толькі прыходзіць пара, сюды спяшаюцца прадстаўнікі гандлёвых фірмаў з Чэхіі і ГДР. Ходзяць, выбіраюць, хваляць. І Васілю Іванавічу прыемна слухаць пахвалу, бо ва ўсім гэтым яго праца і праца яго брыгады. А нашто ж жыве на свеце чалавек, калі не на тое, каб рабіць у жыцці што-небудзь такое, што варта чалавечае пахвалы.

Калгас «Патрыя» павінен здаць у 1971 годзе 550 тон сухога тытунёвага лісту.

— Будзе, — гаворыць Васіль Іванавіч.

...тысячу шэсцьсот тон вінаграду дзяржаве і сто тон — прамысловым цэнтрам.

— Будзе.

Кукуруза, пшаніца, сланечнік — усё гэта сеецца і ўсё добра расце ў брыгадзе Васіля Іванавіча.

— Васіль Іванавіч, а спецыялізавана ваша брыгада на чым?

— Спачатку — на тытуні. Потым паглядзелі — і вінаград трэба. Хто ж будзе план выконваць? Бяры, кажуць, Васіль Іванавіч, сабе і вінаград. Узяў. Пашло. А тады —





З брыгады Валянціны Дзмітраўны Зубчанка машыны не спраўляюцца вазіць вінаград.

пшаніца... і пшаніца ж трэба! Сей, Васіль Іванавіч, пшаніцу! Пасеяў і пшаніцу. Пашла. Сланечнік... Адным словам, цяпер у мяне расце ўсё, што ёсць у Малдавіі, — смяецца Васіль Іванавіч. — А спецыялізацыя — справа будучага. Будзем падрыхтоўваць яе паступова.

— Васіль Іванавіч, дзякуй за ўвагу. Прабачце...

— Не-е... У нас гаворку з гасцямі так не канчаюць. Прашу вас, — Васіль Іванавіч усміхнуўся сваёю спакойнаю, добрай усмешкай і паказаў на газік, што стаяў ускрай дарогі.

«Дзе ж мае хлопцы?» — спахопліваюся я і азіраюся.

Валянцін, раскалыхваючыся, як цыркавы акрабат, на старэнькай вышцы, якая вось-вось гатова рухнуць пад ім, абстрэльвае з «Ніка-на» цудоўны сонечны прастор; Ілюша... Сцяўшы вусны, наморшчыўшы лоб і забыўшы пра ўсё на свеце — нават пра таго івацэйскага хлопца, — ён нешта старанна піша ў сваім пашарпаным блакноце. Мусіць, яму ўжо бачыцца газетная паласа, чуецца пах друкарскай фарбы — ён ужо гэта паспытаў, ведае, а гэта тое ж самае, што патрымаць у руках вуду ці стрэльбу. Бедная Лорыка...

Скажаш: Малдавія, і ва ўяўленні адразу ўзнікне спелая, налітая сонечным сокам гронка вінаграду.

Гронкай вінаграду нехта назваў і самую Малдавію — не без падставы, калі паглядзець на геаграфічную карту.

Малдавія вырошчвае вінаград здавён-здаўна. Калі верыць легендзе, што жыве сярод малдаван, яго занёс сюды бусел, каб выратаваць воінаў, што паміралі ад смагі ў акружанай ворагам крэпасці. Таму бусел стаў эмблемай малдаўскага віна, якое знойдзеш сёння ва ўсіх краінах свету.

Багатыя глебы, мяккі клімат, доўгае і цёплае малдаўскае лета — усё гэта самым найлепшым чынам спрыяе выспяванню вінаграду. Таму малдаўскі вінаград спрадвеку славіўся высокай якасцю: сваё славутае шампанскае французы рабілі некалі з малдаўскага вінаграду.

Вінаградарства — адна з вядучых галін у гаспадарцы рэспублікі.

Віно — гэта паэзія малдаваніна. І яго нялёгкая праца. Яшчэ і сёння, калі на вінаградніку прыйшло шмат машын, чалавечым рукам тут — ой, колькі работы! Як толькі лаза вызваліцца ад свайго салодкага цяжару, яе трэба зняць з драцяных апораў і прысыпаць зямлёю — яна баіцца марозу. Вясною яе зноў трэба падняць на апоры, каб сонца магло прасвяціць кожную гронку. Потым, калі вінаград трапіць у вінны цэх, там будуць свае тэхнолагі, тут жа, у зялёным цэху, галоўны тэхнолаг — сонца: як яно абагрэе зямлю, так яна аддасць сваю слодыч гронкам.

Рабочы сезон на вінаградніках — самы доўгі, ён цягнецца дзесяць месяцаў — з сакавіка па снежань. Апрацоўка міжраддзяў, падкормка, апырскванне хімікатамі — гэта цяпер робяць машыны. Затое калі настае ўборка... Яшчэ ўчора хадзілі аграном з брыгадзірам па полі, глядзелі, насілі вінаград у лабараторыю — не, яшчэ не дабраў ён цукру — трошачкі, але не дабраў. А праз дзень — давай людзей на вінаграднік, давай машыны, рэфрыжэратары. Вінаград доўга стаяць не любіць — ён асыпаецца. Ну, а калі нахопіцца замаразак — тады ўжо самыя ўборшчыкі на плантацыях — сабакі: яны вельмі любяць падбіраць з зямлі мерзлы вінаград.

Мы прыехалі ў Граціешты, калі тут поўным ходам ішла ўборка. Вялізнае, на тысячу гектараў поле звінела ад маладых галасоў. На ўборцы вінаграду — студэнты. Але ў іх гэта не проста работа, а вытворчая практыка, бо яны — будучыя аграномы-вінаградары, якія вучацца ў саўгасным спецыяльным вучылішчы.

— Чысцей абірайце гронкі, чысцей! — падыходзіць да поўнае скрыні вінаграду маладая стройная жанчына ў сінім спяцовачным халаце. — Ну, глядзіце, што гэта: прыгожыя гронкі, а вы як іх уламылі? Месіва нейкае! Трэба ўмець пакласці гронку так, каб яна не губляла сваёй прыгажосці і ў скрынцы на прылаўку!

Валянціна Дзмітраўна Зубчанка — брыгадзір чацвёртага стана, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР. Яе брыгада — адна з лепшых у саўгасе: яна збірае па 70 цэнтнераў вінаграду з гектара і славіцца добрай арганізацыяй працы.

— Ці даўно ў саўгасе?

— Дванаццаць год... Ой, як вы зноў кладзеце? — здаецца, яна і не глядзела ў той бок, а ўбачыла, што дзяўчаты робяць не так, як трэба. — Ну, дзяўча-аткі... Ну, вы ж паглядзіце на Марыю Васільеўну... Во скрыначка — вітрына... Каторая яна ў вас, Марыя Васільеўна?

— Саракавая, — выцірае рукавом лоб поўная чарнявая жанчына. — Учора было сорак сем... Ды я да канца дня яшчэ сем набяру.

— Во, бачыце, — Валянціна Дзмітраўна — дзяўчатам. — А ў вас і па семнаццаць, па норме, не будзе. Давайце варушыцеся... Думаеце, Героя Марыі Васільеўне за што далі?.. — Дык пра што мы з вамі? — зноў паварочваецца ў мой бок Валянціна Дзмітраўна. — Ага... Ну, пасля вучылішча закончыла Кішынёўскі сельскагаспадарчы інстытут. Ой, прабачце, вунь машына прыйшла. — Валянціна Дзмітраўна дастала з кішэні аловак і блакнот. — Трэба адпраўляць... І яшчэ, — ужо адышоўшы некалькі крокаў, прыпынілася і азірнулася яна, — ёсць у мяне дачка. Дванаццаць гадоў...

І праз заклапочанасць на яе твары засвяцілася мяккая, светлая ўсмешка.

Не, усё-такі трэба сюды машыны, каб людзям было лягчэй. Хаця... Я гляджу на пяшчотныя цёплыя гронкі і не магу ўявіць, як іх могуць адчуць, як зняць з куста жалезныя рукі механічнага ўборшчыка. А, мне казалі, ужо хадзіў тут такі. Паўгектара вінаграду яму адшкадавалі — навука патрабуе ахвяр — і потым парадаваліся, што больш не далі. Зусім некваліфікаваны аказаўся ўборшчык. Але калі вінаград пакуль што непадступны для машыны, то і вучоныя ж — упартыя людзі.

Граціешты — саўгас-завод. Прамысловае сельскагаспадарчае прадпрыемства. Ён сам вырошчвае вінаград, сам перапрацоўвае яго і сам рыхтуе кваліфікаваныя кадры для поля і завода. Гаспадарка вялікая і шматгаліновая. Ёсць нават свае жывёлагадоўчыя фермы — дыпламаваныя, між іншым. Завод дае фермам адходы сваёй прамысловасці, фермы полю — гной, поле заводу — сыравіну. Вось такі выходзіць добры кругазварот.

Саўгас-завод — вельмі перспектыўная форма вядзення гаспадаркі. Сённяшнія першыя заводы-саўгасы — гэта пакуль толькі разведчыкі. Трэба думаць, што ўслед за гэтай разведкай пойдзе наступленне.

Віно. Усюды — віно. У дэгустацыйных бакалах, бутэльках, бочках, у вялізных, на дзесяткі тон, амфарах. Грацієшцкі завод славіцца сваімі вінамі ў Савецкім Саюзе і за рубяжом. Ён перапрацоўвае 560 тон вінаграду ў суткі. Пастаянна на вытрымцы знаходзіцца 150 тысяч дэкалітраў віна.

Завод мае сваю фірменную тэхналогію. Славутыя «Граціешты», «Нектар», «Днястроўскае», «Мэргерытэр» («Жамчужына») удзельнічалі на ўсесаюзных і міжнародных выстаўках і заваявалі сабе высокі аўтарытэт.

Віно — гэта паэзія. Той, хто стварыў новую марку віна, стварыў светлую хвалюючую паэму. А каб яе стварыць, трэба быць паэтам, трэба тонка адчуваць пах, колер, смак, толькі тады знойдзеш новае іх спалучэнне.

Новая марка віна — новае адценне чалавечай радасці.

«У віне болей за ўсё сонца. Няхай жывуць людзі, якія ўмеюць рабіць віно і праз яго ўносіць сонечную сілу ў душы людзей», — гаварыў Горкі.

І няхай жыве зямля, якая нарадзіла гэтых людзей.

**Вера ПАЛТАРАН.**

● **Мікалай ЮРКЕВІЧ,**
**прафесар, доктар юрыдычных навук**

# ПРАЦА І СЯМЕЙНАЕ ШЧАСЦЕ

Дрэва павінна мець карэнні, якія глыбока сядзяць у глебе. Калі ёсць карэнні — бура не страшная. Для чалавека такой глебай, асяроддзем з'яўляецца грамадства. А замацоўваецца ён у грамадстве перш за ўсё праз сям'ю і працоўны калектыў. Глыбокія карэнні ў гэтых двух першасных калектывах з'яўляюцца неабходнай умовай поўнага развіцця і стабілізацыі асобы. Сілы і здольнасці добрага сем'яніна і працаўніка пры сацыялізме затрачваюцца на дасягненне мэтаў, якія адпавядаюць як яго ўласным інтарэсам, так і інтарэсэм грамадства. Яго хваляць. Ён і сам задаволены, шчаслівы. З радасцю ідзе на работу, з радасцю вяртаецца дамоў.

Наадварот, чалавек, які не замацаваўся ні ў сям'і, ні на працы і не хоча замацоўвацца, нагадвае перакаці-поле. Ён коціцца нават ад лёгкага подыху ветру. Дзе ён будзе на наступны дзень, што з ім здарыцца—нікому не вядома.

Барацьба з усякімі дэвіянтнымі паводзінамі (уключаючы правапарушэнні) ёсць у значнай меры—калі не цалкам—барацьба з вынікамі. Знішчэнне прычын, ліквідацыя ўмоў патрабуе дакладнай працы двух механізмаў: сям'і і працоўнага калектыву. У прыватнасці, замацаванасць чалавека ў першасных калектывах з'яўляецца дастаткова ўстойлівай і дае яму поўнае задавальненне толькі ў выпадку, калі яго ролі ў кожным з гэтых калектываў не супрацьпастаўляюцца, а гарманічна дапаўняюць адна другую. У наш час праблема гарманізацыі сямейных і вытворчых роляў з'яўляецца найбольш актуальнай для жанчын.

У Савецкім Саюзе працэс удзелу жанчын у народнай гаспадарцы набліжаецца да поўнага завяршэння. Усесаюзны перапіс насельніцтва 1970 г. паказаў, што сярод жанчын працаздольнага ўзросту засталося ўсяго 5,9 мільёна хатніх гаспадынь. Не працуюць на вытворчасці і не вучацца галоўным чынам жанчыны, якія маюць малых дзяцей або адчуваюць сябе нездаровымі. Для астатніх адмаўленне ад працы выглядае як адступленне ад нормы. У выніку параўнанне сем'яў, у якіх працуюць жанчыны, з сем'ямі, у якіх жанчыны не працуюць, у нас, асабліва ва ўмовах вялікага горада, стала практычна немагчымым. Таму мы выкарысталі метад апытання жанчын (і мужчын), якія працуюць, з наступным параўнаннем дадзеных, што датычаць стабільных і нестабільных шлюбаў.

Вось матэрыялы двух канкрэтных сацыяльных даследаванняў. Першае з іх было праведзена ў 1968—69 гадах на трох мінскіх прадпрыемствах: камвольным камбінаце, заводзе трактарных запчастак і гадзіннікавым. Усяго апытана па падрыхтаванай аўтарам анкеце 612 работніц і 365 рабочых. Анкетаванне праводзілася пры дапамозе і падтрымцы праблемнай лабараторыі сацыялагічных даследаванняў БДУ імя У. І. Леніна.

Ёсць тут і некаторыя вынікі анкеты, якая праводзілася восенню 1970 г. на Мінскім камвольным камбінаце. З дапамогай гэтай анкеты збіралася інфармацыя, неабходная для складання плана сацыяльнага развіцця калектыву прадпрыемства. У анкеце было таксама некалькі пытанняў аб сям'і. Усяго на камбінаце апытана 2595 чалавек, гэта значыць, больш чым $^1/_3$ членаў калектыву. Сярод іх—856 замужніх жанчын.

Апрацавана анкета на ЭВМ «Мінск-22».








Стабільнасць шлюбу вызначалася праз задаволенасць ім. Усе анкеты ў залежнасці ад адказаў на «індывідуальныя пытанні» (такіх пытанняў у першай анкеце было тры, у другой—два) былі падзелены на тры групы. У першую трапілі анкеты шчаслівых, цалкам задаволеных сваім шлюбам, у другую—часткова задаволеных і ў трэцюю—незадаволеных, тых, хто лічыць свой шлюб няўдалым.

Неабходна адзначыць, што суадносіны паміж шчаслівымі, здавальняючымі і няўдалымі шлюбамі ў першым і другім даследаваннях істотна адрозніваюцца, аб чым сведчыць табліца 1 (у працэнтах).

Табліца 1.

| У апытаных жанчын | Шлюбы | | | |
|---|---|---|---|---|
| | шчаслівыя | здавальняючыя | няўдалыя | усяго |
| Па даследаванні на трох прадпрыемствах | 40,7 | 40,3 | 19,0 | 100,0 |
| Па даследаванні на камвольным камбінаце | 54,5 | 31,8 | 13,7 | 100,0 |

(Без уліку анкет, у якіх не было адказаў.)

Гэтую розніцу мы тлумачым тым, што ў першым даследаванні не было дастаткова кантролю за рэпрэзентатыўнасцю выбаркі. У выбраных цэхах апытанне было пагалоўным. Усе замужнія жанчыны-работніцы (звычайна пасля рабочага дня) невялікімі групамі запрашаліся для запаўнення анкет у чырвоны куток. Але не ўсе туды прыходзілі. Сярод тых, хто не з'явіўся, на нашу думку, былі пераважна шчаслівыя. Наадварот, тыя жанчыны, шлюбы якіх аказаліся няўдалымі, праявілі да анкеты ўзмоцненую цікавасць. Другую прычыну мы бачым у частковым спрашчэнні методыкі дзялення анкет пры даследаванні, якое праводзілася ў 1970 годзе на Мінскім камвольным камбінаце.

Адно з пытанняў анкеты, якая праводзілася на трох мінскіх прадпрыемствах, было сфармулявана так: «Некаторыя лічаць, што замужняя жанчына-маці павінна не працаваць, каб усё жыццё прысвяціць мужу і дзецям. Ці прытрымліваецеся вы такой думкі?» Адказы жанчын і мужчын, якія лічаць свой шлюб шчаслівым або няўдалым (каб было карацей, аб здавальняючых шлюбах мы не гаворым), прыведзены ў табліцы 2.

Табліца 2.

| Адказы | Шлюбы жанчын | | Шлюбы мужчын | |
|---|---|---|---|---|
| | шчаслівыя | няўдалыя | шчаслівыя | няўдалыя |
| Павінна працаваць | 68,80 | 71,30 | 59,15 | 42,37 |
| Не павінна працаваць | 20,40 | 19,13 | 32,93 | 42,37 |
| Цяжка сказаць | 6,00 | 7,83 | 3,66 | 10,17 |
| Няма адказу | 4,80 | 1,74 | 4,27 | 5,08 |
| Усяго: | 100,00 | 100,00 | 100,01 | 99,99 |

Такім чынам, самі жанчыны, задаволеныя і незадаволеныя шлюбам, у большасці выпадкаў даюць адказ: «павінна працаваць». Нешчаслівыя выбіраюць гэты адказ нават крыху часцей. Магчыма, такое невыпадкова. Жанчына, якая не мае моцнай апоры ў шлюбе, болей зацікаўлена ў працы на вытворчасці, лічыць яе неабходнай.

Галоўнымі праціўнікамі таго, каб замужнія мацяркі працавалі на вытворчасці, аказаліся мужчыны, 42,37 працэнта мужчын з няўдалых шлюбаў хацелі б бачыць у жанчыне толькі маці, жонку і хатнюю гаспадыню. Жанчыны, шчаслівыя і нешчаслівыя, згодны выконваць толькі сямейныя ролі ў два з нечым разы радзей.



Ёсць падставы думаць, што чым больш абстрактна ставіцца пытанне, тым часцей адказы на яго бываюць «традыцыйнымі», адлюстроўваюць адставанне свядомасці ад побыту (калі такое адставанне мае месца). З мэтай *прымусіць апытваемых* максімальна ўлічваць канкрэтныя жыццёвыя ўмовы, мы пыталіся ў мужчын: «Як вы ацанілі б *рашэнне жонкі пакінуць работу, каб мець болей часу для сям'і?*» Высветлілася, што адобрылі б такое рашэнне далёка не ўсе тыя мужчыны, якія лічаць, што жанчыне не трэба працаваць. *У прыватнасці, сярод мужчын з няўдалым шлюбам толькі* 25,42 працэнта адобрылі б жаданне сваёй жонкі пакінуць працу, хаця 24,37 працэнта лічаць, што «наогул» замужняя маці «павінна не працаваць». Праўда, не ўсе жонкі ў такіх сем'ях маюць дзяцей, але справа не толькі ў гэтым.

Савецкія і замежныя даследаванні паказалі: жанчыны ў большасці выпадкаў гавораць, што яны працуюць, каб мець заработак. Таму і выбар жанчынамі адказу «павінна працаваць» мог быць растлумачаны, як прадыктаваны эканамічнай неабходнасцю. Каб праверыць, ці так гэта, мы пыталіся: «Ці пакінеце вы працу, калі заробак вашага мужа павялічыцца на суму, блізкую да сумы вашага заробку?» Нават пры гэтай умове гатоўнасць пакінуць працу выказала толькі каля трэці апытаных жанчын. Астатнія або сказалі «не» (52,59 працэнта з шчаслівых шлюбаў, 55,66 працэнта—з няўдалых), або прызналіся, што ім цяжка адказаць на гэтае пытанне. Сярод тых, хто выказаў гатоўнасць пакінуць працу, значна часцей, чым у сярэднім сярод апытаных, сустракаліся малакваліфікаваныя работніцы з нізкай адукацыяй і заработкам. Іх праца найменш прывабная.

Жанчыны заўсёды працавалі, калі выключыць прадстаўніц эксплуататарскіх класаў. У колішняй сялянскай сям'і, напрыклад, жанчына раней за ўсіх уставала і пазней за ўсіх клалася. Яе працоўны дзень звычайна працягваўся не меней як 18 гадзін. Пры гэтым нагляд за дзецьмі і тая праца, якую сёння даводзіцца выконваць у хатняй гаспадарцы гарадской жанчыне, забірала ў яе толькі невялікую частку працоўнага часу. Ды і ў нашы дні жанчыне-калгасніцы даводзіцца працаваць (у калгасе і сваёй падсобнай гаспадарцы) не меней, чым яе сяброўцы, якая жыве ў горадзе. Пераезд у горад і праца на вытворчасці не павялічваюць працоўную нагрузку жанчыны. Хутчэй наадварот.

Такім чынам, справа не ў тым, што жанчына ў горадзе «павінна працаваць», а ў тым, што кожны дзень яна на 8 гадзін пакідае дом, дзяцей. Але дзяцей сучасная жанчына звычайна мае не болей, чым двое, г. зн. значна меней, чым яе маці, не гаворачы ўжо пра бабулю. Разам з тым яна мае значна больш высокую адукацыю. Нагляд за дзецьмі і хатняя гаспадарка не могуць заняць яе. Яна адчувае, што здольна на большае. Толькі праца па-за домам дае ёй магчымасць у поўнай меры выявіць і выкарыстаць свае здольнасці, сілы, забяспечвае эканамічную незалежнасць, стварае ўмовы для фарміравання і самасцвярджэння яе як асобы. Вось чаму нават пры захаванні нязменным матэрыяльнага становішча сям'і толькі трэць апытаных жанчын—часцей малакваліфікаваных—выказвае гатоўнасць пакінуць працу.

Галоўнымі праціўнікамі таго, каб жанчыны працавалі на вытворчасці, як ужо гаварылася, з'яўляюцца мужчыны (аб прычынах мы скажам ніжэй). Але яны супраціўляюцца часцей за ўсё на словах. Па-першае, іх пазіцыя практычна не перашкаджае жанчынам працаваць. Па-другое, калі прыгледзецца больш уважліва, то аказваецца, што і сярод іх гатовы адобрыць рашэнне жонкі пакінуць працу вельмі нямногія.

Больш таго, ёсць падставы думаць, што калі б ажыццявіліся тыя гіпатэтычныя сітуацыі, аб якіх гаварылася ў анкеце, то яшчэ большая колькасць жанчын не рашылася *б* пакінуць працу і яшчэ меней мужчын сапраўды адобрылі *б* рашэнне сваіх жонак цалкам прысвяціць сябе хатняй гаспадарцы і выхаванню дзяцей. А многія з тых, што пакінулі працу, праз нейкі час зноў вярнуліся б у працоўныя калектывы, бо іх падштурхоўвала б тое, што іх сяброўкі, якія працуюць, жывуць матэрыяльна лепш.

Усё сказанае вышэй дае падставу думаць, што мужчыны не павінны лічыць вытворчую актыўнасць жанчын фактарам, які падрывае ўстоі шлюбу. Вынікі даследавання пацвярджаюць гэта. Але яны гавораць і пра другое. На пытанне «Ці ўплывае, на вашу думку, на ўстойлівасць шлюбу той факт, што замужняя жанчына-маці працуе?»—атрыманы наступныя адказы (гл. табліцу 3).





Табліца 3.

| Адказы | Шлюбы жанчын | | Шлюбы мужчын | |
|---|---|---|---|---|
| | шчаслівыя | няўдалыя | шчаслівыя | няўдалыя |
| Не ўплывае | 34,54 | 27,83 | 31,71 | 19,95 |
| Цяжка сказаць | 19,28 | 21,73 | 22,56 | 20,34 |
| Уплывае станоўча | 16,87 | 17,39 | 26,83 | 16,95 |
| Уплывае адмоўна | 12,85 | 25,22 | 10,37 | 37,29 |
| Няма адказу | 16,47 | 7,83 | 8,54 | 8,47 |
| Усяго: | 100,01 | 100,00 | 100,01 | 100,00 |

Адказ «уплывае адмоўна» ў шчаслівых мужчын і жанчын стаіць на апошнім месцы (10—13 працэнтаў). У нешчаслівых назіраецца адваротны малюнак: у мужчын гэты адказ на першым месцы (37 працэнтаў), у жанчын—на другім (25 працэнтаў).

Звяртае на сябе ўвагу і яшчэ адзін момант. Нешчаслівыя ў шлюбе жанчыны ў два разы часцей, чым іх шчаслівыя сяброўкі, лічаць, што вытворчая дзейнасць жанчыны адмоўна ўплывае на шлюб. А нешчаслівыя мужчыны прытрымліваюцца такой думкі амаль у 3,8 раза часцей, чым шчаслівыя.

Чаму ж частка апытаных — няхай невялікая (перш за ўсё людзі, нешчаслівыя ў шлюбе, асабліва мужчыны)—лічыць вытворчую дзейнасць жанчыны фактарам, які адмоўна ўплывае на сям'ю? Ёсць падставы думаць, што гэта звязана з несправядлівым размеркаваннем сямейных абавязкаў паміж мужам і жонкай, якія працуюць. Для праверкі гэтай гіпотэзы думкі апытаных аб уплыве занятасці жанчыны ў вытворчасці на стабільнасць шлюбу трэба было б прама параўнаць з тым, як размяркоўваюцца хатнія абавязкі. Аднак такое параўнанне не было своечасова закладзена ў праграму падліку анкет, і мы пакуль вымушаны карыстацца «ўскоснымі доказамі».

Вядома, што няўдалымі вельмі часта з'яўляюцца іменна тыя шлюбы, у якіх муж не памагае жонцы. Залежнасць паміж задаволенасцю шлюбам і размеркаваннем сямейных абавязкаў была выяўлена даследаваннем на трох мінскіх прадпрыемствах (пра гэта мы пісалі—гл. «Маладосць» № 7, 1970 г.).

Матэрыялы другога даследавання яшчэ раз пацвярджаюць гэтую заканамернасць (гл. табліцу 4).

Табліца 4.

| Хатнія абавязкі выконваюць (па адказах жанчын) | Задаволенасць шлюбам | | | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| | поўная | частковая | адсутнічае | Няма адказу | |
| Адна жонка | 27,31 | 40,76 | 20,05 | 5,88 | 100,00 |
| Муж памагае | 60,71 | 29,46 | 4,46 | 5,36 | 99,99 |
| Абое аднолькава | 60,00 | 27,11 | 2,67 | 10,22 | 100,00 |

Там, дзе хатнія абавязкі цалкам або амаль цалкам выконвае жонка, няўдалых шлюбаў значна больш, чым у сярэднім сярод апытаных на камбінаце (гл. табліцу 1), амаль столькі ж, колькі шчаслівых. А там, дзе муж і жонка дзеляць абавязкі



пароўну, удзельная вага шчаслівых шлюбаў рэзка павялічана. Іх у 22 з нечым разы (!) болей, чым няўдалых.

Прыемна адзначыць, што найбольш справядлівае размеркаванне абавязкаў часцей за ўсё заўважаецца ў самых маладых шлюбах (гл. табліцу 5).

Табліца 5.

| Працягласць шлюбу | Хатнія абавязкі выконваюць | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | адна жонка | муж памагае | абодва аднолькава | іншы адказ, няма адказу | Усяго |
| Меней 1 года | 7,87 | 37,08 | 52,81 | 2,25 | 100,01 |
| 1 год — меней 3-х | 12,31 | 41,54 | 40,00 | 6,16 | 100,01 |
| 3 гады — меней 5-ці | 33,85 | 38,46 | 24,62 | 3,08 | 100,01 |
| 5—10 гадоў | 25,71 | 48,57 | 21,14 | 4,57 | 99,99 |

(Табліца прыведзена не цалкам).

Па меры павелічэння працягласці шлюбу ўдзельная вага выпадкаў, калі муж і жонка аднолькава выконваюць хатнія абавязкі, зніжаецца. Адначасова павялічваецца ўдзельная вага выпадкаў, калі памянёныя абавязкі вымушана несці адна жонка. Хацелася б спадзявацца, што ў маладых сем'ях тып размеркавання абавязкаў застанецца нязменным.

Для разумення механізму ўзаемазалежнасці паміж думкамі апытаных аб уплыве прафесійнай працы жанчыны на стабільнасць сям'і тыпам размеркавання хатніх абавязкаў і задаволенасцю шлюбам вялікае значэнне маюць лічбы, якія ўтрымліваюцца ў табліцы 6.

Табліца 6.

| Стамляемасць на рабоце (па адказах жанчын) | Хатнія абавязкі выконваюць | | | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| | адна жонка | муж памагае | абодва аднолькава | іншы адказ, няма адказу | |
| Не стамляецца | 15,79 | 42,11 | 31,58 | 10,52 | 100,00 |
| Стамляецца ў меру | 26,23 | 41,30 | 28,31 | 4,16 | 100,00 |
| Моцна стамляецца | 31,82 | 39,47 | 23,36 | 3,35 | 100,00 |

Сярод тых, хто не стамляецца, удзельная вага жанчын, якія адны выконваюць сямейныя абавязкі, меншая. Наадварот, сярод тых, хто моцна стамляецца, іх у 2 разы больш. Стомленасць ад хатняй працы накладваецца на стомленасць ад працы прафесіянальнай. Жанчына трапляе ў кола, з якога няма выйсця. Не адпачыўшы дома, яна хутка стамляецца на рабоце. Моцна стаміўшыся на рабоце, яна не мае дастатковых сіл для дому, дзяцей, мужа. А гэта, у сваю чаргу, можа прывесці да разбурэння сям'і.

Але не толькі вытворчая дзейнасць жанчыны ўплывае на стабільнасць сям'і. Ёсць і адваротная сувязь. Агульная фізічная і псіхічная вычарпанасць жанчыны не можа не адбіцца на яе поспеху ў працы. Даследаванне дазваляе таксама выявіць узаемасувязь паміж задаволенасцю шлюбам і такімі фактарамі, як адносіны да працы наогул, задаволенасць сваёй працай, складанасць працы, грамадская актыўнасць і г. д. На жаль, мы не можам у гэтым артыкуле выкласці і абмеркаваць усе атрыманыя дадзеныя. Таму абмяжуемся адным прыкладам.



Табліца 7 складзена па выніках апытання на Мінскім камвольным камбінаце 1345 жанатых мужчын і замужніх жанчын. Ступень задаволенасці працай вызначалася з дапамогай некалькіх паказчыкаў:

Табліца 7.

| Шлюбы | Задаволенасць працай | | | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| | поўная | частковая | адсутнічае | |
| Шчаслівыя | 53,55 | 44,82 | 16,00 | 48,71 |
| Здавальняючыя | 26,39 | 30,60 | 36,00 | 28,48 |
| Няўдалыя | 10,65 | 14,38 | 28,00 | 12,26 |
| Няма адказу | 9,41 | 10,20 | 20,00 | 10,57 |
| Усяго: | 100,00 | 100,00 | 100,00 | 100,00 |

Сярод цалкам задаволеных працай шчаслівыя сустракаюцца часцей, а нешчаслівыя—радзей, чым у сярэднім. Наадварот, сярод незадаволеных працай шчаслівых у тры разы менш, чым у сярэднім (48,71 : 16,00), а нешчаслівых амаль у 2,3 раза больш (28,00 : 12,26).

У заключэнне неабходна сказаць наступнае:

1. Праца жанчыны на вытворчасці адмоўна ўплывае на адносіны паміж мужам і жонкай толькі ў тых выпадках, калі хатнія абавязкі размяркоўваюцца паміж імі несправядліва. Таму роўнае размеркаванне абавязкаў сёння з'яўляецца найбольш важнай умовай умацавання сям'і. І тут слова перш за ўсё за моладдзю.

2. Не толькі вытворчая дзейнасць уплывае на сямейныя адносіны. Сямейныя адносіны таксама ўплываюць на вытворчую і грамадскую актыўнасць жанчын і мужчын, іх працоўную мараль, адносіны да сацыялістычнай уласнасці. Прадпрыемствы зацікаўлены ў тым, каб сем'і іх супрацоўнікаў былі шчаслівымі. Правільныя адносіны ў сям'і—не толькі маральная, але і важная эканамічная катэгорыя. Таму на прадпрыемствах побач са службай быту час ствараць службу сям'і. Патрэбны эксперыменты.

Сацыялізм стварае ўмовы для ўмацавання сям'і, дае магчымасць рабіць гэта, але рэалізацыя гэтай магчымасці патрабуе адпаведных намаганняў—як з боку грамадзян, так і з боку грамадства. Ажыццяўленне шэрагу грамадскіх мерапрыемстваў, прама ці ўскосна накіраваных на ўмацаванне сям'і, і паляпшэнне ўмоў выхавання маладога пакалення прадугледжана дырэктывамі XXIV з'езда КПСС на дзевятую пяцігодку. Стварэнне службаў сям'і—для пачатку хаця б на некалькіх прадпрыемствах—цалкам адпавядала б таму напрамку дзейнасці, які вызначыў XXIV з'езд партыі. Стабільнасць сям'і з'яўляецца неабходнай умовай грамадскага прагрэсу, будаўніцтва новага жыцця.

# НАШ ПРАКТЫКУМ

## МАТЭМАТЫКА

Цяжкасць уступнага экзамену ў БДУ па матэматыцы на розных факультэтах, вядома, розная. Самы цяжкі экзамен па матэматыцы, натуральна, для паступаючых на факультэт прыкладной матэматыкі і матэматычны факультэт. На выкананне пісьмовага задання, у якое ўваходзяць чатыры задачы, даецца чатыры гадзіны.

Што азначае — рашыць задачу?

Здавалася б, адказаць на гэтае пытанне проста: рашыць задачу — значыць атрымаць правільны адказ. Але, напэўна, у вашай практыцы здаралася так, што атрыманы адказ супадаў з адказам задачніка, а рашэнне было няправільнае. Вядома, калі задача рошана правільна, тады і адказ будзе правільны, але правільны адказ яшчэ не азначае, што задача рошана правільна.

Як правільна афармляць рашэнні задач? Гэтае пытанне, напэўна, цікавіць амаль усіх. Таму прыводзім рашэнне аднаго з варыянтаў, які прапаноўваўся для паступаючых на факультэт прыкладной матэматыкі:

**Задача 1.**

У аснове прамой прызмы ляжыць паралелаграм з вострым вуглом $\alpha$. Дыяганалі прызмы складаюць з плоскасцю асновы вуглы адпаведна роўныя $\beta$ і $\gamma$ $(\beta<\gamma)$. Знайсці аб'ём прызмы, калі яе вышыня роўна h.




Дадзена: ABCDA'B'C'D' — прамая прызма,

$\angle BAD = \alpha$; $\angle C'AC = \beta$;

$\angle B'DB = \gamma$; $AA' = h$;

ABCD — паралелаграм

Вызначыць V прызмы = ?

Рашэнне:

V прызмы $= S \cdot h$, дзе $S = AD \cdot AB \cdot \sin\alpha$ — плошча асновы.

Разгледзім $\triangle C'AC$ і $\triangle B'BD$.

З іх знаходзім, што

$$\frac{h}{AC} = \mathrm{tg}\beta; \quad \underline{AC = h\,\mathrm{ctg}\,\beta} \quad і \quad \frac{h}{BD} = \mathrm{tg}\,\gamma; \quad \underline{BD = h \cdot \mathrm{ctg}\,\gamma}$$

Разгледзім $\triangle ACD$ і $\triangle ABD$.

З іх, прымяняючы тэарэму косінусаў, маем:

$$AC^2 = AD^2 + DC^2 + 2AD \cdot DC \cdot \cos\alpha;$$

$$BD^2 = AD^2 + DC^2 - 2\,AD \cdot DC \cdot \cos\alpha.$$

Адымаем з першай роўнасці другую.

$$AC^2 - BD^2 = 4\,AD \cdot DC \cdot \cos\alpha.$$





Адсюль

$$AD \cdot DC = \frac{AC^2 - BD^2}{4\cos\alpha} = \frac{h^2(\mathrm{ctg}^2\beta - \mathrm{ctg}^2\gamma)}{4\cos\alpha}; \quad AD \cdot DC = AD \cdot AB;$$

$$V_{\text{прызмы}} = \frac{h^2(\mathrm{ctg}^2\beta - \mathrm{ctg}^2\gamma)\cdot\sin\alpha}{4\cos\alpha}\,h = \frac{h^3(\mathrm{ctg}^2\beta - \mathrm{ctg}^2\gamma)}{4\,\mathrm{ctg}\,\alpha} =$$

$$= \frac{h^3\sin(\gamma-\beta)\cdot\sin(\beta+\gamma)\cdot\mathrm{tg}\,\alpha}{4\sin^2\gamma\cdot\sin^2\beta};$$

Адказ: $V_{\text{прызмы}} = \dfrac{h^3\cdot\sin(\gamma-\beta)\cdot\sin(\beta+\gamma)\cdot\mathrm{tg}\,\alpha}{4\sin^2\gamma\cdot\sin^2\beta}$;

**Задача 2.**

Рашыць ураўненне

$$2\log_9^2 x = \log_3 x \cdot \log_3(\sqrt{2x+1} - 1).$$

Рашэнне:

Каб рашыць лагарыфмічнае ўраўненне, знойдзем вобласць дапушчальных значэнняў невядомага, ведаючы, што адмоўныя лікі не маюць лагарыфмаў.

$$\begin{cases} x > 0 \\ \sqrt{2x+1} - 1 > 0 \end{cases}; \quad \sqrt{2x+1} - 1 > 0; \quad \sqrt{2x+1} > 1.$$

Узвядзём абедзве часткі ў квадрат, але пры ўмове, што $2x+1 \geqslant 0$, $x \geqslant -0{,}5$, каб абедзве часткі былі дадатныя; тады знак няроўнасці не зменіцца.

$$2x+1 > 1; \quad 2x > 0; \quad x > 0.$$

Агульнае значэнне невядомага $x > 0$, г. зн. ураўненне будзе мець сэнс толькі пры $x > 0$.

Пераўтворым левую частку ўраўнення, ведаючы, што

$$\log_{a^n} b = \frac{1}{n}\cdot\log_a b:$$

$$2\cdot\frac{1}{4}\cdot\log_3^2 x = \log_3 x\cdot\log_3(\sqrt{2x+1} - 1).$$

Атрымліваем:

$$\frac{1}{2}\log_3^2 x = \log_3 x\cdot\log_3(\sqrt{2x+1} - 1);$$

$$\log_3 x\cdot\log_3(\sqrt{2x+1} - 1) - \frac{1}{2}\log_3^2 x = 0;$$

$$\log_3 x\cdot\left[\log_3(\sqrt{2x+1} - 1) - \frac{1}{2}\log_3 x\right] = 0.$$

Значыць, хаця б адзін з сумножнікаў роўны 0.

$$\log_3 x = 0; \quad \underline{x_1 = 1}$$

$$\log_3(\sqrt{2x+1} - 1) - \frac{1}{2}\log_3 x = 0; \quad \log_3(\sqrt{2x+1} - 1) = \log_3 x^{\frac{1}{2}}.$$

Патэнцыруючы абедзве часткі ўраўнення, атрымаем:

$$\sqrt{2x+1} - 1 = \sqrt{x}.$$

$$\sqrt{2x+1} = \sqrt{x} + 1;$$

Значыць,

$$2x+1 = x + 2\sqrt{x} + 1;$$

$$x = 2\sqrt{x}; \quad x - 2\sqrt{x} = 0, \quad \sqrt{x}(\sqrt{x} - 2) = 0;$$

$$\underline{x_2 = 0;} \quad \sqrt{x} - 2 = 0;$$

$$\underline{x_3 = 4;}$$

$x_2$ — не з'яўляецца коранем ураўнення, так як $x > 0$ (ВДЗ).

Праверка: $\underline{x_3 = 4;}$ $2\log_9^2 4 = \log_3 4\log_3(\sqrt{9} - 1)$;

$$2\log_3^2 2 = \log_3 4\cdot\log_3 2;$$

$$\log_3 4 = \log_3 4;$$

$x_1 = 1$; $2\log_9^2 1 = \log_3 1 \cdot \log(\sqrt{3} - 1)$;

$$\log_3 1 \left(\log_3 \frac{1(\sqrt{3}-1)}{2}\right) = 0.$$

Адказ: $x_1 = 4$; $x_2 = 1$.

**Задача 3.**

Рашыць ураўненне:

$$\sqrt{1+\sin x} - \sqrt{1-\sin x} = 1 + \cos x; \qquad (1)$$

ВДЗ $\begin{cases} 1+\sin x \geq 0 \\ 1-\sin x \geq 0 \end{cases}$ $-1 \leq \sin x \leq 1$ — выконваецца заўсёды

Заўважым, што $1 + \cos x \geq 0$; $\cos x \geq -1$ — заўсёды $\rightarrow$

$$\sqrt{1+\sin x} - \sqrt{1-\sin x} \geq 0;$$

$$1 + \sin x \geq 1 - \sin x;$$

$$2\sin x \geq 0;\ \sin x \geq 0; \text{ Адкуль} \qquad (2)$$

$2\pi k \leq x \leq \pi + 2\pi k$, г. зн. I і II чвэрць.

Рашаем: (I) узводзім у квадрат

$$1 - \sin x - 2\sqrt{(1+\sin x)(1-\sin x)} + 1 - \sin x = 1 + 2\cos x + \cos^2 x;$$

$$1 - 2\sqrt{1-\sin^2 x} = 2\cos x + \cos^2 x;$$

$$1 - 2\sqrt{\cos^2 x} = 2\cos x + \cos^2 x;$$

$$1 - 2|\cos x| - 2\cos x - \cos^2 x = 0;$$

1) $\cos x \geq 0$, г. зн. $2\pi K \leq x \leq \frac{\pi}{2} + 2\pi K$

[I чвэрць з улікам (2)].

$$1 - 2\cos x - 2\cos x - \cos^2 x = 0;$$

$$\cos^2 x + 4\cos x - 1 = 0,$$

$$\cos x_{1,2} = -2 \pm \sqrt{5};$$

Так як $\cos x \geq 0$, то $\cos x = \sqrt{5} - 2$;

$$x = \pm \arccos(\sqrt{5} - 2) + 2\pi n,$$

але x у I чвэрці, то

$$x = \arccos(\sqrt{5} - 2) + 2\pi n;$$

2) $\cos x \leq 0$, г. зн. $2\pi n + \frac{\pi}{2} \leq x \leq \pi + 2\pi n$ $\rightarrow$ [II чвэрць з улікам (2)]

$$1 + 2\cos x - 2\cos x - \cos^2 x = 0;$$

$$1 - \cos^2 x = 0;\ \sin^2 x = 0;\ x = k\pi,$$

але x у II чвэрці, то $x = \pi + 2\pi n$.

Адказ: $x_1 = \arccos(\sqrt{5} - 2) + 2\pi n$; $x_2 = \pi + 2\pi n$.

**Задача 4.**

Назоўнік дробу меншы за квадрат яго лічніка на адзінку; калі да лічніка і назоўніка дадаць па 2, то значэнне дробу будзе большае 1 : 4; калі ад лічніка і назоўніка адняць па 3, то значэнне дробу будзе меншае 1 : 10. Знайсці гэты дроб.

Рашэнне:

x — лічнік дробу;

$x^2 - 1$ — назоўнік дробу;

$\frac{x}{x^2-1}$ — дроб; $x > 1$;





$$\begin{cases} \frac{x+2}{x^2+1} > \frac{1}{4} \\ \frac{x-3}{x^2-4} < \frac{1}{10} \end{cases}; \quad \begin{cases} \frac{x+2}{x^2+1} - \frac{1}{4} > 0 \\ \frac{x-3}{x^2-4} - \frac{1}{10} < 0 \end{cases};$$

$$\begin{cases} \frac{4x+8-x^2-1}{4x^2+4} > 0 \\ \frac{10x-30-x^2+4}{10x^2-40} < 0 \end{cases}$$

Дроб $> 0$, калі лічнік і назоўнік або $> 0$, або $< 0$.

$\begin{cases} -x^2 + 4x + 7 > 0 \\ 4x^2 + 4 > 0 \end{cases}$; $x^2 - 4x - 7 = 0$; $x_{1,2} = 2 \pm \sqrt{4+7} = 2 \pm \sqrt{11}$;




$x_1 = 2 + \sqrt{11}$; $x_2 = 2 - \sqrt{11}$;

$2 - \sqrt{11} < x < 2 + \sqrt{11}$;

$4x^2 + 4$ заўсёды $> 0$.

Дроб $< 0$, калі лічнік $> 0$, а назоўнік $< 0$ або наадварот.

$\begin{cases} -x^2 + 10x - 26 > 0 \\ 10x^2 - 40 < 0 \end{cases}$ $x^2 - 10x + 26 = 0$; $x_{1,2} = 5 \pm \sqrt{25-26} = 5 \pm \sqrt{-1}$

Не задавальняюць любыя значэнні x.

$\begin{cases} -x^2 + 10x - 26 < 0 \\ 10x^2 - 40 > 0 \end{cases}$; $x^2 - 10x + 26 = 0$; $x_{1,2} = 5 \pm \sqrt{-1}$

Задавальняюць любыя значэнні x.

$x^2 - 4 > 0$; $(x-2)(x+2) > 0$

$x > 2$; $x < -2$;







З усяго гэтага вынікае, што

$2 < x < 2 + \sqrt{11}$ — а ў гэтым інтэрвале знаходзяцца лікі 3, 4, 5

Адказ: $\frac{3}{8}$; $\frac{4}{15}$; $\frac{5}{24}$.

Прапануем варыянты пісьмовых работ па матэматыцы, якія даваліся для паступаючых на іншыя факультэты ўніверсітэта. Адказы на іх будуць апублікаваны ў наступным нумары.

**МАТЭМАТЫЧНЫ ФАКУЛЬТЭТ**

1. Адносіны паверхні шара, упісанага ў конус, да плошчы асновы конуса роўны k. Знайсці вугал паміж утвараючай конуса і плоскасцю яго асновы і дапушчальныя значэнні k.

2. Знайсці натуральныя значэнні x, якія задавальняюць сістэму няроўнасцяў:

$$\begin{cases} \log_{\sqrt{2}}(x-1) < 4 \\ \dfrac{x}{x-3} + \dfrac{x-5}{x} < 0. \end{cases}$$

3. Знайсці ўсе рашэнні ўраўнення:

$$\cos 3x - \sqrt{\frac{1+\sin 2x}{2}} = 0,$$

якія знаходзяцца паміж $\pi$ і $\frac{3}{2}\pi$.

4. Вызначыць тры лікі, якія ўтвараюць геаметрычную прагрэсію, калі сума іх роўна 21, а сума адваротных велічынь роўна $\frac{7}{12}$.

**ФІЗІЧНЫ ФАКУЛЬТЭТ**

1. У шар радыуса r упісан конус, бакавая паверхня якога ў k разоў большая за плошчу асновы. Знайсці аб'ём конуса.

2. Рашыць ураўненне:

$$\frac{\lg(\sqrt{x+1}+1)}{\lg\sqrt[3]{x-40}} = 3.$$

3. Рашыць ураўненне:

$$\operatorname{tg} x + \frac{\cos x}{1+\sin x} = 2.$$

4. Пры якіх значэннях $\mu$ абодва корані ўраўнення $x^2 - 2\mu x + \mu^2 - 1 = 0$ знаходзяцца $-2 < x < 4$.

**ХІМІЧНЫ ФАКУЛЬТЭТ**

1. У цыліндр упісан прамавугольны паралелепіпед, дыяганаль якога складае з прылягаючымі да яе бакамі асновы вуглы, адпаведна роўныя $\alpha$ і $\beta$. Знайсці адносіну аб'ёму паралелепіпеда да аб'ёму цыліндра.

2. Рашыць ураўненне

$$\log_{x-3}(2x^2 - 3x - 61) = 2.$$

3. Прывесці ў выгляд, зручны для лагарыфмавання

$$2 - \frac{\sin 8\alpha}{\sin^4 2\alpha - \cos^4 2\alpha}.$$

4. Маецца лом сталі двух гатункаў з утрыманнем нікелю ў 5% і 40%. Колькі трэба ўзяць лому кожнага гатунку, каб атрымаць 140 кілаграмаў сталі з утрыманнем нікелю ў 30%?

**ГЕАГРАФІЧНЫ ФАКУЛЬТЭТ**

1. Асновай прамой прызмы служыць роўнабедраны трохкутнік, аснова якога роўна $a$, а вугал пры ім роўны $\alpha$. Вызначыць аб'ём прызмы, калі яе бакавая паверхня роўная суме плошчаў яе асновы.

2. Рашыць няроўнасць $\frac{|2x-1|}{x-1} > 2$.

3. Рашыць сістэму ўраўненняў

$$\begin{cases} \log_{0,5}(y-x) + \log_2 \dfrac{1}{y} = -2 \\ x^2 + y^2 = 25 \end{cases}.$$

4. Выключыць $\alpha$ з суадносін

$$\begin{cases} \sin\alpha + \cos\alpha = a \\ \operatorname{tg}^3\alpha + \operatorname{ctg}^3\alpha = b \end{cases}.$$

**Генадзь ДРАБУШЭВІЧ, загадчык кафедры матэматычнага забеспячэння электронна-вылічальных машын БДУ імя У. І. Леніна.**






# 1972

## ЛЮТЫ

**5**

70 гадоў з дня нараджэння (1902) Г. К. Татура, доктара тэхнічных навук, прафесара кафедры тэарэтычнай механікі Беларускага політэхнічнага інстытута.



Г. К. Татур.

**6**

85 гадоў з дня нараджэння (1887) Г. Д. Гая (Бжышкянц), савецкага ваеннага дзеяча. Памёр у 1937 г.

**10**

70 гадоў з дня нараджэння (1902) М. П. Кнігі, прафесара Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута.

**12**

50 гадоў з дня нараджэння (1922) В. У. Палійчука, беларускага скульптара.

**13**

70 гадоў з дня нараджэння (1902) С. А. Хурсіка, беларускага пісьменніка.

**15**

70 гадоў з дня нараджэння (1902) П. Н. Гаўрыленкі, беларускага мастака-жывапісца. Памёр у 1961 г.

60 гадоў з дня нараджэння (1912) Н. С. Перкіна, беларускага крытыка і літаратуразнаўцы.



П. Н. Гаўрыленка.



М. П. Кніга.



Р. Д. Мурашка.



К. К. Барышнікава.



І. Р. Цішчанка.

**16**

70 гадоў з дня нараджэння (1902) Р. Д. Мурашкі, беларускага пісьменніка. Загінуў у 1944 годзе.

**18**

50 гадоў з дня нараджэння (1922) М. А. Савіцкага, беларускага мастака-жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

**20**

75 гадоў з дня нараджэння (1897) К. К. Барышнікавай, прафесара, загадчыка кафедры эксперыментальнай фанетыкі Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моваў.

**22**

50 гадоў з дня нараджэння (1922) І. Ц. Ціханава, беларускага мастака-жывапісца.

**24**

50 гадоў з дня нараджэння (1922) А. Я. Журава, доктара гістарычных навук, прафесара кафедры гісторыі КПСС гуманітарных факультэтаў БДУ імя У. І. Леніна.

**25**

60 гадоў з дня нараджэння (1912) І. Р. Цішчанкі, доктара хімічных навук, прафесара, загадчыка кафедры арганічнай хіміі БДУ імя У. І. Леніна.

**26**

60 гадоў з дня нараджэння (1912) У. Б. Карпава, вядомага беларускага пісьменніка.

40 гадоў з дня выхаду (1932) першага нумара газеты «Літаратура і мастацтва» — органа Міністэрства культуры і Саюза пісьменнікаў БССР.

**29**

100 гадоў з дня нараджэння (1872) В. К. Бялыніцкага-Бірулі, вядомага мастака-жывапісца, сапраўднага члена Акадэміі мастацтваў СССР, ганаровага акадэміка Акадэміі навук БССР, народнага мастака БССР. Памёр у 1957 г.



# Рыгору Раманавічу Шырме — сардэчныя словы любові

**Час бардаў мінуў. Даўно.**

**І ўсё ж яны трапляюцца і цяпер. І тым большая іхняя роля. ...Ён быў дужа цяжкі, былы лёс вялікай песні нашага народа: пад забаронай, толькі пад дымнымі стрэхамі сялянскіх хатаў. І праследаванні яе, што скончыліся ў былой Заходняй Беларусі параўнаўча яшчэ зусім нядаўна.**

**Магло б здарыцца горшае. Калі нямецкія рыцары захапілі Прусію, калі пачаў знікаць прускі мелас і пруская мова, у Марыенбурзе, пры замку здарыўся турнір спевакоў. На ім выступіў апошні прускі бард-вайдэлот. Калі ён скончыў спяваць — над натоўпам пракаціўся рогат. Ніхто ўжо не разумеў яго, і дзікія былі гукі ягонай музыкі для ўсіх вушэй. У якасці здзеклівага падарунка рыцары падарылі яму за песню сто пустых арэхаў-свістуноў.**

**Здарыцца магло б горшае. Каб не энтузіясты і фанатыкі народнай песні, вечныя прапаведнікі яе, людзі, што яшчэ ў мінулым стагоддзі запісвалі яе і апрацоўвалі і выконвалі, прымушаючы сэрцы людзей дрыжаць ад хвалявання, ад замілавання, ад любові да гэтага, напаўзабытага, але роднага, як пяшчотныя матчыны рукі пад роднай страхой.**

**...Да ліку такіх людзей належыць з поўным правам і дзядзька Рыгор, Рыгор Раманавіч Шырма, васьмідзесяцігоддзе якога мы зараз з любоўю і ўдзячнасцю адзначаем.**

**О, гэтая пружанская зямля, што ўся звініць песнямі, дзе іх болей чым жаўранкаў у сінім небе над пружанскай раллёй! Спяваюць сінія роўныя лясы, спяваюць салаўі ў альховых зарасцях, спяваюць у залатым вячэрнім сонцы пчолы, спяваюць лянотныя рэкі і сама зямля. Што здзіўляцца, што й людзі тут спявучыя. Што здзіўляцца, што 80 гадоў таму назад нарадзіўся тут хлопчык, якому суджана было стаць гонарам нашай музычнай культуры, энтузіястам і мужным абаронцам беларускай песні. Вартавым пры яе скарбніцы.**

**Шлях ягоны смела можна назваць гераічным. Асветнік, кіраўнік ТБШ, педагог у адной з нешматлікіх заходнебеларускіх гімназій, нястомны лектар, выдавец кніг (між іншым, такіх выдатных паэтаў, як В. Таўлай і М. Танк), збіральнік нашых музычных скарбаў, які ўласнымі нагамі схадзіў кожны куток сваёй Айчыны.**

**Заснавальнік многіх народных хораў. Стваральнік аднаго з лепшых харавых калектываў СССР — Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы Беларускай ССР і, да нядаўняга часу, нязменны яе кіраўнік.**

**Выдавец шматлікіх, ім жа сабраных, збораў песень, дзе кожная — непаўторны дыямент.**

**І хоць сказана недзе, што песня, вырваўшыся на волю, гаворыць спеваку:**

Ты мяне да паперы не прывяжаш,
У скураную не пасодзіш клетку.
Толькі цень свой — чорныя знакі,
Толькі цень свой — літараў россып,
Бледны водгук гукаў магутных —
Вось і ўсё, што я табе пакіну.

**І калі запіс яе зроблены, то спявак пакідае:**

Бездыханны цень народнай песні.
Як пялёстак, засушаны ў кнізе...

**— гэта аднак, няпраўда. Песня, часам, можа знікнуць. Пялёстак застаецца, пакуль жыве кніга.**

**...Чалавек, якому за багатае яго жыццё часта даводзілася не словам, а справай даводзіць гарачую любоў да роднага меласу і часам плаціцца за яе. Аж да камеры панскіх Лукішак.**

**Усё жыццё сваё ён паклаў на тое, каб жыла, каб пераможна звінела песня наша. Усё жыццё. Кожнае імгненне ягонае.**

**...Я памятаю, як першы раз убачыў яго. На нарадзе маладых пісьменнікаў у 1955, здаецца, годзе. Выйшаў невысокі, сівы, як абдуванчык, чалавек з аблічча ці то настаўніка, ці то гэткага беларускага Дон-Кіхота і загаварыў прыемным глухаватым гола-**

**сам, з гэткім мяккім пружанскім акцэнтам «гэ-то-го», «за-мно-го». Загаварыў у віслыя вусы і сівую эспаньёлку рэчы, якія адразу зачаравалі нас. І адразу выяснілася, якая велічная рэч наша песня, колькіх кампазітараў, ад Манюшкі да Рымскага-Корсакава, яна натхняла. І загучала арыя з «Галькі», заснаваная на мелодыі нашай песні, і «Песня Леля», якой, на самай справе, з'яўляецца наша «Ой, ляцеў арлішча».**

**І цяпер з усведамлення яе велічы нас не саб'е ніхто.**

**І мы адразу палюбілі гэтага чалавека. Назаўсёды. А тое слова, ягонае — раскрыю сакрэт — лягло ў аснову адной са сцэн маіх «Каласоў», дзе ідзе спрэчка аб беларускай музыцы.**

**Ён грамадзянін. Калі б ні прыйшоў да яго — ён заўсёды паможа. Ніколі ён не абмяжоўваўся адной музыкай.**

**Але перш за ўсё — Яна. Першая і апошняя яго любоў. Яго мара, яго пяшчота, ягоная душа, гарачае сэрца ягонае. Маці, што выхавала яго, і дзіця, над якім ён дрыжыць.**

**Дзякуй Вам ад імя беларускай песні, якая перамагла. Дзякуй Вам ад імя ўсіх нас. Жывіце яшчэ сто год на радасць нам, лятучая наша песня, наш дарагі дзядзька Рыгор.**

Уладзімір КАРАТКЕВІЧ.

●

**Рыгор Раманавіч Шырма! Кожная сустрэча з гэтым чалавекам, якая б яна ні была — доўгая ці кароткая, прызначаная ці выпадковая — успамінаецца з цёплым пачуццём.**

**Упершыню я сустрэўся з Рыгорам Раманавічам у 1943 годзе ў Маскве. Час быў цяжкі. Вораг стаяў пад Масквой. Але Рыгор Раманавіч быў настроены аптымістычна. «Праз год наш ансамбль песні і танца будзе выступаць у роднай Беларусі». І не памыліўся. У жніўні 1944 года мы з ім адначасова вярнуліся ў Мінск.**

**Рыгор Раманавіч усё сваё жыццё, а яно ў яго ў мінулым было нялёгкае, прысвяціў беларускай народнай песні і харавому прафесійнаму мастацтву. Беларуская дзяржаўная харавая капэла — яго дзецішча. Пад яго кіраўніцтвам яна вырасла ў першакласны прафесійны калектыў. Там, дзе выступала капэла Шырмы, у памяці людзей засталіся поўныя прыгажосці народныя песні, высокае, незабыўнае майстэрства іх выканання.**

**Рыгор Раманавіч Шырма ўсё сваё жыццё займаецца збіраннем, сістэматызацыяй і вывучэннем беларускага фальклору. У дні свайго юнацтва ён пехатою прайшоў сотні кіламетраў і запісаў тысячы беларускіх народных песень. Тры зборнікі ім запісаў народных песень ужо выйшлі ў свет, а цяпер ён падрыхтаваў да друку чацвёрты.**

**Рыгор Раманавіч валодае нейкай высакароднаю нецярплівасцю, жаданнем як найхутчэй і як найпаўней аддаваць людзям свой талент і веды. І робіць ён гэта энергічна, з зайздроснай упартасцю, не спыняючыся перад цяжкасцямі. Ён — нястомны грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Беларускі народ неаднаразова аказваў яму свой вялікі давер, выбіраючы дэпутатам у Вярхоўны Савет БССР. У Беларусі, здаецца, няма таго кутка, дзе б ён не пабываў са сваім ансамблем, потым — капэлай, а таксама як дэпутат, лектар або і проста, на нечае шчасце, цудоўны субяседнік.**

**У апошнія пяць гадоў Рыгор Раманавіч Шырма з'яўляецца старшынёй праўлення Саюза кампазітараў БССР. І гэтая работа ў яго ладзіцца найлепшым чынам. За выдатныя заслугі ў галіне развіцця мастацтва Рыгору Раманавічу Шырме прысвоены ганаровыя званні народнага артыста СССР і БССР, прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР; ён узнагароджаны ордэнамі і медалямі.**

**21 студзеня г. г. Рыгору Раманавічу споўнілася 80 гадоў. Ён сустрэў гэтую дату бадзёры, поўны жыццёвай энергіі, жадання працаваць на карысць нашай Радзімы.**

**Я хачу пажадаць Рыгору Раманавічу яшчэ многа гадоў здароўя і далейшай паспяховай работы на карысць нашага беларускага народа.**

А. В. БАГАТЫРОЎ.

●

**У жыцці чалавека ёсць такія даты, калі ён сам, яго сябры, грамадскасць падсумоўваюць вынікі мінулай дзейнасці, ставяць прагнозы на будучае.**

**Дазвольце ж, дарагі юбіляру, і мне, вашаму выхаванцу і паслядоўніку, у гэты святочны для Вас і нас дзень выказаць шчырыя словы падзякі за ўсё тое, што Вы зрабілі для беларускай культуры.**

**Цудоўны чалавек, выдатны мастак, нястомны даследчык, актыўны грамадскі дзеяч, Вы сумленна, з вялікай карысцю служылі і служыце любімай краіне.**

**Вам, вернаму сыну народа, беларус, як нікому з нас, адкрываў сваю душу. Пад шэрай сялянскай сярмяжкай Вы адчувалі біццё паэтычных сэрцаў, у тайніках народнай спадчыны Вы знаходзілі ўнікальныя пэрлы беларускага мастацтва і простую нашу «сяляначчку-песню» вывелі ў вялікі свет...**



**А ў перспектыве шырокае поле дзейнасці, на якім Вы, пры сваёй здзіўляючай энергіі і невычэрпным энтузіязме, зробіце яшчэ многа добрага для беларускага народа, для нашай сацыялістычнай Радзімы.**

**З пачуццём шчырай сімпатыі і глыбокай павагі**

Генадзь ЦІТОВІЧ.

●

**Рыгора Раманавіча сардэчна віншуюць усе, каму дарагі лёс нашай музычнай культуры, нашага фальклору і фалькларыстыкі. Але ўсё-такі кожны падыходзіць да гэтай падзеі,— а 80-годдзе нашага буйнейшага фальклырыста, вучонага, публіцыста, стваральніка выдатных музычных калектываў нашай рэспублікі — сапраўды вялікая падзея ў нашым культурным жыцці,— некалькі па-свойму, некалькі раўніва. Кампазітары хочуць, каб Рыгор Раманавіч быў толькі «іхні». У Маскве нават быў такі выпадак, калі ў Доме кампазітараў, што на Студэнцкай вуліцы, адна група кампазітараў «выкрала» Рыгора Раманавіча ў другой, і тая з ног збілася, шукаючы яго па ўсёй Маскве, а знайшла тут жа, у сваім кампазітарскім доме...**

**Кіраўнікі хораў і школ хочуць, каб Рыгор Раманавіч быў толькі «іхні», фальклярысты — можа больш, чым хто іншы,— хочуць, каб ён існаваў толькі для фальклору, толькі для фальклрыстыкі. Ну што ж! Няхай яшчэ надоўга хопіць нашаму дарагому юбіляру здароўя і сіл паспяваць на ўсіх франтах! Але паколькі гэтыя радкі піша менавіта фальклярыст, то няхай у яго будзе крышачку болей сіл на карысць фальклору!**

**Моцна абдымаем дарагога Рыгора Раманавіча.**

**Жадаем яму здароўя, бадзёрасці і мужнасці на яго шляху.**

**За мастацтва сапраўднае, супраць псеўдамастацтва!**

Л. С. МУХАРЫНСКАЯ.

●

**Напярэдадні слаўнага Вашага юбілею хочацца прывітаць Вас, вялікага мастака, самаадданага работніка, словамі нашай народнай песні:**

Дай табе божа, наш гаспадару,
Сколькі на небе зорачак свеціць,
Столькі ў полі копачак меці,
Столькі ў хаце радасці меці.

**І ў вобліку простай сялянкі, і ў вобліку дамы высокага свету родная песня ў Вашых руках была заўсёды поўная харастна і праўды, заўсёды беларуская.**

**Няхай ніколі не змаўкае гэтая песня, няхай ніколі не меншае сілы ў яе цудоўнага чараўніка.**

Зінаіда МАЖЭЙКА.

●

**Паважаны Рыгор Раманавіч! Віншуем Вас з днём Вашага нараджэння і жадаем Вам добрага здароўя і многа поспехаў у рабоце. Няхай Ваша жыццё будзе светлае і яснае, як вясновы дзень, калі цвітуць сады.**

Ганна Вянгура, Хрысця Дарашэвіч, Серафіма Пятрова, Вара Раўкоўская, Сцяпан Дубейка, Марыя Дубейка, Матруна Акуліч, Тацяна Сафонава, Лізавета Забаўка, Ноня Ярмольчык, Кацярына Вянгура.

Сяло Тонеж,
Лельчыцкі раён.

●

**Віншуем Вас, дарагі Рыгор Раманавіч, як народнага артыста, з юбілеем — 80-годдзем і жадаем жыць здаровым і вясёлым на многія гады. І віншуем Вас народнымі палескімі песнямі, залатой чарачкай, каб спявалі, выпівалі, нас не забывалі і свае песні ўсяму народу пасылалі.**

Вольга Вакульчык, Іосіф Русак, Васіль Русак, Аляксандр Каранчук, Ганна Русак, Марыя Русак, Люба Сліж, Адам Сліж, Васіль Вакульчык, Майсей Сліж, Павел Шаўчук.

Сяло Клятная,
Пінскі раён.

●

**Жадаем Вам, Рыгор Раманавіч, шчасця, здароўя і яшчэ многа жыць, каб мы ўбачылі Вас з вялікай радасцю. Мы вас здумляем кожну мінуту, кожну часіну і з радасці не знаем, што пісаць.**

Кацярына Грэчка, Наля Андрэйкавец, Фаіна Алесіч, Міхаіл Сафонаў, Кацярына Леўкавец.

Сяло Букча,
Лельчыцкі раён.



Раман БАРАН. Шахцёр Аляксей Стаханаў.

# ФОТА-
# ГРАФІКА-71

Як захаваць дакументальнасць і разам з тым адысці ад натуралістычнай формы, надаць здымку тую пластычнасць і вобразнасць, якая з'яўляецца неабходнай якасцю мастацкага твора? Многія сучасныя фотамайстры вырашаюць гэтую праблему праз фатаграфіку. Спецыяльныя прыёмы і тэхніка, развіты густ, высокая мастацкая культура — толькі пры такіх умовах фатограф здольны сказаць сваё слова ў гэтым маладым яшчэ творчым жанры.

Мінскі абласны савет прафсаюзаў, Дом мастацкай самадзейнасці Мінаблсаўпрофа і фотаклуб «Мінск» наладзілі першую ў краіне міжклубную выстаўку фатаграфікі. На ёй прадстаўлена 182 здымкі 104 аўтараў. 23 фотаклубы прадставілі свае калекцыі.

Памятныя медалі фотаклуба «Мінск» атрымалі рыжане Эгонс Спурыс і Ілмар Апкалнс, мінчанін Яўген Казюля, Раман Баран з Данецка і Станіслаў Яворскі з Горкага. Спецыяльны прыз часопіса «Маладосць» за лепшую калекцыю на маладзёжную тэматыку атрымаў данецкі фотаклуб. На нашых старонках — некалькі здымкаў гэтага клуба.



Раман БАРАН. Сяброўка.

Слава КАНАНЫХІН. Бландзінка.






**Алесь БАЧЫЛА.**
**ДАРОГАМІ МАКСІМА.**
**Выдавецтва «Народная асвета», Мінск, 1971.**

# ШЛЯХАМІ ПАЭТА

Апошняе дзесяцігоддзе ў нашым літаратурным жыцці я назваў бы багдановічаўскім — па той пільнай увазе, якая праяўляецца да асобы паэта, яго творчай спадчыны. Мяркуйце самі. На сцэне Мінскага тэатра юнага гледача пастаўлены спектакль, прысвечаны паэту. Беларускі ордэна Леніна Вялікі акадэмічны тэатр оперы і балета паказаў цікавую оперу Ю. Семянякі «Зорка Венера» — пра Максіма Багдановіча. Малады скульптар С. Вакар зрабіў арыгінальны праект помніка паэту, які мяркуецца ўстанавіць у адным са сквераў Мінска. Паявілася цэлая бібліятэчка твораў Багдановіча, і самае галоўнае — збор твораў у двух тамах. Асобнымі выданнямі выйшлі ў свет яго вершы і паэмы на рускай і ўкраінскай (у серыі «Жамчужыны сусветнай лірыкі») мовах. Томікі паэта падрыхтаваны да выдання ў Польшчы і Англіі. Да творчасці Багдановіча звярнуліся многія гісторыкі і тэарэтыкі літаратуры. Школьнікі нарэшце атрымалі фотаальбом пра жыццё і дзейнасць паэта (склалі Н. Ватацы і А. Лойка). Выйшлі ў свет манаграфіі М. Грынчыка, А. Лойкі, М. Стральцова, Р. Бярозкіна (апошняга — у Маскве), у якіх даецца глыбокая і ў многіх выпадках новая трактоўка спадчыны аўтара бессмяротнага «Вянка». Па сутнасці, узнікла яшчэ адна галіна беларускай навукі пра літаратуру — багдановічазнаўства.

Шляхамі Максіма Багдановіча, дарогай яго паэзіі прайшоў нядаўна і пісьменнік Алесь Бачыла. Выдавецтва «Народная асвета» выпусціла яго кнігу «Дарогамі Максіма» — нататкі біёграфіста, выкладзеныя ў форме падарожнага нарыса. Аўтар кнігі меў спачатку прыватны клопат: сабраць матэрыял, які мог бы спатрэбіцца (і, дарэчы, спатрэбіўся) пры напісанні лібрэта оперы «Зорка Венера». Аднак матэрыялу назбіралася столькі, ды такога цікавага, малавядомага, а то і зусім не вядомага, што пісьменнік павінен быў стаць адначасова і літаратуразнаўцам. Скажам адразу, што гэтае «сумяшчэнне» прынесла варты плён. Усе тры раздзелы кнігі — «У дарозе», «Скарбы куфра Багдановічаў» і «Пасля дарогі» — чытаюцца з цікавасцю, як добрая белетрыстыка. Разам з тым у кожным з раздзелаў прысутнічае навука ў самым дакладным сваім разуменні, як сістэма ведаў (часта зусім новых), пра жыццёвы і творчы шлях класіка роднай літаратуры.

Алесь Бачыла пабываў у Вільні, Ялце, Горкім, Яраслаўлі, наведаў Ракуцёўшчыну (вёска непадалёку ад Маладзечна) — там, дзе стала альбо часова жыў паэт. Ён — апошні з беларускіх літаратараў, хто сустракаўся і гутарыў з нябожчыкам Паўлам Адамавічам Багдановічам — родным братам Максіма, апошнім з вялікай калісьці сям'і. Са сваіх падарожжаў пісьменнік заўсёды вяртаўся ўзбагачаны новымі звесткамі пра жыццё, вучобу і працу Багдановіча, пра яго радню, таварышаў і знаёмых. А адна паездка ў Яраслаўль закончылася сапраўдным адкрыццём. У старым сямейным куфры Багдановічаў знойдзены цэлы скарб. Не вядомыя літаратуразнаўцам, да самага апошняга часу захоўваліся там сямейны альбом Багдановічаў, дакументы бацькі, маці і цёткі паэта, розныя фотакарткі, перапіска і інш. І хоць дакументаў і рукапісаў самога Максіма не аказалася (іх адвёз бацька паэта Адам Ягоравіч у 1923 годзе ў Мінск, дзе яны бясследна зніклі падчас Айчыннай вайны), усё ж кожная з адшуканых рэліквій так ці інакш садзейнічае глыбейшаму пазнанню такой фенаменальнай з'явы нашай літаратуры, як Максім Багдановіч.

Асноўная вартасць кнігі Алеся Бачылы «Дарогамі Максіма» — навізна матэрыялу, які ўпершыню ўводзіцца ў навуковы ўжытак. Узяць хаця б фотаздымкі. Некаторыя з іх суправаджаюцца даведкамі: публікуецца ўпершыню. Але і пра здымкі без такіх пазначак мы не можам сказаць, што яны нам добра знаёмыя. Асабліва запамінаецца фотакопія партрэта Максіма Багдановіча работы невядомага мастака. Як даволі пераканаўча даводзіць Алесь Бачыла, партрэт быў напісаны ў Старым Крыме, куды Багдановіч ездзіў лячыцца ўлетку 1915 года. Глядзіш на не вядомы дагэтуль партрэт Багдановіча і не можаш не згадзіцца з аўтарам кнігі: «...невядомы мастак здолеў вельмі трапна перадаць рысы характару паэта. Паглядзіце на яго вочы — гэта не передае ні адна вядомая фатаграфія. Колькі ў іх агню, тэмпераменту, жвавасці! І як да гэтага партрэта стасуюцца словы бацькі, у якіх ён апісвае характар сына: «Максім — гарачы, страсны, амаль апантаны, захоплены вобразамі, прыгажосцю, формай, сілаю пачуцця... бурны і імклівы».

Праўда, тут, у выказванні бацькі, ёсць і другія словы. Як выяўляецца ў апошні час (успаміны Г. К. Валасовіч-Гразновай і П. А. Багдановіча), Адам Ягоравіч Багдановіч вельмі часта не разумеў сына, неяк адасобіў яго ад сябе. Гэта відаць нават з прыведзенай вышэй цытаты, дзе пачуццё паэта супрацьпастаўлена яго лагічнаму мысленню: «Максім... захоплены... сілаю пачуцця, а не «лагічнымі высновамі і таму «бязладны...» Кожны, хто знаёмы з творчасцю Багдановіча, безумоўна, не можа згадзіцца з такім сцвярджэннем. Думкаю свецяцца самыя лірычныя вершы паэта. Несумненнасць лагічных высноў — галоўная вартасць яго шматлікіх крытычных і літаратуразнаўчых прац. Алесь Бачыла падрабязна спыняецца на даволі далікатнай справе — узаемаадносінах бацькі і сына. Ён імкнецца дакапацца да сутнасці з'явы, выявіць тыя суб'ектыўныя і аб'ектыўныя фактары, што паклалі адбітак на складанасць іх адносін. І нельга не згадзіцца з яго думкаю, што ва ўсім гэтым была не віна, а бяда Адама Багдановіча, яго трагедыя. Сын жа пры ўсёй трагічнасці свайго існавання — грамадзянскае падзвіжніцтва ў самае змрочнае міжрэвалюцыйнае дзесяцігоддзе, невылечная хвароба, духоўная ізаляванасць у сям'і — выстаяў і перамог. Смерць зламала яго фізічна, але не яго ідэалы, у якіх ён не ўсумніўся ні разу. Помнячы пра бацьку і прынасячы яму за ўсё зробленае для беларускай культуры шчырую падзяку, мы, аднак, бяром сабе за прыклад сына — яго любоў да Айчыны, служэнне ёй, яго непахіснасць і нязломны стаіцызм.

Дзякуючы працы Алеся Бачылы мы сёння лепш ведаем радаслоўную паэта. Бадай, усе знаўцы Багдановіча называлі апавяданне Марыі Панасаўны Мякоты «Напярэдадні каляд» («Гродненские губернские ведомости» за 29 снежня 1893 г.). Але толькі аўтар кнігі «Дарогамі Максіма» падрабязна разгледзеў твор, прывёў з яго шматлікія вытрымкі, якія неабвержна сведчаць пра нарадалюбства, дэмакратычныя погляды і не абы-які пісьменніцкі талент дачасна памёршай маці Максіма Багдановіча. Шэраг старонак кнігі прысвечаны роднай сястры Марыі Панасаўны — Аляксандры Панасаўне, якая стала Максіму новай маці. Прычым расказ свой даследчык вядзе з належным тактам, імкнецца ўсюды быць аб'ектыўным і дакладным.

Прызнацца, мяне крыху здзівіла апісанне доўгіх пошукаў вуліцы і дома ў Ялце, дзе апошнія месяцы жыў і памёр паэт. Апісанне дарогі да доміка і звесткі пра жыццё беларускага паэта ў Крыме ўвайшлі асобным артыкулам у турысцкі даведнік «Ялта».

На жаль, у кнізе Алеся Бачылы толькі мімаходзь названа прозвішча Надзеі Андрэеўны Андэрсон (таксама ў сувязі з пошукамі кватэры Максіма). А менавіта яна, персанальная пенсіянерка, узнагароджаная ордэнам Леніна за геройскую працу медыка ў блакадным Ленінградзе, распачала работу па ўвекавечанні памяці Максіма Багдановіча ў Ялце. Менавіта яна, апіраючыся на падтрымку некаторых арганізацый, у тым ліку і Саюза пісьменнікаў БССР, дабілася і рамонту доміка, і ўстанаўлення мемарыяльнай дошкі. Безумоўна, нястомны сябар беларускай культуры Н. А. Андэрсон заслугоўвае добрага слова і нашай удзячнасці.

Алесь Бачыла заклікае даследчыкаў творчасці Багдановіча пайсці ўслед за ім, шляхам далейшых пошукаў. І гэта — ад душэўнай шчодрасці, ад самакрытычнага ўсведамлення, што для аднаго чалавека такая дарога — даўжынёю ў паэтава жыццё,— мабыць, непасільная. Даследчык завастрае ўвагу чытачоў на яшчэ не вядомым, не адшуканым, не ўбачаным. Так, ён указвае, на нязнойдзены празаічны пераклад Багдановіча «Слова аб палку Ігаравым», на магчымае супрацоўніцтва паэта ў часопісе «Сатирикон». Гаворачы пра месца пахавання маці Максіма Багдановіча ў Гродні («Пахавана яна на гродзенскіх праваслаўных могілках перад царквою, направа ад галоўных варот і дарогі ў царкву»), Алесь Бачыла дадае: «Я прывёў гэта для таго, каб можна было нарэшце адшукаць магілу маці паэта і ўзяць, каму належыць, на сябе клопаты пра яе догляд». Вось вам, краязнаўцы і ўсе аматары роднага пісьменства, канкрэтны наказ, дакладны план дзеянняў!

Першым з даследчыкаў звярнуўся Алесь Бачыла да дзённіка Максіма за 1915 год. Праўда, дзённік надта нечытальны, многія запісы сцёрліся, часта разабраць напісанае проста немагчыма. Але ўжо сам зварот да не вядомага раней рукапісу паэта выклікае ўвагу. Варта

толькі адхіліць катэгарычнасць сцвярджэння, што дзённік—«адзіны з уцалелых рукапісаў паэта». Вядома, што некалькі рукапісаў паэта (пераважна пісьмаў) захоўваецца ў Вільні. Аўтару гэтых радкоў пашчасціла летась напаткаць рукапіс вялікага артыкула Багдановіча «Краса и сила. Опыт исследования стиха Т. Г. Шевченко». У адным з архіваў Кіева. Не выключана, што неўзабаве адшукаюцца і некаторыя іншыя аўтографы паэта. Сам жа Алесь Бачыла пасяляе ў нас небеспадстаўную веру ў тое, што рукапісы Максіма, прывезеныя бацькам у Мінск, магчыма, не згарэлі ў полымі вайны...

Шляхі і загадкі Багдановіча... Яны застаюцца — для самых цікаўных, самых нястомных, самых дапытлівых.

**Вячаслаў РАГОЙША.**




**Ф. ЯНКОЎСКІ.**
**ДЫЯЛЕКТНЫ СЛОЎНІК.**
**Выпуск III.**
**Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1970.**

# ДЫЯМЕНТЫ МОВЫ

«Гады змаліла, бо схітравала, падышла пэньсяя, а ні даюць».

«Міхась, хоць нябожчык, вельмі скупы быў. Людзі госьці спраўляюць, а ён саду пілнуе».

«Што твая заява: «Дайце»? А рабіла багата? Дзе твая работа?.. Як патрудзісься, так і пажывісься. А то каб не рабіць і добра жыць».

Так гавораць простыя людзі, аратыя і сейбіты, нашы бацькі і маці. Гавораць разважліва, проста і мудра. Кожнае слова на месцы, кожнае слова дарэчы. Тут поўнае суладдзе, гармонія і цнатлівая чысціня.

Кажу гэта шчыра, кажу з хваляваннем, кажу гэта тым, хто яшчэ трымаецца тае думкі, што вясковыя людзі гавораць непрыгожа — ні па-беларуску, ні парусku.

Я і сам колісь так думаў.

Але дзякуй лёсу, што прывёў мяне ў Мінскі педінстытут, дзе напаткаў таго цудоўнага чалавека, што раскрыў сапраўднае харáство мовы, навучыў у народнай моўнай стыхіі распазнаваць яе дыяменты, навучыў слухаць, як музыку, мелодыку мовы. Імя гэтага чалавека Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі.

Усіх нас ён вучыў і вучыць не толькі асабіста, але і сваімі кніжкамі. Самая апошняя з іх — трэці выпуск «Дыялектнага слоўніка», з якога і ўзяты прыведзеныя вышэй прыклады. Пераважная большасць такіх прыкладаў падслухана і запісана ў Глускім раёне ў 1944—1945 гадах, гадах нялёгкіх, калі, здавалася, было ой не да мовы.

Але гэта быў чалавек празорлівы, дбайны. Ён ведаў, што праца яго не прападзе, хай праз гады, дзесяцігоддзі, а спатрэбіцца народу, будзе, як знаходка. I не памыліўся...

У трэцім выпуску, як і ў двух папярэдніх, даследчык змясціў толькі тыя словы, што пашыраны ў вуснай мове, але якія па нейкай прычыне не трапілі ў нашы нарматыўныя слоўнікі, а таксама і тыя, што трапілі, але чамусьці рэдка сустракаюцца на старонках газет, часопісаў, кніг.

Вось толькі некалькі прыкладаў на літару «А».

Аблахаць (ад лахаць) — аббегаць у пошуках; аблысіць — крышку абчасаць (бервяно, дрэва), зрабіць «лысіны», «лысінкі»; абнікаць (ад нікáць) — заглядаць, куды не просяць; абторкаць — абставіць, абгарадзіць што-небудзь галінкамі, утыкаючы іх у зямлю; абвудзіць — скончыць вудзіць; адорва — хапун, тарбахват; аструпелы (ад аструпець) — пакрыты струпамі; ахаладаць (ад халадаць) — астыць...

Для тых, хто нарадзіўся на Гомельшчыне, гэтыя словы з дзяцінства знаёмыя, блізкія, родныя. Але, як сведчаць матэрыялы дыялектных слоўнікаў, што выдадзены за апошнія гады, іх ведаюць і на Магілёўшчыне, і на Міншчыне і Віцебшчыне, Гродзеншчыне і Гомельшчыне. Скажам, слова «лахаць» і вытворныя ад яго «аблахаць», «налахацца», «пералахаць» зафіксаваны ў «Матэрыялах для слоўніка» (1960) з пазметкай, што яно запісана ў Магілёўскай і Віцебскай абласцях. Занатаваў гэтае слова ў форме «лахаць» і П. Сцяцко ў сваім «Дыялектным слоўніку» з гаворак Зэльвеншчыны.

Тое самае можна сказаць і пра іншыя словы. Многія з іх (буслоўка — параўн. бусля́нка, вы́люднець, дакопкі), хоць і не значацца ў нашых слоўніках, даўно і сталі ўвайшлі ў нашу моўную практыку. Не сумняваемся, што будуць заўважаны нашымі пісьменнікамі, журналістамі, перакладчыкамі (для апошніх, дарэчы, таксама ў слоўніку вельмі шмат карыснага матэрыялу) і такія дакладныя і ёмкія словы, як **адмыка́тка** (параўн. рускае отмычка); **жыток** — у спалучэнні: не жыток на гэтым свеце (параўн. рускае не жилец на белом свете); **дуду́каць** — глуха і павольна гаварыць; **надукава́ць** — падвучваць, падбухторваць кагосьці; **тарбахва́т** — злодзей, той, хто займаецца дробнаю кражай; хабарнік, казнакрад (параўн. руск. хапуга); **труднава́ць** — вельмі мучыцца пры цяжкай хваробе, перад смерцю; **уварвіцель** (сэнс і без тлумачэння зразумелы); **усыры́чыць** — сцебануць, выцяць сырыцаю, а таксама пакараць, засудзіць (усырычылі два гады); **се́джа** — засада на ваўкоў; **харашы́ць (пахарашы́ць)** — ачышчаць буракі, моркву ад карэння, зямлі, бацвіння, капусту — ад верхняга зялёнага лісця і храпы...

Гэта зусім не азначае, што кожнае слова, названае тут, прэтэндуе на літаратурную норму. Але без многіх з іх нам проста не абысціся. Ці ўсе мы ведаем, якімі словамі выказваюць шчаслівыя бацькі радасць, калі нараджаецца першае дзіця? «Жаданачка, жаданчык, каханчык,— кажуць яны»,— падказвае слоўнік.

Ці яшчэ прыклад. Ёсць рускае слова «облокотиться». Руска-беларускі слоўнік прапануе нам такі пераклад — абаперціся, аблакаціцца, усперціся; он сидел, облокотившись на стол — ён сядзеў, успёршыся на стол.

У народзе ж гавораць, як сведчыць новы слоўнік Янкоўскага, вельмі проста: «Напрыходзіць (хлопцаў), **пааблягаюцца** на стол. Што вы (да дзяцей) аблегліся на стол? Скацярку сьцягваіце. Ні аблягайцяса!»

Пагадзіцеся́, вельмі зграбна, дакладна і натуральна. I такіх патрэбных слоў у трэцім выпуску можна знайсці нямала.

Ужо шмат гадоў нашы газеты карыстаюцца словам-калькай «бык-вытворнік». А ў народзе спрадвеку існуе слова стаднік (што стаднік, што бугай — тое самае. Стаднік у стадзе).

Пра неабходнасць замяніць некаторыя прыкрыя літаратурныя штампы, штучныя словы-калькі арыгінальнымі, шырока распаўсюджанымі ў народзе словамі даследчык гаворыць далікатна, але з вялікім разуменнем справы, з вялікай навуковай падставай. Так, напрыклад, дбаючы, каб слова ра́та (частка плацяжу, доўгу) заняло сваё пачэснае месца ў нашай мове і ў слоўніках, Янкоўскі паведамляе чытачам, што слова гэтае вельмі пашырана на Беларусі, называе раёны, дзе яму даводзілася яго чуць (Маладзечанскі, Любанскі, Асіповіцкі, Слуцкі, Мінскі), гаворыць таксама, што яно значыцца і ў шматлікіх беларускіх слоўніках (І. Насовіча, М. Гарэцкага);

Як бачым, рэкамендацыі, заўвагі, вывады і заключэнні грунтуюцца на фактычным матэрыяле, які, дарэчы, мае вялікую цікавасць не толькі для мовазнаўцаў, але і для гісторыкаў, энтографаў, фалькларыстаў.

«Воччыч, воччыч, дай нам мёду, каб твае пчолкі дачакаліся году.

Воччыч, воччыч ня даў мёду, каб твае пчолкі ня даждалі году».

Гэта дзіцячая прыгаворка. Яе даследчык выкарыстаў як ілюстрацыю да слова вотчыч (пчаляр, бортнік). Такія цікавыя прыклады, а таксама розныя жарты, каламбуры даюць нам магчымасць адчуць водар народнага слова, робяць слоўнік цікавай кніжкай.

Чытаеш яе і дзівішся, як народ трапна і дакладна называе рэчы і з'явы, як ён умела пазбягае, абыходзіць нязвыклыя словы і формы. Дзівішся таксама і тым велізарным словаўтваральным магчымасцям, якімі надзелена народная мова.

Трэці выпуск «Дыялектнага слоўніка» выйшаў у свет, як кажуць, пайшоў у «людзі». Ён ужо лёг на сталы даследчыкаў і мовазнаўцаў, журналістаў і студэнтаў, перакладчыкаў і настаўнікаў. З яго выхадам наша пісьмовая мова, безумоўна ж, узбагаціцца, тое-сёе ў ёй удакладніцца, тое-сёе ўнармалізуецца. Зарука таму — папярэднія выпускі. Толькі аднаго шкода, што ў трэцім выпуску Фёдар Міхайлавіч не даў разгорнутага ўступнага слова. Яно вельмі дапамагло б тым, хто цікавіцца народнай лексікай, але не мае спецыяльнай падрыхтоўкі ці не займаецца даследніцкай працай. Гэтай катэгорыі чытачоў наогул будзе цяжка, як нам здаецца, адразу вылучыць, што ў слоўніку асноўнае. Дый урэшце чытачам (а імі ў пераважнай большасці з'яўляюцца вучні даследчыка) важна (у дужках зазначу, і прыемна) пачуць слова свайго настаўніка, яго думкі, меркаванні.

**Уладзімір СОДАЛЬ,**
**рэдактар вучэбных перадач Беларускага тэлебачання.**

## «Бітва за Берлін»



...чацвёртая карціна з кінаэпапеі «Вызваленне», работу над якой узначальвае рэжысёр-пастаноўшчык Юры Озераў. Фільм расказвае пра завяршальны этап Вялікай Айчыннай вайны, пра сустрэчу кіраўнікоў урадаў трох саюзных дзяржаў на Ялцінскай канферэнцыі. Фінальныя сцэны карціны — штурм Берліна. Апошняе жудаснае злачынства шалёнага фюрара — загад аб затапленні тунеляў берлінскага метро, дзе хаваліся дзесяткі тысяч людзей — старых, жанчын, дзяцей,— іх гібель, самагубства Гітлера і Евы Браун — усё гэта гледачы ўбачаць у заключным фільме.

У галоўных ролях здымаліся М. Алялін, Л. Галубкіна, С. Нiканенка, В. Санаеў, М. Ульянаў, І. Пераверзеў, Б. Закарыдзе, С. Яськевіч, Ю. Дураў, Ф. Дзітц, М. Поснікаў, В. Стржэльчык.

## «Мора ў агні»

...таксама вяртае нас да падзей Вялікай Айчыннай вайны. Паставіў карціну рэжысёр Леанід Саакаў на кінастудыі «Масфільм» па сцэнарыі, напісаным ім у сааўтарстве з Мікалаем Фігуроўскім. Фільм прысвечаны героям Севастопаля — тым, хто ў цяжкіх 1941—1942 гадах абараняў чарнаморскую цвярдыню.

Галоўныя ролі выконваюць Ю. Саломін, В. Бажэнаў, М. Грынько.



## «Даурыя»



...новая каляровая двухсерыйная мастацкая кінастужка вытворчасці «Ленфільма». Рэжысёр-пастаноўшчык Віктар Трагубовіч. Ён жа разам з Юрыем Клепікавым напісаў і сцэнарый фільма. Гэта фільм пра сібірскае казацтва, пра грамадзянскую вайну на Далёкім Усходзе з усёй яе своеасаблівасцю, пра каханне.

У галоўных ролях — папулярныя кінаакцёры В. Саломін, В. Шукшын, Я. Капялян, Ф. Адзінокаў, Г. Штыль, Ю. Саломін.





## «Хатабала»



...новы каляровы мастацкі фільм, пастаўлены Юрыем Ерзнкянам на кінастудыі «Арменфільм», таксама ўбачаць гледачы ў лютым. «Хатабала» — экранізацыя аднайменнай п'есы класіка армянскай літаратуры Г. Сундукяна, у якой выкрываецца хцівая, драпежніцкая мараль капіталістычнага грамадства. У карціне расказваецца аб тым, як купец Замбахаў, ідучы на ашуканства і розныя містыфікацыі, стараецца выдаць замуж сваю дачку — непрыгожую і дурную Маркрыт. Між іншым, «выдаць» — гэта не тое слова: Замбахаў адкрыта палюе на жаніхоў, і замужжа Маркрыт для яго — чарговая гандлёвая аперацыя.

У фільме здымаліся С. Саркісян, Ф. Мкртчан, Р. Манукян, В. Акапян і іншыя.

Цікавасць у дзяцей выкліча новая каляровая шырокаэкранная латышская мастацкая кінастужка «Рэспубліка Варонняй вуліцы», створаная рэжысёрам Адай Нерэтніеце паводле аповесці Яна Грызіня. Аповесць расказвае пра жыццё дзяцей рабочай ускраіны Рыгі пасля рэвалюцыі 1905 года, пра тое, як юныя героі пачынаюць усведамляць сацыяльныя супярэчнасці, несправядлівасць капіталістычнага грамадства.

У кінатэатрах і клубах рэспублікі будуць таксама паказаны: «Прыйшоў салдат з фронту» (вытворчасць «Масфільма») — пра вёску першых пасляваенных гадоў і лёс салдата, які вярнуўся пасля вайны ў родную вёску; фільм «Жывая вада», створаны на Кіеўскай кінастудыі імя А. П. Даўжэнкі,— пра нашых сучаснікаў, жыхароў Карпатаў; грузінская кінастужка «Пірасмані» — пра жыццё выдатнага грузінскага мастака Ніко Пірасманішвілі; туркменская кінакарціна «За ракой — граніца» — пра гераічныя будні савецкіх пагранічнікаў; кінааповесць «Чырвоныя макі Ісык-Куля» — пра барацьбу з контрабандыстамі (вытворчасць «Кіргізфільма»). Падзеям Вялікай Айчыннай вайны прысвечаны кінастужкі «Аперацыя «З новым годам» («Ленфільм»), «Падпалкоўнік Шыманскі» (Адэская кінастудыя), «Дзяўчына з камеры № 25» («Грузія-фільм»). З зарубежных кінакарцін будуць дэманстравацца: «Эфі Брыст» (ГДР), «Трое сведак» (Чэхаславакія), «Вежа блакітнага агню» (Венгрыя), «Польскі альбом» (Польшча), «План аперацыі сарван» (КНДР), «Нялюбая» (Мексіка), «Вялікае каханне» (Францыя).

# ПРАЗ ЗАМОЧНУЮ ШЧЫЛІНУ

Японскія фільмы — частыя госці савецкіх экранаў. Амаль кожны месяц у наш пракат паступае адзін-два фільмы, створаныя майстрамі японскага кінамастацтва. Імёны такіх рэжысёраў, як Акіра Курасава, Кенета Сінда, Тэдасі Імаі, Кон Іцікава і многіх іншых добра вядомы нашаму гледачу. Іх стужкі, часта спрэчныя, але заўсёды таленавітыя, былі добра прыняты як на маскоўскіх кінафестывалях, так і масавым гледачом. Пра іх гаварылі, пісалі, спрачаліся.

Калі меркаваць па тых японскіх фільмах, якія дэманструюцца на савецкіх экранах, можна падумаць, што ў японскім кіно справы ідуць добра, што Японія выпускае фільмы толькі таленавітыя, што яе кінамастацтву не пагражае крызіс. Але гэта не так. Для паказу нашаму гледачу «Саўэкспартфільм» выбірае і купляе лепшае з лепшага, што выпускаюць японскія фірмы. А выбраць бывае вельмі і вельмі цяжка: добрых, па-майстэрску зробленых фільмаў японскае кіно выпускае вельмі мала.

Бурнае развіццё японскага кінамастацтва — менавіта кінамастацтва, а не кінаіндустрыі — пачалося ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе: тады кіно служыла для японскага насельніцтва галоўным і амаль адзіным месцам забавы. Але з прыходам тэлебачання кіно пачалі наведваць радзей. І каб адарваць гледача ад хатняга, каляровага, шматканальнага экрана, які працуе амаль круглыя суткі, кіно вымушана было звярнуцца не толькі да тэхнічных навінак, такіх, як сінерама, шырокі экран, шырокі фармат, але і пераглядзець тэматыку фільмаў. Каб зноў вярнуць гледача ў кіназалы, японскія кінадзялкі звярнуліся да жорсткасці, садызму, эротыкі, сексу, якія трывала ўвайшлі ў сучаснае японскае кіно. Гэта адмоўна адбілася на мастацкім узроўні кінафільмаў. Кіно пачало прыходзіць у заняпад, дэградзіраваць, скочвацца да рамесніцкага ўзроўню. Кінамастацтва ператварылася ў кінаіндустрыю.

Цяпер ствараюць японскае кіно і кантралююць пракат фільмаў пяць буйных кінакампаній: «Тоха», «Сёціку», «Дайей», «Нікацу» і «Тоей». Яны наладзілі канвеерную вытворчасць фільмаў. Тэхнічна японскае кіно ўзнялося да ўзроўню Галівуда, і да гэтага ж узроўню яно апусцілася з пункту гледжання мастацкага. Нават на фоне галівудскіх стандартаў японскія фільмы масавай прадукцыі здзіўляюць сваім убоствам. З экранаў амаль зніклі карціны, падобныя да «Такійскай алімпіяды», «Чырвонай барады», «Голага вострава», якія пакінулі прыкметны след у японскім кіно 50—60-х гадоў. Цяпер калі і паяўляюцца фільмы, падобныя, скажам, да «Голага вострава», то гэта — рэдкае выключэнне, і заслуга ў гэтым не пяці канцэрнаў, а так званых «незалежных», пра якія гаворка пойдзе ніжэй.

Тэлебачанне Японіі, як, між іншым, і іншых капіталістычных краін, існуе за кошт рэкламы, кіно — за кошт касавых збораў, а яны з дня ў дзень становяцца ўсё меншыя і меншыя. Каб заманіць гледача ў кіназалы, спатрэбілася «новая хваля», якая атрымала ў Японіі назву «ружовай хвалі». Экраны Японіі наваднілі «эра-эйга», г. зн. «эра-фільмы». Гэта палова гадавой вытворчасці ўсіх японскіх фільмаў.

Раней «эра-фільмы», якія маюць такія ж адносіны да кіно, як стрыптыз да мастацтва, ствараліся цёмнымі дзялкамі ў прымітыўных мікрастудыях па 15—20 у год. Крызіс японскага кіно садзейнічаў развіццю фільмаў «пра каханне». Іх выпуск рэзка павялічыўся. Ужо ў 1965 годзе звыш 70 карлікавых кінафірм выпускалі 225 такіх стужак у год. «Прагрэс» вялікі, калі ўлічыць, што ў японскім кіно першы пацалунак быў паказаны толькі 23 мая 1946 года. Да гэтага ніякіх пацалункаў на экране цэнзура не дапускала, не гаворачы ўжо пра «аголеную натуру».

Вытворчасць «эра-эйга» вельмі выгадная. Для пастаноўкі яны не складаныя — усяго дзве дзеючыя асобы. Месца дзеяння — спальня. Рэквізіт — ложак. І, як дасціпна зазначыў адзін кінакрытык, «на касцюмы зусім не трэба траціцца». «Фільмы для мужчын», як іх рэкламуюць пракатчыкі, «эра-эйга» ёсць не што іншае, як калупанне ў самых цёмных закутках душы маральна неахайных людзей.

Што сабой уяўляюць «эра-карціны», можна меркаваць па фільме «Лета ў Японіі». Рэжысёр Асіма доўга шукаў кіназорку для свайго баявіка і знайшоў яе... у публічным доме. Магчыма, у яе быў нейкі асаблівы талент? Так, быў. Яна, напрыклад, адным духам магла выпіць кварту віскі, а гэта куды вышэй магчымасцяў сярэдняга японскага мужчыны. Яна мела небывалы для японкі аб'ём бюста — 102 см. Ну, а роля ёй добра знаёмая: па ходзе дзеяння яе гераіня імкнецца зацянуць да сябе ў пасцель усіх мужчын, якія ёй трапляюцца. А каб надаць фільму «сацыяльны» фон, героі, забаўляючыся ў пасцелі, перакідваюцца словамі пра Далас, пра братоў Кенэдзі, пра расавыя бунты ў ЗША.

Парнаграфія ў японскім кіно стала звычайнай з'явай. Яна крычыць з вокладак ілюстраваных часопісаў, са старонак шматлікіх «коміксаў», з падмосткаў мюзік-холаў, уваходзіць у дамы з экранаў тэлевізараў. Дайшло да таго, што ў такійскім квартале Асака, квартале чырвоных ліхтароў, амаль круглыя суткі працуюць «спецыялізаваныя» кінатэатры сексуальнага фільма, у якіх дэманструюцца стужкі, падобныя да «Пачатковага курсу чалавеказнаўства», знятай вядомым у Японіі рэжысёрам Імамура. Фільм гэты ў многіх краінах не быў выпушчаны на экраны як амаральны, але ён з поспехам ідзе ў кварталах тыпу Асака і знаходзіць свайго гледача.

Аднак адкрыты секс хутка прыеўся гледачу, і кінадзялкі пачалі «падмешваць» да яго яшчэ і згвалтаванне: на экранах пачалі паказваць дзяўчат, згвалтаваных або знявечаных. Так паявіўся фільм «Шэпт сярод сцен» — пра адзіноту, пра ўзаемную варожасць людзей, у якім гераіня, у прамежках паміж згвалтаваннямі, марыць пра ўцехі кахання. Аўтары гэтай парнаграфічнай стужкі паказалі шэраг агідных па сваёй бессаромнасці сексуальных сцэн.

Але побач са шматлікімі «эра-эйга» японская кінематаграфія выпускае нямала фільмаў пра каханне, прасякнутых сапраўднай павагай да чалавека, да яго пачуццяў. У кінафільме маладога рэжысёра Казёкі Курахара «Хроніка кахання і смерці» цёпла і праўдзіва гаворыцца пра лёс моладзі. Фільм разгортваецца як гісторыя аднаго кахання. Нешчаслівага, бо юнак пасля атамнай бамбардзіроўкі Хірасімы захварэў на прамянёвую хваробу. Страшная хвароба прагрэсіруе, юнак памірае, а для дзяўчыны настаюць дні, поўныя тугі і адзіноты. Жыццё для яе траціць свой сэнс. У кожным кадры фільма мы адчуваем побыт, атмасферу жыцця рабочых прадмесцяў. Гэта сапраўды нацыянальны фільм, ён шмат дае для разумення краіны і народа. Аднак фільмаў, падобных да «Кахання і смерці», у Японіі выпускаецца вельмі мала, яны тонуць у мутнай плыні «эра-эйга».

Традыцыйным па мове, меладраматычным па сюжэце з'яўляецца фільм «Нявеста Андаў», які дэманстраваўся на нашых экранах. Меладраматычнасць тут — не слабасць, а асаблівасць кінаапавядання: для акцёраў важна было, каб жыццё, паказанае на экране, выклікала хваляванне і пэўныя асацыяцыі. Праз меладраматычныя павароты сюжэта яны імкнуліся паказаць трагедыю японскай жанчыны, якую лёс закінуў у далёкае Перу. Перу для японскага гледача — такая ж экзотыка, як для нас, скажам, Гавайскія астравы. Многае тут для японца незразумела, многае нязвыкла. Вось у гэтай далёкай краіне волю лёсу апынулася маладая ўдава Томіка з малым сынам. Яна прыехала да свайго жаніха Тора, які пасяліўся ў дзікіх, непраходных Андах.

Жыццё ў Андах суровае, цяжкае. Мя-



**«Расёмон». Артыст Тасіра Міаруне** (злева) **ў ролі разбойніка.**

**«Нявеста Андаў».**



сцовыя жыхары амаль усе непісьменныя. Іх беднасць цяжка апісаць. Скупшчыкі, якія сюды дабіраюцца, аббіраюць іх да ніткі. Тора ў вёсцы паважаюць. Але яго ідэя знайсці скарб інкаў здаецца Томіка фантастычнай. Ды Тора ўпарты. Ён шукае скарб з дня ў дзень, з месяца ў месяц і, нарэшце, знаходзіць частку яго. Ды не прынеслі каштоўнасці шчасця японскай сям'і. Тора гіне, а Томіка зноў застаецца ўдавой.

Фільм «Нявеста Андаў» паставіў адзін з лепшых майстроў японскага дакументальнага кіно Сузумі Хані. У свой фільм ён многа ўнёс ад хронікі, рэпартажу, кіначасопіса. Ён адкрыта любуецца прыгажосцю краю, прыроды, малюе дзікасць і невуцтва жыхароў Андаў. Але як толькі дзеянне выходзіць за межы пасёлка, у фільме адразу паяўляюцца стандартныя, штампаваныя сітуацыі, узятыя напракат з арсенала камерцыйнага кіно. Чаго толькі не ўводзіць пастаноўшчык у драматургію фільма, каб зрабіць яго займальным! Тут і лёгкае захапленне Томікі маладым перасяленцам з японскай калоніі, і нейкае дзіўнае каханне да Томікі горца, які праследуе яе, і многае-многае іншае, наноснае, маляўніча-аперэтачнае, што выцесніла суровую жорсткую праўду.

«Нявеста Андаў» — тыповы «жаночы» фільм. І не толькі таму, што яго галоўнай гераіняй з'яўляецца жанчына, але і таму, што аўтары адрасуюць свой фільм «прыгожаму полу», імкнучыся закрануць жаночыя сэрцы. Адсюль меладраматычнасць і саладжавасць падобных фільмаў. Карціна Накамура «Элегія юнацтва», якая мела ў Японіі небывалы поспех, прасякнута сентыментальнасцю, сумам па мінулым часе. Любоўны сюжэт — вось галоўнае ў фільмах пра жанчыну. Аднак у такіх фільмах старанна абыдзены ўсе цяжкасці, з якімі сустракаецца сёння працоўная японская жанчына.

Кіно ў Японіі стала індустрыяй капіталістычнага тыпу. Уладальнікі кінакампаній чакаюць ад сваёй прадукцыі перш за ўсё прыбытку. Пра мастацкую каштоўнасць яны клапоцяцца менш за ўсё. У кінатэатрах Японіі паказваюцца два фільмы за адзін сеанс або адзін многасерыйны баявік. Так што кінатэатры патрабуюць усё новых і новых фільмаў.

З «эра-эйга» ў Японіі могуць супернічаць толькі «дзідойгэкі», г. зн. самурайскія фільмы. Гэты жанр з гісторыі феадальнай Японіі вельмі папулярны, хоць сотні стужак на тэму самурайскіх «подзвігаў» падобныя адна на адну, як блізняты. Іх нельга назваць гістарычнымі фільмамі. Гэта хутчэй ілюстрацыя да гістарычных падзей і старажытных легенд.

Японцы любяць сваё мінулае. Пра яго ў іх існуе шмат легенд. Самая характэрная з іх — класічная драма «Кабукі». Яна расказвае пра 47 ронікаў (вандроўных самураяў), пра іх крывавыя подзвігі і міжусобныя войны. На сюжэт гэтай драмы за паўсотні год японцы знялі каля ста фільмаў, і ўсе яны ў розны час мелі вялікі поспех у гледача, а пракатчыкам прынеслі не адзін мільён іен прыбытку.

Самурайскія фільмы (а наш глядач бачыў лепшыя з іх: «Расёмон», «Сцягі самураяў») трактуюць праблему сутыкнення абавязку і пачуцця, прычым вернасць абавязку апяваецца як вышэйшая дабрачыннасць.

Заснавальнік самурайскага фільма Макіна намеціў два прынцыпы пабудовы гэтых стужак: гранічна закручаны сюжэт і як мага большая дынамічнасць сцэн. Галоўны ўпор Макіна рабіў на эпізодах баёў. Самурайскі фільм без крыві, жахаў, баёў на мячах нельга сабе ўявіць, як нельга ўявіць індыйскі фільм без традыцыйных песень і танцаў.

У 1954 годзе шырокую вядомасць атрымалі японскія фільмы пра «гадзілаў»— пачвар, падобных на гіганцкіх яшчараў. Яны ідуць як навукова-фантастычныя, і трэба сказаць, што зроблены яны займальна, з вялікім майстэрствам. Праўда, навукай у «гадзілах» і не пахне, затое фантазіі — колькі хочаш. Сюжэт заўсёды востры, займальны, будуецца ён на тым, што пачвары імкнуцца знішчыць чалавецтва, але іх утаймоўваюць ракетамі і іншай сучаснай зброяй, прычым Японія заўсёды выступае ў высакароднай ролі выратавальніцы людзей усяго зямнога шара.

Але якімі займальнымі ні былі б самурайскія, «эра-фільмы» і гангстарскія драмы, кінатэатры Японіі часта застаюцца пустыя. Нават на вячэрніх сеансах у залах сядзіць 15—20 чалавек. І толькі ў цэнтры Токіо ў раёне славутай Гінзы кінатэатры запоўнены гледачамі: там ідуць шведскія фільмы, фільмы ФРГ і іншых краін. На экране — усё той жа секс, садызм, гвалтаванне, знятыя падкрэслена натуралістычна, з паталагічнымі дэталямі.

Зніжэнне прыбыткаў ад кіно прымусіла «вялікую пяцёрку» кінафірмаў шукаць іншых грашовых крыніц, і яны не толькі «пракатваюць» свае і замежныя фільмы, але і займаюцца камерцыяй іншага парадку, не звязанай ніякім чынам з кіно. Напрыклад, фірма «Тоха» гандлюе марожаным, трапічнымі рыбкамі, чысціць грамадскія прыбіральні. Фірма «Сёцікy» трыццаць працэнтаў прыбыткаў атрымоўвае ад пляцовак для гульні ў гольф, ад більярдных, таксі, а таксама фінскіх лазняў. А фільмы становяцца для яе справай з камерцыйнага пункту погляду другараднай.

Збыт кінафільмаў ідзе галоўным чынам за кошт кіназорак і рэкламы. Пра зорак гавораць, пішуць у газетах, паказваюць па тэлевізары, выпускаюць мільённымі тыражамі пласцінкі з запісамі іх галасоў. Кожная зорка вялікай і малой велічыні лічыць сваім абавязкам паяўляцца на старонках часопісаў калі не зусім голай, то хаця б у ніжняй бялізне. Што датычыць прэсы, дык яна глядзіць *на зорак праз замочную шчыліну*, смакуючы скандалы, дэбошы, вяселлі, здрады і да т. п. Чытаючы часопісы, так і не даведаешся, пра што думае і чаго шукае ў мастацтве папулярная артыстка ці акцёр. Затое будзеш ведаць, што амаль кожная зорка паралельна са здымкамі занята сваім бізнесам: трымае рэстаран, кабарэ, кафе, гасцініцу, гандлюе зямельнымі ўчасткамі.

Зорак экрана, калі яны карыстаюцца поспехам у гледача, а да таго ж яшчэ і таленавітыя, здымаюць часта. Я быў здзіўлены, калі ўбачыў на кінафестывалі вельмі прыгожую, маладую і зграбную жанчыну. Гэта была Хідэка Тамаміне. З выгляду ёй можна было даць гадоў 36—38. І якое ж было маё здзіўленне, калі я даведаўся, што «пекная Хідэка» ўжо больш за сорак гадоў здымаецца ў кіно. За гэты час яна здымалася больш чым у 500 фільмах, не лічачы работы на тэлебачанні. Праўда, здымацца яна пачала ў чатыры гады.

Пра рэкламу гаварыць не варта. Яна вынаходлівая, надакучлівая, крыклівая. Кіназоркі рэкламуюць тавары, а тэлебачанне рэкламуе зорак экрана. Нават нашу Людмілу Савельеву пасля таго поспеху, які меў у Японіі фільм «Вайна і мір», японцы прымусілі працаваць на рэкламу. У тыя дні з тысяч шчытоў і плакатаў глядзеў мілы твар юнай Савельевай, якая трымала ў руках энцыклапедыю «Джапэніка». Але гэта, што ні кажы — энцыклапедыя, а другім зоркам даводзіцца рэкламаваць сакэ (рысавая гарэлка), сродкі ад цяжарнасці, соевы боб і касметыку.

З фільма ў фільм сімпатычныя, але часам бяздарныя японскія зоркі вымушаны іграць адну і тую ж ролю. Прадзюсарам гэта выгадна, таму што можна здымаць без рэпетыцыі, а значыць, без лішніх затрат, адразу некалькі фільмаў. А тэрмін здымкаў у Японіі вельмі сціслы. На падрыхтоўку даецца ўсяго дзесяць дзён. За гэты час падбіраюцца рэжысёры, акцёры, робяцца пробы, фарміруецца здымачная група. Здымкі ідуць 30—50 дзён, два-тры дні даецца на мантаж. Рэпетыцый і бясконцых будняў у японскім кіно не практыкуецца: як атрымаецца, так і добра. Група часам euткамі не выходзіць з павільёна. Рэжысёр ведае, колькі будзе ісці фільм, і сам скарачае або расцягвае сцэнарый, каб «укласціся ў час».

Па арыгінальных сцэнарыях фільмаў здымаецца *мала*. У *асноўным прадзюсары* бяруць або правераны на гледачах стандартны сюжэт, або робяць адаптацыю па сюжэтах літаратурных твораў. Так, «пад японскае жыццё» па некалькі разоў экранізаваліся раманы, аповесці і апавяданні Л. Талстога, Ф. Дастаеўскага, М. Горкага, Мапасана і іншых класікаў сусветнай літаратуры.

Ёсць фільмы і на сучасную тэму, але яны не адлюстроўваюць сучасных праблем. Гэта, у асноўным, звычайная бытавая псеўдадрама, без асаблівага сэнсу, пустая і банальная. Галоўнае, што характарызуе такую драму,— гэта *саладжавая* сентыментальнасць.

**Яўген КРУПЕНЯ.**

(Заканчэнне ў наступным нумары).



«Злыя застаюцца жывымі».



«Чырвоная барада».

# ЖМЕНЬКА ДРАБНІЦ



## ДАЛІКАТНАЕ СТАНОВІШЧА

Стваральніку англійскага паравоза Стэфенсону неяк задалі пытанне:

— Калі ваша машына будзе імчацца па чыгунцы з хуткасцю дзесяць міль у гадзіну, а на рэйках раптам з'явіцца карова і пойдзе насустрач, ці падумалі вы пра тое, якое гэта будзе далікатнае становішча?

— Зразумела,—пасля невялікай паўзы адказаў вынаходнік,—вельмі далікатнае, але толькі для... каровы.

## СЦІПЛАЕ ЖАДАННЕ

Да Бернарда Шоу запрасілі ўрача.

— На жаль, я не магу рабіць цуды,—сказаў урач,—і не магу амаладзіць вас...

— А я і не хачу, каб вы мяне амаладжвалі,—адказаў драматург.—Я хачу толькі мець магчымасць старэць і далей!..



## ПАПЯРЭДЖАННЕ

Аднойчы малады студэнт так надакучыў сваімі роспытамі Вальтэру, што потым пры кожнай сустрэчы з ім вялікі філосаф-асветнік паспешліва гаварыў:

— Добры дзень, але я не ведаю таго, аб чым вы хацелі б у мяне запытаць!

## ВЫГАДНЫ ЗАНЯТАК

Пры ўручэнні Нобелеўскай прэміі Уільям Фолкнер на пытанне карэспандэнтаў, чым ён цяпер займаецца, адказаў:

— Пілую дровы.

Гэта фраза была апублікавана ў газетах, і хутка пісьменнік атрымаў наступны ліст: «Я прачытаў, што Вы пілуеце дровы і зарабілі 30 тысяч долараў. Давайце пілаваць удвух. У мяне ў гэтай справе вялікі вопыт...»



## ЗНАТОК МАСТАЦТВА

У Хэмінгуэя была каштоўная калекцыя карцін—прадмет яго асаблівага гонару. Аднойчы, калі пісьменнік знаёміў гасцей з сабранымі творамі мастацтва, ён заўважыў, што адзін з іх не выказвае ніякіх прыкмет захаплення. І толькі ля карціны Месанье «Шахматная партыя» госць спыніўся і з няўтоенай цікавасцю доўга яе разглядаў.

— Ну, як?—запытаў задаволены гаспадар.—Гэта карціна вам падабаецца?

— Цудоўна!—адказаў госць.—Белыя даюць мат у тры хады...





## ЖАРТЫ ВУДА



Неяк амерыканскі фізік Роберт Вуд рашыў пажартаваць з няветлівых жыхароў свайго горада. Праходзячы па вуліцы міма кампаніі балбатуноў, ён зрабіў выгляд, што плюецца, а сам непрыкметна кінуў у лужыну кавалачак металічнага кальцыю. Пачуўся выбух, і з вады выскачыла блакітнае полымя.

— *Гэта сам сатана!*—залемантавалі гараджане.—Ён плюецца агнём!—І кінуліся наўцёкі.

## МАТЭМАТЫЧНЫ ПАДЫХОД

Калі англійскі паэт Тэнісан апублікаваў паэму «Прывід граха», матэматык Бэбедж напісаў яму наступны ліст: «Сэр, у вашай паэме ёсць такія радкі:

«Кожнае імгненне нараджаецца чалавек.

Кожнае імгненне памірае чалавек».

Гэта недакладна, таму што прырост насельніцтва зямнога шара павялічваецца. Я раю вам выправіць паэму і напісаць так:

«Кожнае імгненне памірае чалавек.

Кожнае імгненне нараджаецца адзін і $^1/_6$ чалавека».

На самай справе трэба было б змясціць больш складаны дроб, але няхай будзе так—для паэзіі падыдзе і гэтая лічба».




## ЭЙНШТЭЙН ШУКАЕ...

Альберт Эйнштэйн, вяртаючыся позна дадому, нечакана звярнуўся да швейцара:

— Прабачце, дзе жыве прафесар Эйнштэйн?

Здзіўлены швейцар адказаў:

— Вы ж і ёсць прафесар Эйнштэйн!..

— Гэта я ведаю. Але я не запомніў, на якім паверсе жыву.

## ЧЫМ ЛЯГЧЭЙ КІРАВАЦЬ

Аднойчы вядомага англійскага паэта Мільтана запыталі:

— Чаму кароль можа каранавацца ў чатырнаццаць гадоў, а жаніцца толькі ў васемнаццаць?

— Гэта зразумела,—адказаў паэт.—Краінай жа кіраваць куды лягчэй, чым жанчынай...



## У ЦЫРУЛЬНІ

Тэатральны цырульнік неяк галіў Шаляпіна і выпадкова дрыжачай рукой парэзаў яму шчаку.

— Гэта ўсё ад гарэлкі,—заўважыў спявак цырульніку.

— Так, так,—адказаў той,—ад гарэлкі скура вельмі грубее...

## ДАКЛАДНЫ АДКАЗ

На пытанне аднаго свайго знаёмага, як даведацца, ці ядавітая змяя ўкусіла чалавека, вядомы хірург Пірагоў адказаў:

— Калі чалавек пасля ўкусу змяі застанецца жывы—значыцца, яна была не ядавітая.

● Марат ЯГОРАЎ



# Быль пра тое, як скланялі зайца

Надзея Іванаўна, выкладчыца нямецкай мовы, лічылася ў студэнтаў найлепшым чалавекам.

Беручы білет, Міхась Каржаневіч спадзяваўся толькі на шпаргалку і добры характар Надзеі Іванаўны.

Пакуль адказваў яго таварыш Пецька, Міхась старанна вывудзіў тое-сёе са спісанай дробненькім почаркам і складзенай гармонікам паперкі. Калі ж прыйшла Міхасёва чарга, ён цвёрдым крокам ступіў да стала і на адным дыханні выпаліў:

— Білет нумар дванаццаць.

Усё пачыналася як не трэба лепш. Шпаргалка, якую ён выпрасіў на адзін дзень у суседняй групе, не падвяла. Стомленыя вочы Надзеі Іванаўны, павялічаныя моцнымі лінзамі акуляраў, глядзелі на студэнта з такой спагадай, што Міхасю ўжо мроілася ў заліковай кніжцы запаветная троечка.

Пераказаўшы ўсё, што паспеў перапісаць са шпаргалкі, Каржаневіч з палёгкай уздыхнуў. Наступіла цяжкая паўза.

Надзея Іванаўна ў гэтыя секунды пакутна думала пра тое, як выратаваць студэнта. «Перавучыў, напэўна, Каржаневіч,— паспачувала яна,— сядзеў, небарака, мусіць, днямі і начамі... Трэба яму задаць якое-небудзь простае пытанне. Тады можна будзе спакойна, не крывячы сумленнем, паставіць тройку».

Цяжка ўздыхнуўшы, Надзея Іванаўна, папрасіла:

— Праскланяйце, калі ласка, дэр хазе.

І на ўсякі выпадак пераняла гэта слова — заяц.

У Міхасёвай галаве мільганула страшная думка: «Топіць! Што я ёй зрабіў дрэннае! Здаецца, яшчэ ж нікога не тапіла. Чым я горшы за іншых!» Потым, нібы ўспышка маланкі, асвятліла другая думка: «А можа... на чацвёрку цягне! Гэта было б здорава! Вось бы я пасмяяўся б з Пецькі, які лічыць, што і двойка для мяне залішне высокая адзнака!»





Надзея Іванаўна ўсміхнулася, нібы гаворачы: «Ну, смялей...» І раптам твар у яе змяніўся, а ў добразычлівых вачах мільгануў страх.

Міхась, дапамагаючы сабе рукой, урачыста чаканіў:

— Іх дэр хазе (я заяц).

— Ду дэр хазе (ты заяц).

— Эр дэр хазе (ён заяц).

Шмат чула і бачыла за свой век Надзея Іванаўна, але такога... Каб назоўнік спрагалі як дзеяслоў!..

— Вы, напэўна, вельмі шмат займаліся ў час падрыхтоўкі экзаменаў!— голас Надзеі Іванаўны гучаў з такой спагадай, што Міхась не сумняваўся — будзе чацвёрка.

— Дні і ночы сядзеў, вядома. На белы свет не было калі глянуць.

Тым часам у ягоных вачах была такая шчырасць, што нават вопытны псіхолаг не заўважыў бы ў глыбіні іх смяшынку ад успамінаў пра больш «вясёлы» занятак, чым нямецкая мова.

Надзея Іванаўна, адклаўшы ўбок заліковую кніжку, ласкава сказала:

— Вы стаміліся вельмі, ідзіце крыху адпачніце, а потым мы з вамі яшчэ пагаворым.

Высмаліўшы ў калідоры не адну папяросу, Міхась смела накіраваўся ў аўдыторыю.

Надзея Іванаўна з яшчэ большай спагадай, чым раней, спытала:

— Адпачылі трошкі!

— Дзякуй, адпачыў.

— Ну дык праскланяйце тады, калі ласка, дэр хазе,— у голасе выкладчыцы, здавалася, было чутна: «Ну давай, дробязь засталася».

Міхась, паціснуўшы плячыма, падумаў: «Чаго яна прыстала да гэтага зайца!» І пачаў гэтак жа энергічна, як і ў мінулы раз:

— Іх дэр хазе (я заяц).

— Ду дэр хазе (ты заяц).

— Эр дэр хазе (ён заяц).

Не паспеўшы перайсці да множнага ліку, Міхась раптам убачыў, што твар у Надзеі Іванаўны стаў нейкі попельна-шэры, а ў вачах замест спагады заззялі злосныя маланкі.

— Малады чалавек,— голас у Надзеі Іванаўны нечакана задрыжэў,— калі ласка, выйдзіце вон! — І ў пацвярджэнне сваіх слоў яна гнеўна працягнула заліковую кніжку. Было ясна, як у божы дзень, што на тройку спадзявацца нельга...

Вось так і скончылася гэтая нявыдуманая гісторыя, як Міхась Каржаневіч праскланяў зайца.

Пераклад з рускай мовы.

Мал. С. ВОЛКАВА.

## нашы аўтары

●

**ВОЛЬСКІ Артур** нарадзіўся ў 1924 годзе ў горадзе Дзяржынску Мінскай вобласці. Вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы. У часе вайны служыў на флоце. Пасля працаваў мастаком у Віцебскім тэатры імя Якуба Коласа, у рэдакцыях беларускіх газет і часопісаў. Цяпер — дырэктар Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача. Аўтар кніг «Водбліскі далёкіх маякоў», «Дабрата», многіх дзіцячых зборнікаў.

●

**СЕМАШКЕВІЧ Рыгор** нарадзіўся ў вёсцы Дамашы, што пад Маладзечнам. Яму 26 гадоў. Скончыў філфак БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў дырэктарам школы. Зараз—выкладчык БДУ. Выдаў літаратуразнаўчыя працы «Браніслаў Эпімах-Шыпіла», «Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе» і кніжку вершаў «Лесні́чоўка».

●

**АРАБЕЙ Лідзія** нарадзілася ў 1925 годзе ў вёсцы Нізок Уздзенскага раёна. Скончыла філфак БДУ імя У. І. Леніна. Кандыдат філалагічных навук. Працавала ў рэдакцыях беларускіх газет і часопісаў. З 1967 года працуе ў рэдакцыі часопіса «Полымя». Аўтар манаграфіі пра Цётку і Шынклера, а таксама кніг прозы «Мера часу», «Экзамен», «На струнах буры», «Сярод ночы» і інш.

●

**АРОЧКА Мікола** нарадзіўся ў вёсцы Вецявічы на Слонімшчыне. Яму 38 год. Скончыў БДУ імя У. І. Леніна. Кандыдат філалагічных навук. Працуе ў Інстытуце літаратуры АН БССР. Аўтар кніг «Не ўсе лугі пакошаны», «Ветраломная паласа», «Хай расце маладая таполя» і інш., манаграфіі пра В. Таўлая.

●

**СКУРКО Іосіф** нарадзіўся ў вёсцы Пількаўшчына Мядзельскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Працуе ў апараце Савета Міністраў БССР.

●

**МАМОЙКА Вольга** нарадзілася ў 1949 годзе ў вёсцы Іванск Чашніцкага раёна. Скончыла сярэднюю школу. Працавала на Мінскім трактарным заводзе табельшчыцай.

●

**ДАЛІДОВІЧ Генрых** нарадзіўся ў вёсцы Янковічы Стаўбцоўскага раёна. Скончыў філфак БДУ імя У. І. Леніна. Настаўнічае на Барысаўшчыне.

●

**ВАНАГ Юлі** нарадзіўся ў Латвіі ў 1903 годзе. Працаваў на чыгунцы, быў лесарубам, плытагонам, фатографам, карэктарам. У 1940 годзе рэдагаваў часопіс «Радиоволна», пасля працаваў у часопісе «Карогс». Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Заслужаны дзеяч культуры Латвійскай ССР. Быў старшынёй Саюза пісьменнікаў Латвіі. Сааўтар п'ес «Парыў ветру», «Светлыя вокны», «Карабель выходзіць у мора», сцэнарыя фільма «Вясновыя замаразкі», лібрэта оперы «Рута», Дзяржаўнага гімна Латвійскай ССР, аўтар кніг «Вароты сонца», «Сярэбраныя рэйкі» і інш.

## ДА ВЕДАМА АЎТАРАЎ

**Рукапісы памерам больш як адзін аркуш прымаюцца рэдакцыяй у двух экземплярах, надрукаваных на машынцы.**

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 1**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ**. Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА**. Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ**.

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854—сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592—аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзел інфармацыі.

АТ 06115. Здадзена ў набор 27/XI-1971 г. Падпісана да друку 22/XII-1971 г.
Папера 70×108[1]/16. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Ул.-выд. арк. 14,5. Тыраж 15 378 экз. Зак. 609. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі прасп., 79.**



**Алег МАЛЯВАНЫ. Успамін пра зіму.**